Генадзь Лапацін

# Варвара Грэцкая
## як з'ява
## беларускай народнай культуры

..............................  ..............................

Гомель




2015

**УДК 392.1(=826)(476.2)**
**ББК 63.521(=411.3)-534(4Беи-4Гом)**
**Л 77**

Рэцэнзенты:

**Коваль В.І.**, доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры рускага, агульнага і славянскага мовазнаўства ўстановы адукацыі “Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны”;

**Валодзіна Т.В.**, доктар філалагічных навук, загадчык аддзела фалькларыстыкі і культуры славянскіх народаў дзяржаўнай установы адукацыі “Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры” НАН Беларусі.

**Лапацін, Г.І.**

**Л77** Варвара Грэцкая як з’ява беларускай народнай культуры /Генадзь Лапацін. – Гомель: Барк, 2015. – 248 с.

**ISBN 978-985-7065-29-5**

Супрацоўнік Веткаўскага музея стараабраднiцтва і беларускіх традыцый імя Ф.Р. Шклярава Генадзь Лапацін правёў шмат сустрэч з Грэцкай Варварай Аляксандраўнай, 1925 года нараджэння, ураджэнкай пасёлка Амяльное Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці, і занатаваў ад яе вялікую колькасць тэкстаў традыцыйнай культуры, фактычна ўвесь фальклорна-этнаграфічны комплекс населенага пункта.

Гэтая жанчына – унікальны носьбіт народнай культуры. Яе бачанне і разуменне свету, веданне традыцый, звычаяў, абрадаў, павер’яў, песень уражваюць і захапляюць. У яе аповедах, слушных меркаваннях, заўвагах і роздумах сапраўды адлюстравана душа народа, яго калектыўная памяць.

Публікацыя такога роду, дзе была б пададзена “карціна свету” адной асобы, прытым неардынарнай і таленавітай, – першая ў беларускай фалькларыстыцы.

І ўсё гэтае багацце – цудоўны падарунак Варвары Аляксандраўны і аўтараўкладальніка нам, беларусам.

У выданні захаваны ўласна дыялектныя асаблівасці маўлення Варвары Грэцкай.

**УДК 392.1(=826)(476.2)**
**ББК 63.521(=411.3)-534(4Беи-4Гом)**

ISBN 978- 985-7065-29-5

# Чалавек традыцыі, альбо “Ўсё ета бярэцца ад пакаленія”

## Замест уступа

Наш час вызначаецца ўзрастаннем цікавасці да айчыннай гісторыі, вытокаў нацыянальнай культуры, да незлічоных здабыткаў продкаў. Веданне сваіх гістарычных і культурных каранёў, свайго радаводу неабходна не толькі для ўсведамлення сваёй нацыянальнай годнасці, але і для выкарыстання лепшых традыцый у практыцы сённяшняга жыцця. Апошняе істотна, паколькі на працягу шматвекавой дзейнасці ў людзей узніклі самыя розныя вераванні і ўяўленні. Былі выпрацаваны шматлікія абрады, прадпісанні і забароны, якія пастаянна выпрабоўваліся, удасканальваліся і перадаваліся з пакалення ў пакаленне. З цягам часу яны скалаліся ў суцэльную і гарманічную сістэму мадэляў паводзінаў чалавека ў самых розных сферах жыцця. Грунтуючыся на іх, нашы продкі забяспечвалі плённасць і паспяховасць у сямейным і грамадскім побыце, гаспадарчай і працоўнай дзейнасці.

Народная культура перажывае ў сваёй гісторыі як спрыяльныя, так і неспрыяльныя перыяды. Перыяды, калі яна цалкам супадае з афіцыйнай ідэалогіяй і грамадскім жыццём, і перыяды, калі яны знаходзяцца ў стане поўнай канфрантацыі. Каб арганічна існаваць у прасторы грамадскага жыцця і каб выжыць у неспрыяльныя перыяды, народная культура вылучае з асяроддзя сваіх носьбітаў асоб, здольных аб’яднаць калектыў у песні і абрадзе і разам з тым ва ўмовах адарванасці ад калектыву заставацца носьбітамі традыцыі.

Для тэрыторыі Гомельшчыны, калі шматлікія населеныя пункты былі расселены ў выніку наступстваў аварыі на ЧАЭС, якая адбылася ў 1986 годзе, і самабытная народная культура апынулася пад пагрозай знікнення, наяўнасць такіх асоб аказалася ў вышэйшай ступені актуальнай.

Такой асобай, на мой погляд, з'яўляецца Варвара Аляксандраўна Грэцкая. Яна нарадзілася ў пасёлку Амяльное Веткаўскага раёна Гомельской вобласці[1] ў 1925 годзе і пражыла там практычна ўсё сваё жыццё. У 1992 годзе ў сувязі з адсяленнем пасёлка яна пераехала ў Ветку. За перыяд з 2005 па пачатак 2014 гг. аўтарам дадзенай кнігі, супрацоўнікам Веткаўскага музея стараабраднiцтва і беларускіх традыцый ім. Ф.Р. Шклярава, ад яе была занатавана вялікая колькасць тэкстаў. Гэта – песні каляндарнага і сямейна-пабытовага цыклаў, лірычныя, дзіцячыя, рэкруцкія, сіроцкія песні, прыпеўкі, апісанні звычаяў і абрадаў, прадпісанні, забароны, былічкі, легенды, прыкметы, павер'і[2].

[1] Пасёлак Амяльное Веткаўскага раёна быў заснаваны на пачатку XX стагоддзя і тэрытарыяльна належыць да вёскі Старое Закружжа, якая па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку XIX стагоддзя. (Гарады і вёскі Беларусі. Энцыклапедыя, Т. 1, кн. 1. Гомельская вобласць / С.В. Марцэлеў; Рэдкал.: Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш. – Мінск: БелЭн., 2004. – 632 с. – С. 207–208.) У 1992 годзе ў выніку аварыі на ЧАЭС і радыяцыйнага забруджвання жыхары абодвух населеных пунктаў у шэрагу іншых 58 вёсак і пасёлкаў Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці былі адселены на сталае месца жыхарства ў іншыя гарады і раёны Беларусі.

[2] Асобныя тэксты, запісаныя ад Варвары Аляксандраўны, прыводзяцца ў наступных публікацыях:

Лапацін, Г.І. Аб шлюбных матывах у земляробчых абрадах на Веткаўшчыне / Г.І. Лапацін // "VIII Навуковыя чытанні, прысвечаныя С. Некрашэвічу": Міжнародная навуковая канферэнцыя "Міжнародныя навуковыя чытанні, прысвечаныя Сцяпану Некрашэвічу", 18 мая 2007 г.: [Зборнік навуковых артыкулаў]. У 2 ч. Ч. 2 / Рэдкал.: А.А. Станкевіч (гал. рэд.) [і інш.] – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2007. – С. 205–210.

Лапацін, Г.І. Выканаўца тэкстаў традыцыйнай культуры як асоба (Варвара Аляксандраўна Грэцкая – творчы партрэт пясённіцы з Веткі) / Г. І. Лапацін // Аўтэнтычны фальклор: праблемы захавання, вывучэння, успрымання: бюлетэнь VII Міжнароднай навуковай канферэнцыі (Мінск, 26–27 красавіка 2013 г.) / БУДКМ; Рэдкал.: Языковіч В.Р. (адк. рэд) [і інш.]. – Мінск: БУДКМ, 2013. – С. 109–113.

Лапацін, Г.І. Варвара Аляксандраўна Грэцкая: "Дай нам, божа, штоб пець, а не плакаць..." / Г.І. Лапацін // Беларускі фальклор: матэрыялы і даследаванні. Зборнік навуковых прац. Выпуск 1. Мінск: Беларуская навука, 2014. – С. 329–365.

Лапацін, Г. Дзень, калі можна пабачыць анёла /Г. Лапацін //Верасень, 2014, № 10. – С. 191–201.

Лапацін, Г. "Ікона звалась Свячой..." Абрад "Свяча" ў прасторы традыцыйнай культуры Гомельшчыны / Г. Лапацін. – Гомель: Барк, 2013. – 116 с.

Лапацін, Г.І. З вопыту вывучэння замоў на Веткаўшчыне. Лекавыя замовы / Г.І. Лапацін // Аўтэнтычны фальклор: праблемы захавання, вывучэння, успрымання: зборнік навуковых прац удзельнікаў VIII Міжнароднай навуковай канферэнцыі (Мінск, 25–27 красавіка 2014 г.) / БУДКМ; Рэдкал.: Языковіч В.Р. (адк. рэд) [і інш.]. – Мінск: БУДКМ, 2014. – С. 133-137.

Лапацін, Г.І. З вопыту вывучэння традыцый абыдзеных тканін / Г.І. Лапацін // Традыцыі матэрыяльнай і духоўнай культуры Ўсходняга Палесся: праблемы вывучэння і захавання ў постчарнобыльскі час: зборнік навуковых артыкулаў / Рэдкал. А.А. Станкевіч (гал. рэд.) [і інш.]; М-ва адук. РБ, Гомельскі дзярж. ун-т імя Ф. Скарыны. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2006. – С. 95–98.

Пры падрыхтоўцы іх да публікацыі я імкнуўся захаваць асаблівасці гаворкі Варвары Аляксандраўны, як слоў, так і вымаўлення. Яна размаўляе на “языке”, які сама вызначае як “калісяшні”, “старынны”, “амяленскі”, “прыродны”, “дзеравенскі”.[3] Як паказвае вопыт самых вядомых

---

Лапацін, Г.І. “Песьня сама падбярэ голас”, альбо некалькі штрыхоў да партрэту выканаўцы / Г.І. Лапацін // “Нацыянальнае і агульначалавечае ў літаратурах славянскіх народаў”, Міжнародная навуковая канферэнцыя “Нацыянальнае і агульначалавечае ў літаратурах славянскіх народаў”, 19–20 верасня 2007 года [прысвеч. памяці народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна: матэрыялы] у 2 ч. Ч. 2 / Рэдкал.: І.Ф. Штэйнер (адказ. рэд.) [і інш.] – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2007. – С. 66–70.

Лапацін, Г.І. “У нас песьні праз мяжу не ідуць...” Аб культуры выканання абрадавых тэкстаў / Г.І. Лапацін // Палявая фалькларыстыка і этналогія. Даследаванне лакальных культур Беларусі. Уклад. І.Ю. Смірновай. – Мінск: БДУКіМ, 2008. – С. 143–149.

Лапацін, Г.І. “Як мой чапец крэпка спіць...” / Г.І. Лапацін // “Мова – Літаратура – Фальклор”. Матэрыялы V Міжнароднай канферэнцыі (да 80-годдзя прафесара Льва Міхайлавіча Шакуна). Минск: Право и экономика, 2007. – С. 479–482.

Лапацін, Г. “Я прэдана песьне...” /Г. Лапацін //Верасень, 2011, № 1. – С. 193–201.

Белорусские рассказы о чудесах святого Николы / Публикация Г.И. Лопатина // Живая старина, 2004, № 2. – С. 35–40.

Лопатин, Г.И. “Ікона звалась свячой...” Из опыта изучения обряда “Свечи” в Восточном Полесье / Г.И. Лопатин // Антропологический форум. Санкт-Петербург, 2008, № 8. – С. 402–416.

Лопатин, Г.И. О животноводческой обрядности в белорусском народном календаре / Г.И. Лопатин // Живая старина, 2009, № 3. – С. 38–40.

Лопатин, Г.И. “Чтоб дети были красивые и здоровые...” / Г.И. Лопатин // Живая старина, 2007, № 2. – С. 38–40. Текст 20.

Лопатин, Г.И. Господен праздник / Г.И. Лопатин // Palaeoslavica. Cambridge, 2009, XVII. NO.2. – С. 193–220.

Лопатин, Г.И. Культ св. Николая по современным белорусским свидетельствам / Г.И. Лопатин // Palaeoslavica. Cambridge, 2006, XIV. – С. 287–313. Тексты 41, 42.

Лопатин, Г. Песни, обычаи и верования белорусской деревни Старое Закружье / Г. Лопатин // Живая старина, 2011, № 4. – С. 44–46.

Лопатин, Г. “Похараны ёсць похараны...” / Г. Лопатин // Живая старина, 2012, № 3. – С. 44–46.

Лопатин, Г.И. “Раскажу табе пра русалак...” (Представления о русалках по современным белорусским свидетельствам ) / Г.И. Лопатин // Palaeoslavica. Vol. XV. XV. Cambridg, Mass, 2007, Pp. 275–292. Тексты 37–38.

Лопатин, Г. Фольклорно-этнографический репертуар личности: Варвара Александровна Грецкая (I. Записи 2005–2010 гг.) /Г. Лопатин // Palaeoslavica, Vol. XVIII, №2. Cambridge, Mass, 2010. – Pp. 183–217.

Лопатин, Г. Фольклорно-этнографический репертуар личности: Варвара Александровна Грецкая (II. Записи 2005 – 2011 гг.) / Г. Лопатин // Palaeoslavica, Vol. XIX, №1 Cambridg, Mass, 2011. – Pp. 222–276.

Лопатин, Г. Фольклорно-этнографический репертуар личности: Варвара Александровна Грецкая (III. Записи 2010 – 2012 гг.) / Г. Лопатин // Palaeoslavica, Vol. XX, №1 Cambridg, Mass, 2012. – Pp. 207–243.

[3] Гэтая тэма разглядалася ў публікацыях: Лапацін, Г. “Дорага слова сказаць...” /Г. Лапацін // Традыцыі матэрыяльнай і духоўнай культуры Ўсходняга Палесся: праблемы вывучэння і захавання ў постчарнобыльскі час”, IV міжн. навук. канф. (2013, Гомель). 31 мая 2013 г.: матэрыялы /Рэдкал.: А.А. Станкевіч (гал. рэд.): Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2012. – С. 39–44.

фалькларыстаў і этнографаў, а таксама мой асабісты вопыт, асаблівасці мовы інфармантаў самадастаткова дэманструюць і прыналежнасць чалавека да той ці іншай вёскі, і тое, у якой сям'і ён выхоўваўся, і яго стаўленне да мясцовых традыцый, і асаблівасці гэтых традыцый, і шмат іншага. Гаворка Варвары Аляксандраўны выразна перадае строй яе думак, душэўны стан, індывідуальнасць святаўспрымання, шчырасць і непаўторнасць інтанацый. Праз словы выступае псіхалагічны партрэт асобы, яе характар, адносіны да жыцця.

Гэтая жанчына дасведчаная ва ўсіх галінах народнага жыцця. Зведзеныя разам, занатаваныя ад яе тэксты ствараюць своеасаблівую энцыклапедыю жыцця беларускай вёскі Амяльное. З іх мы можам даведацца пра ўклад і маральныя асновы быцця, уяўленні пра жывёльны і раслінны свет, міфалагічныя ўяўленні, асаблівасці асобных абрадаў і рамёстваў, якія існавалі ў гэтым пасёлку. А па вялікаму рахунку – гэта карціна сусвету ва ўяўленнях беларусаў. І гэта зразумела: культура кожнай вёскі належыць як самой вёсцы, так і ўсёй культурнай традыцыі, да якой гэтая вёска належыць. Культура кожнай вёскі, пацвярджаючы і падтрымліваючы агульнае сваёй вялікай культуры, пэўнымі песнямі, абрадамі, уяўленнямі ўносіць у яе і штосьці сваё, асаблівае, адметнае. Пасёлак Амяльное ў гэтым плане не выключэнне. Яго культура належыць як жыхарам Амяльнога, так і ўсёй беларускай культуры.

З практычнага боку веды Варвары Аляксандраўны Грэцкай, атрыманыя ёй ад бабулі, увасабляюць сабой звод правілаў, па якіх чалавек павінен жыць, каб быць у згодзе з прыродай, сям'ёй, вёскай, з Богам, са звышнатуральнымі сіламі, каб не нашкодзіць сабе і сваім блізкім, сваёй вёсцы і нават Сусвету. Так, Варвара Аляксандраўна, пераказваючы агульнавядомую "Легенду пра колас", робіць у вышэйшай ступені адметнае вызначэнне: "Калісь баба казала, дзед казаў: "Адзін пракляты ірад, і ўсім людзям напаганіў".

Трэба адзначыць, што выданні ў фармаце рэпертуара аднаго носьбіта той ці іншай традыцыі ўжо вядомы ў беларускім народазнаўстве.[4] Так,

---

Лопатин, Г. Варвара Грецкая: "Я гаварю па-амяленскі..." : из опыта изучения диалектной фразеологии (Материалы к фразеолого-паремиологическому словарю личности: Варвара Александровна Грецкая. Записи 2005–2012 гг. /Г. Лопатин // Palaeoslavica. Voc. XXI, 2013, №2, Cambridg, Mass, 2013. – Pp. 130–139.

Лапацін, Г. Хто прыказку гаворя, і слова ўмесці скажа з прыказкай..." (Народная фразеалогія Веткаўшчыны) /Г. Лапацін // Славянская фразеология. Синхрония и диахрония : Сборник научных статей. Вып. 2. – Гомель: УО "Гомельский государственный университет им. Ф. Скорины", 2014. – С. 152–155.

[4] Гарэцкі М., Ягораў У. Народныя песьні з мелёдыямі: Зборнік / М. Гарэцкі, У. Ягораў // Ін-т бел. Кул-ры, Аддз. гуманіт. навук, Каф. этнаграф. – Мінск: Выд. Ін-та бел. кул-ры, 1928. – 157 с., 54 ненумер.

Зянько У.Б. Спадчына маёй маці / У.Б. Зянько – Мінск: Мастацкая літаратура, 1993. – 304 с.

у сярэдзіне 20-х гадоў XX стагоддзя вядомы беларускі савецкі пісьменнік і літаратуразнаўца Максім Гарэцкі запісаў на Мсціслаўшчыне ад сваёй маці 318 песен, якія ў 1928 годзе выдаў асобным зборнікам. У 1993 годзе выйшла кніга У. Зянько “Спадчына маёй маці”, змест якой склалі песні, запісаныя ім ад сваёй маці на Маладзечыншчыне. Але відавочна, што гэтыя аўтары ў большай ступені арыентаваліся на песенныя тэксты. Хаця трэба адзначыць, што акрамя песен У. Зянько прыводзіць у сваім зборніку пэўную колькасць казак, жартоўных апавяданняў, загадак. Тым не менш, наш выпадак унікальны ў тым плане, што ўпершыню ад аднаго інфарманта зафіксаваны ўвесь фальклорна-этнаграфічы комплекс населенага пункта.

Варвара Аляксандраўна Грэцкая ў вышэйшай ступені дакладна ўяўляе карані сваіх ведаў:

“Старыя людзі гаворяць, і мы знаім”.

“Узрослыя круцяцца, маладыя вучацца. Што тыя дзелаяць, то і яны”.

“Песні бабіны я ўсі пераняла”.

“Я гаварю: “Баба, ідзе ты вучылась? Ты ж у школу не хадзіла?” А яна мне гаворя: “Мая ўнучка, ета ў мяне ішчэ мая прабаба была, старэнькая, ішчэ прабаба пела, і я навучылась кала яе. Я ўжо навучылась кала бабы. А ты ўжо навучылась кала мяне”.

І самае істотнае ў гэтым плане:

“Ета – шчэ мая баба і бабіна прабаба, ета тры пакаленні прашло...”

“Справеку, – баба наша казала, – і прабабы нашы вадзілі ету Стрялу”. Усё баба казала: “Колькі свет – столькі і песні еты”. Я на празнікі багата знаю... Што мяне баба навучыла...”

А гэта ўжо, хай і на падсвядомым узроўні, вызначэнне песен і абрадаў як традыцыйных, паколькі яны перадаюцца з пакалення ў пакаленне і выконваюцца на працягу ўжо не аднаго стагоддзя.

Зрабіўшы папраўку на тое, што за вызначэннем “ета – шчэ мая баба і бабіна прабаба...” ўзнікае не тры, а пяць пакаленняў, і ўлічваючы, што час ад часу пры нашых размовах прысутнічае сын Варвары Аляксандраўны – Сяргей Васільевіч, які раз-пораз сваімі ўдакладненнямі падтрымлівае нашы з ёй размовы, а таксама тое, што носьбітамі амяленскай традыцыі, праўда, пакуль большай часткай пасіўнымі, з’яўляюцца яе ўнукі, няцяжка падлічыць (праўда, з адной акалічнасцю: на прыкладзе адной сям’і): у аглядаемы намі перыяд часу дадзеная традыцыя існуе ўжо для сямі пакаленняў Амяльнога.

І само слова *традыцыя* для Варвары Аляксандраўны не з’яўляецца таямніцай. Падчас адной з нашых размоў яна ўзгадала наступнае:

“Як лён сеяць, усё ж хрысцяць, а я план засяваю, дак я лёнам. Думаю: “Баба ўсё лёнам. Пасеяла, зачырціла”. І цыбулю... гаварю: “Падаждзі, Сярёжка...” Ён: “Баб, ты ўсё прыхамяці...” Я гаварю: “Нада і ета здзелаць. Нас учылі так. І мы традзіцыю ету будзім выпалняць”.

Слова *традыцыя* ў дадзеным кантэксце паўстала як бы між іншым. Мае наступныя захады атрымаць ад яе адмысловае вызначэнне традыцыі далі наступныя вынікі:

“Што-нібудзь дзелаць... Празнік дзелаць... Абрячаюцца на што-нібудзь дзярэўняй... Вот калісь дашчоў німа... Такая традзіцыя... Сабіраюцца, ідуць Богу моляцца... Вот і дошч пойдзя... У каждам сяле свая традзіцыя... У тога так, у тога так... У сям’е бывае... Ты вядзеш парядак... А ў другой сям’е: “А ніхай так!.. Чорт яго бяры!..” А ты хочыш, штоб у цябе ўсё было атлічна... Вот табе і традзіцыя... І плахая, і харошая... У каждага свая традзіцыя... І ў дзярэўні традзіцыя... У нас длінна не насілі, а другія длінна носяць... Традзіцыя... Хто як завучыцца...”

“У маскалёў не было цэбраў, штоб мазепы, ці як яны нас называлі, ня пілі вады... Вот ідзеш па Барьбе, цэбраў нідзе німа... А ў нас на Амяльным ва ўсіх цэбры на калодзесях... Вот розныя традзіцыі...”

У гэтых жывых разважаннях простай вясковай жанчыны, на мой погляд, ёсць усё тое, чым у фалькларыстыцы вызначаецца традыцыя: і прыналежнасць культуры асобна ўзятай сям’і да культуры вёскі (у дадзеным выпадку беларускай вёскі Амяльное), і прыналежнасць культуры асобна ўзятай вёскі да ўсёй беларускай традыцыі. Асаблівае месца ў сваіх разважаннях аб працэсе захавання і жывога існавання традыцыі Варвара Аляксандраўна надае ролі сям’і.[5] Адсюль наступнае:

“Як у каго... Так і сем’і... Вот матка дзелая, і дзіцятка так...”

“Баба пойдзя. Мы: “Баба пашла. Давай!” І сядзім стрэлавыя ўвечары пяём. Баба Буцікава будзя калісь, хрёснае маёй свякруха: “Ой, бяспутныя! Маткі не навучылі, дак яны, во дуркаватыя, пяюць песні абы-калі!”

У гэтых разважаннях вызначальнае, знакавае, спасылаючае да сям’і: “Матка дзелая, і дзіцятка так... Маткі не навучылі...”

Аб вызначальнай ролі сям’і ў гэтым працэсе разважае і малодшая сястра Варвары Аляксандраўны Тамара:

“Традзіцыя... Раньшэ ўважалі старыкоў... Ідзець яно па традзіцыі, па сцежкі... Як раньшэ... Радзіцелі былі, старыкі... Па восем–па дзесяць дзяцей у сям’е... А счас неўважэніе...”

---

[5] Лапацін Г. Беларуская народная педагогіка ва ўяўленнях носьбітаў традыцыі / Г. Лапацін // Российско-белорусско-украинское пограничье: взаимодействие в контексте одного социокультурного пространства: материалы международной научной конференции (г. Новозыбков, Брянская область, 23–24 октября 2014 г.) В 2-х частях. Ч. 1. Славяноведение в пограничном регионе: вторые расторгуевские чтения / Под ред. В.В. Мищенко, В.Н. Пустовойтова, С.Н. Стародубец – Брянск: ООО “Ладомир”, 2014. – С. 463–477.

“Па старынушке... Напрымер, глінянае дзелалі... Род... Уміраяць... Род прамышляе, прадалжая дзелаць ета ўсё... Трэццяе пакаленіе прадалжае...”[6]

Пэўную частку таго, пра што распавядае Варвара Аляксандраўна, яна пераняла ад маці Пелагеі Пятроўны (у дзявоцтве – Пікулінай, 1903–1950) і іншых аднавяскоўцаў старэйшага ўзросту, але ролю асноўнага настаўніка ў сілу сямейных абставін у сям'і Грэцкіх выконвала бабуля па бацькоўскай лініі Алёна Максімаўна Грэцкая (у дзявоцтве – Кулагіна, 1859 – 1953). Як узгадвае Варвара Аляксандраўна:

“Мы з бабай большы... Маткі нашай некалі было... Баба ўсё казала: “Трудзяка ты мая, трудзяка!.. Вот дай табе счас тры работы!..” Матка кароў даіла, і ў магазіні...”

Па словах Варвары Аляксандраўны, баба Алёна была чалавекам універсальных ведаў. І ў пэўнай ступені яна перадала іх унучцы:

“Баба Алёнка ўсё знала на свеці. Я не бряшу, бряхала мне баба, дак і баба наша не бряхала, такая баба ў нас харошая была, на ўсём свеці яна адна”.

“Усё, як навылёт... Усё навылёт... Што ё – усё праўда. Ета калісь і баба пачане гаварыць, будзя гаварыць і кажа: “Людзічкі добрыя, уся праўда, як навылёт”. Праўда навылёт – німа тут бряхні”.

Дасведчанасць бабы Алёны літаральна ва ўсіх галінах народнага жыцця зрабіла яе ў асяроддзі Амяльнога знакавай асобай. Аб гэтым сведчаць наступныя ўспаміны Варвары Аляксандраўны:

“З нашай бабай усі любілі гаварыць...”

“Хадзілі з намі тыя мужчыны гуляць... Што-нібудзь дзелаць, яны прыходзяць: “Алёнка, так і так”. Матка: “Ідуць к табе, як і к Богу”. – “А ніхай! Дай Божа, памоч чылавеку, да не абідзіць”.

“Прыходзілі к ёй скрозь... Во дажэ кабана біць, прыходзяць: “Баба Алёнка, ці цётка Алёнка, хочым кабана біць, ці можна ціперь?” Яна кажа: “Падаждзі дні два-тры. – Падскажа. – Во тады ўбівай... А то сала слізкая будзя...” Ці садзіць што-нібудзь на агародзі... Яна і кажа: “Ня нада... Ета самы плахі ў месяцу дзень... Ня нада... А то будзя гніць на агародзі...” Баба наша вумная была... Ета ня то, шта я хвалю... А ўсі знаяць, што ета баба Грэцкава сказала... Значыць – закон...”

Веды Алёны Максімаўны цалкам адпавядаюць вызначэнню традыцыйнага. Даволі часта спасылаючыся ў аповедах на сваю бабулю, Варвара Аляксандраўна ўзгадвае, што тая таксама спасылася ў сваіх аповедах на “бабу” і “прабабу”:

“Мы гаворым: “Баба, адкуль ты знаіш етыя песні?” А яна гаворя: “А ета ж баба вучыла, і я пераняла”.

“Ета і калісь было. Я ў бабы калісь пытала: “Баба, ета і калісь-калісь?” – “Да. І калісь. І прабаба мая казала, што вадзілі “Стрялу”.

[6] Гаравая (Грэцкая) Тамара Аляксандраўна, 1927 г. н.

Як прыхільніцу і знаўцу традыцыйнага, “спракаветашнага”, Алёну Максімаўну вызначалі нават яе адгагодкі:

“Наша баба умная была. Матка ўсё казала: “Ты спракаветашная... Тут, можа, мільён гадоў... І тоя знаіш. Ужо па-новаму начынаяць людзі гаварыць, а яна спракаветашная”. А дзед Майка будзя казаць: “Ну як, Алёнка, правільна! Выкапый з глыбіны, а то яны ўсё закапыяць разгавор калісяшні...”

Гэтая адданасць традыцыі перадалася і яе ўнучцы:

“К каждаму празніку песні былі. Баба знала. Я гавараю: “Баба, аткуда ты знаіш?” Яна гаворя: “А люльку калыхала, дзяцей у маткі... (Калі ж пабагату дзяцей была, ета ціпер адзін-два, і ўсё, а тады ж да дзісяці, а то і болей)... Дак люльку калышу, – гаворя... (Баба ў яе была старынькая, дак усё ўчыла бабу пець песні). Гаворя: “Баба пяе, і я слухаю і запамінаю”. Так как я. А вот Туся наша... Ці баба пряпяе: “Туся, садзісь, песенку будзім пець”. – “Нада мне твае песні!” А я вот... Хто на што... Я прэдана песне...”

Вось на гэтай адданасці асобных носьбітаў і трымаецца традыцыя. Я знарок вызначаю асобных носьбітаў, паколькі, як паказваюць мае размовы з Варварай Аляксандраўнай Грэцкай, любоў да народнай песні не была з’явай масавай:

“...там суседкі прыходзілі, дзве сястры, як ідуць у пасёлак, куловарат войдуць, і пяюць песню “Рассыпала ряшочкі на лядочку…” Тут дачка яе жыве Вольга, я папытала: “Вольга, як-та твая матка пела “Рассыпала ряшочкі на лядочку..?” Яна гаворя: “Я ж трохі маладжэй за цябе. Чула, што пелі. А мне етыя песні, што былі, што ё, што німа”.

І гэта праблема, на погляд маёй суразмоўніцы, застаецца актуальнай і ў наш час:

“Сколькі яны пацеряны, етыя песні ішчэ. Ну, няўздуманыя... І другі стары ё, ня прыдзя ж ён да цябе... Ну, я б пашла, сказала: “Ё тут Ісакавіч?” – “А нашто ён табе?” – “Песні спяю”. Мяне б там абсмяялі і сказалі: “Глянь! Прышла нейкая дура песні пець, як у шчодры ў музей!” Скажы: “Сказалі б?” – *“Не. Мяне там знаюць. Пазвалі б. Сказалі б: “Баба з песнямі прышла”.* – “Дак ета, я як цябе знаю, а ты мяне знаіш. А як такая баба прыдзя: “Я прышла песен”. Ты б сказаў: “Бабушка, спасіба, ну, німа ўрэмя”. Сказаў бы?” – *“Не. Калі з песнямі, не сказаў бы*”. І вот папамiралі людзі, папамiралі людзі... Зналі песен”.

Талент яе маці яшчэ ў раннім дзяцінстве быў заўважаны першым чалавекам у тагачасным Амяльным – мясцовым панам:

“У пана быў Саша, хлопец, і Тамара... Яны яго не Саша, а Аляксандр звалі... А матка Саша звала. Дак пан... Дзяцям прыводзілі, не панаравіліся дзяцям, ня ўмеюць з імі абрашчацца. А матку прывёў... “Я кала іх харашэнька... Пану панаравілась, ён сказаў: “Ета дзевачка талковая... Ніхай будзя”. І яна дзяцей глядзела.... Там нянька была. Нянька іх і водзіць, і корміць, но толькі яны гуляяць... І ўчыціля ён наняў, штоб ужо ні ў школу хадзілі, а дома... Матка

гаворя: “Яна ім загадывая, і я гляджу... І паказываю: “Вот так во пішы...” Тэй хлопец шухарны быў. Я і кажу: “Саша, во так во пішы”. Яна лісток дасць: “На і табе...” Яна ў школу ні хадзіла... Так... Матка пісала красіва.... Почырк красівы... “Я дзе ня так, яна скажа: “Поля, так во красівей...” І ўчыцілка казала: “Вот вашых двое дзяцей і ета... Ета сільна скора ўсё пераяхватыя... Толькі скажу, яна ўсё пераяхватыя...”

Яе лёс мог быць зусім іншым. Пры яе прыродных здольнасцях і працавітасці, пры той падтрымцы, якую ёй маглі аказаць сур’ёзныя людзі, яе чакала еўрапейская будучыня. Але перашкодзілі сямейныя абставіны:

“А тады рэвалюцыя... Звалі матку туда, пан браў с сабой. Гаворя: “Мы к ёй прывыклі, дак ета трэцяя дзіця ў нас”. Дзед і баба: “Ой! Завізяцё, да дзе-нібудзь кініца...” Ну, не забралі. “А я, – гаворя, – і плакала, хацела з імі ехаць”. Пан хваліў матку, што харошая дзевачка... Глядзіць дзяцей, ні б’ецца, ні ругаіць, очэнь васпітаная дзевачка”. І яны хацелі забраць, но не далі. Матка ўсё казала: “Во калі б вы мяне аддалі”.

Праз шмат гадоў Варвара Аляксандраўна пэўным чынам паўтарыла лёс сваёй маці:

“Калісь Сняжкова Нінка (Сняжкова Ніна Лявонаўна, зямлячка Варвары Аляксандраўны Грэцкай, яе аднагодка, партыйны і дзяржаўны дзеяч, намеснік Старшыні Савета міністраў БССР) усё казала: “Давай! Я табе і памагу. Дагоніш... Давай вучысь”. Матка бальная, і баба бальная, Ягор яшчэ які... І Туся, і хазяйства...” Яна была журналісткай... І вунь папала... Яна была вумная дзеўка”.

[*Калі і куды вас звала Ніна Сняжкова?*]

“Яна мне казала послі вайны: “Пайдзём са мной вучыцца”. Я ў маткі папытала. Яна мне: “Едзь! У Нінкі матка ё, да і здаровая. Ідзіця, разыходзіцеся, а мы з бабай будзім падыхаць”. Ні пусціла... Вайна началася, я ў шосты клас перяйшла”.

У далейшым прыродны талент маці быў амаль прафесійна апрацаваны спевамі “на клірусе”. Пра гэта яна распавядала сваёй дачцэ:

“Мы хадзілі пець на клірус. І нас вучылі там. І мы пелі так, як і нада. Запісывалі, што пець”.

У сям’і маці разам з бабуляй вучыла дачку на асабістым прыкладзе. Як узгадвае Варвара Аляксандраўна:

“Матка ўсё казала: “Не так глоткі разяўляюць! – на мяне. – Як ты, глотку разявіш, сама сябе пяеш! Ступай, глатастая! – на мяне. – Во мы будзім пець, і ты пей!” Я ж куды папала вяду. У міне не туды выходзя, дак баба і кажа: “Богу ня ўгодна будіш”.

Гэта былі першыя ўрокі амяленскай традыцыі, якая ў вышэйшай ступені адрозніваецца ад традыцый іншых вёсак, што вызначаецца і Варварай Аляксандраўнай:

“Амяленская песня... Дзеўкі пяюць. Як бабы, так і дзеўкі. Тыя песні. Не саўпадаюць песні, што ў Закружжы пяюць і ў Пацёсах[7]. Мы кажды знаім сваі песні”.

Заўважым, што мая суразмоўніца гаворыць не толькі ад свайго імя, але і ад імя сваіх сябровак, сваіх аднавяскоўак:

“Калісь бабы будуць сядзець, там, адна заводзіла, Амерыканчыха, на голас, а яны гаворяць: “Варычка, хадзі-ка сюды!” Будзім дзеўкі аддзельна сядзець. Мяне падзываюць, я ім точна на голас пяю”.

“Амерыканчыха... Вот на рабоці што-нібудзь дзелаіма, мы аддзельна дзелаім, дак яна будзя гаварыць: “Хадзіця сюды, дзеўкі. Будзіма пець, і вы будзіця”. Тады чагось не гаварылі пра ўсякая, вот толькі адны песні. Як садзяцца аддыхаць, і песні пяюць. Амерыканчыха заводзіла. І мы з імі пяём. “Хадзіця вучыціся!” – звала. “Хадзіця, Вар, сюда! Бліжай садзіцесь, і будзіма пець песні. І вы! Ніхай пяюць! Ніхай вучацца! Нічога ніхто не гаварыця!” Там баба адна: “Ішчэ будзіш! Ці ета твае дзеці! Ета чужыя!” – “Ніхай чужыя! – яна харошая была баба. – Ніхай вучацца, а то мы, – говоря, – памрём, і ўсё наша ў магілу пойдзя. І не будуць пець. Мы падохнім, і песні нашы падохнуць. Давайця вучыцісь. І вы будзіця пець”. І мы ўжо пелі. Я панавучывалася. І буду дома на агародзі, штоб я сядзела так, я абізацільна буду кудлычыць песню, пакуль не навучусь”.

Варта адзначыць, што ў той жа ступені, як ёй пашчасціла з настаўнікамі, яе настаўнікам пашчасціла з вучаніцай:

“Другі чылавек... Вот пакажыш дзіцёнку, ён усё дзелая, а другі – ён не разбіраіцца. Ета ў каго як, не знаю, як назваць, проста Богам дадзены... Ці розум, ці што. Вот у нас дзеўка была, яна нікалі ня пела. Мы гаворым: “Параска, давай вучыся пець”. Яна гаворя: “Я не магу пець”. Сядзіць і слухая ўсё”.

Разам з першымі песнямі, разам з талентам ёй было дадзена адчуванне, што гэтыя песні – яе лёс:

“Матка ўсё казала: “Усю долю прапела. Во якая глотка!” Я гаварю: “Дак і вы ж пеяце! Я ж вашы і слухаю”.

“Люблю і пяю іх. Што-небудзь дзелаю, буду бульбу чысціць і прапяю, ціхонька пяю. Раз тут адна ішла, ка мне зашла, а я сяджу і не чую. Штось я дзелала і песню пела. “Ты ўсё пяеш? Ты і так долю прапела”. Я гаварю: “Маць іе такую долю! Ліш бы песні ўмела”.

Падчас адной з нашых размоў сказала з пэўным гумарам:

“Як памру я, дак у пеклі буду з чырцямі песні свае пець. Я і там буду пець. А ты як пачуіш мой голас, дак скажыш: “Во ета Аляксандраўна пея”.

Песенных людзей у Амяльным паважалі. У гэтым плане паказальны аповед пра адну амяленскую сям’ю:

“Дзед быў. Яго звалі Гарявы Іван Ігнаціч. Іх Жаваранкі празвалі. Яны ўсі... У іх галасы былі звонкія-звонкія, вот як жаваранчкі пелі, дак яны сядзяць, летам выдуць, іхняя матка памёрла, а ён ажаніўся, у іх быў Іван, Ляксей, Максім, Параска і Гарпіна – пяціра, а бацьку ўбілі на вайне, не на етай вайне, а нейкая

[7] Пацёсы – вёска Веткаўскага р-на. Адселена ў сувязі з аварыяй на ЧАЭС.

ішчэ была: ці з кітайцамі, ці фінлядская, а матка памёрла, дак іх пяць асталось, дак яны раслі сіратамы. Дак яны выдуць увечары, сядуць і пяюць песні калісяшнія. І вот як жаваранкі! Дзед Жаваранка падводзіў, што баба так не падвідзе, як ён падводзіў песню. Калісь жа песні ўсі, штоб падводзілі. Етыя басуюць... Аж грыміць сяло. Іх узялі празвалі... "Хто-та пяюць?" Ісакавы па-вулішняму звалі... "А ета – Ісакавы"... А тады гаворяць... Хтось ужо сказаў: "Жаваранaчкі запелі". Ну і, Жаваранaчкі... Майка, уродзі... Жаваранка і кажа: "Майка, ты наклаў нам імя". А ён: "Вы ж етага і стоіця, што пеіцё, як жаваранaчкі". Дак ужо не сталі Ісакавы зваць, то: "Ісакавы, Ісакавы", бацька Ісак быў, а тады ўжо ніхто не зваў, і дзеці ў дзядзькі Жаваранка параслі, "Жаўряняты" звалі. Матка: "Вон ужо Жаўряняты ідуць к вам гуляць".

Дзяцей у Амяльным ня проста вучылі спяваць, іх вучылі павазе да песні, вучылі, што ў кожнай песні ёсць свой час у прасторы года. Адсюль і сентэнцыі маёй суразмоўніцы: "Песня сама падбярэ голас. Песня, якая ё, яна свой голас падбярэ. На адзін жа голас ня будзіш пець усі песні. Сама песня голас падбірая". Ненадакучліва і паступова вучыла маленькую Варвару яе бабуля ўшаноўваць песняй той ці іншы перыяд года:

"Калісь сядзім так увечары, пяёма, кажым: "А ці бабы чуяць!" Наша баба як чуя: "Ааа! Бяспутныя. Ня пейця етыя песні". – "Баб, чаго?" – "Ім больна будзя, што вы не воўрэмя пеяцё". Ужо нас страшна. Мы тады кініма".

"Баба, які празнік, к тому і песні зная. Напрымер, пра Маслінку ё песня. Як Маслінка прышла, яна: "Мая ўнучка, прапей жа песню пра Маслінку". Я ўжо и прапяю там, ці пра Пост. К каждаму празніку песні былі".

Адсюль – і больш жорсткае:

"Баба казала: "Грэх! Няльзя пець жніўныя вясной". А чаго – не знаю. Я етага не магу сказаць. Для вясны ё песні такія. На свадзьбе жніўных не пяюць, ні "вой люлі" не пяюць, ні на свадзьбе, ні на хрэсьбінах ні пяюць. А такія песні можна пець хоць і ў жніўны перыяд, і вясной. Каждай песні ё пара года. Вясной – пей веснавыя, Маслінка падыходзя – пей "Маслінка-маслініца, добрая маладзіца..." Прайшла Маслінка – ужо пець ня будзіш. І каждай парэ года: і вясняныя, і жніўныя, і восеньскія, і калядныя, і масліныя. Пара года падыходзя – і песня".

Магчыма, тут узнікае ўяўленне і пра глыбінную сувязь паміж песняй і парой года. Выяўляецца гэта ў разуменні таго, што за кожнай парой года паўстае сваё Боства: *Каляда*, *Маслінка*, сама *Вясна*, якім абавязкова трэба аддаць даніну ў выглядзе песні ці абраду. Паказальныя ў гэтым плане падзеі, якія адбыліся ў цяпер ужо далёкім ад нас 1992 годзе, калі Амяльное адсялялася ў сувязі з аварыяй на ЧАЭС. Дзве жанчыны, зразумела, што адна з іх – мая суразмоўніца, якія яшчэ заставаліся на месцы, правялі абрад "Ваджэння і пахавання Стралы":

"Два двары засталось. Я была, да Ляксаніха. Яна прыходзя: "Сабірайся! Пашлі!" – "Куда?" – "Ушэсце! Давай пайдзём ка мне і пойдым". Яна там пад

край жыла. Ідом скрозь сяла. Туды пройдыма. І адтуль пройдыма. І шпыльку бярэ ці яна, ці я. Закапаім у зямлю. Удзвёх. А Валодзька, іе сын, дак ён і гаворя: "Дзве бяспутных. Ну, куды вы пойдзіця? Удзвёх толькі". А яна: "Мы пець умеім. І пойдым. Не тваё дзела!" І ўдзвёх вадзілі. Дак Івонька ішоў і Ягор наш. Ідуць, а мы пяём."Дак мы, – гаворя, – спужалісь. Няўжо людзі жывуць тутака? Пяюць жа". Ягор і кажа: "Дзве дуры ідуць пяюць. Думалі, тут ужо ўсё сяло жыве".

І нават пераехаўшы ў Ветку, яна штогод выконвае гэты абрад. Без гледачоў і сябровак. Выконвае дзеля сябе. Дзеля "Стралы":

"Справеку веку "Стрялу" водзяць. Ужо празнік як прыходзя Ўшэсце, усё – усі ўжо знаяць, лучшэ гатуяць. *[Вы ў гэтым годзе будзіце "Стралу" хаваць?]* Я на Ўшэсця прапяю ніхай, як хочыць хто, а я выду на лавачку... Я кожны год, ні то шта сёліта... Ета Божжы празнік, я іго любіла, пець любіла, на лавачцы сяду, ціхінька села, і прапела, і вазьму што-нібудзь закапаю ў "Стряле". І прайду, хоць з кастылём. На вуліцу ўжо ні выхожу. Гаворяць, дзелай усё, што можыш".

У сваіх разважаннях яна выступае як прыхільніца старой традыцыі:

"Усякія калісяшныя, а ціпер "гаў-гаў, гаў-гаў", я не ўключаю радзіа. Я не люблю етых песень. А Пашуля, Пашка, ходзя ка мне, ціперашнія клыча песні. Я гавару: "Я іх не люблю". А яна гаворя: "Я ўжо старынныя і ўспамінаць не хочу. Толькі люблю етыя".

І яшчэ адно, досыць характэрнае, выказванне пра сучасныя песні:

"Куміха ў нас была, мужык у яе, ён памёр ужо, пяюць удвох "Ванькуключніка"[8], дак ён гаворя: "Кіньця! Чужых песень ня пейця! Вам Бог не памажэ! Дурныя! Чужыя песні схватываюць!"

Безумоўна, вызначальнае тут: "Чужых песень ня пейця! Вам Бог не памажэ!" Не дзіўна, што пры такім падыходзе да песні яна адмоўна ставіцца да сучасных папулярных эстрадных выканаўцаў:

"Два-тры стоўбікі канчаяць і зноў ета пачынаяць, канчаяць і зноў ета пачынаяць, канчаяць і зноў нанава паўтараяць. Канешна, ён не саб'еццa, ніштo. А тады ж длінныя былі, і па пяць стоўбікаў, длінныя песні. А ўсю ж запомніць нада. А ціпер лёгка і добра, тры стоўбікі ці два. Ён выдзя гарлая, дак ета і дурак будзя пець такія. Я етых песень... І ішчэ якую выбіру. Прычоску іхняю не люблю. Другія, прычоскі ў іх красівыя, а другая сядзіць, прачку выпусця, яе вецер калыша, у рот лезя, ёй ета харашо".

"Я – як прывязаная к песням етым", – гаворыць Варвара Аляксандраўна і з пачуццём сваёй абранасці пераказвае адну сваю размову з суседкай:

"Усякія песні, любую, я на маціў знаю, яны ж не ўсі адзінакавыя на маціў. Адна сказала: "Я хоць знаю, но на маціў не завяду. Ета адарённыя людзі бываюць".

"Песні ўсі красівыя. У міне німа песень, штоб я яе не любіла. Я ўсі люблю".

Аднак далёка не ўсе ставяцца да яе песен з разуменнем. У адной з яе цяперашніх суседак, якая часам прысутнічала пры нашых размо-

---

[8] Маецца на ўвазе балада на верш В.В. Красцінскага.

вах, былой настаўніцы, узнікла велізарнае жаданне, каб ад яе таксама што-небудзь запісалі. І да аднаго з маіх прыходаў да Варвары Аляксандраўны яна падрыхтавала некалькі спісаных ад рукі аркушкоў з вучнёўскага сшытка, сярод якіх была і "Казачья колыбельная" М. Ю. Лермантава. Зразумела, што гэта мяне не зацікавіла. Потым яна выказвала Варвары Аляксандраўне: "Чаго ён тое не ўзяў, што Лермантаў напісаў? А гэта бабы старыя, калісь, хто там ужо выдумваў".

Заўважу, што падобныя размовы яна навязвала Варвары Аляксандраўне не аднойчы і кожны раз намагалася падкрэсліць, што старадаўнія песні нічога не вартыя:

"Твае песні бярэ, мае не бярэ! Я б была на яго месцы, твае песні я б і не брала. У цябе і мацюкі ў тых песнях". Я гавару: "Ё мацюк у песні, я ж яго не выряжу. Прыходна. Хто-та прыляпіў. Можна выкінуць, можна замяніць... Мне і так добря. Ё ў песні, і я паю. Страмная яна – ніхай. Што старшыя пелі, то і мы. Усё ж ета бярэцца ад пакаленія. Ніхай тому будзя плоха, хто складаў: ці паеты, ці хто там ужо складаў. А наша дзела – пець".

"Ляксеўна казала: "Я ні нашла ў етым Лапаціну нічога талковага..." Я гавару: "Чаго?" – "А!.. Ён папаў цябе... І я ж багата чаго знаю, дак ён ні хоча і гаварыць..." Я гавару: "Яму ж калісяшная нада, а ты ж цярэбіш із книгі... Вот ён і ні хоча..."

Адсюль – адзін крок да ўсведамлення сваёй, можа быць, нават элітарнасці. На пытанне пра неўспрыманне яе песень некаторымі людзьмі яна адказала амаль па-філасофску:

"У каго які харакцер, хто васпрынімая, хто не васпрынімая. Ета як Варвара-мучаніца. Яна ішла па Божжай дарозі, а бацька не любіў. Ён ёй лучшэ галаву адсёк: "На табе, галаву адсяку, штоб ты не верыла". Усякія людзі!"

Але, нават пры такім вострым адчуванні сваёй самадастатковасці, яна шчыра радуецца пахвале з боку іншых, асабліва калі пры гэтым яе спевы і песні параўноўваюць з песнямі іншых вёсак. Апошняе для яе вельмі істотна:

"Мы калісь у Свяцкой[9] пелі песні, ета ж расіяні, дак адзін, там, сапожнік, Вахром, ён тухлі шыў да ўсё, нашы бабы сабраліс учатырох, пашлі тухлі заказываць, прышлі, яго маладзіца: "Хадзіця абедаць з намі!" Баршчу наліла, мы купілі дзве бутылкі віна, ішчэ прышлі маскалі, дак адзін маскаль кажа: "Я б вас дзень і ноч, беларусоў, слухаў!" А мы як заварганілі песні! Да падводзіма! Да красіва! Ані ўсё завідывалі. Я гавару: "А вашы бабы?" Арына, дваюрадная бацькава сястра, сядзіць, гаворя: "Яны ж тут пець ня ўмеюць, маскаллё!" Я ў Паўла (*сусед, з в. Барба*[10]) пытаю: "Пелі ў вас бабы песні?" А ён гаворя:

[9] Свяцк (Свяцкая) – вёска Навазыбкаўскага р-на Бранскай вобласці, большую частку жыхароў якой складалі стараабрадцы. Адселена ў сувязі з аварыяй на ЧАЭС.

[10] Барба – вёска са стараабрадніцкім насельніцтвам Веткаўскага р-на. Адселена ў сувязі з аварыяй на ЧАЭС.

“А я і ня знаю, ці ўмеяць яны пець, ці пелі”. Я гавару: “А якія яны песні пелі?” – “А я знаю?”. Я гавару: “Ты ж хлопцам быў! З намы хлопцы нашы, каторыя з намы гулялі, мы пяём, і яны як рэвануць басам, дак аж сяло тряшчыць!” І яшчэ: “Я не чула, штоб папсуеўцы[11], бабы, пелі песні. Ходзяць, нудзяцца так. А мы як запелі свае песні, дак там адзін дзед стаў гаварыць: “Дзевачкі, пейця. Я вам счас галён-бусел (буслы такія бываяць – трохлітровыя бутылкі такія былі – зваліся буслам) самагону прынясу. Пейця”.

З такім жа пытаннем: “Ты па другіх сёлах ходзіш. Якія там песні пяюць?” – яна часта звяртаецца да мяне. Мая суразмоўніца выдатна разумее, што лёс песень залежыць толькі ад людзей. “Мы памрём, і ўсё наша ў магілу пойдзя. Мы падохнім, і песні нашы падохнуць”, – казала яе старэйшая аднавяскоўка баба Ляксаніха. “Сколькі іх пагібла, етых старынных песен. Людзі паміраюць, і песні паміраюць тыя. Я ж усі на свеці не ўхваціла песні”, – кажа Варвара Аляксандраўна. І гэта тэма неяк сама па сабе ўвесь час узнікае ў нашых гутарках. Узнікае па-рознаму: то з боязззю за іх далейшы лёс, то з надзеяй.

“Із душы вынула – расказала. Як памру, усе песні з душы сашлі. Што я знала, то табе перадала”.

“Другі прыдзя, як ты пойдзіш на пенсію, дак етыя ўсі песні, што галавой мы з табой круціма і ўздумыім, дак будуць усі лятаць на мусарцы. Ты б во стаў на месці на другом, тэй работаў, а ты стаў, ты б тыя песні павыкідаў, новыя б свае шукаў. Ты б сказаў: “На чорта мне! Ета не мае ўжо!” Пашоў бы новыя сабіраць па вуліцах, па сёлах. Старыя людзі павымруць, а етым хто будзя нуждацца?” – *Ну, мы ж з вамі нуждаемся.* – “Ну, дак ета мы. А я памру, а ты на пенсію пойдзіш, а новы станя, павыкідая. Скажа: “Ета ўсё лам’ё”.

“Ета шчэ прабабы пелі, вот адзін аднаму... Вот ты малады шчэ, будзіш расказываць, я памру, ты будзіш казаць каму-нібудзь”.

Само жыццё пацвярджае слушнасць яе слоў. Падчас адной з нашых размоў яна ўзгадала песню “Насцечка”. Узгадала не ўвесь тэкст, а літаральна некалькі радкоў.[12] Але яна абнадзеіла і сябе, і мяне тым, што гэту песню ведае яе старэйшая сястра Маша, з якой яны сустракаліся літаральна напярэдадні, на пахаванні Машынага мужа. Зразумела, што яны сустрэліся не ў тых умовах, калі можна спяваць песні. У гэтай сям’і навогул, калі памёр хтосьці з блізкіх, на працягу сарака дзён не спяваюць песень. Але здарылася так, што Маша памерла літаральна праз пару

[11] Папсуеўка – вёска са стараабрадніцкім насельніцтвам Веткаўскага р-на. Адселена ў сувязі з аварыяй на ЧАЭС.

[12] Ой, валы мае, валы,
Валы адной масці.
– Ой, дзе ж ты, казак, начаваў?
– У дзевачкі, у Насці...

тыдняў пасля смерці мужа. І сказанае Варварай Аляксандраўнай трошкі раней "Людзі паміраюць, і песні паміраюць тыя" набыло самае рэальнае і жорсткае ўвасабленне: "Памерла Маша, і "Насцечка" памерла".

Магчыма, у гэтых песнях ёсць нейкая магічная сіла. І разам з песнямі чалавеку перадаецца пачуццё  адказнасці за іх. Перадалося яно і мне. Паўстала і ўвесь час даймала пачуццё боязі за гэтыя песні.

Але не ўсё сумна ў нашым жыцці. У 2006 годзе мне пашчасціла на знаёмства з Аляксандрам Барысавічам Страхавым, рэдактарам штогодніка "Palaeoslavica" (Massachusetts, ЗША). Гэты чалавек аказаўся больш прыхільным, чым беларускія выдавецтвы, да беларускай народнай культуры. І пачынаючы з 2006 года ён у вышэйшай ступені шчодра прадстаўляе старонкі для маіх публікацый. За гэтыя гады на старонках "Palaeoslavica" былі апублікаваны мае матэрыялы, прысвечаныя культу святога Міколы, Вялікадню, дэманалагічным уяўленням беларусаў. З 2010 па 2012 гады быў надрукаваны вялікі матэрыял "Фольклорно-этнографический репертуар личности: Варвара Александровна Грецкая" (I. Записи 2005 – 2012 гг.).

Гэтая публікацыя вельмі ўзрадавала і ўразіла Варвару Аляксандраўну. Калі я прынёс ёй нумар "Palaeoslavica", дзе гэтая публікацыя была распачата, яна яго проста расцалавала. Пазней сказала: "Я калі і думаю: "Во, найшоўся чылавек... Я Томцы нашай казала: "Во, Томка, усі песні Ісакавіч папісаў". Ну, у кнізі напісаў". Спасіба табе за ета, што ты папісаў. Ну, хоць з галавы збыла... Памру, дак буду давольна".

Тамы "Palaeoslavica" і сапраўды падобныя на салідныя кнігі. І вось выходзіць самая сапраўдная кніга. А ў "Palaeoslavica" распачата новая вялікая публікацыя: Варвара Грецкая: "Я гаварю па-амяленскі...": из опыта изучения диалектной фразеологии (Материалы к фразеолого-паремиологическому словарю личности: Варвара Александровна Грецкая. Записи 2005 – 2012 гг.)".

Унёсак Варвары Аляксандраўны Грэцкай у справу захавання беларускай народнай культуры цяжка пераацаніць. Дзякуючы сваім прыродным дадзеным і сямейнаму выхаванню яна захавала і перадала нам у цэласным выглядзе шматгадовы культурны вопыт сваёй вёскі. І гэта быццам бы своеасаблівы нерукатворны помнік беларускай традыцыйнай культуры ў яе рэгіянальным увасабленні.

Хочацца спадзявацца, што кніга будзе карыснай як фалькларыстам і этнографам, культуразнаўцам і мовазнаўцам, так і проста цікаўным да беларускай народнай культуры.

# Беларуская народная педагогіка ва ўяўленнях сям'і Грэцкіх як носьбіта традыцыі

Тэма беларускай народнай педагогікі заўсёды выклікала цікавасць беларускіх этнографаў і мае даволі багатую бібліяграфію.[13] У сваіх працах сучасныя даследчыкі, грунтуючыся на запісах этнографаў к. XIX – пач. XX стст., а таксама на сваіх палявых запісах, усебакова асвятляюць праблему сямейнага выхавання. Навізна майго даследавання заключаецца ў тым, што тэма цалкам разглядаецца на прыкладзе адной асобна ўзятай сям'і.

Раз-пораз у нашых размовах з Варварай Аляксандраўнай Грэцкай узнікалі аповеды, разважанні, вызначэнні, якія рэальна аднесці да прадмета народнай педагогікі. Выбраныя мной з нашых шматгадовых размоў і зведзеныя разам, яны даюць магчымасць уявіць стройную і суцэльную сістэму педагагічнай школы яе роднага пасёлка, якая выхоўвала дзіця, пачынаючы з перыяда цяжарнасці яго маці і на працягу ўсяго дзяцінства і юнацтва. Пры гэтым мая суразмоўніца не рабіла адмысловых высноў альбо абагульненняў. Усё гэта самадастаткова ўзнікае з яе жыццёвых успамінаў.[14]

Першаступовасць ролі, якую адыгрывала сямейнае выхаванне ў станаўленні дзіцяці, добра ўсведамлялася ў сялянскім асяроддзі.

Усё баба наша казала: "Дзелайце так, штоб вас не клялі, а штоб вас пахвалілі і сказалі: "Вот харошае васпітаніе, да харошые дзеткі..."

І ў вышэйшай ступені пераканаўча гэта акрэсліваецца ў яе разважаннях пра суадносіны сям'і і школы, у якіх яна вызначае першасную ролю менавіта сям'і ў станаўленні дзіцяці як грамадзяніна, як чалавека:

"Учыціль, я табе так скажу, бальшую роль іграя ў школі. Но дома нада дзісцяпліна".

---

[13] Антология педагогической мысли Белорусской ССР / Сост. Э.К. Дорошевич, М.С. Мятельский, П.С. Солнцев. – Москва: Педагогика, 1986. – 468 с.

Арлова, Г.П. Беларуская народная педагогіка / Г.П. Арлова – Мінск: Народная асвета, 1993. – 120 с.

[14] Болбас, В.С., Сычова, І.С. Народная педагогіка Мазырскага Палесся / В.С. Болбас, І.С. Сычова. – Мазыр: Белы Вецер, 2012. – 246 с.

Конан У.М., Болбас В.С., Ляўта П.І. і інш. Народная педагогіка беларусаў / У.М. Конан, В.С. Болбас, П.І. Ляўта. – Мінск: НІА, 1996. – 165 с.

Ракава Л.В. Традыцыі выхавання / Беларусы. Т. 5. Сям'я /Бандарчык В.К., Курыловіч Т.І., Кухаронак Т.І. і інш.; Рэдкал.: В.К. Бандарчык і інш.; Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі. – Мінск: Бел. навука, 2001. – С. 108 – 217.

Ракава Л.В. Традыцыі сямейнага выхавання ў беларускай вёсцы. – Мінск: Ураджай, 2000. – 111 с.

Фрагментарна гэтая тэма разглядалася ў публікацыі: Лопатин, Г. "Чтоб дети были красивые и здоровые..." /Г. Лопатин // Живая старина, 2007, № 2. – С. 38–40.

“Еслі ў сям’е не васпіталі, школа рады не дасць. Я ўчыцелёў не віную. Учыцялёў я віную, што дзевачак знахальнічаюць якія... Дак нада дзісцыпліну імець... Ну, і ўсё раўно – учыцель не прычом, еслі ў сям’е дурак зародзіцца. Яму хоць гавары... І вот гаворяць: “Учыцеля даўжны...” Не... Што ўчыцель мажэ? Як калісь у нас было па сорак пяць учынікоў... Класы бальшыя... Утрёх сядзелі на партах... Дак што? Учыцель усіх навуча? Ета ў сям’е даўжны дзісцыпліну дзяржаць”.

І пра сваю сям’ю:

“Матка сказала – закон!.. Ціпер жа ў лоб ім бій, і яны ўсё адно творяць сваё. Тады матка скажа, ну і ўсё”.

“Нас – пяць... Матка ў дісціпліні дзяржала, і гаворя: “Я пушчу вожкі, конь пабягіць куды папала, і я вас не збяру”. А ў людзей былі і бацькі... На матку мы слова не скажым...”

“У нас і бацькі не было... Ну, наш бацька спакойны быў... Толькі гляне... Можа, ён бы і біў, як бы большыя былі... Не, ён дужа спакойны быў, дзяцей жалеў...”

Адсюль і наступнае:

“Пайшоў наш Ваня ўжо у армію, дак у пісьме піша: “Мама, дзяржала ты над намы дзісціпліну жалезнаю. Ціпер дзяржы стальную. Дзісціплініраванаму ўсюды добря. Я ў сям’е такой жыў, што дзісціпліну знаю, што дзелаць – што ня дзелаць, плахоя і харошая разлічаю. Дак мне і ў арміі харашо”.

“Калісь Ваню забралі... Ён паехаў па вярбоўцы ў Чыту і там у вармію... І піша: “Мама, мяне забралі ў вармію... Мам, дак усюды дісціплініраваным харашо... Не журыся за мяне... Я вучусь харашо... А над тымі, над тромы, над Варяй, над Тусяй, над Ягоркай, дзяржала жалезнаю дзісціпліну, дзяржы стальную... Усілівай дзісціпліну, штоб яны панімалі, як з людзямы жыць і як шкоды ня дзелаць”. І мы ў дзісціпліні жылі...”

“Матка на нас: “Прядзіця ўжо, ідзе з волас, ідзе з колас, да хоць прядзіця вы...” Харашо прядом, а як песні пачаном, Туся сабе, я сабе. “Туся, давай песню!” Матка: “Пашло дзела ў ад! Ета ўжо ня будзя ня то шта... Песні будуць, а ўжо будзя ня то шта з колас і з волас, ужо ў трубачку скора ня ўлезя!” Там, у самапрядцы трубачка, нітка ідзець туды. “Кіньця!” Мы ўжо перястаём пець. “Сусолак січас навешаіця!” Сусолкі – прядзеш, а дзе з колас, дак яно ж пойдзя, а ідзе з волас, яны ў етаю трубачку, і перяразаюцца ці парвецца, а хоць будзя сукараціцца крута. Прядзіця раўнамерна! Іначэ аборай буду сеч!” І добря, што яна так і дзелала. *Яна дала нам жызню.* А як бы *пусціла на самацёк,* “як хочыця, так і жывіця”, дак з нас бы толку не было”.

І адваротнае на прыкладзе чужога:

“Ета бацька? Ці ён іх *на пуць навёў?* Сказаў: “Дзеці, вот так во дзелайця. Штоб харашо, штоб людзі вас не судзілі, і вам было добря: работайця, ня крадзьця. Вобшчэм: дзелайця па-людскі”.

Адсюль відавочна вызначаецца асноўная задача бацькоў у адносінах да дзяцей: “навесці на пуць, даць жызню”. Менавіта гэтым задачам падпарадкавана ўсё тое, што мы з поўным правам можам назваць працоўным, рамесным, эстэтычным, экалагічным выхаваннем.

Паводле ўяўленняў, якія існавалі ў нашых вёсках, будучыня дзіцяці закладалася яшчэ да яго нараджэння. У гэтым плане назапашана шмат правілаў паводзін цяжарнай жанчыны. Гэтыя правілы – мера парадку, ад якога залежыць будучыня дзіцяці, яго здароўе, знешні выгляд, рысы характару, яго будучы лёс, тое месца, якое ён зойме ў калектыве. Веданне гэтых правілаў дазваляе спрагназаваць, якім чынам адгукнецца тое ці іншае парушэнне. Гэтаму вучылі будучых маці, прынамсі, маці – дачок, а бабулі – унучак. Свае сякрэты былі і ў бабулі Варвары Аляксандраўны. “Усё казалі: “Гарэлкі піць нельзя!” – дзіцёнак будзя п’яніца. І ў нас п’яніц не было. І яшчэ: “С подала нельзя есць, патаму шта папрасімка дзіценак будзя. Усё матка казала, мы ці бульбы, ці пірага ў подал набярома, карманаў не было, дак яна і кажа, матка: “Не бярыця! А то Козырыха ўсе ідзець, у фартух набярэ, з фартуха бярэ – во і дзеці злыдні такія, усе папрасімкі ходзяць. Вот прыдзя, абы што ўбачыў: “Баба Алёна, дай мне! Дай мне!” А наш Ягорка нікагда не папрося”. І яшчэ: “Баба наша ўсё казала Машы: “Машачка, а то панісіцё дзіценка хрысціць, дак умажыцца, хоць абмоча пялёнкі, дак эта ж нехарашо перад бацюшкам. Дак не нада з подала ці з хвартуха”. І яшчэ: “Усё баба казала на Козырыху, яна: “Вой, пісяіцца мой!..” А яна гаворя: “Нельзя, як ясі, штоб із рота падала, а то ісцё, аж із рота падая, дак нельзя, і плеваць нельзя на людзей, а то будуць сцыклівыя дзеці”.

У гэтым, на маю думку, ёсць усё, што патрабуе ад выхавання сучасная методыка: і мэты, і задача, і наяўнасць. Гэтай практыкай праграмуецца этыка паводзінаў будучага дзіцяці, закладваюцца яго станоўчыя якасці: сціпласць, нежаднасць, памяркоўнасць, добрыя манеры. Што тычыцца прыкладаў, то іх выхаваўчая моц павялічваецца за кошт іх дачынення да рэалій мясцовага жыцця. Гэта ж зусім іншая справа, калі ў ролі прыкладаў аказваюцца людзі, якіх добра ведаеш, якія жылі альбо жывуць побач. І самае галоўнае – у будучых маці адразу закладвалася адказнасць за лёс будучага дзіцяці. І такім чынам праз усё жыццё – ад нараджэння і да смерці.

У далейшым дзеці выхоўваліся прыкладам штодзённага жыцця сваіх бацькоў і іншых старэйшых сямейнікаў:

“Узрослыя круцяцца, маладыя вучацца. Што тыя дзелаяць, то і яны. Мы разгаварывалі... І яны знаяць. Яны ж чуяць усё ета. І прыпеўкі, і ўсё... Я і ад бабы Алёны, і ад суседзяў старшых... На работу мы каліcь хадзілі... Бабы сабе работалі... А мы – падросткі... Брыгадзір пасылая палоць проса ці што-нібудзь...

Калісь палолі, ціперь травяць... Нам гадоў па восем, па дзевяць, па дзесяць... І мы чуім... Што гаворяць, і мы вучылісь... Ці так на вуліцы сядзяць, ці ў сям'е... Так пераймалі... Адзін ад аднаго вучылісь... Гаворяць: "Бальшы круціцца, а малы вучыцца". Што старыя гаворяць, то малыя пераймаяць. Вучацца малыя ад бальшых..."

Перш за ўсё чалавеку павінна пашанцаваць нарадзіцца ў добрай сям'і. Варвары Аляксандраўны Грэцкай у гэтым плане пашанцавала ў поўнай меры. Пра гэта сведчаць яе сяброўкі:

"Жылі яны ніплоха. Яны – аўтарытэтныя вабшчэ людзі. Ета Грэцкія... Вабшчэ харошыя людзі. Цанілі іх. Род парядачны".[15]

"Танька, іхняя нявестка (Ягорава жонка), казала: "Я за Ягора пайшла (брат Варвары Аляксандраўны), дак Грэцкавай фаміліяй гаржусь!" Іхні двор быў высокі... Не старцы, рабацягі... Усі красівыя былі... Не сраміў ніхто..." [16]

Пра гэта гавораць і асабістыя ўспаміны Варвары Аляксандраўны:

"Баба была ангел – чылавек. Іе ўсі зналі... Мая баба харошая была. Во калісь у Марозаўку ў школу хадзіла... Дзеўкі, падругі: "Пайдзём к нам начаваць". Вот сколькі нас было?.. Шэсць дзевак... У школу хадзілі... З Падкамення адна і нас пяць хадзіла... І дзеўкі марозаўскія будуць гаварыць, як замяць: "Пайдзёмця к нам начаваць". Прыдзіма. У другі раз мяняяцца: "Ніхай ужо Варя ў вас начуя, а Манька ў нас". Ужо так мяняліся. Дак маткі пытаяцца: "Чыя ты з Амяльнога?" Я гаварю: "Грэцкава". А яны: "А-а-а, Грэцкава! – марозаўцы зналі ўсіх амяленцаў, амяленцы марозаўцаў. – Тваю матку знаім. Твае баба і матка харошыя. Матка ваша – вумніца... І баба ваша... Вой, ваша баба якая харошая! І бацька быў харошы".

Вялікую ролю адыгрывала тое, якім аўтарытэтам карысталіся ў дзяцей іх родзічы:

"Бацька мой харошы быў. Бацька наш ісключыцільна быў харошы. Ета ўсі зналі".

"Як у нас бацька быў, дак на свеці, можа, німа такіх бацькоў... Німа і ні будзя!... Такі ён харошы..."

"Мы на матку век не сказалі: "Не бряшы!" А ў Крыўцовых... Вон Каця Коршунава са мной дружыла, на Каршуніху: "Ідзі ты к чорту! Надаела ты ўжо сваёй ругнёй".

"Мы на матку калісь век ні казалі: "Ідзі к чорту!" У Крыўцовых... Прыду к ім... Алёна: "Пайдзём скарэй, штоб матка не бачыла". А тая: "Алёна, куды ты сабіраісся?" – "Я счас прыду!" – "Ня йдзі... І тое, і тое нада здзелаць". Яна: "Ідзі ты к чорту!" І сабіраіцца і пойдзя. А мы матцы сваёй ніколі так ні казалі.

---

[15] Ад Варачкінай Таццяны Іванаўны, 1936 г. н., з п. Падкаменне, зап. Лапацін Г.І. у 2011 г. у Ветцы. Сш. 121. Ар. 46.

[16] Ад Кужэльнай Праскоўі Сяргееўны, 1933 г. н., з в. Старое Закружжа, зап. Лапацін Г.І. у 2013 г. у Ветцы. Сш. 121. Ар. 56.

А еслі б сказалі, яна б да смерці лупіла. Яна правільна дзелала. І загадая: "Здзелай, тады ідзі". Мы здзелаіма: "А ціперь, мам, можна?" – "Можна". А ў бабы пытаць... Матка: "Я камандзір, а ты разбязуліііш іх, дак яны ня будуць панімаць. Будуць як у Казыровых: "Ідзі к чорту... Ня гаўкай..." Ета разве можна на матку казаць?.. Усякія сем'і былі..."

"Штоб мы на матку сваю сказалі: "Ідзі к чорту!.." Ці: "Не бряшы..." К Крыўцовым прыдзіш, яна: "Дзеўкі, тоя здзелаце..." – "Ідзі ты к чорту!" Яна: "Во дземаны". Яны: "Ня дуры нас! Глотку разявіла!" І на бабу... А мы на бабу ого!.."

Так атрымалася, што ў сям'і Грэцкіх дзецьмі ў асноўным займалася бабуля Алёна Максімаўна. Пра яе Варвара Аляксандраўна заўсёды ўзгадвае толькі самымі добрымі словамі: "Дзіцямы баба заведывала... Матцы некалі было... Ета ж ціперь па тры гады даюць... Такую прывілегію... Родзіш – тры гады сядзяць... А калісь нядзеля, і пашоў на работу... Родзя, нядзеля атышла, брыгадзір прыдзя: "Полька, не хватая людзей... Ідзі..." Баба глядзіць, а матка ідзець. Усі так..." Аб яе аўтарыцеце сведчыць наступнае: "Наша баба была харошая! Вот за бабу на нож пайду. Еслі б на нашу бабу... Но нашу бабу ніхто ні абіжаў. Богам бажусь! Такая харошая баба была наша! На свеці німа, адна ана, наверна, была. І я за такую бабу... Яна век на нас не ругнулася. Ня слухалі, бацькі ж не было. "Варячка, здзелай... Там..." Но я слухала. Ягорка, Маша, Туся што-небудзь... Ціхонька зірне. Яна век... Матка гаворя: "Ты мне гавары, што яны ня слухаюць", – загадывала. А ўрад была баба Вася: "Я сказала Лідзі: "Ліда, ідзі свінням насабірай!" Яна міне не паслухала. То я ўжо абору вазьму". А наша баба в жысць не скажа. Мілая такая. Такія бабы не было нідзе".

Бабуля заўсёды была для яе аб'ектам пераймання:

"Такія бабы нідзе німа... " "Баба Алёна наша... Яна дзевяноста тры гады пражыла... Я так гаварю, таму шта так гаварыла баба Алёна... Баба Алёна вумная была... Ну, калісь усё баба наша: "Адзін з'еш хоць і вала, дак адна хвала". Напрымер, вот я ад свае сям'і нікалі так во-во ня з'ем, а ўсім па капельцы, да дам. Калісь ад бабы навучылась, і дзелаю так. Нашы ўжо не. Наша Ірка будзя хадзіць, што-нібудзь есць. Во купя якоя пячэння. Ну, ці я іх аб'ем?"

"Я знаю, як і сена ўвязываць. Баба наша ўсё знала і мне ўсё паказывала, кажа: "Ета за плячамы не насіць. Нада, што б ты ўсё знала". Прыходзіцца ў жызні ўсяк. Штоб усё ўмеў".

"Наша баба і пець умела, і песняў багата, і ткаць, і прясць... Усё я бабіна перяняла".

Але нарадзіцца ў добрай сям'і і нават мець добрага настаўніка яшчэ не самае вызначальнае. Варвара Аляксандраўна, не ацяжараная ведамі пра генетыку, прыводзіць прыклады, у якіх на першы план выступае менавіта спадчыннасць. Прычым яна можа адбіцца праз некалькі пакаленняў:

"Ад харошага целяша, дак і трэска хараша... Добры астанецца чылавек... Гаворяць: "Ад харошага целяша, дак і трэска хараша". А як плахі... Ён іздохня,

дак пакаленіе астанецца чарцінае. Ён урэдны, ні харошы...” “Яблака не далёка ад ябланы коціцца. Пад ябланай падая і ляжыць. Так і ён – выліты бацька! Яго бацька быў такі... Госпадзі!.. Як к чужому, пойдзя за гарэлку работаць... Еслі дома зделаць... Матка сячэ дровы печ вытапіць...”

“Ад разумных хай бы і па дваццаць ряджалі... Дзіцёнак быў бы развіты. А як ад дурнога... Яна сама дурная... І ён... Да ішчэ гарэлку пьюць... Такі ж іх дзіцёнак будзя... Лучшэ ня будзя... Наш Сярёжка (унук) радзіўся... Ён пашоў па нашым раду... Па матцы, па мне пашоў, па Машы... Ён па нашым раду пашоў... І вот харакцірам такі, заботлівы... Но Варю (унучка) я не пайму, дужа ціхая, тая *вадой ні замуця* нікому... Яна... Хоць і мужык будзя... Яна будзя ўважаць яму*... Ад харошага целяша, дак і трэска хараша*... Ад дурака дурак і будзя... Як карова малошная, дак ад яе і цялёнак... Еслі цёлачка... Гаворяць, перва целіцца... Пярвустак... Цёлачку... Яна ўся пойдзя... І праўда... Харошая карова была ў мяне... Цёлачку цяліла перваю, я ўзяла аставіла... І ў калхоз цёлачак здавала, дак людзі бралі... Гаворяць: “Ідзе тут Варькіна цёлачка?.. Бычка здадзіма... З калхоза забраць туюцёлачку... Ета ўжо будзя вылітая матка...” Харошая карова была... Дак і *ад харошага целяша*... І ад скаціны харошыя... *Ад злыя сучкі і сабакі злыя*... А як ад такія, што яна каждаму ўкланяіцца – перясігнуць і пойдуць. Ад харошага і харошая... Харошая яблана – і яблака будзя смашная... А як кіслёцця, дак кіслёцця і будзя... І ад скаціны харошыя... *Ад злыя сучкі і сабакі злыя*... А як ад такія, што яна каждаму ўкланяіцца – перясігнуць і пойдуць...”

“Туся ўся ў Прошку пашла. Ета мае маткі бацька і Прошкаў бацька – родныя браты. Матка мая і Прошка – брат і сястра дваюрадныя. Прошка... А вот сёстры ў яго... У іх быў Кірыла... Путны быў... А Прошка – дурак... Матка казала на Тусю: “Прошка ты выліты. Выліты нерабацень. Толькі б гарэлку піў і гуляў. Дак ты – нерабацень”. Яму што бацька гаворя, ён гаворя: “У самаго рукі не паадсыхалі... Дзелай сам”. Так Прошка казаў на бацьку. Матка казала: “Туся пашла не ў Грэцкавых, па Прошках пашла”. А мы ўжо з Машай... Матка казала: “А ета Грэцкавага рода”. Мы гаворым: “Мам, ну твой жа брат”. А матка гаворя: “Ну, што я буду дзелаць? Ён жа дваюрадны...” Яго звалі Ляксей... Яго ніхто ня зваў Ляксей... Прошка – і ўсё”.

[*А чаму Прошка?*]

“Дзед ці прадзед то ж урэдны быў. Дак яны: “Во Прошка!”. Дзед такі быў ці прадзед. І яны звалі Прошкай. І ўсі людзі звалі. “Хто-та пайшоў?” – “Прошка”.

І пра сябе:

[*Вы калісьці сказалі: “Можа, я ў бабу ўдалась?”* ]

“Баба наша ўсё знала, помніла, такая яна вумная была. І матка наша вумная была. Наша матка ў магазіні работала... Пакуль на шчаты счытаць, яна умственна ўсё пасчытая, такая вумная была”.

[Што значыць *удалась*?]

“Удалась... Баба такая была, і ўдалась такая”.

“У нашай бабы голас харошы быў. Усё баба наша казала Алёнка: “Варячка, ты і Маша крошкі падабралі мае”.

[*“Крошкі падабралі...” Гэта як?]*

“Ну, крошкі падабралі... Ну, усё ўмела дзелаць, што баба...”

Дзяцей змалку рыхтавалі да жыцця ў грамадстве, у калектыве:

“Матка наша нікалі не хваліла. Там у нас адна была: “Ой! Мае ж та дзеці!” А наша матка, усё ж дзелаім, як і нада: “Хваліць ніхай вас людзі пахваляць, а я не буду хваліць вас”.

Самым першым калектывам, у які быў павінен увайсці маленькі чалавек, была сям’я. І гэта адбывалася праз сумесную штодзённую працу:

“Калісь было. Матка ўранні ўстае. Начынаяць парядкі... Бацька быў. З бацькам баба, матка пагаворяць. Ішчэ ўвечары дажэ пагаворяць, што тоя і тоя нада іздзелаць. І назаўтряга бацька за сваё дзела пойдзя, матка з бабай печ топяць. Нам: ты бульбу чысці, ты капусту рэж ці шчавель перыбіряй... Каждаму дзела... І ніхто ні скажа, што я ні пайду”.

“Па хазяйству мы ўсі зналі. Ягорка наш, пойдама ў калхоз работаць, баба скажа: “Вот ты свіней накорміш”. Ён пойдзя на агарод, нарве травы такія, ён ужо зная, шэсць гадкоў была. Ён ужо пойдзя нарве, прынясе, пасячэ ў карыці, і дробненька пасячэ. Баба: “Буйней! Яны паядуць!” Размуця шалупаяк, бульбін, што будзя, намуця туды – і ў карыта, бальшоя карыта.  Гэта ўжо яго работа. А мы ў калхозі, палоць хадзілі, матка, баба жыта жаць. А тады старыя і малыя, усі работалі. Ён ужо на заборы сядзіць кала варот: “Усё, мам, падзелаў! Свіней накарміў і ўсё здзелаў”.

Рамёствам вучылі паступова. Дзяўчат аберагалі ад расчаравання ў сваіх сілах і здольнасцях. Узгадвае Варвара Аляксандраўна: “Вот няправільна што-нібудзь – ну і, не разбярэш нічога. Хоць і ў кроснах... Вазьмі ня так... Не пераступі етыя два разы, дзве ніткі ў ряд, ужо будуць іціць тоўстыі ніткі. Матка атойдзя, я гаварю: “Баб, давай я вазьму хоць трошкі ткану на кроснах, паўчуся”. А баба гаворя: “Паклычыш ужо, што чорт з папом не разбярэ! Ад маткі тады ўжо аборы палучыш. Ужо так будзя сеч! Скажа: “Хто цябе пасылаў? Ета ж нада ўсё раздзелываць!”

Але вучыцца рамёствам, як і сялянскай працы, заўсёды было справай абавязковай.

“Калісь матка. “Мам, я ня ўмею!” – “Да ты ня ўмеіш кату і хваста завязаць!” Нада ўсё ўмець. І дзелаць нада. О! Мая матка строгая была. Ня то шта, ня ўмею – ну і сядзі. Яна скажа: “Вочы бачаць і рукі ё, не паадсыхалі. Дзелай! Ты доўжын дзелаць”.

“Матка казала: “Варя і Маша – ета будуць путныя дзеўкі, а Туся – ета будзя лодырь ад камля”. Ад камля – крэпкая. Яе ўжо хоць... Ужо еслі не возьмуцца за работу змалку, дак яны і вырастуць, ня будуць дзелаць. Што ў маладосці да ў дзецтві знаіш, да смерці не забудзіш”.

Такім чынам вызначаецца істотная роля таго, што закладваецца ў чалавеку напачатку жыцця.

“Мая баба казала: “Дай Бог, унучачка, штоб усё умеў дзелаць, толькі не дай Бог, штоб усё дзелаў”. На практыцы Варвара Аляксандраўна не па чутках знаёмая як з жаночай працай: прадзеннем, ткацтвам, шытвом, вышыўкай, так і з мужчынскай: цяслярствам, плотніцтвам, лозапляценнем. З амаль прафесійным веданнем справы яна арыентуецца і ў якасцях матэрыялаў, і ў тэхналагічных працэсах, і ў выніках працы. І гэта зразумела. У цяжкія для яе сям’і гады, калі сям’я засталася без бацькі, Варвара Аляксандраўна ўзяла на сябе самыя, што ні на ёсць, мужчынскія працы. Як узгадвае пра сябе яна сама: “Усё калісь мужчыны казалі на мяне: “Не радзілась ты мужчынам, што ты ўмееш усё дзелаць”. І прясла дзелаць... Я аталлю такоя, што мужчына ня здзелая”.[17]

Да асаблівасцей хатняга выхавання дзяўчынак трэба аднесці тое, што іх адразу выхоўвалі як будучых гаспадынь, жонак:

“Што тады гатавалі? Бульба, суп, боршч, кашу, калі густую, як натаўкома ў ступі проса. Матка: “Ну, паляніліся – жыдкая каша!” Вучылі: “А то замуж пойдзіце, дак мужык з голаду памрэ!” Туся наша, ана лянівая была, дак баба і кажа, твой мужык із голаду, як Іван Шух, памрэ”.

“Дзеці, хадзіця паглядзіця, як суп, а то пойдзіця замуж, дак мужык па хібіцы будзя біць, скажа: “Во вырасла даўбня, а ўма ня вынясла. Ня ўмееш супу зварыць!”

Сямейнаму жыццю вучылі на прыкладах як станоўчага, так і адмоўнага:

“Усякія ж сём’і ё... Усякія мужыкі і жонкі... Другія ў ласкі пражывуць і ў дабраце. А другія ўсё прасваряцца. Так і жывуць клычана. Наш бацька, напрымер... Матка болей на яго, што ня так... Бацька: “Ну, ладна... Ніхай па-твойму”.

“Пражылі, як голуб з галубкай. Цэніць ён яе, а яна яго цэня. Вот ета яны жывуць, варкуяць, як голуб з галубкай. Ё такія сем’і! Ета сем’і аддзельныя такія ё. А еслі ён у дварэ бушуя...”

“Ета пойдзіш замуж, напрымер... Ішчэ баба нам казала... Мне яна не казала... Мне яна казала: “Варячка, ты як вырасціш, дак у цябе шаўковае ўсё, дак хазяін будзя красавацца за табой. А ты, Туся, чорны вол табе наступя... Ой! Горя цяпніш! Будзя біць-біць... Паслухая: жывая... Зноў начынаць будзя...”

“Вот маткіна радня. Яго звалі Ахрэм, а яе – Хацімья. Дак на іх усё казалі: “Хадзімця к Ахрэму і Хацімы!” Гуляць ужо бабы: “К Ахрэму і Хацімы, можа, наварылі бурака і бацвіння”. Прыходзяць: “Ну як, Ахрэм і Хацімья? Наварылі нам бурака і бацвіння?” А баба наша, тож харошыя дзяды былі, а ета бацькава, дак ужо саедзініў Бог і яе харошаю, усе людзі казалі, і ён харошы, і баба Алёнка харошая. Вот два такіх саедзінено”.

---

[17] Больш падрабязна гл.: Лапацін, Г.І.“Тапорная работа”. Семантыка фразеалагізма ва ўспрыманні майстра /Г.І. Лапацін // Славянские народы и их культуры: история и современность”. Международная научно-практическая конференция. Сб. научных статей / Редкол.: В.И. Коваль (отв. ред.) [и др.]; М-во образования РБ, Гомельский гос. ун-т им. Ф. Скорины, 2013. – С. 153–156.

Праз клопаты аб малодшых у сям'і дзяўчынкі набывалі навыкі, якія ў далейшым маглі спатрэбіцца ім пры выхаванні ўжо сваіх будучых дзетак:

"Матка і кажа: "Адзін аднаго глядзіця! Еслі адзін шкоду дзелая, меньшы, напрымер, ты ж – большая, ты бачыш, ня дай яму эта дзелаць".

"Ідом гуляць на вуліцу, матка: "Бярыця і яго". Ён крычыць за намы... Прывык жа... Матка: "Бярыця дзяцёнка і вядзіця..." І Крыўцовы... Алёна... Мішку вядзе... А ціперя-ка вазьмі скажы, штоб ішла гуляць на вуліцу ці к дзеўкам... Павяла дзіцёнка... Яна ж не павядзе... Скажа: "Што ты! Павяду..." Культуру здзелалі... А тады не глядзелі... Было па восем у каждам дварэ... Сем... Еслі чатыры: "Што там у цябе чатыры дзіцёнкі?" Ета ўжо мала... А ціперя-ка маць-гераіня – тры... А тады дзесяць... Тады толькі маць-гераіня..."

Своеасаблíва Варвара Аляксандраўна распавядае пра ролю бацькі ў працэсе выхавання дзяцей:

"Гадоў сем было ці малажэй, бацька памёр, мне было восем гадоў. А шчэ бацька быў, ён падойдзя, абнімя да пацалуя мяне і Тусю і Машу: "Ой, мае-та вы дзевачкі, залатыя ў мяне дзевачкі!"

"Бацька іграя, а ён падойдзя, маленькі, вот я помню, пальчыкамы варсая ў кнопачкі тыя... і бацька... Мы ўжо танцуім, а ён будзя стаяць, і пальчыкамы. Яно ўжо не туды іграіцца, а бацька: "Вот маладзец! Ой, Ягорка, сыночык, – і пагладзя яго. – Маладзец. Гарманіст будзіш". І ён тады аж рукамы ўсімі. Бацька і кажа: "Будзя з яго толк".

"Бацька мой казаў, як знаў: "Бывая, я ўперяд памру, Полька, не бяры другіх бацькоў. Ніхай ён будзя лопацца, не бярі. Ён жалець дзяцей ня будзя. Еслі ты, не дай Бог, памрэш, ці з радоў, ці забалееш, век ня буду жаніцца. Як сумею, так дагляжу. Мачыхі ў дварэ штоб не было. Ета звяр'ё!"

Бацька для яе заўсёды быў прыкладам сапраўднага мужчыны. "Я счытаю, ета паганы чылавек, што не ўмея нічога дзелаць. Мужчына доўжэн усё глянуць: "Во ета нада здзелаць! Во ета нада зделаць. Бацька ўсё ўмеў мужчынская... У яго былі і напільнікі, і рубанкі, і фуганкі... Сам і рубіў хату... Бацька ўсё ўмеў. Нада залапіць штаны, ён садзіцца, сабе штаны залапя... Еслі парвецца, тады з другіх штаноў лапік крапчэйшы выбіраяць... І ён залапя, і ты ні скажыш, што ета мужчына дзелаў... Як баба..."

Сямейнымі былі і першыя ўрокі чытання і пісьма. Бацька Варвары Аляксандраўны быў актыўным удзельнікам дзяржаўнай праграмы "ліквідацыі непісьменства". Як узгадвае мая суразмоўніца:

"Наш бацька вучыў у вячэрняй школі... Узрослыя, да ня знаюць, якія буквы пісаць... Прыказ такі быў ленінскі... Штоб хадзілі ў школу... Штоб кажды чылавек распісацца мог... А то ў нас былі і хлопцы, і дзеўкі... Яны распісацца ня ўмелі... Дак прыехаў Аляксеенка і гаворя: "Сашок, ідзі... Я знаю, што ты справісся з етым дзелам... Я табе планы дам..." Дак бацька вучыў..." Падчас гэтых заняткаў ён набыў навыкі методыкі, па якой потым навучаў пісьму і сваіх асабістых дзяцей: "Бацька напіша букву... Сёдні – *а*... "Багата ня дам..."

Вот сёдні *а* будзім пісаць... Напіша на бумажцы, а мы глядзім... Ну і, пішыма мы... І строчкі тры напішыма...” Своеасабліва гэтыя заняткі падтрымлівала бабуля Алёна Максімаўна: “Баба кажа: “Вы, дзеткі, сядзіця... Ня ў хаці... Дак на вуліцы... Як у дзень... Свіней пасвіце да курэй... Вот вы і пішыце на зямле... Сцярыце і зноў пішыце...” І мы на дарогах пішыма... І вучылісь...”

Вялікую ролю ў выхаванні дзяцей адыгралі і агульныя чытанні, якія звычайна ў святыя вечары адбываліся ў Грэцкіх: “...Матка наша ўсё чытала кнігі... Яна з інтанацыяй... Красіва чытала... Кніг у нас багата было... Усё казалі: “У Грэцкава бібліяцека”. Бацька кнігі ўсё... Сняжкі пачытаяць: “На, Сашок!.. Чытай дзіцям”. І казкі ўсякія калісяшнія... Пагарэлі, як хата гарэла... Амерыканчыха прыдзя: “Ой, садзіся... Святыя вечары, дак садзіся да чытай кнігу... Я люблю...” І Амерыканец... Ён харашо чытаў газеты і ўсё... “А з інтанацыяй, – гаворя, – я не магу...” Сам сабе пачытая... А штоб услух... А матка наша ўслух чытая... Чытая і кажа: “Ужо ўтамілася, усё чытаўшы...” Яны: “Ну, аддыхні...” Не дачытая што, назаўтряга зноў святы вечар, панаходзяць суседзі... Усі з сярёдку ідуць... Ад Амерыканцаў і да Жаваранкаў... Прыдуць, сядзяць і слухаяць... Там, як цар галаву адсякаў сваёй дачцэ... Замуж хацеў за багатага аддаць, а яна ўлюбілася ў беднага. Цілявізараў не было, яны к нам хадзілі... А Верка Барысава, Алёніна матка... Яна чытаць ня ўмела...” І яшчэ: “У нас багата было кніжак. Столік такі... Згарэў ён... Там поўна было!.. Казкі ўсякія, бажэствінныя былі... К аднаму боку... “Не чапайце, дзеці...” Мы меншыя былі, дак мы толькі з карцінкамы выбіралі... Гартаім карцінкі... А матка будзя казаць: “Што вы карцінкі вычытаіце? А будзіце хадзіць балваны дурныя!” Так і вучыліся. Прыдзім у школу... Пакуль хадзіць у школу, дак мы ўсю азбуку знаді”.

Своеасабліва выглядае і тое, што мы маглі б назваць урокамі народнай культуры. Самыя першыя з іх адбываліся проста па вечарах, калі спявалі бабуля, маці, бацька. Вабіла прыгажосць гукапісу, мелодыі. Песні пераймаліся і запаміналіся проста з голасу. Варвара Аляксандраўна ўзгадвае:

“Ета ж я пяю, што баба і матка прядуць кудзелю і пяюць. І Ягорка наш, так, гадкі тры. Вот сядзіма на печы, і калодзезь із смолі клодзём і пяём, мы ўсі знаді”.

Ужо самых маленькіх вучылі таму, што кожная песня мае сваё, вызначанае для яе месца ў пары года:

“Песня “Як Ваня вёў каня паіць, а Варынька дзевачка да за ім бягіць...” І мы яе любілі. Калісь сядзім так увечары, кажым: “А ці бабы чуяць!” Наша баба як чуя: “Ааа! Бяспутныя. Ня пейця етыя песні”. – “Баб, чаго?” – “Ім больна будзя, што вы не воўрэмя пеяцё”. Ужо нас страша. Мы тады кініма. Баба пойдзя. Мы: “Баба пашла. Давай!” І сядзім стрэлавыя ўвечары пяём.

А потым пачыналася самая сапраўдная навука традыцыйнай культуры:

“Зімой вазьмі жніўную запей... Мы калісь с Тусяй сядзім... І пачынаім: “Закацілася жаркае сонейка за лес, за лясок...” Баба фортку адчыня: “Ай-я-яй! Дзеўкі, ну, што вы ўжо клычыця? Разве цяпер пяюць жніўныя? Жніўныя як жніво...

Жыта як жнуць". Жніўныя песні... А ўжо ячмень, авёс... У калхозі... Ета ўжо калі сядзім кала абабкаў: "Давайця, дзеўкі пряпяём... Ці нас хто чуя..." Прыду дамоў, баба: "Ну, што вы, спалі?.. Можа, ляглі,праспалі, нічога ня выжалі?" Я гавару: "Баб, штоб ня спаць, мы песні пелі". – "Якія?" – "Жніўныя". – "Ні кажы толькі матцы". А матка скажа: "Бяспутныя!.. Былі дурныя, і ё дурныя... Разве цяпер пяюць..."

Такім чынам практыка прыгожага пісьменства ператваралася ў далучэнне да міфалогіі, прыродазнаўства і жыцця ў грамадстве. Апошняе таксама адметна. Праз песні малая сям'я, у якую ўваходзяць толькі самыя бліжэйшыя родзічы, пашыралася да вялікай сям'і, у якую ўваходзяць і суседзі, і аднавяскоўцы:

"Я калісь жніўную на агародзі раз запела, баба Іванюшкава: "Ці ты ўжо, Варячка, адурэла? Чаго ты пяеш жніўную песню?" Я гавару: "Баба, ета, штоб не забыла..." – "Ня нада пець..." І такім чынам праз увесь каляндар ад сяўбы да ўборкі ўраджаю, ад пасеву ільну да вывешвання рушніка на Куце.[18]

За малым калектывам узнікае вобраз дзяржавы як вялікага калектыву. На прыкладзе сям'і выпрацоўваецца дзяржаўнае мысленне:

"Я пражыла адна – ета маё маленькая гасударства. Ніхто не ўмешываўся ў маю сям'ю. Я сама распараджалася: куды, што і як..."

"Сям'я. Што такоя сям'я? Як ты думаіш? Сям'я – ета маленькая... Баба наша казала... "Сям'я, – гавару, – ета сем і я восьмая?" А яна гаворя: "Сям'я – ета маленькая гасударства. Пётр Первы калісь забоціўся. Дак ета ён над усім гасударствам. А мы – бацька забоціцца, а мы работаім. Ён нам загадывая і эканомію дзелая, і пракарміць, і надзець, і абуць, і пражыць, і штоб цёпла было. Бацька – хазяін з маткай. І штоб якую скаціну дзяржаць. Усё ета нада. А дзеці падчыняяцца. Дзеці работаяць". І калісь кажэн сваю работу зная".

Заўважу, што гэтыя высновы зрабіла бабуля Варвары Аляксандраўны, звычайная вясковая жанчына, якая нідзе не вучылася і па сутнасці атрымала хатнюю адукацыю, і, безумоўна, не знаёмая з высновамі Карла Маркса. Цікава, што ўжо Варвара Аляксандраўна, працягваючы гэту тэму, звяртаецца да прыкладаў Леніна, Сталіна, Фідэля Кастра, Маргарэт Тэтчэр, Гарбачова, Машэрава ды інш. І пры гэтым яна зусім беспраблемна супастаўляе мінулае вясковае з самымі апошнімі падзеямі сусветнага маштабу:

"Маткі дзяцей кідаюць, а ён страну такую кінуў. Такую магучаю – Савецкі Саюз. Красівая званія – наш мошны Савецкі Саюз. А ён кінуў. Таво шта дурачок – Мечаная галава. Страна, як сям'я бальшая. А ён хляпнуў, да пайшоў. Ён быў важак. Ляксанаў калісь, сядзім, цілявізар глядзім, ён гаворя: "Во гад! Кінуў страну бальшушчаю. І хляпнуў дзвярямі, і пайшоў. Ён жа, як бацька. Сям'ю та-

[18] Больш падрабязна гл.: Лапацін Генадзь. Варвара Аляксандраўна Грэцкая: "Дай нам, божа, штоб пець, а не плакаць..." / Беларускі фальклор: матэрыялы і даследаванні. Зборнік навуковых прац. Выпуск 1. Беларуская навука, 2014. – С. 329–365.

кую!.. Страна такая мошная... Дак ета сям'я яго... Ты ж глядзі... Закрыў дзверы, і пайшоў. Кінуў усё. Гад ты, гад! Разваліў страну...” Чорт страшэн, а ён ішчэ страшней. Столькі народу пагубіў, паразліваў слёзы. Во Расія ўжо аддзельна, Беларусія аддзельна”.

Цікава, што ілюструючы свае вызначэнні, яна неяк арганічна звяртаецца да апошніх палітычных падзей, што адбываюцца ў сусвеце. Адна з нашых апошніх размоў адбывалася падчас сакавіцкіх падзей ва Ўкраіне. Адсюль і наступнае:

“Кінуў, да пайшоў... А як кірса ўжо ў штаны сыпіцца, ня ўдзержа, прыйшоў: “Вы ж мае дзеці”. Цётка Зена расказывала: “Чаго прыйшоў... Ты ж тады кінуў нас і голых, і галодных... У школу пайшлі... Ну, не ў чым іціць дажэ... Мне хоць бы пракарміць... Дак тады ня бачыў...” Так і Янюковіч... Кінуў... Сваю сабраў сям'ю... А вы народ... Як-та ты, хазяін, кінуў... Як пастух кароў... Разыходзьцесь, куды хочыця, а я пайду куды мне нада... Я ў Расіі жыву, ня трогайце мяне... Нада падумать... Ета людзі... Сам сябе збярёг... Дак ты ж зберяжы і людзей усіх... А ня то шта кінуў... Біцесь, давіцесь...”

Варвара Аляксандраўна шмат чаго пераняла ад сваёй бабулі, якая, у сваю чаргу, у размовах з унучкай часта спасылалася на сваіх “бабу” і “прабабу”, што дае падставы вызначыць занатаванае ад яе як традыцыйнае.

Такі пагляд мае права на існаванне. І ён цалкам адпавядае вызначэнню яе бабулі Алёны Максімаўны: “Сям'я – ета малінькая гасударства...”

Матэрыялы па выхаванні ў сям'і не збіраліся мэтанакіравана. Яны непрыкметна і стыхійна ўзнікалі падчас размоў на самыя розныя тэмы. Але выбраныя мной з нашых размоў і зведзеныя разам, яны ствараюць своеасаблівы дапаможнік па народнай педагогіцы, па сямейным выхаванні.

Літаральна ўсе сяброўкі Варвары Аляксандраўны, з кім мне даводзілася размаўляць, адгукаюцца аб ёй толькі самымі добрымі словамі:

“Варвара кароў даіла. Та самая завадніца ў ніх была. Ой! Яна харашо... І работала, і пела... Удава тожа жыла... Горя хватала... У яе хлопец...”[19]

“Варька – баба агністая. Як агонь, работая. Што ні возміцца, дак гарыць у руках. Вот ета і називаіцца *агністая*. Усі так казалі: “Вон баба – што агонь. Шуруя ва ўсе канцы. І Варька такая... Баба на ўсе рукі. На ўсё. І пець, танцаваць і работаць – і што хочыш з Варькі. Ета ўжо *работніца на ўсе рукі,* калісь казалі”.[20]

І сама пра сябе:

“Калі будзіш у Алёны Краўцовай, дак распытай пра мяне... Яна раскажа... Я дзелаць, дак дзелаю... І ў калхозі, штоб заведушчы не прыйшоў і не сказаў: “Ідзі-ка сюды, – за рукаў, – перядзелай!” Ка мне нікалі, гаворяць, камар лыча

---

[19] Ад былой ж-кі в. Старое Закружжа Гарбузавай Ніны Якаўлеўны, 1943 г. н., зап. Лапацін Г.І. у 2011 г. Сш. 121. Ар. 52.

[20] Ад Кужэльнай Праскоўі Сяргееўны, 1933 г. н., з в. Старое Закружжа, зап. Лапацін Г.І. у 2012 г. у Ветцы. Сш. 121. Ар. 54.

не падточа. А другая цяп-ляп, і пайшла... Любыя бабы ё і мужчыны... Здзелаюць, дак люба ўзяць у рукі тую вешч. А ё... Цяп-ляп... Кіня...”

І яшчэ адзін успамін, які для яе вельмі дарагі:

“Калісь баба Амерыканчыха на мяне: “Ты – на ўсё... І печ, і танцаваць, ну і работаць... І Маша ваша не дакажа табе... А Туся... Ета саўсем не дакажа”.

На мой погляд, асоба Варвары Аляксандраўны пераканаўча пацвярджае слушнасць сістэмы выхавання дзяцей, якая існавала ў сям'і Грэцкіх – сям'і па вялікаму рахунку традыцыйнай для вёскі Амяльное.

Акрамя грунтоўнага, вызначанага як “навесці на пуць” і “даць жызню”, у сялянскім асяроддзі падсвядома існуе і пяшчотнае, глыбіннае, асабістае: “Я гавару: “Ой, баб, як мне жыць?” Яна гаворя: “Не журыся... Ты яшчэ маладзенькая... Як табе жыць... Ты пражывеш... Па табе бачу... Як-нібудзь пражывом... А пад старасць нада падумаць...” Я гавару: “Баба, а ты думала?” А яна і гаворя: “Вы ішчэ во такія былі, а я ўжо думала: “Хто мяне пахавае?.. З кім я...” Я гавару: “Баб, ну і з кім ты ряшыла?” – “А выбрала із пяці вас адну цябе”. Я гавару: “А чаго?” – “Бачу, што ты сама не з'ясі, а: “Баб, на-ка пакушай...” Гэты аповед з'яўляецца жывой ілюстрацыяй да ўяўлення, зафіксаванага напрыканцы XIX ст. і прыведзенага ў акадэмічным выданні “Пахаваннні. Памінкі. Галашэнні”: “Побач з іншымі клопатамі аб “люцкей смерці і пахове” беларускі селянін ставіць таксама “галашэнне” над сабою. Гадуючы сына, бацька верыць, а маці, не таячыся, гаворыць, што “ён закрыець мае смяротныя вочынькі і прыхаваіць мае костынькі”; дачка – дапоўніць “людскасць”: “прыляціць шэрай зазуляй і жаласна прыкукуіць”. У гэтым апошняя надзея селяніна, у ім ён бачыць вянец усёй працы, пакладзенай на выхаванне дзяцей”.[21]

Баба Алёна не памылілася ў сваіх спадзяваннях на маленькую ўнучку: “І баба памёрла ў нас... Дзед памёр... І бацька малады памёр, трыццаць сем гадоў... А баба з намы жыла, пакуль і памёрла... А матка ўперяд памёрла. На тры гады... Са мной баба жыла... І я бабу пахавала... Са мной яна жыла...”

Сям'я Грэцкіх з'яўляецца носьбітам традыцыйных, уласцівых беларусам поглядаў на педагогіку. У гэтым накірунку ў народзе назапашана вялікая і бясцэнная спадчына, выпрацаваны разнастайныя і змястоўныя формы і прынцыпы выхавання асобы. Яны вытрымалі выпрабаванне стагоддзямі і не страцілі сваёй актуальнасці і ў цяперашні час. Паводле гэтых поглядаў, менавіта ў сям'і закладваюцца асновы светапогляду дзяцей, імі набываюцца пэўныя духоўныя якасці і працоўныя навыкі. У далейшым усё гэта ўдасканальваецца ў сямейных і грамадскіх стасунках, падчас працоўнай дзейнасці, фарміруючы з чалавека паўнавартаснага ўдзельніка супольнасці.

---

[21] Пахаванні. Памінкі. Галашэнні / Рэд. кал.: А.С. Фядосік (гал. рэд.) і інш.; укладанне тэкстаў, уступ. артыкул і камент. У.А. Васілевіча; Артыкул, сістэматызацыя і камент. напеваў Т.Б. Варфаламеевай. – Мінск: Навука і тэхніка, 1986. – 615 с.



# ФАЛЬКЛОРНА-ЭТНАГРАФІЧНЫ РЭПЕРТУАР АСОБЫ

## Варвара Аляксандраўна Грэцкая

*Запісы 2005–2014 гадоў*



# I. Каляды

1. Каляда ходзя толькі раз у год – адзін дзень. Калядуяць. Мы Майку гаворым: "Дзед! Дак, ета Каляда і заўтра будзя?" – "Не! Ты што? Каляда ходзя адзін дзень. Вот яна вутрам падымаіцца і ідзець па пасёлках. У пасёлак ідзець, калядуя да вечара і можэ ііціць да дзвянаццаці часоў. Дзвянаццаць часоў прабіла – Каляда дамоў укурыла! Ужо Каляды німа – дамоў ужо ўкурыла!" [*А дзе яна жыве?*] А я не пытала. [*Каляда – гэта дзеўка? Ці гэта – цётка?*] Маладзіца! Каляда-калядзіца, добрая маладзіца! Яна ўсім калядуя і пяе. І ішчэ нам дзед пеў песню, што яна шчодры раздавая. Яна етыя шчодры дзіцям раздавая. Вот гаваряць: "Пост ужо падхіліў хвост!" Ужо на гуркі да на капусту сеў. А масленіца – яна піруя. Яна любя ўсё ўкусная. І Каляда любя ўсё ўкусная.

2. Калісь хрясты, на Кряшчэнне, дак усё баба гаворя: "Дзеці, давайця хрясты". Дак мы наперябой. Матка: "Падаждзіця, я вам падзялю. Ягорка, ты на вокнах пішы, на лутках, а ты на дворяшных". На мяне: "А ты на дзвярях". Большанькая, дак на дзвірях. Я пытала ў бабы: "Баб, а для чаго-та?" Яна: "Кряшчэння. Ета, штоб сатана ў хату не прыходзіла". А мы гаворым: "Баб, што ета за сатана?" – "Ну, чорт па-вашаму". Чорт і сатана завуць.

3. Наймалі калісь дзеўкі [кватэры]. А тады ўжо клуб здзелалі. А то па пуду бульбы і зярно колькісь. І наймаюць, напрымер, я, пускаюць, у каго бальшыя хаты. І, там, кажды дзень хадзі. Кудзелю панясуць, прялі, самапряхі, там гуртам і прялі, і хто вышывая, хто што дзелая. Хадзілі хлопцы туда. І хлопцы, хто што дзелая, хто лапці пляце, хто ў карты гуляяць. Маткі ідуць глядзець. І нас дзве, і мы ўжо ідом і сядзіма. Да дзе сядзіма? Усі сядзяць пажылыя, мы стаіма, а то на кортачках прысядзіш. [*І замужнія хадзілі?*] Яны не плацілі. Як іграяць, яны толькі хадзілі, па

скрасеннях. А так дзеўкі з хлопцамі гуляяць. І калісь начавалі, з саломы маты былі, маты пасцеляць, і на маты дзярюгу якую, і спяць – і хлопцы, і дзеўкі. Я ўжо была замужам, дак клуб здзелалі.

4. Прыходзім, гаворым: “Хазяйка, пець вам?” А яны гаворяць: “Пець! Пейця!” – “А каму вам пець?” Тады ж па шэсцера дзяцей да па семера было, і па восем – усяк. Ані гаворяць: “Пейця малым. А бальшэя і так абайдуцца”. Дак, мы пачынём пець. Пряпяём песні, ані ўжо дадуць сала, хлеба.

5. Хлопцу:

*Ой, рана-рана, куры папелі,*
*Сьвяты вечар добрым людзям.*
*Раней за ўсіх Ванічка ўстаў,*
*Сьвяты вечар добрым людзям.*
*Па двару хадзіў, званочкам званіў,*
*Сьвяты вечар добрым людзям.*
*Званочкам званіў, усіх братоў будзіў,*
*Сьвяты вечар добрым людзям.*
*– Уставайця, браткі, коней седлаці,*
*Сьвяты вечар добрым людзям.*
*Коней седлаці, куну[1] сачыці,*
*Сьвяты вечар добрым людзям.*
*Куну сачыці, дзеўку сватаці,*
*Сьвяты вечар добрым людзям.*
*А мы куначку не высачалі,*
*Сьвяты вечар добрым людзям.*
*А мы дзевачку не высваталі,*
*Сьвяты вечар добрым людзям.*
*Куніца ўцякла, дзеўка не пашла,*
*Сьвяты вечар добрым людзям.*
*Маладому Ваню гарбуз выкаціла.*
*Сьвяты вечар добрым людзям.*

[1] Каментар В.А. Грэцкай: “Куніцы ё, яны вядуцца ў сараях, белыя такія. Звярёк такі ё. Вот, ён гаворя, што “ўставайця, братцы, коней седлаці, коней седлаці, куну сачыці” – як высачыць, дзе яна. “ А мы куначку не высачылі, а мы дзевачку не высваталі”. Куніца ўцякла. Такі звярёк. Яна бегая. Хто заве – “куніца”, а хто – “ласіца”. Ласіца – яна будзя шчыкочыць холку ці каню, ці карові. Калісь маю карову яна на тый свет чуць не згубіла, пакуль казліную кожу мне далі, сказалі: “Павесь!” Як павесіла з казла кожу ў сараі, тады прыду – сухая, а то – мокрая карова. Аж раса! Пагладзіш – аж рука мокрая. Яна ганяя яе, а карова бегая, пака ўпадзя. Яна пот ліжа з каровы, з каня”.

*А мы той арбуз да разабілі,*
*Святы вечар добрым людзям.*
*А другую дзевачку да высваталі,*
*Святы вечар добрым людзям.*
*Гадам малада, як роза, цвіла,*
*Святы вечар добрым людзям.*
*Па зямле бяжыць, аж зямля дрыжыць,*
*Святы вечар добрым людзям.*
*За ветрам бяжыць, як лебідзь ляціць,*
*Святы вечар добрым людзям.*
*На неба глядзіць, як сонца гарыць,*
*Святы вечар добрым людзям.*
*З хлопцам стаіць, зная гаварыць,*
*Святы вечар добрым людзям.*

6. Дзеўцы:

*Ой, красна-красна ў лузе каліна,*
*Святы вечар добрым людзям.*
*Красней за ўсіх дзевачка ў мамкі,*
*Святы вечар добрым людзям.*
*Па двару хадзіла, увесь двор красіла,*
*Святы вечар добрым людзям.*
*У сені вышла, сені звінелі,*
*Святы вечар добрым людзям.*
*У хату вышла, баяре сядзяць,*
*Святы вечар добрым людзям.*
*Баяре сядзяць, у дзеўкі пытаяць,*
*Святы вечар добрым людзям.*
*– Ці ты папоўна, ці каралёўна?*
*Святы вечар добрым людзям.*
*– Я не папоўна, не каралёўна,*
*Святы вечар добрым людзям.*
*А я дзевачка, бацькава дачка,*
*Святы вечар добрым людзям.*
*Чорныя вочкі, як два вугалёчкі,*
*Святы вечар добрым людзям.*
*Красныя шчочкі, як два аганёчкі,*
*Святы вечар добрым людзям.*

*Белае ліцо, як лебедзя крыло,*
*Святы вечар добрым людзям.*
*Русая каса ніжэ пояса,*
*Святы вечар добрым людзям.*

7. Дзеўцы:

*Красна-красна ў лузе каліна,*
*Красней усяго Танечка ў мамкі.*
*Па двару ходзя, слёзы ана лье,*
*Да ўсё Бога прося: “Пажалей мяне!”*
*А мамка ідзе, дачку вядзе:*
*“Ты слёзы ня лі, а ідзі кудзелю прядзі!”*
*Кудзелю прядзе да ўсё слёзы лье,*
*Да просе ў мамкі, што парэнь ідзе.*
*А парэнь прыйшоў, галавой кіўнуў,*
*Галавой кіўнуў, ішчэ дзеўке маргнуў.*
*Дзеўка кудзелю кідая да за хлопцам збягая,*
*А маці стаіць, слёзы праліваяя:*
*“Куда ты пашла? Пасядзі дома”.*
*А дачка пайшла, начуя ў Яромы.*

8. *Зайка па пясочку пятляя,*
*Шчадровыя песні спявая*
*І звяркоў у шчодры збірая,*
*І іхнім дзеткам песні спявая.*
*Мядзведзь даў гаршчочык мядочку,*
*Ваўчок гаршчок тваражочку,*
*Лісічка гаршчочык гарячае кашкі,*
*Пагрэць зайку на гаршчочку лапкі.*
*Белка вынясла аряшочкі,*
*Патачыць зайку зубочкі,*
*Сарока вынясла маркоўку,*
*А варона цэлаю ватоўку,*
*Дзятлік даў замочык*
*Замкнуць церамочык.*
*А сабачка нёс два вядзёркі,*
*Хацеў атабраць у зайкі шчадзёркі,*
*А зайка пад стажочык схаваўся,*
*Хазяін на сабачку ругаўся.*

9. *– Верабейка чубаценькі,*
*Ці не бачыў ты гавядзенкі?*
*– А я бачыў, а я бачыў, да й не дам,*
*А схаваю гавядзіну к Калядам.*
*А ў Каляды святы дзень, святы дзень,*
*Буду есці гавядзіну цэлы дзень.*

10. *Каляда-калядзіца, добрая маладзіца,*
*А мы цябе год дажыдалі і табе шчодры гатавалі,*
*А ты не снегу, не марозу не баялась,*
*А да нас дабіралась.*
*Каляда-калядзіца, добрая маладзіца,*
*У каждым домі пабывала,*
*Нашым дзеткам песні паспявала*
*І нашых шчадзёр назбірала.*
*Далі каня варанога і сядзельца залатоя,*
*Далі аброць рэмянную і паводку шаўкавую,*
*Далі вожкі пасканныя і каўбаскі свіныя.*
*Каляда-калядзіца, добрая маладзіца,*
*Нашчадруеш курку-нясушку і сала кадушку.*
*Каляда-калядзіца, добрая маладзіца,*
*Назбіраіш аўса залатога*
*І накорміш каня варанога.*
*Нашчадруіш сладкая пшанічкі*
*І накорміш божая сінічкі,*
*Нашчадруіш канапеляк і накорміш верабеяк.*
*Нашчадруіш лёну кудзелю,*
*Будзеш прясць ты ўсю нядзелю,*
*Нашчадруіш самапряжку і напрядзеш на рубашку.*
*Будзіш ніткі матаці, аснову снаваці,*
*Будзіш красенцы ткаці, палаценцы гатаваці,*
*На снягу будзіш бяліці і на вадзе чыста мыці,*
*Будзіш рушнікі вышываці і на іконы надзяваці.*
*Запрягом каня варанога і паедзім у лясныя бярлогі,*
*Будзім там шчадраваці, звяркам песні спяваці.*
*Мядзведзь даў бочку мядочку,*
*Ваўчок гаршчок тваражочку.*
*А лісіца-хітрыца хацела курку ўхваціці,*
*А Каляда схітравала, памеж ног курку схавала,*
*Яна падалом накрыла і фартучком засцілала,*

*А лісічка схітравала, у норку сваю не пускала.*
*І шчадзёр нам давала, а норку хвастом замятала.*
*А Каляда-калядзіца, добрая маладзіца,*
*Каня варанога павярнула*
*І дамоў к сабе махнула.*
*Яна з лясочку выяджала*
*І на замок дзень шчадровы замыкала,*
*І залаты ключык у карманік хавала:*
*“Год не буду прыяджаці*
*І вас шчадраваці!”*

11. *Шчодзер бодзер,*
*Казіны ражок,*
*А ты, баба, пячы піражок.*
*А ты, дзедзька, не зявай,*
*Кусок сала падавай.*

Ета малыя дзеці. Мы пелі ўжо... Малыя такія пелі кароцінькія, а ўжо падраслі, пачалі дзеўцы і хлопцу.

[*Малыя, па колькі годзікаў?*]

Ну, мы шчэ да чацвёртага класа хадзілі, так пелі. Тады ўжо большыя сталі, ужо прыдзім, яны гаворяць: “Ужо дзецкія ні пейця, а пейця ўжо, як бальшыя”. Мы і бальшыя зналі... Послі ж нас ішчэ дзеўкі будуць хадзіць большыя, а меньшыя ўпярёд. Маткі гаворяць: “Ідзіця ўпярёд”. Людзі гаворяць: “Ужо пейця бальшыя”. Ужо дзеўкі па дзесяць–па адзінаццаць гадоў, ужо “бальшыя” называяць.

*12.* (а). *Шчодзер бодзер,*
*Бацька злодзей*
*Кабылку ўкраў,*
*Пад печ схаваў.*
*Людзі гвалтавалі,*
*Кабылку шукалі.*

(б) *Шчодзер бодзер,*
*Бацька злодзей*
*Кабылку ўкраў,*
*Пад печ схаваў.*
*А людзі ўзналі,*
*Кабылку атабралі.*

13. [*Такія былі, што казалі: "Нам не трэба пець! Не пойце нам!"*]

Былі такія: можа, бедныя, можа, жадныя. Прыдзіма: "Пець вам: ці дзеўцы, ці хлопцу?" – "Ня пейця!"

[*А што такім казалі, хто не пускаў?*]

*"А хто шчодзер не дае, не дае,*
*Ніхай тому пагніе, пагніе!" – крычалі.*
*"А ты шчодзер не даеш, не даеш,*
*Ніхай табе ўсё ў хаце пагніе!"* – крычалі хазяінам, еслі ты адкажыш, скажыш: "Не нада пець".

У нас адна была: "Пейця! Я вам кусочык сала дам". Там, крошачку атрэжа... Шквярыся, пей на дварэ! У хату не пускаяць! У нас хахол быў, Касцюк. У яго сын Коля памёр і дзеўка памёрла, і болей дзяцей не было. І мы ў шчодры прыходзім к яму. Ён будзя дома з цёткай Арынай. "Можна, цётка Арына, дзядзька Касцюк, к вам зайці?" Ён: "Ой! Заходзьця ўсі! Заходзьця наздароўіцьчка!" І кусок сала, цаліком кусок сала дасць: "Вот штоб такоя сала ішчэ на летась!" Мы гаворым: "І мы жалаім!" І хлеба скібку атваля, і мяса: "Наця і мяса. Можа, ігрышча будзіця гуляць, наця вам і мяса, у боршч укініця, будзіця варыць гарманісту". – "Мы вам спяём! Колю спяём". [*Што спявалі для мёртвага?*] Такую самаю, як і хлопцу. [*Ці так можна?*] Мы пелі. Цётка Арына плакала. А ён: "Арына, не плач! Яны пеюць нашаму сыночку". Ён нам дае багата ўсяго. Ішчэ хлеба мёдам памажа. А другому – шквярыся, пей-пей, такую лусціну хлеба атрэжа, абы толькі даў. Ёсцека такія жадныя.

14. І баба дае нам… Мы садзімся… І куццю… Венічак яна… Як вяжа венікі… Звяжа такі з руку… Кароценькіх абрэзачкаў кучарявінькіх звяжа, як венічак… І тады сена паложа, венічак, і накрыя. На куце… Называіцца: пад Богам ужо каша стаіць – куцця. На Ряжаство…

15. Сёдні нада куццю есць і семкі лузаць. Баба чаго-та ўсягда нам семкі… сядзім разгаўляцца… Па жмені давала. Для чаго, ня знаю. І курям сыпне. Семкі гарбузныя. Можа, штоб няслісь…

16. Калісь украдні я дома была, а ў нас курыца сядзела на яйцах. Каляды былі, і я штось лапіла, а тады ж лапілі і юбку, і кохту, я ціпер лаплю, наскі палаплю, і я пачала лапіць вязенцы.[2] А баба наша, штось хварэла, да й гаворя: "Варячка, мая ўнучачка, ня лапь! Ціперь жа Каляды". Я гаварю: "Баб!.." На работу ж хадзілі. Я гаварю: "Баб, ну, ні залаплю, саўсім дарвуцца, дак дай пазалапліваю!" Залапіла. Тады

[2] Вязёнцы – на рукі надзяваць.

прайшлі Каляды, баба кажа, як Хряшчэнне прайшло, увечары, баба і кажа: "Вазьмі ты, мой дзіцёнак, і папірязай той лапік і скажы: "Госпадзі, я сагряшыла!" Парязрязай лапікі тыя, ішчэ адны налапь, і будзя цяплей, і разрэжыш". Я гаварю: "Ну, добря!" Я ня разрэзала. І курыца тая сядзела ў нас. Вывеліся цыпляты, бягаць у сцяну. Вот як табе сказаць, вочкі ў іх чуць бачаць. Я гаварю: "Баб, паглядзі!" Баба мне кажа: "Ты вязёначкі мне не паказала". Я гаварю: "Баб, я не рязрызала, а толькі правяла ножычкам". Дак баба і гаворя: "Ета ты!" А я нажом чуць правяла. Думаю: "Жалка! Зноў лапіць нада". Вот яны былі, толькі два трошкі болей ідуць, а то прапалі ўсі. Ну, яны сляпыя.

Дзед Майка прыйшоў. Баба гаворя: "Паглядзі-ка! Ідуць цыпляты. Ідуць – у сцяну ўдаряцца. І не бачаць нічога". А ён і кажа: "Ну, як на тэй раз што-та ты, Алёнка, ці Варя што-та лапілі". А яна гаворя: "Да я не чапаю... Я галавы і то не расчосаю цэлае Каляды. Ета – вон неслух!" Яны і падохлі, пасчэзалі.

17. Адна ў нас, у Марозаўкі, і ён, гадоў пад сорак, жаніўся, узяў маладую з Закружжа. Яна – маладая, нічога етага не прызнавала. Дзевачка радзілась, і не бачыла нічыво. Гавораць, чуць-чуць векі зросшыя. Мая матка гаварыла: "Ну што, налапіла!?" Во, і сляпую радзіла!"

18. (а) Усё баба наша гаварыла: "Во, лапіця! Усё Богу не верыця!" Ета ж цялёнак. Ацяліўся і нічога не бачыў... Прывяжуць, штоб ён па хаці... Ён у сцяну да ў сцяну ці ў стол ударыцца. Дарасцілі яго... Дваццаць дней... Ета называіцца *грэчанцы атышлі*.[3] Ён ні бачыў. Пусцілі на двор, ён ідзець куды, і ў вароты, у сцяну ўдарыцца.

(б) Шыць нільзя старага, вот лапіць... Вот нада залапіць што-нібудзь... Парвалась кухвайка ці што... Яна будзя казаць: "Дзеці, у каго што ё, давайця лапіць буду, а то нільзя тады будзя". Калісь у нас на пасёлку ацяліўся цялёнак, і сляпы, і ня бачыў нічога, ідзе, галавой таўкане... І ёй гаворяць: "Што ты лапіла?" Яна гаворя: "Лапіла ў Каляды. Думала: "Ці хто бача?" Ажна Бог бачыў! На табе!

19. Баба возьмя перад Ряжаством расчэша косу. Мы ўсягда, хоць і мароз-кіпун, баню ўжо тапілі к Ряжаству. Баню вытапя. Расчэшыцца, і да трэццяя куцці ўжо не расплятая. Во тут расчэша коску, і тут коску запляце, а тады ету коску на тэй бок працягня, напрымер, дак яна ў дзірачку

[3] Каментар Грэцкай В.А.: "*Грэчанцы*. Гавораць, парасёнка нельзя есць... усё баба: "Ішчэ дваццаць дней німа. Грэчанцы ішчэ не атышлі..." Баба і кажа: "І яго зарэзалі, патаму шта грэчанцы атышлі..."

і працягня, а тую – сюды, яны не так клычацца, запляцёныя ж. А тады ўжо на трэццяю Куццю, точна на Куццю, садзіцца, расчэша косы і скруця косы, каторыя павычашацца, камком скруця... Я раз бегала за ёй, гаварю: “Баб, што ты з касамі будзіш дзелаць?” Яна вышла на двор, і снег там быў, і шчэлачка такая, калідор, сабака ў нас быў, дак ён прадраў дзірачку, дак яна туда, аж к зямле, у каморку: “Як калядныя косы двара пільнуяць, штоб так нашы куры і свінні, уся худоба двара пільнавала. Штоб мы не выходзілі, із стада не выганялі ні авечак, ні кароў. Штоб самы заходзілі”. Тры раза прагаворя, і авечкі ідуць, і чужыя прабягаяць, а нашы як ідуць, дак пряма ў хвортку. Баба расчыня, і яны бягаць туда.

20. Вот Куцця, баба і гаворя: “Дзеці, ня йдзіця, ня трусіця. А мы гаворыма: “Пойдзіма”. К хрёснай не хадзілі, а пойдзіма к Краўцовым, к Мелькавым, прыдзіма, і вароты, дак возьмім, і яны: рып-рып, і мы: “Крыўцовы вароты трясуцца, а Грэцкавы куры нясуцца”. І тры разы так во. Еслі ўбача хазяін: “Ну!.. Прыду маткі скажу!” Баба не пускала: “Дзеўкі, ня ідзіця!” Мы гаворым: “Зато нашы куры будуць несца!” І мы з Тусяй пабягіма. А Алёна тады прыдзя к нам. Баба: “Ну, і добря. І вашы будуць несца, і нашы”. [*На якую Куццю?*] Ета – пад Ряждзяство.

21. На Хряшчэння ваду свецяць. Баба наша калісь, цэрквяў не было, яна ў кружку набірая, вынясе, на двор паставя, і вада на дварэ начуя. Тады, уранні ўстаня, ужо пазней печ вытапяць, пойдзя ўнясе: “Папейця кряшчэнскія вады”. Матка і кажа: “Ну, хто яе крясціў?” – “Гасподзь крясціў, і нашу не мінуў. То ж папы свецяць у цэрквы, а ета Гасподзь свеця з неба па ўсём зямном шары: і ў акіяні, і ў моры – па ўсём зямном шары”. Перяд Хряшчэннем. Заўтра – Хряшчэння, а сёдні яна выняся, паставя, яна ноч пастаіць пад аткрытым небам. Паставя на што-нібудзь вышай на дварэ: ці на стоўбік... А тады ўнося ў хату: “Во, і нам Гасподзь пакрысціў”. [*Куды потым тую ваду?*] І пьюць... Баба аталье colькі: “Наця напівайцісь!” І як памруць, дак свецяць магілы...

22. На Ряждзяство ўсё баба глядзела: іней ё – проса будзя ўражайная... Іней ё на дзірэўі ці німа. Дак, яна войдзя ў хату, рана ж устае, прыдзя і кажа: “Будзя ўражай проса. Сёліта проса будзя – бальшы кусок пасеім”. І будзя маліна і вішня сільная.

Гаворяць, на Ряждзяственскаю Куццю на дзірэўях як вісіць снег кучамы такімі, уражай будзя на ябланах і проса ўражай будзя.

[Многа снега – уражай будзя бальшой. Мала снега – атлёга – уражай плахой будзя.[4]]

---

[4] Каментар сына Варвары Аляксандраўны Грэцкага Сяргея Васільевіча, 1950 г. н.

23. На адну Куццю баба гаворя: “Дзеці, ідзіця мароза завіця, – на адну Куццю, на ўсе не звала, уродзе, на Ряжаство: “Мароз, мароз, хадзі кашу есць!” Ой! Мы выдзім на двор, крычым: “Мароз! Мароз! Хадзі..!” – аж глоткі разрываяцца. Матка: “Вы ўжо падурэлі саўсім, паціхоньку гаварыця”. Мы гаворым: “Дак ён жа ня чуя – дзед”. Мы думалі: “І, праўда, дзед Мароз ё”. І сядзім ужо вячэряць, дак баба: “Пагукайця мароза, тады будзіця есць”. Мы гукалі. [*А чаму яго гукалі гушчу есці?*] Ня знаю. Што нам малым гаварыла баба, то мы дзелалі. Я і цеперака куццю варыла, звала: “Мароз! Мароз! Хадзі кашу есць!”

24. (а) Камення бралі. Пойдзіма, duракі, падскажаць нам, дзед Майка падскажа: “Ідзіця набярыця камення”, – ну во, што грэяцца ў бані. Мы пойдзім... Малых каменчыкаў… кала нас калодзезь… хто замуж уперяд пойдзя... Каменчыкі кідалі. Як забурліць, дак ета ўжо скора замуж пойдзіш, а еслі ўкініш, ён ні што... Дак, мы слухаім-слухаім...

Но ў калодзезь... Баба наша ругалась... Як толькі... Во, у нас пад вакном... Сядзя, кастыль возьмя, ужо ж і халодна, як ідуць: “Хлопцы! Дзеўкі! Не кідайця ў калодзезь! Не загружайця калодзезь!” Каменчыкі кідалі: як загурчыць камень, чутна, як ён упадзя, гаворяць: “Ужо ў етым гаду замуж пойдзіш!”

[*На якую Куццю кідалі?*]

На Ряжаство кідалі і на Хряшчэння, хто калі захоча... Мы дак на каждаю Куццю, тры Куцці, і на тры Куцці дзелалі.

Гаворяць, як камень укініш, як засіпіць, дак будзя свякруха злая... Як загурчыць, засіпіць камень там, гаворяць: “О! Ета ўжо злая свякруха будзіць”.

[*Камень кідалі і на свякруху, і на сябе?*]

Да. Кінуць... Вот ты кідаіш і гаворыш... Я кідаю і гавару: “Якая ў міне свякруха будзя: харошая ці плахая?” Я скрозь, як укіну – цішыня, а ў другіх гурчыць, гурчыць. А мая свякруха дабрэнная была.

[*Вы казалі: “Кідаіш – загурчыць: замуж пойдзеш”.*]

Загадыіш на ета: загурчыць камень, дак скора замуж пайду. А я загадыю на свякруху: якая свякруха будзя. А другія: які свёкар будзя ці цёшча. Кожды сабе загадая.

(б) На Куццю клалі замкі пад галаву, ета баба наша казала: “Хто мой будзя сужаны, дак штоб прышоў, адамкнуў замок ці замкнуў, скажы, штоб ніхто дзеўку тую ўжо ні чапаў, не займаў. [*А як гэта?*] Ну, во, замок бярэш атамкнуты: “Хто мой сужаны, будзя мне, дак няхай прыдзя і замок замкне, штоб ніхто мяне не зачураў”. А другая гаворя: “Атамкні сабе дзверы!” Незамкнуты, штоб ён тады замкнуў.

Замкі клалі пад падушку. Вот замкне замок, гаворыць: “Хто мой будзя прыварожаны, дак сасніся і прыдзі, атамкні замок і зайдзі ка мне”. І, там, адна кажа: “Мікіта ка мне прыйшоў і гаворя: “Ідзе ключ?” Я гаварю: “Які ключ?” – “Ад замка!” Я гаварю: “У замку!” Ён, гаворя, пайшоў атамкнуў. І ён іе ў ету зіму замуж узяў. Ёй саснілася. Яна гаворя: “Я спаць лягла. Толькі лажылася, сказала, што “мой прыварожаны і к жызні мужчына, прыдзі ка мне, атамкні замок!” І замкнула, і ключ пад падушку. І гаворя: “Заснула, і прыходзя Мікіта”. Ён і гадамі старшэ за яе. Прыйшоў і кажа: “Ты мне з малаленства нравішся. Пойдзіш замуж за мяне?” Матка і бацька: “Да яна ж маладжэй куды!” Яму ўжо к трыццаці было гадам, а ёй, наверна, шаснаццаць-семнаццаць было. А Мікіта гаворя: “Буду і да сарака гадоў не жаніцца, толькі буду ждаць яе, і нікому не дам, штоб ніхто к ёй падышоў”. І ряшылі. І ўзяў, і харашо жылі. Убілі яго на вайне. Хлопчык астаўся ў іх.

(в) І тухлі, і валенкі выкідалі... Чэряз хвортачку выкідаіш: у які бок наском ляжа... Ці валенак кініш, ці бурак, ці галош, хто ў чом абут... У які бок... У тэй бок замуж пойдзіш.

(г) І забор абнімалі. Гаворяць: “Еслі забор абніміш ці колікі, тады забораў не было, плятні, колікі... падбягіш... бягіма ўсі... і ты ўхваціў, напрымер, во, колікі... Усі счытаюць: пара, дзве... Два колікі – пара, ішчэ два колікі... Еслі адзін – усё: ня пойдзіш замуж і ні жэнішся – будзіш аставацца, еслі ўпару – то пойдзіш замуж. У нас там адзін быў: як абнімя – адзін: і не жаніўся.

(д) Ёслі сужаны твой ряжаны будзя, дак ён і варажыўшы возьмя, і не варажыўшы возьмя. Баба скрозь наша казала. Матка: “Ета ўжо варажыць пабягіцё!?” А баба кажа: “Мая ўнучачка, ня лезьця па сугробах”. Калісь к такой парэ сугробы... Колья... Лезіш па снегу. А баба кажа: “Як будзя твой сужаны-ряжаны, дак ён не паглядзіць і горы разоря за табой”. Гаворяць: “Тэй адбіў да тэй адбіў!” Ета ўсё няпраўда! Як хто каго любя, дак ён горы залатыя разруша, даб’ецца свайво. Ніхай і горы стаяць каменныя, а ён разоря, перялезя і забябрэ.

25. Ехалі на Данбас умесці ў поездзі. Дак пра курэй гаварылі. Дак баба, каторая тожа ехала, расказала. Нада расчясацца перяд Раждзяством, і тады ўсі Каляды не расчосывацца. Тады ўжо на Хряшчэння расчасацца і сказаць: “Як сваю галаву я кудлычу, штоб так кудлычылі мае куры чужыя планы, а на сваём не грябянулі”. І гаворя: “І што вы думаіця? Выскачаць, прабягаць-прабягаць, дзеўбануць, і на чужы агарод. І я здзелала. Ета кажды год нада дзелаць. І я, гаворя, прышлі другія Каляды, гаварю: “Не-не-не, ня буду дзелаць етага. І хто ета зная, штоб ён тоя на тый свет нёс”. І нам гаворя: “Дзевачкі мілыя, вы мне чужыя, злезлі

і пашлі, ну, ня дзелайця!” Дак я раз узяла і здзелала. Кажу на бабу нашу: “Баб, не буду расчэсывацца, так і так”. Яна і гаворя: “Мая ўнучачка, ня нада етага дзелаць. Ня нада! Лучшэ няхай табе разгрябуць, чымся твае. І праклён будзя, і ўсё”. Я ўзяла не расчэсываюсь. Баба: “Чагой-та ты сваю галовачку ня холіш?” А я гаварю: “Баб, думаю так і так здзелаць”. Яна: “Ну, глядзі! Я табе кажу: “Ня нада”. Ну, я і не расчосывалась. Чуць расчэсала я свае косы і так во прагаварыла. І што ты думаіш? Выскачаць куры і гурбой бягаць на Наташын агарод. Яна: “Во! Твае куры бягаць гурбой сюды!” Я кажу: “Знаіш што? Я большы ня буду”.

[*А для чаго вы гэта зрабілі?*]

“Ну, – думаю, – праўда ета ці не?”

А тады Алка, учыцільніца там была, прышла: “Давай я ня буду расчэсывацца (у яе косы былі бальшыя), раскажы мне (там з адной ня ладзіла яна), я ёй пакажу! У мяне курэй штук трыццаць, выпушчу, дак яны ёй гряды ўсі сталочаць!” Кажа: “Што думаіш?.. На вуліцы... Яны ляцяць... Перялятаяць туда...”

[*Куды тыя валасы?*]

Расчашы, і на агарод... І закапаць у тыя суседкі на агародзі. Яна казала: “Што тыя косы, прыціць ямачку пракапаць глыбей, і туда, штоб яны выгрябалі”.

[*Закапывалі не на той дзень, не на Раство?*]

Не. Снег жа зімой.

[*Іх што, захоўвалі?*]

Я ўжо не пытала, і дзе яны іх хавалі... Дак яна мне гаварыла... Яна толькі гаворя: “Тады ўжо праталкі пойдуць...” Яно ж на агародзі, дзе снег болей, пяреваламі, а дзе меньшы... Ідзе меньшы, скарэй растаня.

[*А тыя валасы, што расчосваліся на Раство, куды дзявалі?*]

Тады вясной ямачку прыкапваюць. Я гаварю: “Куды ж тыя косы?” А яна гаворя: “Пракапаіш ямачку, і глыбей туды палож”.

[*І тыя, што на Раство вычосывалі, і тыя, што на Хрышчэнне?*]

Тыя, што начысалі. Зімой начысаў, іх скруці ў кручень і закапый. Што на Куццях. Перяд Ражаствам расчэшысся, і да Хряшчэння ня чэшысся.

[*Дык што, і тыя, і тыя?*]

Да ўжо ня знаю: наверна, і тыя, і тыя. Штоб усі Куцці былі ўмесці: і перяд Ряжаствам, і на Хряшчэння.

[*На Новы год?*]

На Новы год ня чэшаць ужо.

26. Баба калісь казала: “Сёдні паверніцца мядзведзь... На адном баку ляжыць, а ета ўжо мядзведзь перяверніцца на другі бок у спячцы. Ета ўжо будзя меніць ноч”. І я тоя запомніла. І вот будзіма... Паўз сцяну

Ваня ляжаў, тады Маша, тады я, тады Туся, тады Ягорка, і баба... Ён каля бабы... І будзім варочацца, варочацца... То ня спіцца нам... Я была, *як жыгала*[5]... То перявярнусь... Баба будзя казаць: “Варячка, ішчэ мядзведзь не варочаіцца другім бокам. Так шта ляж ціхінька”. – “А то што будзя?” – “Мядзведзь прыдзя ноччы із лагва свайго, да із’есць”.

Гаворяць: “Мядзведзь з етага ўрэмя перяварачываіцца на другі бок. Ён на баку ляжыць. А ета перяварачыіцца, пашаволіцца. І будзя патрохі, будзя перяварачывацца на другі бок”.

Первая мета: сонца паварячыіцца. Ужо сонца на мінуту будзя раней узыходзіць. Калісь гаварыла баба. Сонца павярнулась ужо, і мядзведзь павярнуўся.

## II. Стрэчанне

27. Зіма з летам ўстрычаіцца на Ўстрэчанне… І вот хтось доўжын напіцца вады із стряхі… Ці певень?.. Баба казала.

Зіма ўходзя. Усё баба казала: “Зіма ўходзя... Зіма з летам стрячаіцца на Стрэчанне”.

## III. Ляксеі (Алексій, 30 сакавіка)

28. К Ляксеям, усё баба наша казала, кросны ткаць... Матка гаворя: “Шчэ да Вялікадня патком кросны”. Баба гаворя: “Нада да Аляксея кросны паткаць. Усё, гаворя, мая баба казала: “Да Аляксея кросны паткаць. Аляксею сарочку саткаць”.

---

[5] “Жыгала – ета ё такая дзірвянная, во, дзелаяць такую, як палку, штоб узяцца, і туда прадзеваяць... Ета ціперь разныя сверлы ё, а то бяруць жалезца, як провалка, і накальваяць у грубцы дакрасна, выпаліваяць туды, а тады туды забіваяць, называіцца “жыгала”, такоя длінная, на канцэ вострая-вострая, і тупым туда забіваяць, тут жа ўжо “жыгала” называіцца, пражыгалі яго, а сюды забівалі палачкі дубовыя, штоб яно не выкальзывалася... а як свіней б’юць ці едуць у дарогу... У дарогу ты едзіш куды-небудзь, гаворяць: “Жыгала вазьмі!” Вот табе жонка гаворыць ці матка, ці бацька: “Жыгала ўзяў?” – “Узяў!” Калісь бандзіты былі. Вот падойдзя, штоб у цябе абараніцца было чым-небудзь, хто вілкі бярэ з адным рогам ці два здзелая, штоб варсануць, ці жыгала бралі – хто што, што ў каго ё. І свіней б’юць, тым жыгалам пракалываюць у серца. Ідуць у лес, бяруць. Мы калісь ідом, баба кажа: “Бярыця, дзетачкі, ці нож неспасобны (ржавый, плахі – удакладненне Грэцкай В. А.), ці што-нібудзь, штоб ад чаго-нібудзь спасацца самым”. Ну, дзеўкі ня бралі, а хлопцы... Мы калісь без хлопцаў не хадзілі”.

# IV. Дабравешчанне. Бусла клічуць

*29. Бусел, бусел, калясом,*
*Тваe дзеткі за лясом,*
*Масла макаюць,*
*Бусла гукаюць.*
*– К вам я, дзеткі, прылячу,*
*Як сваё брюшка начыню*
*Лягушкамы, вужамы*
*І слізкімі лізунамы.*
*Ўсё балота я прайду,*
*Сваё брюшка натапчу,*
*Крыламі размахну*
*І ў гняздзечка прылячу.*

[*Бусел прылятаў у адзін дзень?*]

Гаворяць, да Благавешчання бусел не прылятая.

[*Ён што, прылятае на Благавешчанне?*]

Кажаць, на Благавешчання бусял прылятая. Ета Божжая пціца. Яна пціц ня есць ніякіх, вароны ж... А ета пціца, хоць яна бальшая, яна толькі ўсю гадасць падбірая.

Ета хлопцы... Баба гаворя: “Дзеўкі, не завіця! Хлопцы ніхай бусла завуць”.

Штоб ужо думалі яны, што сядзя туды. Вот яны стаяць кругом кала... Стоўб... І мы стаім гуртам. Жэрдка такая тоўстая, і там каток, ламаны... Яны… не харошы, а плахі ўжо... І туды, штоб ён ужо садзіўся, і крычаць:

*“Бусел, бусел, калясом,*
*Тваe дзеці за лясом,*
*Масла макаяць,*
*Бусла гукаяць...”*

А бусел атвячая, што буду хадзіць па лебядзе... Не пайду я ў лебяду... Там схаплю вужонка, схаплю лягушонка... Ці наемся лізуноў ...Ты знаіш лізуноў? Лізуны – ета такія... На мокрых... Дзе ўлажныя месты, дак яны такія пухнатыя... Такія ё – лізуны... пухнатыя... Дак яны лізуны тыя і на клубніцы, а жабы ядуць лізуноў. Я сама бачыла: так ротам хоп-хоп іх. *(Накармлю дзетак... ці да атвалу, ці да гарла...)*

Хлопцы... а мы гаворым: “І мы!..” А баба: “Сядзьця! Ета ня ваша дзела! Ета хлапячая дзела... Ніхай... Ета Божжая пціца... Ета хлопцы даўжны, а вы не гукайця”. Мы ўсё адно гукалі. Баба скажа і пойдзя. Мы

тож... Хлопцы гаворяць, і мы... Хлопцы: “Ідзіця, сучкі! Вам нялзя бусла гукаць!” А мы ўсё раўно. Атойдзімся далей і скорынька.

[*Чаму, калі Божая, дзеўкам не можна гукаць?*]

А мы і не пыталі ў бабы, чаго. Ета калі б ціпер, дак мы б з табой папыталі ў бабы: “Баба Алёнка, ну-ка раскажы нам”. А яна: “Дзеўкі, вы не гукайця буслаў, а ніхай...” А мы ўсё раўно... Баба пойдзя... ці баба чуя... А Ягорка прыдзя і кажа: “Баб, во, сучкі етыя, во, гукалі бусла!” Яна: “Бяспутныя, вы бяспутныя! Ці вы ад міне? Ета ж вам Господзь...” І баба Ванюшкава прыдзя: “Во ўжо сучкі етыя во, стаялі і ўсё раўно крычалі: “Бусял! Бусял!”

30. Нільзя да Благавешчання ні гряду капаць, ні забор гарадзіць... А то дожч загародзіш, дак дажча ня будзя. Усё баба: “Да Благавешчання ня нада...”

## V. Гуканне вясны

31. [*Вясна. Яна ў якіх гадах ходзіць? Дзеўка, маладзіца...*]

Вясна, кажаць, красна. І вясніца – дзеўка-красавіца. Баба казала: “Прыдзя вясна-красна, дзеўка маладая, усё аджыве... Усё аджывая: і мошкі, і пчолы, і мурашкі, і дзярэўі – усё аджывая. Начыная ўсё маладоя рэсць: чылавек сея і бульбіну... Усё для чылавека... Вырастая і цвяточык, і зялёны лісточык. Дак баба наша казала: “Лучшы німа красны вясны”.

32. [*Вясну гукалі, якім імем вясну называлі?*]

Вясну называяць: вісняначка дзевачка, ці Варячка, ці Тусічка, ці Машачка, а німа дзевак у кага, у якой сям’е, дак маткіна імя, а пра чужых не... Кажды сваё. Дак, маткіна імя, там, Пелагея, ці Алёнка, ці... Так во называлі, штоб чужыя сем’і не памінаць, штоб сваі. У цябе б сястра была, ты б сваю сястру пеў, а німа сястры – маткіна б імя, штоб чужых... Ну, чаго я буду чужых, нашто мне чужыя?

[*Дык што, гукалі ў сябе ў двары?*]

Да. Ну, і выходзіш на... Пяюць, во: “Давайця!” Но еслі я заводжу песню, дак ты ж ужо не заводзіш, а я ўжо сваіх. Чаго я буду тваю? А я ўжо на сваю сям’ю, із сваёй сям’і начынаю. Усягда вот начыналі, як малая дзевачка ё, меньшая, у сям’е самая меньшая дзевачка, тую ўжо называяць: ці Танячка, ці Насцячка, ці Кацячка – і пяюць.

[*Дык што, гукалі ў кожным двары асобна?*]

Пяём мы дома. А наша баба памятлівая была, можа, я ў бабу трошкі ўдалась? Дак яна ўжо які празнік, яна ўжо будзя сядзець, ці прядзе,

ці тчэ, і ціхонька пряпяе песню. Перва Богу памоліцца, устаня ўрання, тады ўжо гаворя: "Дзеўкі, сёдні ж нада тую-тую песню прапець". А нам ета на руку. Матка крычала на нас: "Вы к горю песні пеяцё". Бацька памёр, дак яна і гаворя: "Ета вы нагаўкалі, што бацька памёр. Ета вы песні пелі, а горя вешчавалі".

[*А калі багата дзевак збіраецца вясну гукаць, са ўсёй дзярэўні, тады як?*]

Я запяваю з усёй дзярэўні, выбіраю, якая падруга мая ці радня якая, ці сірата якая-нібудзь. Вот у нас дзеўка была, ні бацькі, ні маткі не было, яна ў дзеда жыла, дак мы скрозь яе паміналі, таму шта яна абіжына богам: ні бацькі, ні маткі, дак хоць у песні яе паміном.

[*Вы сказалі, што калі вы пачынаеце, то вашае імя і пяюць...* ]

Дак, еслі ўжо німа, так круглай сіраце. А еслі начынаяць, імя назавуць самай меньшай. Вот чэцвіра ў нас дзяцей, мы меньшай самай выбіраім, самай малай. Як у дварэ. У сям'е ў нас было тры: Маша, Туся і я. Мы ад Тусі начыналі.

А як з усёй дзярэўні дзеўкі сабіраімся, яна з намы гуляла, у яе не было нікога, дак мы скрозь яе начынаім.

Еслі я запяваю, ета я выбіраю, напрымер, я ўжо начынаю: Лена ці Маня, ета ўжо маё... І тады ўсі імя ета пачынаюць.

Вот "Стрялу вядуць", там, пра Ванячку, выбірая кажды свайго.

[*Вы сказалі, што калі вы пачынаеце, то на сваё імя пачынаеце вясну гукаць...*]

Ці сваё, захочу я ўжо сваё... Во, я песню пяю, напрымер, я ўжо Варю памінаю, я і сама Варя, і дзеўку памінаю, унучку – Варячку. Вот пелі песню "У полі-ў полі стаяла Екацярыначка ці хто.." – сваё якоя. У нас я ўсігда запявала, я пачала, я думаю: "Чаго-та я буду чужоя імя гаварыць?" Бабе сказала. Баба гаворя: "Сваё імя называй". І я пачала гаварыць, што "У полі-полі, там, стаяла яварыначка..." І сталі ўсі пець, і ўсі пелі. Я ўжо сваё імя ўставіла. Я ўсігда Сярожку (*унук*) памінаю.

[*Вясну калі пачыналі гукаць?*]

Ціпер ужо, бачыш, ідзе зямля, а то ж прысыпя, а тады ж сугробы здаровыя былі, "праталкі" зваліся, што яны ідзе растане, ідзе меней снегу, ён ужо растане, мы на праталках сядзіма ці станіма... І тую песню "На праталачкі ляцяць галачкі..." Штоб на Сbabaракі дзевачкі няслі сaraкі. Усё прыходна, усё красіва.

Баба ўсё нам казала: "Нясіця пцічкам на праталачкі, – галак напячэ, спякуцца первыя, – нясіця, птушак перва пакарміця". А мы выскачыма, птушкам кініма чуць-чуць, а самі паядзім. Ці ў нас розум быў. І авечкам давалі, усёй скаціні, і ў мешань свінням матка ўкіня, пакрыша. А чаго кідалі, я ўжо не знаю.

[*А птушкам куды крышылі?*]

На праталачкі на етыя, ідзе зямля, ідзе растала зямля. І галкі, і *кілуны* – звалі пцічак мы... Вераб'ёў, сінічак. Кілуны – вераб'і серыя. Дзед Майка казаў: "Гарох, проса даўбуць да ўсё – ета кілуны, урэдныя пціцы". А мы ўсё адно жалелі. У етай песні пяюць, што як зямля... Снег растае... Усё ж прыкладна... І зямля ўздыхне.

*На праталачкі*
*Прылятаюць галачкі…*

(*Красівая песня.*)

33. Па словах Варвары Аляксандраўны Грэцкай, менавіта з гэтай песні ў Амяльным пачыналі спяваць вясну:

"Гонім кароў... Начынаім іе... Во, такія лаўцы дзелаім, лазіны хлопцы паатрязаюць, і хлопцы, і дзеўкі ўмесці, но кажды сваю карову... Дубцы такія... Ці з бярёзкі... Сала... І агонь раскладаіма. Ты ідзі... сухія саломы, травы пасушэ нарві, ты ідзі галля... Накладома кучу, падпаліма... Дзень там пасом, і дзень лаўцы жарым... І сядзім... вясной... І ета первая песня... Выганім, і первы дзень пяёма... І пакуль, і пастух... Пастух, як ужо траўка пачане зелянець, а так мы абводзім сёдні на етым месці, заўтры на том... Кароў гонім... Разузнаім... Туды – на праталкі гоніма. На етым паядуць каровы ўжо і верас, і ўсё... Тады на другоя места, ідзе снегу німа... Дзень бальшы – вясной... І пяём... І ета первая песня. (Нашы далейшыя спробы ўзгадаць тэкст гэтай песні дазволілі ўзнавіць яшчэ некалькі радкоў: "Дзевачкі на Соракі няслі соракі... / Выганялі каровак у лясочак, / На зяленаю траўку, на муражочак...")

Лаўцы – *пруцікі з жареным салам*: "сала жареная – ета лавец. Ціперака завуць шашлык, а тады – лаўцы".

Яшчэ адна спроба дала наступны вынік:

*Выганялі кароў на праталачкі,*
*Гдзе грэяць ножкі чорныя галачкі,*
*На гасподняй карміліцы-зямліцы,*
*На пасушэ лячэбнай травіцы,*
*Прыганялі на верясочык,*
*Пад голы лясочык,*
*Каровак і ўсю худобу на пасушы кармілі*
*І ў ручайках зімняю снежнаю вадою паілі,*
*Па кустах сухоя галлё дзеткі ламалі,*
*А дзяды і бабы вогнішча раскладалі.*
*І кругом вогнішча сядзелі, стаялі,*
*На лаўцах сала распрягалі...*

# VI. Лён сеюць

34. (а) Калісь мы лён сеялі і на агарадзі, і ў калхозі... Уручную калісь сеялі, яны ўжо пасеяць – роўна, дак яны бяруць… ляшыць хадзілі мы... Вот прывязаяць у плуг валёк, а тады – па старонкі, і каня, і цяпер жа запрагаяць, і плуг пасярёд роўненька, і конь ідзець, а пахарь паша, дак валёк прывязваяць, выструганы, харошы, і за абору на плячо, і крайні, штоб жа бачыць, лён жа – ня відна, і канём скародзяць. Перва – пасеяць, тады лён заскараджываяць. Гаворяць: “Ляну вочкі прысыпь, і ён уродзя”. І проса, і лён. Дак, мы ляшылі. І бралі з сабой яйцы варяныя. Матка… “Мам, сёдня ў калхозі будуць лён ляшыць”. Матка ўжо зварэць яйцо тое. І яны ж ідуць. Перва – адзін ідзець, тады – другі, колькі мужчын назначаць, чатыры, там, ці – пяць, і паследні ляшыць вядзе. Вот ідзем, гаворым: “Хоць яйцы паядзім!” Пасеяць лён, кончаць, тады яйцы, падходзім, дзе пасеяны лён, семя, мужчыны тыя, калі бутылку возьмуць, яйцы возьмуць, пападшыбаяць, і вып’юць тую бутылку і гаворяць, “штоб лён такі рос, дакуль яйцо даляціць”. Дак, адзін мужчына засвішча, усім не хватая, і мы яйцы пападшыбаім. І дзяды тыя яйцы пападшыбаюць, палупяць і шалупайкі тут кідаім. “Кідайці тут шалупайкі”. Тут кідаім. “Кідайці шалупайкі на ляну, штоб лён быў крэпкі і чысты, штоб крэпкі быў, як мяць, белы, як яйцы белыя”. Мы: “Мам, пакрась!” – “Няльзя!” А штоб лён белы быў. А тады мы тыя яйцы лупіма, шкарлупу… “Раскідайця па ўсём шкарлупу!” Раскідаюць мужчыны. Падыходзім к ім. Яны ўжо выпіваюць, і з хлебам яйцы, бахонку хлеба бяруць. Рэжаць хлеб, ядуць, і паядуць, перахрысцяцца: “Нарадзі лён і на крадзяшчых, і на прасяшчых, і на сабе насяшчых!” Мужчыны так гаворяць, і мы за імы паўтаряім: “Урадзі, Госпадзі,  лён і на крадзяшчых, і на прасяшчых, і на сабе насяшчых!” Ну, штоб на сабе насіць. І лён той у калхозі аж сінянечкі цвіце! Закусяць, вып’юць бутылку. Мы з імы, яйцо з хлебам, да ў соль макаіма. “У соль мачайця! штоб не выбірала вараннё!” І соль пасыпяць па ляну. А мы: “Дзяды, ня сыпця! Мы будзім!” – “Да ідзіця вы к такой-та!.. Мы ж сеялі, дак, і мы трохі пасеім! Жменямы не сыпця!” І мы ўжо трохі ўхвацім. І на агародзі лён сеялі. Пасеяць лёну кусок, і два яйцы зваряць, што Лён і Лляніха. Бывая ветка лёну, і ані ж апыліваяцца. Самаапыленіем. Пчолы ж не апыліваюць. Лён і Лляніха, жэншчына, дзевачка, штоб апыліваліся. Баба: “Гукайця і Лён, і Лляніху”. Штоб яны ўжо апыліваліся, етыя цвяточкі, прося іх. Баба ўжо стаіць: “Лён і Лляніха, прыходзьця к нам на помач…” Я на агародзі, кусочык тута-ка сеяла. Пасею. Ён узойдзя. Абаб’ю яго, струшу, штоб пяска не была. Тада на сіта

прасею, на вецяр прапушчу, падсушу ў печы на скавародцы, ён пахня смашным. У мяне ступа, таўкач, і туда ўсыпаю, таўкачом таўку. Патаўку, яно іздзелаіцца мягка-мягка, рукой выбіру, у сітцо, на газетку прасею, сіта ў мяне часцінькае-часцінькае, прасею, і яно так смашна з хлебам, і солькаю пасалю, бульбу мачаіш, і з расолам. Ну, так смашна! І сала ня нада. І сытна. І пад'ясі. Там жа алей патоўчаны. Ішчэ патаўку, пакуль ужо саўсем, а тое ўмешыю ці парасёнку, ці курам. І бульба – во!

Лён і Лляніца ў ляну. Пара ўжо – мужык і жонка. Дак, усё баба наша казала, жыта красуіцца, дак яна і кажа: "Во, хоць бы ветрык быў, штоб Жыта з Жытніцай асемяняліся, штобы зёрны харошыя палучаліся". І, ці проса, як пачынае каласіцца, дак прыдзя і кажа: "Во, ветрык харашо ганяя. Ета проса апыляя". Я кажу: "Баб, і проса?" – "Да. І ў просе, і ў каждым ёсце-ка самка і самец. Ці ў ячмені. Вецер калыша і іх апыляя. Так і лён і лляніца, добрая маладзіца, красавіца-дзявіца".

[*Гэта Бог сказаў, што бывае Лён і Лляніца?*] Да. Ета справеку веку. Мільён гадоў таму ідзець. Дак баба наша і кажа: "Ё песня Лён і Лляніца". Я гаварю: "Баб, ну, навучы ты мяне".

У ляну Лён і Лляніца. Я калісь у бабы пытала: "Баба, Лён і Лляніца, дак гаварю, як-та разбіраць? Дак, баба і кажа, я гаварю: "Ета хлопец і дзеўка?" Яна гаворя: "Да. Лён – ета хлопчык, а Лляніца – дзевачка. І ў жыце ета ё, Жыта і Жытніца і Ячмень і Ячменіца. Яны ж і апыляюцца ад ветру". Гарбузы сабіралі раз, дак баба гаворя: "Кладзіця гарбузы аддзельна, а гарбузіцы аддзельна". Мы гаворым: "Баб, а чаго?" – "Гарбузіцы – ета самачкі, дзевачкі". Мы гаворым: "Баб (я *дапытатлівая* была), а па чом ты ўгадаіш?" А яна і гаворя: "У гарбуза шышкі таўсцейшыя, а ў гарбузіхі – жопка такая шырокая". Баба нам так казала. Я з бабай усё дружыла. І семкі выбіраім на семяно, ад гарбузіцы я выбіраю семкі на семяно. Дак баба і кажа: "На гарбузіцы, паглядзі, па тры гарбузы растуць, а ў гарбузу па адном". Я не брышу, бряхала мне баба, дак і баба наша не бряхала, такая баба ў нас харошая была, на ўсём свеці яна адна.

(б) Засяваю ляночык, як лён выдзя, мы ўжо яйцы падкідаіма. Зваряць яйцы, штоб белы быў лён, як етая яйцо. Хто вышай ужо падшыбаім: во які расці лён! А баба будзя казаць: "Засяваю ляночык, белы кужалёчык у светлы цёплы дзянёчык, штоб не баяўся ні дажча, ні мароза... Штоб ляночык не загніваўся..." Так усё прыходна баба гаварыла. Баба сваё гаворя, а мы яйцы падкідаіма, і падкідай ж яйцо... Ты сваё з'ясі, а я сваё... А вуглям падпішама ўжо яйца. Я напішу "В" – Варка, Туся "Т" напіша, штоб не збунтаваліcь. І падшыбаіма ўжо яйца. Прыдзіма... І матцы дадзім кусочык яйца, бабі. Лён пасеялі. А ціпер у калхозах пасеяць, стаіць сіняя моря! Калісь кусочкамі сеялі.

(в) Я ўзяла пра Ляночык: “Парос ляночык…” і сыпнула хрэшчыкам лёну семяна. Дак ён (унук): “Баба, чаго ты пяеш?”  Я гаварю: “Вясняны празнік”. – “Сёдні ж ня празнік”. “Мне празнік. Сёдні я план засяю. Вот я хрэшчык семяном сыпнула, і ніхай”.

[*Калі лён сеялі, спачатку крыжыкам?*]

Як лён сеяць, усё ж хрысцяць, а я план засяваю, дак я лёнам. Думаю: “Баба ўсё лёнам. Пасеяла, зачырціла”... І цыбулю... Гаварю: “Падаждзі, Сярёжка...” Ён: “Баб, ты ўсё прыхамяці...” Я гаварю: “Нада і ета здзелаць. Нас учылі так. І мы традзіцыю ету будзім выпалняць”. Во, засяюць і бульбу... Іван Рыштак... Я вышла, ён пачыная... Паляджу: Богу моліцца, пераяхрысціўся, зямлю пераяхрысціў і бульбу кладзе... Я гаварю: “Што ты дзелаіш?” – “Засяваю план. Пераяхрысціўся, у Госпада Бога ўражаю папрасіў”.

[*І бульбу крыжыкам кладуць?*]

Да. Чатыры штучкі паложыш крыжыкам. І лён, ці буракі. Я і бурак сеяла, і так во ўзяла крыжыкам, тады садзіла.

[*У якім месцы?*]

З якога боку пачынаіш сеяць.

35. *Пасеялі дзевачкі лянок і лляніцу*
*На высокім месці да й на бугравіцы,*
*Люлі-люлі, да й на бугравіцы.*
*Штоб на нізкім месці лянок не пагніў,*
*Штоб белы ляночык да й крэпенькі быў,*
*Люлі-люлі, да й крэпенькі быў.*
*Ой, лянок і лляніца разам узыходзяць,*
*Лянок із лляніцай дзень і ноч гаворяць,*
*Люлі-люлі, дзень і ноч гаворяць.*
*Узышоў ляночык, длінны сцебялёчык,*
*І зацвіў ляночык, сіненькі цвяточык,*
*Люлі-люлі, сіненькі цвяточык.*
*Лянок і лляніца ад ветра апылялісь,*
*Ад жаркага сонца яны адзявалісь,*
*Люлі-люлі, яны адзявалісь.*
*Залаты званочкі ад сонца паспявалісь,*
*Лянок з лляніцай званочкам абнімалісь,*
*Люлі-люлі, званочкам абнімалісь.*
*Лянок і лляніца людзей адзяваюць,*
*Лянок і лляніца людзей сагрываюць,*
*Люлі-люлі, людзей сагрываюць.*

*Лянок і лляніца людзей прыбіраюць,*
*Лянок і ллянца людзей украшаюць,*
*Люлі-люлі, людзей украшаюць.*
*Дзевачкі ляночык тоненька папряюць,*
*Палаценцы тонкія яны вытыкаюць,*
*Люлі-люлі, яны вытыкаюць.*
*На вадзе бягучай палаценцы вымываюць,*
*С тонкіх палаценцаў адзёжку пашываюць,*
*Люлі-люлі, адзёжку пашываюць.*
*С тонкіх палаценцаў рушнічкі рабілі,*
*Палявы цвяточкі на рушнічочках шылі,*
*Люлі-люлі, на рушнічках шылі.*
*Рушнічкі на Бога яны надзявалі,*
*І сваю святліцу яны ўкрашалі.*
*Люлі-люлі, яны ўкрашалі.*
*Залатыя свечы яны запалілі*
*І Госпаду Богу паклоны адбілі.*

36. [*Калі пяюць?*] Як лён сеяць. Сеяць – пяюць. Калісь баба кажа, ляшылі, во, ідома і цягнім такую палку, у калхозі, штоб відна, дакуль сеялі лён, мужчыны, і падыходзьма, яны і гаворяць: “Дзеўкі, нам некагда, нада ж зарабіць болей! (За трудадні шчэ было). Дак, цягніця і пейця”. Мы гаворым: “Цяжола!” Такую ёмкую тоўстую палку, штоб жа відна чарта ета была. Мы і прапявалі. І пяюць яе, як водзяць Стрялу. Лён лучшэ ўсяго шануяць. Вот я ня знаю, як дзе, а ў нас чаго-та шанавалі песні пра лён. І ў Стряле, і ў карагодзі. Як бяруць лён, бяром і пяём іх. [*Баба не казала: якія яны? Іх хто бачыў?*] Дзевачка і мальчык. І яна гаварыла… Мы: “Баб, а пачом ты знаіш?” Яна і гаворя: “Калісь жа нам гаварылі, хадзіў Гасподзь па полю, сам Гасподзь, і гаварыў, што ў Лляніцы болей званочкаў, какаточкаў, а ў Ляну – мала, ета будуць – дзве”. Мы і глядзелі, вот вырвім калі, кучарявая такая, а каторая – дзве-тры. Яна гаворя: “Ета Лён”.

Лён пасеяць, яйцы белыя падкідаюць, а калісь Ягорка наш пашоў, два яйцы зварылі, мы з Тусяй іх ухвацілі, тыя яйцы варяныя, малы, гадкоў яму было пяць ці, мо чатыры, пашоў, сыроя ўзяў і як падшыбнуў, і каробка стаяла, яно ў каробку ўпала і разбілась. Баба і кажа: “Пагніе наш увесь лён”. І, праўда, дажчы пашлі, пагніў лён. Матка і кажа: “Ну, хадзі без сарочкі. Мы табе сарочкі ўжо не пашыем”. Ён плача: “Мам, пашый!” – “Ня буду! Твой лён пагніў. Было яйцо не разбіваць. Вот табе, разбіў – і лён пагніў”.

# VII. Пост і Масляны тыдзень

37. Ціперь дзень пагуляяць, а калісь, баба гаварыла, масліная начынаіцца, каляда канчаіцца, нядзеля – масліная, ета ўжо загаўляяць, у панядзелак загаўляяць ці ў васкрасенне, можна загавеяць на пост, ета бліны пякуць, і твораг сабіраяць, маслямі заліваяць у гаршчочык і даюць усім: “Бярыця ешця”. І ўсю нядзелю ядуць малошная, ета ўжо загаўляюць на пост. І на конях садзяцца, у цябе конь, у мяне конь, калісь аднаасобна было, садзяцца на каней, бяруць гарэлкі, бяруць закускі і едзяць, паедуць, радня жыве, там, будзя, хоць і за пяць кіломітраў, туда едуць, едуць на маслінку – і ўсі па сёлах на конях, наездзяцца, коні патомяцца, дамоў прыязжаяць, бутылку зноў выпіваяць, і цэлую нядзелю маслінку гулялі, а ціпер жа маслінку адзін дзень пагуляяць на базары тут ці на плошчадзі, а тады загаўляяць ужо ў панядзелак. Ета ад вужа толькі выпівалі і скаромная елі, штоб ужо ў лесі не пападаліся. Ета ад вужа. Ета прыходзіш ты ка мне, ці, там, другі: “Давайця, хлопцы, “ад вужа”. І ўсім дзяцям патрошкі даюць. Ета выпіваяць, і ў панядзелак ішчэ, там, закусыяць, а тады ўжо – пост. Баба гаворя: “Прышоў пост – ужо падымае хвост”. Гурок, калі сялёдкі якія купляяць ці камсы. А то – гурок, капуста... Суп пусты і боршч. Пост спраўлялі.

38. Калісь баба казала: “Маслінка ета прахвост. Любя, як Туся наша, смачна пад’есць, а работаць, штоб хтось работаў”. А я гаварю: “А чаго?” – “А Маслініца, Маслініца толькі смашнікі есць. А Пост рабацяга. Гурочкі і капусту паядая, да ўсё рабатая і рабатая, рабатая і рабатая”. Мы гаворым: “Баб, дак хто яму варя?” – “А Гасподзь яго кормя”.

39. (а) Баба памерла, дзевяноста тры была. Мы бабу так даглядалі! Самі не ядзім, перва – бабе, мы, можа, і плоха дзелалі. Яна поставала. А мы возьмем да жыру жарянага ўваллёма-ўваллёма. Яна палядзіць і кажа: “Скалкі ё! Хто Богу сагряшыў?” І я ўсё дзелала, і Ягорка, і Туся, меншыя, Маша ня дзелала, яны большыя, і Ваня. “Ой, дзетачкі, ешця вы самы. Я ня буду есць”. А калі возьмем трошкі валлёма, матка і кажа: “Нясіця трапкач!” І каждай як увудзя! “Во вам, як бабу ў грэх уводзіць. Баба постуя. Ета яе дзела. А вы нашто ёй?” Мы гаворым: “Баб, ня еш, мы ўлілі трошкі”. Яна: “Ну во, ціпер мне і есць нечага. Я ўжо хлебца із’ем”. А дурныя былі, плойма такія. Мы ж хацелі, штоб баба... А то б пашлі ў цэрькву, а з цэрьквы баба не дайдзя. Ета шэсць нідзель поставаць. І матка гаворя: “Во, табе як, што ты да двара ўжо не дайдзіш... Да ў цэркві пастаіць, памоліцца... Во табе: “Грэх, забірай у мех”. А нада

есць што-небудзь”. Дак баба пачне калі-небудзь на нас: “На што вы лліцё?” А матка гаворя: “Яны правільна дзелаяць. Лліце, дзеці, штоб яна зусім з голаду ні памёрла! Поп ні постуя!” Усё матка казала: “Поп нажрэцца, да і ў цэркаў ідзець, да і варганя песні. А вы, дуракі, постуй-ця”. Мой унук Сярожка кажа: “Баба, еш, а то саўсім ня будзіш хадзіць, то нага баліць, а то і другая забаліць.”

(б) У панядзелак пост начынаіцца, (ета ж, во – масліная нядзеля). Ета нядзеля пройдзя, у скрясенне людзі загаўляяць, а ў панядзелак наша баба супчыку сабе, цыбулінку ўкрыша, а наш Ягорка быў малы ішчэ, дак ён што дзелая, а нам матка зажаря чым-небудзь, ці салам, алею тады не было, дак счас ён возьмя, ложку памоча: “Баб, падалій!” Тады ж у адной місцы ядуць. Баба пойдзя, толькі пойдзя з міскай ці прынясе гаршчок, а ён скарэй сваю ложку да ў яе памоча. Баба той гаршчок вылля, ён скарэй у ложачку набярэ да ў яе. Штоб бабе жырней было. А мы смяёмся. А баба ж не дурная, палядзела, ня стала есць, а яна бульбы пакрыша, пшанца ўсыпя і зваря, цыбулінку, штоб пахла – пост ужо – а ён возьмя да вылля туды. Яна: “Дзеці, хто нарушыў Божжы Закон?” Мы ўсі маўчым. Яна ўсіх палядзіць, усіх абойдзя, і Тусю, і Машу, пяць нас было, і да яго. Счас ён будзя казаць: “Баб, ета не я!” А яна: “А я па вачах бачу, што ты”. – “Баб, я адну ложачку ўліў!” Вот такі, што не змоўча. “Я адну ложачку ўліў”. – “Ну дак, адну ложачку! Усё Бог бача”. Матка ўсё ругалася з бабай: “Што ты постуіш? Ты за сем нядзель, дак ты ног не пацягніш!” Ета ж калі б у магазін пашоў бы, купіў, тут грошай німа, ці сялёдчыну, і нада ў Свяцкую іцці сем кіломітраў, а тут німа ўрэмя, і грошай німа. “Дак во, салом зажарю, і еш!” А ён… мы ж яму: “Калі б бабе ўваліць!” Ён ложку возьмя, бабе ўвалле. Які ён тады ж быў, гадоў шэсць, возьме ўвалле, яна: “Хто ўліў?” – “Баб, трошкі – я, трошкі – не я!” Палядзіць па вачах: “Бог з табой сам… прыдзя ноччу”. – “Баб, нож возьмя і зарэжа?” – “Ета Бог сам ряшаць будзя, што будзя з табой дзелаць”. Калі ўсцыцца, баба і кажа: “Во, ета за то, шта мне ў міску ллеш, а Бог табе во, штоб ты ўсцаўся”.

40. *Пост семь нядзель не гуляя,*
*А снег із палей убірая,*
*К вясне людзям зямлю ачышчая*
*І святоя Вялікадня дажыдая,*
*А ў прысвятую сыботу*
*Кідая ўсю ён работу,*
*Ён паску пшанічную выпякая,*
*На сталы ўсё смачная выкладая.*

*У цэркві Пост Богу маліўся*
*І Госпаду Богу ўкланіўся,*
*Што Ісус Хрыстос к нам васкрэсіўся,*
*Будзе век з намі пражываці*
*І людзей ад горя спасаці.*
*А пост усім людзям хваліўся,*
*Што наш Ісус Бог васкрэсіўся.*
*На Вялікадня Пост не гуляя,*
*Ламцямі паску людзям ламая*
*І ўсім людзям раздавая,*
*А вясне Пост паскі не ламая,*
*А цэлаю бахонку ёй давая,*
*За то шта вясна ўсю зямлю засівая,*
*І людзей у голадзі не кідая,*
*Штоб да Міколы ўсё адсявалі*
*І ўражай людзі дажыдалі.*
*Наш Ісус Хрыстос васкрэсая*
*І з намі на Вялікадня разгаўляя.*
*Увесь год Пост не гуляя,*
*А людзям работаць памагая.*

41. А Масленіца, баба казала, яна любя смачная паесць, да не работаць. Масленіца глядзіць, штоб гдзе бліноў з маслам наесца, і ад паста ўцякая. А Пост – рабацяга.

42 [*Лёлюшкі ў пост пяюць?*] Да Ўшэсця. А Ўшэсця пярёйдзя... А Пост усё лета рабатая. Да Паста папяюць, да і ўсё. Баба: “Пост увесь год работая, а Маслінка хвастом віляя, толькі сем дней папіравая, і глядзіць, штоб дзе смачная паядаць”.

43. *Маслініца-маслініца,*
*Добрая ана маладзіца,*
*У нас ты сем дзён гасцюіш,*
*І дзе ж ты год піруіш?*
*– Пірую ў цёмным лясочку,*
*Пірую ў зялёным лужочку,*
*Пірую на той жа мясціне,*
*Дзе ж хлеба німа ні лусціны,*
*Пірую ўсё лета ў цвяточку,*
*Дзе многа для пчолак мядочку,*

*Пірую на тых я мясцінах,*
*Дзе многа лячэбных травінак,*
*Пірую пад сонцам я жаркім,*
*Пірую пад месяцам ясным,*
*Пірую на той жа рячыцы,*
*Дзе Ісуса крэсцілі ў вадзіцы,*
*Пірую пад Божжым я небам,*
*Дзе кормяць мяне Божжым хлебам.*
*Хто мяне, Маслінку, шанаваць будзя,*
*Тому я з Богам памагаць буду.*
*Маслінка ад Поста ўцякала,*
*І хвартучок паціряла.*
*Пост Маслінку даганяў,*
*Чуць свой хвост ні паціряў.*
*Маслінку адгуляйця*
*І церяз год мяне дажыдайця.*

44. *А казалі, Маслінкі сем нядзель,*
*Асталося Маслінкі адзін дзень.*
*Масліная шчасліная,*
*Працягніся да Вялікадня.*
*А мы Каляды святыя прагулялі,*
*І святыя Маслінкі мы даждалі,*
*Масліная шчасліная,*
*Працягніся да Вялікадня.*
*У васкрасенне мы загаўлялі,*
*Сыр у маслі паідалі,*
*Масліная шчасліная,*
*Працягніся да Вялікадня.*
*Бліны мы ў сыр-масла мачалі,*
*Прысвятую Маслінку даждалі,*
*Масліная шчасліная,*
*Працягніся да Вялікадня.*
*Вараных мы коней запрягалі*
*І па ўсёй аколіцы праязжалі,*
*Масліная шчасліная,*
*Працягніся да Вялікадня.*
*І па ўсёй аколіцы праязжалі,*
*Масліныя песні распявалі,*
*Масліная шчасліная,*
*Працягніся да Вялікадня.*

*Маслінка Пост сустракала*
*І ад поста скарей уцякала,*
*Масліная шчасліная,*
*Працягніся да Вялікадня.*
*Святыя Каляды даганяла*
*І с Калядам яна піравала,*
*Масліная шчасліная,*
*Працягніся да Вялікадня.*
*Сыр у маслі, калбасу даядалі,*
*А Пасту нічога не астаўлялі,*
*Масліная шчасліная,*
*Працягніся да Вялікадня.*
*А ты, Пост, гуркі, капусту даядай,*
*К вясне людзям бочкі спаряжняй,*
*Масліная шчасліная,*
*Працягніся да Вялікадня.*
*Первы дзень панядзелка не забывай,*
*А тожа гарэлку выпівай,*
*Масліная шчасліная,*
*Працягніся да Вялікадня.*

45. На Маслінку ходзяць і песні пяюць па дварах. Вот падходзіма і к дому. Хто там ужо выняся хлеба, мы і тэй падбяром. Дзяўчаты ходзяць. Вот, напрымер, к табе прышлі, ты – хлопец, мы пяём, ніхай ён будзя бальшы, Мікіта калісь, гадоў яму, трыццаць, можа, болей за трыццаць, з жонкай разышоўся, дак мы падойдзіма к яму:

*А ў Тарасавых юрок, юрок,*
*Іхні Мікіта сцулёк, сцулёк.*
*Масліная шчасліна,*
*Працягніся да Вялікадня!*

Вот ні дае нічога ці скажа: “Ні пейця нам!”, – ці выскача. Ты, напрымер, табе б спелі:

*А ў Тарасавых юрок, юрок,*
*Іхні Генадзій сцулёк, сцулёк!*

Ты б выскачыў... Бягіць з чым-небудзь ці каўтане ў плечы. Ну, мы ўжо ўцікаема.

Там у адных была чэцвера сыноў, мы падходзіма:

*А ў Жаваронкавых дзверы лубяныя,*
*А іхнія хлопцы – голавы сталяныя!*

О-о-о! Як выскачаць: паймаяць! Дак і ў снег, і ў запазуху натопчаць. Біць не б’юць.

Ты б, напрымер, прагнаў, тады ўжо пелі:

*А хто сыру не дае, не дае,*
*Ніхай тому ўсё пагніе, пагніе...*

Прыходзім і гаворым: “Пець Маслінку?” А там матка будзя казаць: “Ён ужо бальшы, Маслінку не нада. Вы будзіця плахія песні пець”. Ну, мы і пяём:

*А хто сыру не дае, не дае,*
*Ніхай ён вам пагніе, пагніе...*

Усякія мы ўжо... Пакуль Маслінка, дак мы каждаму двару песні. І Буцькаў дзед нам падказываў: “Во так во-во, дзеўкі, во так во-во...” Дзед Жаваранкаў: “Во так во-во...”

46. Баба: “Не танцуйця ў пост!” На первы дзень. Нада толькі ад вужа гарэлку піць і хрэнам да рэдзькай закусіць. Як бацька ці матка памрэ, ці хто ў дварэ – шэсць нядзель не танцэвалі. І перяд Вялікаднём.

47. *Было ў бацькі тры сыны,*
*Да ўсе ж яны Васілі.*
*На Васілье радзіліся,*
*На Хряшчэнне хрысціліся,*
*А на Маслінай нядзелі*
*С Аўдакеямі сядзелі,*
*Елі мяса, калбасу,*
*Піражочкі на мяду.*
*У жоны Аўдакеяў бралі*
*І на Маслінай загаўлялі,*
*А на первы паста дзень*
*Елі гурочкі кажды дзень,*
*І за сем нядзель паста*
*Сала не бачылі ні куска,*
*А на Вялікоднай жа нядзелі*
*Васілі с Аўдакеямі разгавелі,*
*Елі мяса, калбасу,*
*Піражочкі на мяду,*
*Елі сыр і тварагі,*
*І ўсе сытыя былі.*

48. Гаворяць: “На маслінай і ў верабья піва”. Усё баба наша казала: “На маслінай і ў верабейкі піва заморская”. – “Баба, ідзе ён бярэ?” – “Найдзя верабейка, і разгаўляіцца таксама. Во, пціцы точна знаюць празнікі”. Мы гаворым: “Баба, чаго?” – “А, во ж, петухі, а яны знаяць, калі хто іх вуча?.. Хто іх навучая?.. А яны знаяць і адзінаццаць часоў – пяюць, і дзвенаццаць, і час...

Іх вуча?.. Яны знаяць урэмя. Пціца вумней чылавека.

[*На каго баба казала: “На Маслінай і ў вераб’я піва”?*]

Калі, во, хто прыдзя к нам, баба: “Хадзіця есці!” – “Што-та ў вас там ё?” – “А ўсё, во, ё!” Як які празнік, яна гаворя: “На маслінай і ў верабейкі заморская піва ё”.

## VIII. Уласкі (Св. Уласій)

49. Калісь баба наша казала: “Два празнікі ў гаду...” Ета Юрый-Ягорый і ходзя на маслянай нядзелі – Уласкі... дак дужа ўрэдны ён. “Дзетачкі, нічога ня дзелайця, прагуляйця тэй дзень і скаромных слоў, нябыльных не гаварыця. Ета вялікі празнік... адна мінута, і ўсё спорця”.

50. І ў пост ён на якойся нядзелі ходзя – ці Ласкі, ці Ўласкі – баба казала: “Нікалі ня дзелайця! Прагуляйця тэй дзень, вам Бог здароўя дасць, а то прадзелаеця, а тады прахварэіця ў такі дзень”. Дак нічога нельзя, ён дужа ўрэдзен для скаціны. Як ужо Каляды праходзяць: “Баб, калі Ўласкі?” – “Я тады вам скажу”. І на Ўласкі яна ўсё бліны. Учыняя бліноў, матка будзя казаць: “Чота-ты сення бліны?” Дак яна і гаворя: “Уласкі. Дак нада на Ўласкі бліноў печ, тады – авечкам”. Панясе авечкам. “Панясу авечкам”. А мы ўжо: “Баб, мы панясом!” І ў нас быў сіротка – баранчык. Баба: “Перва сіраціне той дайця”. Учыня на заквасцы, яны такія пушныя, у нас скавародачка такая была, і блінок спячэ: “Наце авечачкам дайця”. А ці баба бача, мы аддадзім тому сіраціну. Яна трёх акаціла, дзве авечачкі, матка: “А еты ўжо выкінім яго”. Беленькі, а авечачкі чорныя былі. Дак баба і кажа: “Ай, Полька, не нада”. А яна: “А будзім вазіцца з ім шчэ, з етым ягнёнкам! Выкінім, ён самы меньшы”. А мы плачыма. Ён шчэ мокры. Яна: “Во, выкінім яго, не жалка. А тыя авечачкі ніхай каля етай, а етага выкінім”. І панясла і выкінула. Мы плачым слязамы: “Ідзіця, я ўнясу – матка будзя ругаць, ідзіця вазьміця скарэй!” Прышлі, а ён ужо... Зімой акацілась, халодна, дак мы за тога ягнёначка да дамоў. Прышлі, у тряпкі ўвярцелі, на печы. Баба: “У цёплая ўвярціця”. І ён, то ж на марозчыку паляжаў, а матка то тое дзелая, то

тоя, і ён ачуніў. Матка ўжо агледзіла, матка пашла на работу, пойдзе, а мы яго, баба: “Давайця паіця!” І прыўчыла баба яго з блюдца, у блюдца вал’е малачка кароўскага, і ён п’е. І вырасцілі тога барана – Божа мой! Дак мы яго – сіротка. Кінулі к авечкам, но авечка яго не прыняла, дак мы яго сіроткай звалі. Дак мы етага бліна, возьмем, гаворым: “Ну, етыя з маткай!” Блін аддадзіма. – “Ну, усім вы падавалі?” – “Усім, баб”.

## IX. Саракі

51. Называяцца – соракі, такія вот пцічкі із цеста. Ета матка дзелала. Цеста здзелаець з пшанічнае мукі. Тады ж прасты памол быў, не так як сперва белая мука, дак яны іх учыняць і пякуць: як вутачкі, як цыпляткі, і ножкі дзелаюць ім. Паставяць на скавараду, адна к адной прытуляць і пякуць. Рэшэта такоя, яны тоя рэшэта напякуць. Прыходзяць дзеці чужыя, суседзі, матка ім дае, бярэ па жмене-па дзве і дае, і самы ядзіма. І хадзілі етыя з Верашчак, з Неглюбкі – расіяні, дак матка і тым ужо. Баба і бульбы дасць, і зярня па жмені дасць на Соракі, і етых піражкоў дасць. Курям давалі соракі. Баба выдзя разломя і карові дасць, і авечкам, курям, штоб, гаворя, няслі па сорак яец у дзень. Ці яны будуць несць?

## X. Вербная нядзеля

52. У вербная скрысення дак баба ўсё наша ідзець да гаворя: “Во сёдні будзя служэнія... калісь цэрьква была... Мы ішчэ малыя былі... Тады спалілі цэрькву, як красныя ішлі... на Вербная скрысення, ішчэ да Вербнага атрязаюць пруцікі – лазы красныя... Там у нас куст на кароўскім кладаўе быў, дак баба: “Ідзіця, дзеці, а то паатрязаяць, а нам і ні будзя”. Дак мы ўжо пабягім да наабрязаіма, і ў ваду ў хаці. Яна быстра... Туды-сюды... Палядзіш: авечачкі ўжо ё. І тымі авечачкамы баба ўжо пасвеця, і як выганяя авечак ці кароў, дак тымі з вербы авечачкамы. Вот якся баба і казала: “Верба б’е, верба б’е не па мне, па сырой зямле...” Ня ўздумаю. Штоб авечкі двор не прабігалі, а дамоў у хвортачку забігалі... Дак яна каждаю цоп! цоп! цоп! Ударя. Пацопая. І кароў так... [*А вас баба не біла?*] Ну, дак ета ж, яна як прынясе із цэрквы. “Баба, ну што, пасвяціла?” Яна будзя стаяць і хрэстам так і так ударя тры разы каждага. Нас пяць. Яна каждага. І штось прагаварывала. Штоб раслі, умныя былі, абы-што ня дзелалі, штоб вялікія раслі. І за вікону. Скрозь за вікону паставя.

53. Баба ўсё хадзіла свіціла, цэрквы як ішчэ не спалілі немцы. Яна на кароўскім кладаўе расла – верба, красная такая. Яна загадзей: “Дзеці, ідзіця нарэжця!” Мы пойдым нарэжыма, па бярэмку нясом. Баба паставіць у ваду, і яны, авечачкі тыя, параспуківаюцца, а тады ўжо на Вербная скрысення ідуць у цэркву, а тады прыдуць з цэрквы, і зноў у ваду становя баба. А тады, туды-сюды, на веряс гоняць кароў. Яна наўхрэсць выганяя, па хрястках уздоўж і ўперяк тры разы здзелая: “Ідзі, каровачка, з Гасподнім хрэстам на поля!” А тады, выганя і гаворя: “Як верба двара пільнуя, штоб так і карова пільнавала двор!” І авечак выганяя... Па каждай пашлёпая.

## XI. Белая нядзеля (тыдзень)

54. Баба гаворя: “Хрыстос будзя іціць у двор і спатыкацца на разная ряжэння. Прыбірайця. К Вялікадню чыстату дзелайця ўсюды. Ён жа ўсюдых ходзя. Мы гаворым: “Баб, яец насабірая...” Яна: “Нет. Не гаварыця ета. Ён не яйцы сабірая. У кажды двор заходзя. Палядзіць, ідзе нерабатні жывуць. Дзелайця чыста. А то прыдзя, адчыня фортачку, і не зайдзя к нам”. І павымятаім... Ішчэ на белай нядзелі, а мы ўжо... Баба: “Ідзіця... А то будзя Гасподзь хадзіць па дварах... Дак і не зайдзя. Палядзіць, што грязь на дварэ...”

[*Белая нядзеля – гэта што?*]

Завуць **белая нядзеля**, што ўсі і пабеляць, і памыяць... Ужо чыста... Самая паследняя перяд Вялікаднём.

## XII. Чысты чацверг

55. Усё баба казала: “К чыстаму чэцвяргу штоб у хаці памыта была і на Бога штоб рушнічкі былі надзеты”.

## XIII. Вялікдзень

56. Матка, то яйцы пазбірая, павязе ў Гоміль, штоб жа плацці былі, па хустачцы купя каждаму, пяцёра ж нас, усім жа нада. “Мы, – гаворя, – будзім у старым, а вам новінькая нада к Вялікадню”. Садімся разгавеімся на Вялікадня, кажды сваё зная. Сундукі такія былі. Мы паложым. Я сваё,

і платочык, ці тухклі матка купя. Матка: “Разгавейцісь, штоб не абкапалі і не абдзелалі”. Наряджаімся, кажды сваё. Ваня наш быў такі, як Сярёжка, падхаласцячок, у яго рубашка, у яго брюкі былі, картуз. Як туклі плахія, туклі купя. Большаму лучшая нада, тада Машы, тады мне, тады Тусі, тады Ягорку. Меньшаму і  большаму, ета лучшы усіх.

Вон, перад Вялікаднём – Благавешчанне. Баба: “Сёння – Благавешчанне. Можа, ніхай надзенуць?” Матка: “Ня нада! Вялікадня ё Вялікадня! Ета Гасподні празнік. І ета Гасподні, но ета к Вялікадню шыта.” І не надзявалі. “Скажы мне праўду, як Вялікаму дню ў вочы”.

57. Мы калісь у бабы пыталі: “Баб, чаго Вялікадня?” Яна гаворя: “Вялікадня. Гасподзь жа даў Вялікадня. Дак, прымецця, які дзень вялікі. Самы вялікі дзень па-божжаму. Тыя дні – малыя, а еты дзень такі, ужэ, бальшы. І ўсе гаворяць: “Госпадзі! Святоя Вялікадня прышло!”

58. Як Вялікаму дню ў вочы (*глядзець, казаць*).

Сказаць, як Вялікаму дню ў вочы. Баба наша ўсё казала: “І скажы мне праўду, як Вялікаму дню ў вочы”.

Што-нібудзь ці гаворыш, праўду ты гаворыш... Глядзіш, як Вялікадню ў вочы. На Вялікадня нільзя не бряхаць, абы-што дзелаць, дажэ з жонкай не спяць.

[*На каго так кажуць?*]

Напрымер, еслі ты ці непраўду гаворыш, штоб праўду гаварыў. Дажэ косы расчэсываць мужчынам і то нільзя, не то шта бабам. Усё калісь баба наша гаворя, Іван возьмя, бальшы хлопец, дак тады ж не было рясчосак, грябёнкай, баба: “На Вялікадня нічога нільзя, толькі адзеньціся, чысцінька хадзіця, пад’ешця. Ешця на стале хто калі хоча і як хоча... Ні абеды...

Чылавек еслі праўду гаворя ці будзя завяряць, што яно будзя тоя... Ета вялікі дзень, ета самы Гасподні дзень, такі мілы дзень, справідлівы.

Вялікі дзень – ета ж празнік. Еслі ты праўду гаворыш і ты чэсцен адзін перад адным, ты глядзіш, як Вялікаму дню у вочы.

А еслі ты чым-нібудзь грэшэн ці брэшэш што-нібудзь... Як малы, во, дзіцёнак пачане: “Ягорка, ты шкоду ету здзелаў?” Ён ужо не глядзіць на... А еслі ты, напрымер, ні браў... Еслі ўжо вінават, ты будзіш уніз глядзець.

59. У мяне адкрытая душа. Я не магу, штоб чалавеку бряхаць. Я не магу чалавека выгнаць без дзела. Еслі ўжо пачне мне плетуханіць. А ў мяне душа адкрытая, як у цэркві после Вялікадня Царскія варата.

Я вот із душы сваёй вазьму, скажу чалавеку ўсю праўду. А Царскія варата, ета, як пряпяюць “Хрыстос васкрэс”, расчыяняюць Варата, і мужчыны могуць заходзіць, бабы, дак, не.

Дзевачак маленькіх носяць, як родзяцца. Ета – Праводная скрасення. Іх прычасчаяць, маленькіх. І адкрытыя варата.

А тады, ужэ, шэсць нядзель яны будуць адкрытыя, да Ўшэсця, тады закрываяць Царскія варата – пашоў Ісус Хрыстос на неба.

60. Госпадзі, Святоя Вялікадня! Штоб яму Бог павыяў і шлуння, і пячонкі.

61. Баба гаворя, вот у цэркву далёка, тады ж у нас на Амяльном не было, у Сяцкую хадзілі за сем кілометраў да ў Вылява, кілометраў дзесяць, дак баба гаворя: “Бог усё свеця. Давайця вынясім”. І выняся на табурэтку, паклодзе, засцеля палаценцам. Пастаіць там с поўчаса, баба і кажа: “Ну, усё. Бог пасвяціў ужо ўсё. Бог на свеце ўсё свеця. Эта, думаеця, папы? Бог тры разы махне свячонай вадой, і ўвесь свет, усю зямлю асвеця”.

Бог на небі хрэстам махне ў ваду пасвяцёнаю і махне, і ўвесь свет, усю зямлю, зямны шар пасвеця.

62. На Вялікдзень бывая. Баба пабудзя (у храме), гаворя: “Уставайця. Сонца будзя іграць”. І палядзіма, ці, можа, у вачах, яно разнымі колярамы на Вялікадня. Дак як сонца ўзыходзя, толькі ўзыходзя, баба: “Хадзіця, дзеці, глядзіця, гуляя сонца”. І сонца тое пачане ўжо гуляць. Дак разнымы, во як радуга, і так во, як хто кружа там, і разнымы: і сінімы, і галубымы, і розавымы, і краснымы, і жоўтымы, які ё на свеці цвет, і ўсякімы цвятамы яно кружыцца. А тады перастае. Доўга кружыцца, тады перастае.

Баба: “Ну, усё, сонца ўжо пагуляла Господняя”.

Баба і кажа: “Бог рад. І сонца радуіцца, што Ісус Хрыстос аджывіўся. Дак, бачыш, як гуляя. І пераліваіцца красіва. Ой, так глядзіш і думаіш: “Як радуга”.

Люба глядзець. І тады ўжо нагуляіцца, і ўсё. Тады краснае здзеліцца ці аранжавае, і ўзыходзя. Хто гаворя: “Красуіцца сонца”. Хто: “Гуляя”. Но набальша: “Гуляя сонца”.

63. Гатаваліся к Вялікадню. Еслі дзе сіряты, матка будя казаць: “Колькі будзім яец красіць?” – “Ну, столькі і столькі”.

А баба і кажа: “Полячка, нада дзісятак, вот сіряты дзеці, німа ні бацькі, ні маткі, нада і ім аднесць”. Вот і мы дзісятак... І другія, такія болей

набажлівыя людзі. Бацька наш каліська казаў: “Сам не даеш, но сіратаў пакармі”. Вот німаў іх бульбы, баба будзя казаць: “Варячка, аднясі... Куды ты пойдзіш?” – “Да Фідулёнкаў”. А яна і кажа: “Можа, там есцічкі німа, вазьмі ім. Вазьмі-ка...”

Кайстры такія, палатно, у адну рэдзь зшыта... Яна насыпя... Я на плечы і нясі. Ня ўсі давалі... Каторыя самы бедна жывуць... А етыя ўсі падзіляліся. К Вялікадню і мяса... Хто б’е... А то ад сцягна адсякая кусок... Нясуць ім. Там Івоніха жыла, дзеда Майкі братава жонка, чэряз двор жыла ад іх... Яна ім печ затопя і паску спячэ... І мукі ўсі насілі... Каліська жа не было такія куплёныя, баба насея-насея: “Наце нясіця, там Івоніха спячэ пасачку ім”.

А то дак самы, матка: “Наця нясіця дзяцям!” У велікодную сыботу. Нанясуць цэлы стол. І на Троіцу і па скрысенням такія прысмакі ім давалі.

А малака кажды раз... Падояць... Сёдні ты падаіла аднясла ўранні... Я... ужо... у абед падоіш. І так усі людзі насілі сіратам.

64. Мы пытаім: “Баб, звары яец нікрашаных к Вялікадню”. Яна гаворя: “Нільзя. Госпадам Богам запряшчона. Ісуса ж Хрыста распіналі, кроў цякла з яго. Нада крашаная яйцо. Сядзіш разгавецца: асвечаная яйцо. Хоць церкву ў нас тады спалілі немцы, не было, дак яна вынясе ўранні, устаня рана-рана, а то і ноч моліцца Богу, а тады вынясе, і ўсігда чось дождзік малінькі пракапая, ета самы схадок ужо.

Дак яна гаворя: “Во, ужо Гасподзь Бог пасвяціў усім. То ў цэркві. Глаўная, Гасподзь Бог пасвяціў яйцы”.

Вынясе, яны паліжаць, яна ўнясе, палупя, парэжа, на тарэлачку ці ў місачку: “Бярыця!” Штоб кажды перва яйцо з’еў, а тады ўжо... Перва яйцо з’еш крошачку, яна крошачкамы парэжа, каждаму, колькі чылавек, столькі яна парэжа.

З’ясі яйцо, тады ўжо пахрыстосаюцца: “Хрыстос васкрэс!” – пацалуюцца. Як яйцо з’ядуць, тады ўсё астальноя ядуць.

65. (а) Прынясе хто [*у школу*]... Мы знаім ужо, што будуць учацялі ругацца, што крашаныя яйцы нясеш. Но плойма ё плойма! Прыдзіма: “Пакажы, якія ў цябе яйцы!” У цыбулі ўсі, а хто ў красцы розавай: “Ой! Красівая! Ну, давай памяняім! У цябе, можа, дома ё”. Учыцілка прыходзя: “Хто з яйцамы прышоў?” Ну, усі ж маўчаць, хто прынёс, хто не прынёс – да ўсі ж прыносілі. Хлопцы – тыя – хітрыя, схаваюць у калошы, завяжаць аборкай унізу, а мы куды схаваім? Яна ў сумках паглядзіць: “Січас жа ідзі выкінь!” Ну, жалка ж яйца выкінуць: “Я ня буду выкідаць!”

Яна яйцо забірая. Куды яна іх дзяе? Я ня знаю. "Рылігіі папрыносілі сюда! Рылігіозныя яйца". Дзеўкі большыя ў ліфікі хавалі. А мы ліфікаў шчэ не насілі, па дзвянаццаць-па адзінаццаць гадоў, дак ня знаім куды хаваць, да па партах палазя, а тады ўжо дзірэктару далажа, у каго... Тый прыходзя: "Зачэм сюда прынасіла рылігіозныя яйцы?" Маўчыш, утупішся… што мы будзім гаварыць? А ціпер, во, бачыш, век міняіцца.

(б) Настаўнікі ругаліся... Ці мы ім казалі... Яны пыталі... Мы ідом гуртам і згаварыімся з хлопцамы: "Хадзілі вы па шчодрах?" Хлопцы: "Не, у нас ніхто не хадзіў. Хадзілі толькі бальшыя дзеўкі, каторыя ў школу ня ходзяць, бальшыя, а мы не хадзілі". – "А, можа, к родзічам хадзілі?" – "Не. Мы нікуды не хадзілі. Нам баба і матка дала шчадзёр дома, пірагоў спякла".

[*А калі б сказалі, што хадзілі?*]

Ругаліcь бы, сабранія школьныя сабіралі, усі класы, пяты, шосты, сёмы... такім малым... да чацвёртага нічога... Штось я ня помню... А вот у етыя класы. І закружцы ідуць, згаварываюцца... "Як будуць учыцілі пытаць... Асобенна класны кіраўнік Нікалай Харытонавіч быў... Дак тэй ужо пытаіць... Клара Абрамаўна была ў шостым класе ў нас... Тая толькі спрося: "Ну, як шчодры? Насабіралі многа?" – "Клара Абрамаўна, мы не хадзілі". – "Ну, не хадзілі!" – "Ну, не хадзілі, дак малайцы". І закружцы так атвецяць, і пяноўцы, і з Сярэдняга. Усі так атвячаюць. Мы згаворымся да шчадзёр. А так адзін з адным: "Хадзілі?" – "Хадзілі!"

На Вялікадня... Штоб яец у класе... А мы ўсё раўно... "Прынясла?" Паб'ёма. Хлопцы-дзеўкі падыходзяць: "Давайця яйцы біць!" – "Давайця!" Усё ж адно прыносілі. Ідом... Яйца ў карман усодзім. Завуч, дырэктар, класныя кіраўнікі.

66. **Памерці на свята.**

Усё калісь казалі... наша баба казала: "Счасліў тэй, хто на Вялікадня памрэ... ці перяд Вялікаднём". А я гаварю: "Баб, чаго?" – "А ўсі варата... І Царскія... куды заходзя толькі поп... Дак расчыняты шэсць нядзель... Яны не закрываюцца". І ў хаці ў нас дзверы не закрываюцца. Баба: "Не закрывайця дзверы... Адкрыйця, і штоб яны і дзень і ноч... Шэсць нядзель былі адткрытыя". І шэсць нядзель пройдзя... "Баб, калі можна?" – "Як Ушэсція пройдзя. Шэсць нядзель Гасподзь ходзя..."

[*І надворашныя дзверы?*]

Етыя дзверы мы не закрывалі, а тыя... Як халодна... А то раскрывала баба...

Вот у алтары дзверы ў цэркві шэсць нядзель не закрываюцца.

67. Асобенна еслі на смерць гатуюць, не надзяюць. Я знаю: у бабы нашай смярцёнае было, дак яна на Вялікадня завязывала хустачку. Завяжа, тады зноў палажа. Ці кохту. Ета, як у цэркву ідзець. А ў цэркву ня йдзець, дак такоя празнічная.

68. Як карова ацеліцца, так баба бярэ і пасвяцёнага сала трошкі адразая, хавая пасвяцёная, бярэ і на рог завязывая. Мы гаворым: "Нашто ты завязыеш?" – "А завязаю, штоб ніхто малака ў каровы не атабраў".

69. (а) На Вялікадня сала свячонае баба хавала. Вот сала – у каго барадаўкі на руках. Этым салам свяцёным яна дае людзям – і памагалася.

У Ягоркі малага, адкуль барадаўкі? Баба возьме адрэжэ і мажа па руцэ, усю ручку, і другую, перва – дзе німа. І кідае на сметнішча.

(б) Баба калісь наша казала, як барадаўкі: "Свяцёная сала..." Вот як свеціш сала, яна бярэ кусочык. Матка: "Ну на што ты яшчэ і сала?" – "Нада! – Яна хоць крошку атрэжа. – На зелля". І тады яго хавая. І кусок паскі, і сала палажа за віконы, калісь бажніцы былі, на бажніцу.

Пачане барадаўка, яна памажа і на сметніцу выкідая. І палядзіш, туды-сюды, і сыходзя. А ў бальніцы не памагая. Дак тады ўсё свяцёнае сала астаўлялі.

70. Туда шалупайкі з цыбулі накладзеш у чыгунок ці ў кастрюлі і гарячым кіпяткам наліваіш, яна пастаіць і прыкыпіць, а тады ўжо яйцы кідаіш, яна красная вада, і яйцы красяцца. А тая вада, шалупайкі, стаяць да Радуніцы на дварэ. У тых шалупайках ішчэ яец пакрасяць к Радуніцы. Ета Вялікадня радзіцілям – красныя яйцы нада. Пакрасяць, а тады выкідаяць на агарод, ямачку пракапаюць… І туда.

71. У нас адзін рушнічок такі быў, дак спецыяльна баба, паску свяціць ідом, дак яна: "Варячка, пашукай-ка там, у сундуку паску свяціць велікодны рушнічок".

Вот я ужо дастану, там большы узор. Кружэвья, наверна, не ўмелі вязаць, дак без укружэв'я. Паску ўверця, расцеля, паску палажа, і палажа ў кашолку паску, а тое ў другія ўцірачкі.

Туся наша на кладаўё такія шоўкавыя, аднапольныя – галубыя, зялёненькі, розавы – шоўк, а я, як на кладаўё іду, еты вазьму павешу, пакуль там бываю.

# XIV. Ушэсце. Абрад "Ваджэнне і пахаванне Стралы"[6]

72. (а) [*Стралу для чаго водзяць?*] Штоб ужо ўражай быў. Ета ж – Ушэсце. Ета ж ішчэ рана, ета да Троіцы ішчэ. Усё баба наша казала: "Нада пасадзіць, штоб да Троіцы ўсё, штоб верабей схаваўся ў падлісцейка. Штоб ужо ўсё ўзышло". Я гаварю: "Баб, квасоль не памерзня?" Яна гаворя: "Нада штоб квасоль во такая во была ўжо к Троіцы, штоб верабей схаваўся ад дажча". Верабейка сядзя пад дождзь да і сядзіць пад лісцям. [*Страла для чаго?*] Штоб урадзіла і штоб дожч не мясіў. Бываюць жа заліўныя дажчы. У міне калісь памідоры, ані напалам, я і склала, і бярёсцінкай. Но каторыя і прыняліся, а каторыя… багата прапала. Штоб усё ўрадзіла. Баба ўсё: "Шануйця Юрыя-Ягорыя! Юрый-Ягорый – празнік, штоб на Юр'я-Ягорыя кароў выганяяць і гурочкі сеяць. І Ўшэсціе і Троіцу, і які-та яна ішчэ празнік называла, штоб мароз не марозіў... Ці Міколу? Празнік Ушэсця – дак усё баба казала: "Ушэсця шануйця

[6] У клопатах пра будучы ўраджай у нашых вёсках пасля Вялікадня (часам пасля Дабравешчання) пачынаюць "вадзіць "Стралу". "Ваджэнне "Стралы" – гэта рытуальнае шэсце жанчын. На працягу пэўнага часу, а менавіта да Ўшэсця, яны ходзяць па вуліцах вёскі і выконваюць песню: "Як ішла стряла да ўздоўж сяла…" (у розных вёсках яна выконваецца ў розных варыянтах) і ў пэўных мястах (перакрыжаванні, край вёскі) водзяць "карагоды". Асноўныя падзеі абрада "Страла" адбываюцца на Ўшэсце. У гэты дзень жанчыны ў суправаджэнні "ражаных " (па розных вёсках – гэта розныя персанажы: "дзед" і "баба", "старэц" і "старчыха", "пан" і "паненка", "кавалер" і "барышня") апошні раз праходзяць па вуліцах вёскі з веснавымі песнямі, выходзяць у жытняе поле, дзе паміж парасткамі жыта "стрялу хаваюць" – гэта значыць, закопваюць у зямлю брошкі, завушніцы, манеткі, грабенчыкі ды інш. У выніку мэтанакіраванага апытання аб прызначэнні абраду мы атрымалі адказы, у якіх назіраецца відавочнае імкненне паўплываць на сілы прыроды, прынамсі: "штоб лён рос", "водзяць стралу маланнёй, штоб пажара не было", "дзе Стралу паводзяць, там жыта вышэ мяне", "штоб урадзіла, і штоб дожч не мясіў, бываюць жа заліўныя дажчы", "еслі дажжу німа". (Упершыню апісанне абрада "Страла" на Веткаўшчыне прыводзіцца ў публікацыі Каршукова М. "Пахаванне стралы" – Наш край. Мн., 1925, № 1 (4). С. 41–42. З наступных публікацый на гэту тэму вызначаюцца: Гусев В. Е. Вождение "стрелы" ("сулы") в Восточном Полесье. – Славянский и балканский фольклор. М, 1986. С. 63–76. (У дадзенай публікацыі прыводзяцца сведчанні па вв. Бесядзь і Барталамееўка). Ліцвінка В. Д. Песенька мая харошая, захаваю я цябе. – Мастацтва Беларусі. 1986. № 5. С. 67–71. Лапацін Г. І. Аб шлюбных матывах у земляробчых абрадах на Веткаўшчыне. Лапацін Г. І. Вераванні і абрады Веткаўшчыны. – Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Веткаўскага раёна. У 2-х кн. Кн. 2. Мн., 1998. С. 407–408. Раманава Л. Д. "Як ішла страла…" – Роднае слова, 2003, 3. С. 99–102).

і Троіцу". Калісь у калхозі ў нас брыгадзір кажа: "На Троіцу нічога ня дзелаць! Гуляйці ўсі!" На другі дзень ужо каму загадая. А то гулялі. І штоб адсяваліся. Да Троіцы штоб у калхозі ўсё адсеялі. Харошыя людзі к Троіцы ўсё пасеяць.

(б) [*Для чаго Стралу хаваюць?*] Яны хаваюць, штоб уражай быў. "Мам, на што етыя шпылькі – пыталі ўжо, – можна адкапаць?" А яна гаворя: "Няльзя!" Ета Бог дасць на лета харошы ўражай, што ў зямле яно". І зярно ж не сабіраюць, а пасыпяць яго, ішчо і граблі возьмуць, пагрябаяць дажа, штоб вераб'і ня сабіралі. Штоб уражай харошы быў. Штоб жа свячоная было. [*Калі яго свяцілі?*] На Вялікадня. На Вялікадня баба ішла наша скрозь. Цэрква была, як мы шчо малыя былі. Я ўжо дзіўчонкай хрысціла ў сваёй сястры хлопчыка.

73. Вот калісяшнія, калісь прабабы пелі, тады аны адно за адным, маладыя вучылі. Маладыя ідуць дзяўчаты ў "Стряле" і шчэмяцца паміж матак. Тады бегалі, плакалі па чатыры–па пяць гадкоў, калісь дзяцей была па дзесяць–па восем. Дак бягім, матка: "Сядзі дома! Задавяць у Стряле! Людзей жа багата! Дак на нагу скануць ці што". Босыя ідуць, не ва шта абуцца. А то: "Вон, бягіце папераяд!" Дак мы ўжо паперяд бягім, а дзед з бабай паперяд ідзець, а тады людзі ідуць у два ряды да ў тры да пяюць, а мы паперяд. А тыя дзед з бабай надзявалісь, калі ў красіваю адзежу, а калі адзенуць у дзераўё і з кастылямі, тэй і тэй, бароды папрывязыюць з лёну. А мы ўжо паперяд, дак пабягаць за намі. Большыя не баяцца, а меньшыя мы баімся. Вот табе і Стряла. Двары пустыя! Усі людзі ідуць да краю. Прыходзяць да краю. Нясуць зярнятак, нясуць – у каго шпілька, а мы, малыя, плачам: "Мам, купі шпіляк нам! Шпіляк купляй!" А ў каго лезуць, косы кароцінькія, дак папрышчэплівають тож прыколкай. І кажды лезя, выкапаяць лапатай ямку, штоб жа кажды наперябой, у каго німа нічога – камянёк, давай камянёк сюды! І ніхто ня трогая. Такую глыбокаю выкапаюць ямку – і туды. Ета хаваюць Стрялу. І пакідаюць туда. А зярняткі бабы па полю сыпяць. І просяць Бога. Мы туды ўжо ня бягаім, ня пускаюць нас. А тады ўжо закапаюць, ідуць назад, то ж пяюць етыя песні самыя. Папрыбіраяцца, смярцёная надзяюць, Стрялу ету шануяць, штоб ужо чыста іцціць надзеўшы. Стрялу закапаюць, назад ідуць да тога краю, штоб адкуль началі, і там ужо закапаяць.

[*Што закапаюць?*] Што ў каго ё: "Ну, Стряла, мы цябе закапаіма, а вясной адкапаіма!" І грэбяшок, грэбяшкі калісь у галавах былі, дак яны выцягнуць да закапаяць і гаваряць: "Адну закапалі за тэй год, а ета на новы год будзем адкапаваць". Тады ўжо прымецяць, адкапаяць тэй грэбяшок і зноў у тую ўкінуць у ямку на другі год.

[*Як адкапаюць? У які дзень?*] Яны прымецяць, ідзе кала вугла ці каля загародкі адкапаяць, калі адкапваяць, пераломяць яго, да ўсё раўно бяруць, штоб нанава закапаць.

[*Яго адкапалі, а далей яго куды?*] Нясуць яго. Бабы ўжо адкапаяць. Чый грэбяшок закапавалі: "На! Нясі!" І яна ўжо нясе ізноў там. Мы ўжо... Матка: "Я вам не накупляюсь етых шпыляк! Усё закапыеця!" А мы ж хочым, і я, і сястра мая большая. Калісь брацік у нас быў, і тэй слязамі плача: "Мам, дай мне што-небудзь закапаць у Стрялу!" Яна: "Мужчыны не закапаваяць". Паддура яго. Ён камянёк найдзя, будзя несць, і прыдзя і будзя доўга гаварыць: "І мой камянёк у Стряле закопаны! І мой!" Ну ўжо хваляць: "Ой! Маладзец! І ты камянёк закапаў!" – "Да матка шпыльку не купіла".

[*Пачыналі Стралу. Вот тут адкапалі і куды нясуць закапваць? У той жа дзень?*] На Стрялу на Ўшэсція адкапваяць і зноў ідуць у тэй край адсюль. Сабіраяцца тут усі людзі, і ад краю ад етага і нясуць, тая ўжо, а іе німа, дак любая, і нясуць на другі канец, і туды прынясуць, закапаяць яго там. Мы ўжо кідаім абы-што. Перва тэй грыбяшок укінуць, а тады ўжо закапваяць плойма етыя. Мы такія палачкі скарэй бяром кароцінькія, плойма: "Я два ўкінула!" Прыдзіма дамоў: "Я і палачку ўкінула, і шпыльку ўкінула!" Ета ж дзеці. Сколькі там дзетак! Насыпяць. Баба, там, адна ўсё закапыя, старая, ана і малітваў багата зная, дак ана скрозь закапая, гаворя: "Ідзіця, ужо ня месціцца ў ямачку! А ўсё кідаіця!" Плойма! Нам жа інцярэсна. А тады хвалімся цэлы год, што я столькі ўкінула, а другая скажа: "Ой! А я толькі шпільку ўкінула!" Скрозь: "Мам, скора там Ушэсція?" Матка: "Да вы мне ўжо галаву адурылі!" А баба: "Дзетачкі, будзя, будзя". Тады ўжо прыдзіма, баба наша: "Ці паўкідалі вы?" Калі пойдзя, там, двара глядзець: "Паўкідалі вы сваё?" – "Ой, баб! Каменькі пакідалі". А баба: "Што вы – камянькі?" А мы абы хваліцца, што мы пакідалі.

[*Усе кідалі ў адну ямку?*] У адну. Капаюць так, штоб кідалі туда. А етыя ўжо смяюцца. А мы прыдзем, штоб маткі ня кідалі. "Мам, дай я тваю ўкіну!" І другая бягіць: "Мам, ну давай ты ня кінь!" – "Ну, на, укінь маю ўжо туда!"

Хлопцы кажаць адзін раз: "Дзеўкі, пайдзёмця стрэлавую ямку адкапаем да шпыляк набяром". А там, у нас адна дзеўка, старэй нас, да з намі гуляла: "Нялься! Я сказала матцы: "Мам, пайду я тую ямку адкапаю". Дак яна мне сказала: "Бог здзелая, што ў цябе рукі паадпадаюць і карміць цябе з ложкі будуць, еслі ты ета будзіш дзелаць". Дак яны гаворяць: "Дзеўкі, мы не пойдзіма. Ніхай яны ляжаць там, а то рукі паатсыхаюць, ноччу ўстанім, а рук німа, паатпадаюць. Дак што мы будзім дзелаць без рук?" І ні пойдам.

74. (а) [*Дзед і баба. Гэта сапраўды дзед і баба альбо так апраналі?*] Ета наряжалі. У нас там адзін мужчына ўсё наряжаўся, любіў наряжацца, тады ўжо мацюкі кліня, мацюкі мацюкая на плойму, паперяд жа плойма бягіць, ім жа анцірэсна бачыць. І правядуць, тады ўжо круг дзелаюць, круг вядуць, пяюць песні кругавыя. [*Пасярод сяла?*] Пасярёд сяла. А пасярёд сяла жыла ў нас магазіншчыца, і яна ў Стряле, і мужык. А мой брат на гармоні атлічна іграў, вучыўся ў Гомелі, і заўклубам быў, дак ён іграў, ідзець, падыгрыя, а тады вынося, Ліда: "Пастойці-ка! У мяне чамярняк[7] ёсць!" Там шчэ выходзяць, дзеда і бабу ўгашчаяць. Плойме даюць што-небудзь, піражкі якія пячэш. Госпадзі! Лезуць, кажды хоча з рук. Проста з рук хватаяць! "Па адном піражку толькі каждаму дадзім. Што будзя астальноя, дзед і баба будзя раздаваць. Ужо астануцца тыя, маленькія такія піражочкі, ну, штоб весялейшая Стряла была. А тады ўжо паводзяць, кругавыя папяюць і Стрялу зноў вядуць. [*Кругавыя – гэта якія?*] Ета "Па жэрдаццы шла я па тоненькай…", "Ёрры-маёрры…", ішчэ – іе і на свадзьбе пяюць "Ой, маць мая, матушка, калышы маё дзіцятушка…" Я іе да палавіны толькі дакажу.

*– Ой, маць мая, матушка,*
*Калышы маё дзіцятушка.*
*А я пайду нагуляюся,*
*На другога расстараюся. (Ужо без мужыка радзіць.)*

*– Чорт яго накалышыцца,*
*Сярэдзіна мая крышыцца.*
*– Ой, маці, пячонкі гаряць,*
*Пусці мяне на вячоркі гуляць.*
*А я пайду нагуляюся,*
*На другога расстараюся.*

(б) **Пра абрад "Страла" ў в. Стаўбун Веткаўскага р-на.**

[*Хто ж там наперадзе ішоў: дзед, баба?*] Там німа дзеда і бабы. [*Я пытаю – у Страле?*] Там німа дзеда і бабы ў Стряле. [*І маладых няма – пана і паненкі?*] Німа. А вот як і дзе. А ў нас былі дзед і баба. Надзяюцца – "ёрья". У ёрья. У нас Дунька была, баба, ета скрозь, яна надзеня штаны, назадзі прарвана, і так во (*накланілась задам*), і мужчыны ідуць, мужчыны і бабы, яны: "Дунька, іціць тваю маць! Ну што ты дзелаіш?" Яна: "Благадарю вам за ета". І задам станя. А тут жа людзей цьма, усі, і малыя, а малыя паперяд бягаць ужо, дражняць бабу. А яна з кастылём, хусту абы-якую, дзіряваю надзеня. І дзед прыбярэцца так. Ідуць, ім выносяць, хто гарэлку... І яны насабіраяць, знаіш, скольки

[7] Самагон.

гарэлкі тыя. З бумажкі леячку здзелаяць, і туда ўліваяць. А тады, паводзім, сабіраімся ўсі, хто па бутылцы на дваіх, хто на аднаго, і выпівання, сала, яец павынясуць. І гуляяць. А то прыбяраяцца, яна надзяецца ў празнічная, андарак надзяе, вянок які згардаячаць, у каго якія раннія цвяты, на галаву. А ён ідзець прыбраны, белая рубашка, галстукаў не было. Во, ета – пан і паненка. І ў Закружжы так дзелалі. А там (*в Столбуне*), говорыш, німа. Якая ета Стряла? Дзед жа з бабай закапаваяць. [*А там усе закапваюць.*] Вот бачыш… Кажаць, у каждай сям'е па чорціку і ў каждам сяле па чорціку. Хто як ужо здзелая.

Калісь, дзед і баба ўжо, а калі паўз адзін бок ідзець красівыя – пан і паненка, а па другі – дзед і баба. І за дзедам і за бабай большы плоймы, усі плойма за іх, ідуць, уродзе, падражняяць. А яна ўжо з кастылём: "Я вас паб'ю счас!" [*Дзед і баба закапывалі?*] Да. Ані ў зямлю кідалі. А плойма і каторыя ахотнікі, шпыльку, брошачкі тады былі ў плацця ці ў кохту, і брошкі не жалея. І зарываяць, закапаяць. І плойме прыкажаць: "Не выкапаваць! Хто выкапая, будзя сільна рука балець. І не чапалі. [*Хто капаў ямку?*] Дзед і баба. Ці пан і паненка. А мужчыны спічкі кідаяць. [*А ці мужчыны хадзілі ў "Страле"?*[8]] У нас усе хадзілі. І ёрья яны прыгатовяць, Дунька говоря: " Я ўжо нагатавала сабе". Мужчыны говоряць: "Дунька, ты ж штаны харошыя надзень". – "А ета вы бачылі? Надзену такія, якія мне наравяцца!" І вот зад распораны, і яна лятву ету пакажа. Яны заліваяцца. Усі смяюцца. Пашуцяць, пасмяюцца. І считалі за красівая.

75. Шлі ад Марозаўкі. Я бабе казала: "Чаго-та з етага краю ідуць на еты?" А яна говоря: "З етага края ідуць, штоб на ўсход сонца Стрялу весць". Давядуць, во, крайняя хата, правядуць трохі, ямачку выкапаяць, тут у нас была канава, крайнія хаты, маленькая растаянія, і канава ішла, грэбля была круглая, кароў ганялі. Крайнія двары. Зойдуць і закапываюць на краю. Год наряджаюцца баба і дзед, а год – маладыя. [*У адзін год не было і маладыя, і старыя адразу?*] Так не наряджалі. Ета была, падкаменцы[9] к нам прыдуць. У нас будуць дзед і баба, а у іх – маладыя.

Дзеці камянькоў насабіраяць, ліш бы ўкінуць. Падойдзя: "І я ўкінуў!" Хто кусочык хлеба ўкінуў. Кусочык хлебца абізацільна кідалі. Солькі і хлеба. Ета ўжо дзед і баба кідая. Такую крошачку кінуць. І солькай пасоляць. У іх ужо прыгатоўлена.

---

[8] Пытанне ўзнікла ў сувязі з тым, што традыцыйна ў гэтым абрадзе ўдзельнічаюць толькі жанчыны.

[9] Жыхары п. Падкаменне, які тэрытарыяльна і адміністратыўна належыць да Старага Закружжа і Амяльнога.

Як вядуць, закапываюць. У цябе, напрымер, шпылька, шпыльку кідаіш, у мяне брошка. Калісь мы брошкі пакідалі, плацця, брошачкі такія былі, дак брошкі пакідалі. Матка: “Што ты тут расхлябана?” Я гавару: “Мам, я ж укінула брошку ў Стрялу”. А матка і кажа: “Німа ўма. Ты ж бы што-небудзь. Усе раўно, прападзе, заржавея”. Баба гаворя: “Ты шпылечку лучшэ кідай. А брошка, яна ж дарагая”. Там... Дарагая... Капейкі стоіла. Я дзеўкам сказала, там, Каця Коршунава і я пакідалі брошкі. Красіва ж, што ж бы ўсі кінулі. І ўсі кідаюць. Закапаюць “Стрялу”. І гаворым: “Пайдзём адкапаім, свае брошкі найдзем”. Ну, у зямле капаліся, капаліся, да яны ўжо паляжалі колькі, так, што еты шпылечкі, што ўколыюцца, паржавелі. Мы адтачылі, я гавару: “Мам, во, і брошку дастала”. Ой, баба на мяне: “Нясі назад. Ета ты горе ў двор прынясеш. Не чапай! Стряле падарыла, ну і ніхай”. Закапалі Стрялу. І ўсё.

Прайшлі ў канец вуліцы, і капай, на бок узышлі, усягда на правам баку. Кажаць, баба наша казала: “На правы бок ангелы ідуць, а на левы чэрці”. Усё баба казала, вот ідом, на двор па-маламу захочыш, яна: “На які бок нада сыходзіць?! На левы, а не на правы. Патаму шта па правым баку ідуць ангелы, а па левым чэрці”.

76. На Стрялу старыя бабы дажы і смярцёная надзявалі, штоб ужо прыбрацца красіва. Прыбіраліся ўсе людзі. А еслі етыя, дак надзяюць смярцёная. Плойма, тыя ўжо на празнік жа ё тож наряжаяцца, ішчэ і ленту прыколяць іззаду. “Мам, прыкалі мне ленту!” Штоб красівей ужо было. Штоб кажды красівей усіх быў. А то калісь на Вялікадня надзенім, к Вялікадню, тады хаваім, а не надзяём, штоб на Стрялу новая, чыстая да новая – красівая. Ну, к Стряле ўсі наряжаліся красіва. А як дзед і баба ўжо надзяюцца – у ёр’е, як старчыкі ідуць, старцы ж калісь хадзілі. Ну, дзеці ўжо, знаіш, каторыя малыя – баяцца, уцякаюць ужо, а з кастылём дзед: “Я вас счас у сумку забяру”. Ня грозя так, дзве жэншчыны, дак яны ня грозяць, штоб жа яны баялісь шыбка, ці “уб’ю”, ці што, а “ў сумку!” і ўсё “панясу, да Стрялы буду ў сумцы несць!” А ў сумцы ж, думаець, ня відна нічога ня будзя. А хочаць наяву ўсё бачыць. [*Дзед – гэта сапраўдны дзед, альбо жанчыну так апраналі?*] Жэншчыны ў нас. А адзін у нас, багата разоў, ён ужо памёр, Мішка яго звалі Мурзіла. Калісь былі буквары, “у мурзілкі Мішкі жылі-былі кніжкі”, дак яго Мішкай звалі, і Мурзілай празвалі, дак тэй надзяваўся, настаяшчы мужчына, гаворя: “Пайду хоць нарэжусь гарэлкі!” Ён выпіць любіў. Дак выносяць, там, у нас адзін такі самастаяцельны быў – Мацвей Іванавіч – вынясе гарэлку, дзеду налле, дак там адзін мужчына гаворя: “Наряжайця мяне ў бабу. І я пайду. Хоць гарэлкі ж вынясуць. І я прайду ў Стряле”. А калі дзве бабы наряжаюцца,

мужчыны заняты ці п’яныя, дак з яго нічога ня будзя. Мурзіла нап’ецца, дак яны гаворяць: “Ня нада Мішка!”

77. (а) Як Стрялу водзяць, *вой лі, вой люлі* скрозь пяюць.

(б) [*Лёлюшкі ў пост пелі?*] У пост пяюць “Як жыла ўдава пасярёд сяла...” Дак ета паставая. Люлі-люлі етая пяюць, а словы толькі паставыя. Нам так казалі. Пост, дак мы пяём “Як жыла ўдава пасярёд сяла…” Яна длінная, мы пяём ціхінька, а хлопцы качаяць нас, адзін – на етым краю, а другі – на етым, і дзяржацца за цапы, тэй так упірая, а тэй – сюда, і яно як раскалышыцца, ім ужо лёгка качаць, яно сама арэля шугая, а мы, дзяўчаты, пяём ету песню. Як не пяюць, яны гаваряць: “Во! Ня будзем вас качаць! Пейця  песню. З песняй весялей. А пра *ляночак* пяём, як Стрялу водзяць.

(в) [*Песні бываюць кругавыя?*] Як Стрялу водзяць, пасярод сяла, а як Закружжа длінюшчая такоя, там, можа, і тры раза, дзе шырэйшая места, карагод водзяць, пяюць: “Ой, ёрь-рі маёррі…” [*А гэтыя як называюцца, дзе лёлюшкі?*] Ета ж гаворяць, давайця кругавую, а тыя стрэлавыя. Стралу ж вядуць, за рукі бяруцца, ідуць, а плойма пасярёд, і дзед з бабай ідуць, ганяюць іх. А баязлівыя дзеці, дак тыя ў ряд ідуць, папяряд кала маткі, будуць дзяржацца за андарак. Калісь красівей было. Вот ціпер і цілівізары, а тады ўвечары гарлаяць песні, у том баку будуць і ў том дзярэўні, і пасярёд – у нас свае людзі. І сыходзяцца, гаворяць: “Пазавідывалі на песні! Ідом к вам”. Жора наш іграў на гармонь. Мы пад гармонь. Ці мы яму ладзілі, ці ён нам. Любыя песні ён падыграя. А калі ўдзень: “Давайця, дзеўкі, па бутылцы!” Віна, вон,  было чарвівая, ці па дзевяноста капеяк, ці па дзевяноста пяць, павынясім, сала хватала, яец вынясім, хто яйцам запівая, хто што. І танцуім, маладосць была, і старыя пяюць, а мы танцуім, а Жора наш любіціль іграць. На свадзьбі он чарачку вып’е: “Не нада мне. На пасашок дасцё, і ўсё”.

78. *Як жыла ўдава пасярёд сяла,*
*Ой, лі, вой люлі, пасярёд сяла.*
*А было ў тэй удавы дзевяць сынавей,*
*Ой, лі, вой люлі, дзевяць сынавей.*
*А дзісятая дачка – Насцечка,*
*Ох, і вой люлі, дачка Насцечка.*
*Ой, казала маці: “Ідзіця ўсе ў найму!”*
*Ох, і вой люлі, ідзіця ўсе ў найму.*
*Або я вас не пракармлю,*
*Ох, і вой люлі, вас не пракармлю.*

*А што тры пайшло ў вахотнічкі,*
*Ох, і вой люлі, у вахотнічкі.*
*А што тры пайшло ў разбойнічкі,*
*Ох, і вой люлі, у разбойнічкі.*
*А тры пайшло на Дунай гуляць.*
*Ох, і вой люлі, на Дунай гуляць.*
*Дачка Насцечка ў бор па ягады,*
*Ох, і вой люлі, у бор па ягады.*
*Заблудзіла яна ў цёмным ляску.*
*Ох, і вой люлі, у цёмным ляску.*
*Напалі тры разбойнічкі,*
*Ох, і вой люлі, тры разбойнічкі.*
*Павялі яе ў сваю хатачку,*
*Ох, і вой люлі, у сваю хатачку.*
*І пытаюць яе: "Чайго роду ты?"*
*Ох, і вой люлі, чайго роду ты?*
*– А я роду, роду ўдавінага.*
*Ох, і вой люлі, а я роду ўдавінага.*
*Первы кажа: "Вары вячэрячку".*
*Ох, і вой люлі, вары вячэрячку.*
*А другі кажа: "Сцялі пасцелячку".*
*Ох, і вой люлі, сцялі пасцелячку.*
*А трэцці кажа: "Лажысь са мною спаць".*
*Ох, і вой люлі, лажысь са мною спаць.*
*А яна кажа: "Не буду спаць, буду вянкі звіваць".*
*Ох, і вой люлі, буду вянкі звіваць.*
*Перваму саўю з берязовай лісты,*
*Ох, і вой люлі, з берязовай лісты.*
*Другому саўю з сухой лазы.*
*Ох, і вой люлі, з сухой лазы.*
*Трэцяму саўю з жгучой крапівы.*
*Ох, і вой люлі, з жгучой крапівы.*
*А я сястра ваша, сястра Насцечка,*
*Ох, і вой люлі, сястра Насцечка.*
*Заблудзіла я ў цёмным лясу,*
*Ох, і вой люлі, у цёмным лясу.*

79. *Пасеялі дзевачкі беліenькі ляночык,*
*Люлі-люлі, беленькі ляночык.*
*Узышоў ляночык, доўгінькі свалочык,*
*Люлі-люлі, доўгінькі свалочык.*

*Узышоў ляночык, вузінькі лісточык,*
*Люлі-люлі, вузінькі лісточык.*
*І адцвіў ляночык, тонінькі лісточык,*
*Люлі-люлі, вузінькі лісточык,*
*Узышоў ляночык, сіненькі цвяточык,*
*Люлі-люлі, сіненькі цвяточык.*
*І адцвіў ляночык, сіненькі цвяточык,*
*Люлі-люлі, сіненькі цвяточык.*
*Параслі ў ляночкі, зялёныя званочкі,*
*Люлі-люлі, зялёныя званочкі.*
*І тыя званочкі ад сонца паспелі,*
*Люлі-люлі, ад сонца паспелі.*
*І ў ляну званочкі так пазалацелі,*
*Люлі-люлі, так пазалацелі.*
*І ў ляну званочкі ад ветра звінелі,*
*Люлі-люлі, ад ветра звінелі.*
*І сталі дзяўчыты лянок выбіраць,*
*Люлі-люлі, лянок выбіраць.*
*Пачалі дзяўчаты ў снапкі вязаць,*
*Люлі-люлі, у снапкі вязаць.*
*Пачалі дзяўчаты снапкі аббіваць,*
*Люлі-люлі, снапкі аббіваць.*
*Залатыя зёрнушкі на вецер правіваць,*
*Люлі-люлі, на вецер правіваць.*
*І паслалі дзевачкі беленькі ляночык,*
*Люлі-люлі, беленькі ляночык.*
*У высокам месці да й на бугарочык,*
*Люлі-люлі, да й на бугарочык.*
*Штоб на нізкім месці лянок не пагніў,*
*Люлі-люлі, лянок не пагніў.*
*Штоб белы ляночык да крэпенькі быў,*
*Люлі-люлі, да крэпенькі быў.*
*Дзевачкі ляночык белы падбіралі,*
*Люлі-люлі, белы падбіралі.*
*У бальшыя кулёчкі ляночык вязалі,*
*Люлі-люлі, ляночык вязалі.*
*Беленькі ляночык у бані сажалі,*
*Люлі-люлі, у бані сажалі.*
*І сухі ляночык на кляшчотку мялі,*
*Люлі-люлі, на кляшчотку мялі.*

*І беленькі ляночык тряпельцам тряпалі,*
*Люлі-люлі, тряпельцам тряпалі.*
*А зімой ляночык тоненька прялі,*
*Люлі-люлі, тоненька прялі.*
*А да Вялікадня красенцы дзевачкі паткалі,*
*Люлі-люлі, дзевачкі паткалі.*
*Вясной палаценцы на сонцы бялілі,*
*Люлі-люлі, на сонцы бялілі.*
*На вадзе палаценцы чысцінька мылі,*
*Люлі-люлі, чысцінька мылі.*
*З тога палаценца да рушнічкі шылі,*
*Люлі-люлі, да рушнічкі шылі.*
*І палявыя цвяточкі на рушнічку шылі,*
*Люлі-люлі, на рушнічку шылі.*
*І на ўсі іконкі рушнічкі надзявалі,*
*Люлі-люлі, рушнічкі надзявалі.*
*І новы ляночык да Ўшэсця трусілі*[10]*,*
*Люлі-люлі, да Ўшэсця трусілі.*

80. *Не лётай-ка, галачка, рана на зарэ,*
*Люлі-люлі, рана на зарэ,*
*Не лётай-ка, галачка, у зялёным саду,*
*Люлі-люлі, у зялёным саду,*
*Не збівай-ка, галачка, ранняю расу,*
*Люлі-люлі, ранняю расу.*
*А ўжо тая росачка даўно аббіта,*
*Люлі-люлі, даўно аббіта,*
*А ўжо тая Варынька даўно прапіта,*
*Люлі-люлі, даўно прапіта*
*За таго за парнічка за маладога,*
*Люлі-люлі, за маладога,*
*За таго за Ванячку, за халастога,*
*Люлі-люлі, за халастога.*
*Ваня вёў каня свайго ў рэчаньку паіць,*
*Люлі-люлі, у рэчаньку паіць,*
*А Варынька з вядзерцам да за ім бягіць,*
*Люлі-люлі, да за ім бягіць.*
*– І куда ты, Варынька, рана так бяжыш,*
*Люлі-люлі, рана так бяжыш?*

[10] Гэта значыць – *сеялі.*

*І чаго ў пасцелічкі ў белінькай ня спіш?*
*Люлі-люлі, у белінькай ня спіш?*
*– Ванячка мой мілінькі, табе памагу,*
*Люлі-люлі, табе памагу,*
*Каня варанога з вядра напаю,*
*Люлі-люлі, з вядра напаю.*
*Ідзі-ка ты, Варынька, дамоў ідзі спаць,*
*Люлі-люлі, ідзі дамоў спаць,*
*А я буду коніка адзін напаваць,*
*Люлі-люлі, адзін напаваць.*
*Падышоў да рэчынькі каня напаваць,*
*Люлі-люлі, каня напаваць,*
*Стала яго Варынька ваду набіраць,*
*Люлі-люлі, ваду набіраць.*
*Упусціла Варынька чыстая вядро,*
*Люлі-люлі, чыстая вядро,*
*Заплакала Варынька да на ўсё сяло,*
*Люлі-люлі, да на ўсё сяло.*
*– Ня плач, мая дзевачка, я табе памагу,*
*Люлі-люлі, я табе памагу,*
*Я табе вядзерачка новая куплю,*
*Люлі-люлі, новая куплю.*
*І паехаў Ванячка да ўздоўж сяла,*
*Люлі-люлі, да ўздоўж сяла,*
*Прывёз ёй вядзерачка да залатоя,*
*Люлі-люлі, да залатоя.*
*– Ідзі ка мне, Варынька, слёзкі абцяру,*
*Люлі-люлі, слёзкі абцяру.*
*І цябе я, дзевачку, крэпка абніму,*
*Люлі-люлі, крэпка абніму.*
*Падышоў да дзевачкі слёзкі абціраць,*
*Люлі-люлі, слёзкі абціраць,*
*Стаў ён ету Варыньку крэпка цэлаваць.*
*– Ой, ня нада, Варынька, каня напаваць,*
*Люлі-люлі, каня напаваць,*
*Залато вядзерачка за сабою браць,*
*Люлі-люлі, за сабою браць.*

81. *Ой, красна-красна ў лесе каліна,*
*Ох, і вой люлі, у лесе каліна.*
*А красней усяго дзеўка Варына,*
*Ох, і вой люлі, дзеўка Варына.*

*Ой, гусей пасе да ўсё слёзы ілье,*
*Ох, і вой люлі, да ўсё слёзы ілье.*
*Да ўсё слёзы лье, роднай мамкі не ймея.*
*Ох, і вой люлі, мамкі не ймея.*
*Мамкі не ймея, толькі мачыху,*
*Ох, і вой люлі, толькі мачыху.*
*[Толькі гусей пасе,*
*А вячэраць у сям'ю не ідзе.*
*Усё браняць, ад стала адганяюць,*
*А мачыха бярэ чапялу да заганяя ў клець].*

82. *Ой, мая мамачка, ой, мая родная,*
*Ох, і вой люлі, мая родная.*
*Ой, нашто ты мяне, ой, замуж аддала,*
*Ох, і вой люлі, замуж аддала.*
*Ой, замуж аддала, ой, у чужоя сяло,*
*Ох, і вой люлі, у чужоя сяло.*
*Ой, у чужоя сяло, ой, у незнакомая,*
*Ох, і вой люлі, у незнакомая.*
*У незнакомая і ў далёкая,*
*Ох, і вой люлі, і ў далёкая.*
*Ой, не прыду ж к матцы я ні раз у госці,*
*Ох, і вой люлі, я ні раз у госці.*
*Ох, і вой люлі, у гадок разок.*
*А на Вялікі дзень, на Вялікадня.*
*Ох, і вой люлі, на Вялікадня.*
*А прынясу я мамке а тры радасці,*
*Ох, і вой люлі, а тры радасці.*
*А я тры радасці, ой, невясёлыя,*
*Ох, і вой люлі, ой, невясёлыя.*
*А первая радасць – муж мой пьяніца,*
*Ох, і вой люлі, а муж мой пьяніца.*
*А другая радасць – дзіця маленькая.*
*Ох, і вой люлі, дзіця маленькая.*
*А трэццяя радасць – сама малада,*
*Ох, і вой люлі, ой, сама малада.*
*А сама малада, а шлюць да горада.*
*Ох, і вой люлі, а шлюць да горада.*
*А із горада ідзі да Кіева,*
*Ох, і вой люлі, ідзі да Кіева.*

*А ля Кіева ляжала целячка,*
*Ох, і вой люлі, ляжала целячка.*
*А і к целечку ніхто не прыступіцца,*
*Ох, і вой люлі, ніхто не прыступіцца.*
*А прыступілася стара бабачка,*
*Ох, і вой люлі, а стара бабачка.*
*Стара бабачка, яго мамачка,*
*Ох, і вой люлі, яго мамачка.*
*Ой, узяла ж яго на свае ручачкі,*
*Ох, і вой люлі, на свае ручачкі.*
*І панясла яго аж да цэркаўкі,*
*Ох, і вой люлі, аж да цэркаўкі.*
*А ў цэркаўкі дзвер адчыніліся,*
*Ох, і вой люлі, дзвер адчыніліся.*
*Ой, самы свечачкі да й запаліліся,*
*Ох, і вой люлі, да й запаліліся.*
*Ой, самы кніжачкі зачыталіся,*
*Ох, і вой люлі, зачыталіся.*
*А само целячка а схаранілася,*
*Ох, і вой люлі, а схаранілася.*
*К яму ўсе ангелы а паявіліся,*
*Ох, і вой люлі, а паявіліся.*

83. *А на краю сяла, там стаіць гара,*
*Вой, лі, вой люлі, там стаіць гара.*
*Гара высокая, аж да облака,*
*Вой, лі, вой люлі, аж да облака.*
*А на той гарэ сядзяць тры сокала,*
*Вой, лі, вой люлі, сядзяць тры сокала.*
*А тры сокала да тры маладыя,*
*Вой, лі, вой люлі, да тры маладыя.*
*Вой, адзін сокал, ён гару доўбе,*
*Вой, лі, вой люлі, ён гару доўбе.*
*А другі сакалок камні скідая,*
*Вой, лі, вой люлі, камні скідая.*
*А трэцці сакалок мачыху ругая,*
*Вой, лі, вой люлі, мачыху ругая.*
*Што мачыха-змяя сірату пракляла,*
*Вой, лі, вой люлі, сірату пракляла.*

*– Штоб ты, сірата, каменнай гарой была,*
*Вой, лі, вой люлі, каменнай гарой была,*
*А мая дачка – раскрасавіца,*
*Вой, лі, вой люлі, раскрасавіца,*
*Штоб да маёй дачкі ішлі ўсе маладцы,*
*Вой, лі, вой люлі, ішлі ўсе маладцы,*
*А да цябе, сірата, марозы-халада,*
*Вой, лі, вой люлі, марозы-халада,*
*Штоб на табе, гара, трава не расла,*
*Вой, лі, вой люлі, трава не расла,*
*Штоб на табе, гара, пціца гнязда не віла,*
*Вой, лі, вой люлі, пціца гнязда не віла,*
*Штоб на табе, гара, дзеўка касу не пляла,*
*Вой, лі, вой люлі, дзеўка касу не пляла,*
*Штоб над табой луна ноччы не свяціла,*
*Вой, лі, вой люлі, ноччы не свяціла,*
*Штоб жаркая сонца да цябе спаліла,*
*Вой, лі, вой люлі, да цябе спаліла.*

84. **Ушэсце. Запіс 2010 г.**

Пела на Ўшэсця песні. Пела “Пасярёд сяла стаіць гара...” На лавaццы села і пела. Другую пела “Мая мамачка, мая родная, нашто мяне замуж аддала ў чужоя сяло...” А тады прапела “Не лятай-ка, галачка, рана на зарэ...”

Кусаюць камары, я ўвашла ў хату, і ў хаці шчэ прапела, ні знаю колькі. Пачану, палавіну спяю, другую начынаю. І кажу: “Госпадзі! Прапела я сёліта, дай Божа, штоб і на лета прапевала”.

Тады вышла, засвяціў месячка, дак я... Пашка гаворя: “Я ногі загаварыю...” Я ногі пашла загаварыла... вышла шчэ, пасядзела на лавaццы да і ў хату пашла.

85. **Ушэсце. Запіс 2011 г.**

(а) [“Стрялу хаваім”. Ветка. Падвор’е Варвары].

“Вой як ішла стряла да ўздоўж сяла...”

“У майго таткі харашо жыці...”

Мы Стрялу закапалі. Дай Госпадзі, штоб і на лета ўсе жывы былі да на етым месці закапаць.

[*Вы сказалі: “Ямку выкапаў, бумажку закапаў, то Стрялу пахаваў”.*]

І то... Што закапаў... Калісь мы малыя прынясом... Ямку выкапаім... Хто якую выкапвывая... Хто па калена... Хто шпыльку... Хто брошку...

Брошачкі былі... Мы малыя былі... Німа нічога... Баба: “Вон, вазьміця...” Я гаварю: “Баб, ну што нам укінуць?” Яна гаворя... Ілі піряжок будзя несць, атломя: “На! Нясі піряжок. Ета дар Божжы”. Мы ўжо дзелім па такой каплі: табе... Ліш бы кінуў са сваёй рукі. Ета Стрялу закапалі... Гасподняя стряла.

(б) Стрялу закапыяць... У нас адна... Барысэўка там... Цётка... Насця яе звалі... Яна нібагата так... Слоў, можа, дзесяць... Сказала... і первай яна клала туды... Яны: “Насцюха, ідзі ўжо!” Яна прыдзя, памоліцца і тады кладзе... Ета калі б цяперь, дак уніманіе абраціў, а тады... Яе ўсе Барысэўка звалі, Барыс звалі мужыка, дак яны: Барысэўка....

(в) Каравашнік будзя ехаць, мы ўжо гаворым: “Давайця шпыляк купім ці брошак” Штоб жа хто красівейшую кіня...

(г) Мы Стрялу закапалі. Дай Госпадзі, штоб і на лета ўсе жывы былі да на етым месці закапаць.

(д) *Ой, забажаў мілы ключавой вады,*
*Ох, і вой люлі, ключавой вады.*
*Ой, да той вады тры часы хады,*
*Ох, і вой люлі, тры часы хады.*
*Ой, у первым часу па ваду ішла,*
*Ох, і вой люлі, па ваду ішла.*
*А ў другом часу ваду чэрпала,*
*Ох, і вой люлі, ваду чэрпала.*
*А ў трэццім часу я дамоў прышла,*
*Ох, і вой люлі, я дамоў прышла.*
*Я к двару падышла, двор раскрыт стаіць,*
*Ох, і вой люлі, двор раскрыт стаіць.*
*А ў дварэ новы гроб стаіць,*
*Ох, і вой люлі, новы гроб стаіць.*
*А ў хату выйшла, муж мёртвы ляжыць,*
*Ох, і вой люлі, муж мёртвы ляжыць.*
*А ў галавах яго маць радна сядзіць,*
*Ох, і вой люлі, маць радна сядзіць.*
*Каля ручачак яго да сястра сядзіць,*
*Ох, і вой люлі, да сястра сядзіць.*
*Ну, а я ўжо села ў ножачках,*
*Ох, і вой люлі, у ножачках.*

*Ой, як матка плача, цэлы рекі цякуць,*
*Ох, і вой люлі, цэлы рекі цякуць.*
*Як сястра плача, ручайкі бягуць,*
*Ох, і вой люлі, ручайкі бягуць.*
*А дзе жонка плача, там агні гаряць,*
*Ох, і вой люлі, там агні гаряць.*
*Ох, і вой люлі, пажары трашчаць.*

Няжалка жонка плача. Жонкі еты, дак у нас адна… памёр мужык, дак хавалі. Дак жонка галаву задзірэ і плача. Сястра плача, усі плачаць людзі, сястра да матка, а жонка плача: "Вой, вот – ён із етай сфатаграфіраваўся", – гаворя. Стаіць на картачцы. "Во із етай!" Бабы гаворяць: "Яна не жалее мужыка". У іе трое ілі чэцвера дзяцей была. А вон картачкі разглядае, стаіць. Няжалка плача.

(е) *Я па жэрдачкі шла,*
*Я па тонінькай, я па тонінькай,*
*Я па тонінькай, па яловінькай.*
*Тонка жэрдачка да ня зломіцца,*
*Харошо з мілым жыць да ні стошніцца,*
*Хоць і стошніцца, развясёліцца.*
*Развясёлая душа,*
*У белым свеці хараша развясёлая душа,*
*У белым свеці хараша. Ой, ёр маёр,*
*Я за ёрам хадзіла, я маёра відала,*
*Я маёра люблю, за маёра пайду,*
*Барыня!..*
*Як пайду я на базар,*
*Куплю сібе барабан,*
*Буду біць, буду біць,*
*Буду зорі выбіваць,*
*Буду зорі выбіваць,*
*Сабе друга выбіраць.*

(ж) *Ой, рэчынька-рэчынька,*
*Чаго ж ня поўная, з беряжкам ня роўная?*
*Ой, люлю-люлі, з беряжкам ня роўная?*
*А як жа мне поўнай быць, з беряжкамі роўнай быць?*
*Ой, люлю-люлі, з беряжкамі роўнай быць?*
*Хлопцы вядуць коней паіць, дзеўкі ідуць бялізну мыць.*

*Ой, люлю-люлі, дзеўкі ідуць бялізну мыць.*
*А кругом усё расце, усё з мяне ж ваду бярэ.*
*Ой, люлю-люлі, усё з мяне ваду бярэ.*
*А сонца пячэ-пячэ, з рэчкі мае ваду бярэ.*
*Ой, люлю-люлі, з рэчкі мае ваду бярэ.*
*А ветры дуюць-дуюць, ваду маю разліваяць.*
*Ой, люлю-люлі, ваду маю разліваяць.*
*Ой, рэчынька-рэчынька, чаго ж ня поўная, з беряжкам ня роўная?*
*Ой, люлю-люлі, з беряжкам ня роўная?*

А ў Закружжы, Пашка была ў мяне, дак пелі:

*Ой, рэчынька-рэчынька, чаго ж ня поўная, з беряжкам ня роўная?*
*Ой, люлю-люлі, з беряжкам ня роўная?*
*А як жа мне поўнай быць, з беряжкамі роўнай быць?*
*Яша вёў каня паіць, а Дуня ваду чэрпала.*
*Ой, люлю-люлі, Дуня ваду чэрпала.*
*Яшынька, Яшынька, чаго ты ня жэнішся,*
*Чаго ты ня жэнішся, на каго надзеішся?*
*Ой, люлю-люлі, на каго надзеішся?*
*Надзеюсь на бацюшку, надзеюсь на матушку,*
*Ой, люлю-люлі, надзеюсь на матушку.*
*Не надзейся на бацюшку, не надзейся на матушку,*
*Ой, люлю-люлі, не надзейся на матушку.*
*Бяры мяне за белаю ручачку, вядзі да сваёй хатачкі,*
*Ой, люлю-люлі, вядзі да сваёй хатачкі.*

Я думаю: “К чаму ета Дуня ў песні?”. Яна гаворя: “Ну, чыя лучшы: твая ці мая?” Там пра Дуню пелі, а ў нас, пра сонца, да “да дзеўкі бялізну мыюць, хлопцы коней поюць”... усё ж із рякі бяруць.

86. **Ушэсце. Запіс 2013 г.**

**[***Вы што спелі на Ўшэсце?***]**

У нас пабагату хадзіла. Вуліцы ні хватала. А тады параз’ізжаліся... У нас дружныя былі...

Спела... Пашла... Спела пад вінаград... “Як ішла стряла да ўздоўж сяла...” Етую спела... “Жыла ўдава пасярёд сяла...” І карагодную спела “Ні лятай-ка, галачка, рана на зарэ...” Пасідзела... Заплакала... Прасцілася... Можа, паследні год прапела... Некаму ўжо пець... Я ў адныя пытала... У маладзіцы, у свае: “Пяеш ты?” Яна гаворя: “Прапяваю... Адну, дзве...

Выду на двор, перяхрышчуся, памалюсь Богу... І на святоя Ўшэсціе прапяю... А тады ўжо, – кажа, – атамруць і паняція ня будуць імець, што “Стрялу” вадзілі... Як мы папамрём...”

[*Што за маладзіца?*]

Яна жыве ў Магілёві... Дак прыязжала сюда... На Радуніцу...

[*Вы сказалі, што некаму будзе пець?*]

А каму... Во Пашцы скажы... Думаіш, песні ўмея стрэлавыя?.. Людзі пяюць... І яна, можа, кудлыча... А так яна ня зная...

[*Вы самі для сябе пелі?*]

Я для празніка спела... Да і ўсё... Празнік... “Справеку, – баба наша казала, – і прабабы нашы вадзілі ету “Стрялу”. Усё баба казала: “Колькі свет – столькі і песні еты”. Я на празнікі багата знаю... Што мяне баба навучыла...

Будуць казаць: “К чаму етыя песні? К якому празніку?” Як пamрома мы... І ўсё... Багата ў Ветцы водзяць? Етыя... Такія, як я, іціць... Якся і стыдна... Скажаць: “Во ідуць, ганчаряць песні етыя.” Ці яны ім інцярэсны? Скажаць: “Дурныя ідуць... Сабраліся, да ідуць, пяюць па вуліцы...” Ета ж у дзярэўні знаюць, што празнік... А тут!.. Ета дзярэўня паршывая – Ветка!.. Горадам ужо назвалі... Ё тут шчэ людзі... Да ўжо стыдзяцца... Напрымер, Танька Варячкіна... Там жа вадзіла “Стрялу” ў Падкаменні... І к нам прыходзяць... А нашы туда пойдуць... І ціперь вадзілі б, калі б жылі там... Ета ж ідуць... Адзін аднаго знаіш... І марозаўцы вадзілі... А тута-ка вядзі, дак скажаць: “Во ідуць, ганчаряць...”

[*Ганчарачь?*] Ну, крычаць... Калісь ганчары як едуць... Па сёлах і крычаць: “Каму гаршкі? Каму гаршкі?”

## XV. Троіца

87. Пойдам у лес, усякіх цвятоў нарвом, прынясом. Заўтра Троіца, дак мы з каждага дзерава ламаім: толькі садовага не рвалі, а з дзікарастушчых мы ўжо ламаім па ветцы: з рябіны, з бярёзы і, асобенна, клён. І мы прыносім, у хаце, дзе можна, мы зелень етую накладалі. Тады баба звяжа яе. Мы: “Баба, куды?” – “А ета харашо ад пажара”. І панясе, і ў каморку палажа, а хоць на хату палажа.

## XVI. Купалле

88. “Дзеці, хадзіця ў лес за папараццю!” Мы, бедныя, ходзім, шукаім папарацъ. Не найдам. А што дзелаць? А там адзін хлопец быў, такі шустры: “Дзеўкі, шчас прыдумаім!” У лесе найдам які цвяток красівы.

Возьмя ён жыгальца[11], праколя, туды ўсодзя. Ідом. Баба старая: “Дзетачкі, ідзе вы былі?” – “А, во, купальскага цвета нашлі! Паглядзі!” – “Збряхалі. Папараць ніхто не знаходзя”. – “Мы знайшлі! Хадзі паглядзі: з папараці цвет. Папараць расцвіўся”.  Бабе нашай пакажам. Яна: “Ай-я-яй! Нада вам абманываць людзей?” Мы: “Баб, а чаго?” – “А сколькі людзі жывуць, папаратнага цвеціка не знайшлі ніхто”. І хадзілі і ноччу, у нас, там, сухоя балота, вырастая такі шырокі і адна сцябліна. І яна не цвяла. Усякія сарты папаратніка: два ілі тры.

89. Мы зналі, што Купалле, но там жа… ніхто ў Закружжы… Дак толькі баба пашле: “Дзетачкі,  ідзіця папараці ў двор, штоб скаціна, як з поля гонюць, так штоб жа, ета ж лета, і ў пуні яна вясіць. Дак яна ў пуні павеся, завяжа, бягіця к Купаллю, сёдня – Купалле ўвечары, дак: “Ідзіце ў лес да нарвіця!” Мы пойдзем, абярэмак нарвом, прынясома, у нас лес – блізка, прынясом, яна ўжо звяжа, павеся ў сараі. Ета, штоб не вяліся, калісь жа, што  шчыкоча коней – ласічка. Дак во, ласічка сядзя і на кароў. Калісь у мяне карова, вот стукая ноччы, я пуню адчыню, свет запалю: німа нічога, а карова стаіць мокрая, такая мокрая, як хто вадой. І вот расой такой, як раса. Пачала людзям казаць, яны гаваряць: “Вазьмі казінаю кожу павесь, у каго козы да лупяць. Яны запаху баяцца. І прыходзілі шапталі. Прыходзіла маладзіца, яна ўмела шаптаць. Нічога не памагая. Кажды дзень яна мокрая. А тады, казінаю кожу як павісела, усё. Ну і керасінам я абліла. І ўсё. Прыду – сухая карова. Што іе мучала? Хто кажа, што вуж абвіваецца і піў іе малака. [*Ласічка – яна сама па сабе альбо яе насылаюць?*] Ласічка, яна заводзіцца ў сараі, і еслі конь ці карова, садзіцца, штоб карова ня дастала, і яна іе шчакоча і шэрсць вырывая, і карова пацея ці конь, яна ліжа расу тую – на шэрсці раса. І калісь у калхозі жэрябец быў, дак конюх і кажа: “Хтось катаіцца ноч”. А бабы, там, старыя гаваряць: “Ня хтось!  А кожу нада павесіць”. Тады, у адне, там, маладзіцы былі козы, ён пайшоў узяў, брыгадзір гаворя: “Ідзі вазьмі”. І павесілі там на сцяну, прыбілі. І ўсё. Ня стаў жэрябец болей пацець. А ён тады ліжа пот еты.

90. Купалля. Ета ціперь ужо здзелалі празнік Купалля. А тады Купалля, баба скажа: “Сёдні дзень Купалля”. Ну і ўсё. “Ідзіця, дзеці, папараці ў двор прынясіця”. Яна клала папараць у сараі, утыквала. Папараці ж каровы не ядуць. Дак яна: “Бярыця, утыкнём!” Утыкня ў сцяну папараць тую, у хаці паложа. [*А для чаго тая папараць?*] Ета калі б счас бы – папытаў. А тады кладзе баба, ета бабіна дзела. Будзіма казаць: “Мам, баба, папараць вон прыняслі, дак панясла ў пуню!” – “Баба зная нашто!”

[11] Жыгальца – жыгала. Гл. зн. 5.

91. На Купалля, напрымер, ціпер, во, ночы ня спяць, абы гарэлкі напароцца, а тады ідуць, ну, Купалля, чорныя ягады ўжо ё, чорныя ягады спеяць на Купалля. Вот мы пойдзіма... Баба: “Дзеці, Купалля! Ідзіця ў ягады!” Мы ўжо сабіраімся, усі на пасёлку. У нас за гародамі балота перейдзіш – ягады – вот аж чорна! Ідзе цвяток зрываіма, прыносім, увечары матка нам з цвятоў, тады ж багата – люцікаў, усякіх званочкаў – нарвома на поплаві, у лясу цвятоў... Прынясом, баба і матка ўжо вяночкі плятуць нам на галоўку: мне, Тусі, Машы, Ягору – хлопец – усё адно вяночкі ўсім. Яны сядзяць, “Купалінку” ету пяюць.

92. *Купалінка-Купалінка,*
*Цёмная ночка,*
*Цёмная ночка,*
*Дзе ж твая дочка?*
*Мая дочка ў чыстым полі,*
*Белу ружу поля,*
*Белу ружу поля,*
*Белы ручкі коля.*
*Купалінка-Купалінка,*
*Дзе ж твая дочка?*
*Мая дочка ў цёмным лесі*
*Травы сабірая,*
*Травы сабірая,*
*Дзетачак купая.*
*Травы сабірая,*
*Дзетачак купая.*
*(Вот якся ж, што ў лячэбных травах дзетачак купая.*
*Купалінка-Купалінка,*
*Дзе ж твая дочка?*
*Мая дочка па лясу гуляя, лячэбныя травы дзеткам сабірая. Лячэбныя траўкі дзеткам сабірая і малых дзетак у купелі (начоўкі такія) купая).*
*Купалінка-Купалінка,*
*Дзе ж твая дочка?*
*Мая дочка ў лужочку*
*Цвяточкі зрывая,*
*Цвяточкі зрывая,*
*Вяночкі сплітая,*
*Дзеткам надзявая*
*(Маленькім дзеткам*
*На галоўкі надзявая.*
*І ў чыстай рэчыцы галоўкі абмывая).*

93. Па-свойму... У каждым... А ў Падкаменні не так пелі. Штось трохі, ну, ня так. Ета Мар'юшка ўсё хадзіла к нам, у іе дваюрадная сястра тут жыве, дак яна хадзіла сюда. Прыдзя, гаворя: "Прышла ў Амяльноя ў пірагі. А то ў ягады німа ўрэмя хадзіць, дак я не хадзіла, дак прышла ў пірагі". Тут жа ўсі: "Ой! Госць прышоў!" Тут Падкаменне ад Амяльнога... Куры тыя сюды заходзяць крайнія... Людскія... Дак яна прыдзя. "Госць к нам прышоў!" І ўжо пірагоў ёй дадуць есць, і дамоў дадуць. А сюда дак сабіраюцца ўсі. Ну, інцерэсна, дзе багата людзей... На сярёдак. А ціперя-ка із-за гарэлкі сабіраюцца. Дак Мар'юшка пряпае сваю, у яе голас тож харошы быў... Штось трохі да ня так. Яна гаворя: "Я ўмею пасвойму і па-вашаму".

94. *Купалінка-купалінка, цёмная ночка,*  
*Цёмная ночка, і дзе ж твая дочка?*  
*Мая дочка ў чыстам полі белу ружу поля,*  
*Белу ружу поля, белы ручкі коля.*  
*Купалінка-купалінка, і дзе ж твая дочка?*  
*Мая дочка ў цёмным лесе травы сабірая,*  
*Малых дзетак у купелі яна вымывая.*  
*Купалінка-купалінка, і дзе ж твая дочка?*  
*Мая дочка ў лужочку цвяточкі зрывая,*  
*Малым дзеткам на галоўкі вяночкі звівая.*  
*Купалінка, раскажы нам, дзе доч ноч гуляя*  
*І з якою цішыною яна размаўляя.*  
*Мая дочка ў цёмну ночку спаці не лажыцца,*  
*З лесам, лугам і травою ходзя Богу маліцца,*  
*Травы сокам напаўняя, цвяточкі медуніцай,*  
*А дамоў яна прыходзя да ранняе зарніцы.*  
*Травы ўсе на зямле Божэй усіх ісцаляюць,*  
*А цвяточкі медовые здароўя прыбаўляюць.*

## XVII. Пятроў дзень

95. Пятроўка – ета галадоўка. Жыта не паспея, і ў цябе німа змалоць... Дажы бульбіны, і хлеба... І сядзі на холадзі, на голадзі...

96. Стану думаць пра Пятроў дзень. Думаю: "На Пятра пчолы мёд насілі ўжо ваўсю".

*Забалела галовачка,*
*Лягла ў пясок (ці ўпала ў пясок),*
*Ляцела пчолачка*
*У лес па мядок (ці ў поле),*
*Зламіла крылышкі,*
*Зламіла нагу,*
*Хацела ўзлятацца,*
*Больна! Не магу...*
[Вот ішчэ стоўбік ё...]

97. [*Вы сказалі: "Венікі да Пятра вяжуць..."*]

Да Пятра вяжаць. А такія трутні, яны ўжо могуць і ціпер во, як абсыпаяцца.

[*Хто вам сказаў, што да Пятра?..*] Ета ўсі людзі знаяць, што да Пятра... Ну, напрымер, Пятро ў скрысенне будзя, што ўжо за етыя дні, штоб на Пятра ўжо венічкі віселі.

[*Чаму да Пятра?*] Гаворяць: "Пятрок атрывая лісток". Баба казала наша... Ад каждаго лісток... І ўжо пуста там.

Ну атрывая ветрам. Ён ужо прападая. Так во ўсё казалі: "Пятрок атрывая лісток". Ета і баба наша казала: "Ідзіця, дзетачкі, да Пятра. А то прыдзя Пятро... Яна ўсё казала: "На парозі ўжо вон стаіць святы Пятрок, атрывая ўжо з бярёзы лісток". Мы: "Хоць заўтры пойдзім!"

## XVIII. Трава-дзераза

98. *Прышлі ў цёмнінькі лясок,*
*У кудрявы верясок.*
*Там зялёная трава,*
*Называлась дзеряза.*
*А на ёй таўкачыкі,*
*Як на руках пальчыкі.*
*А ў пальчыках пылок.*
*Мы ім раны прысыпалі,*
*Раны быстра прысыхалі.*

Сабіраяць... Май, іюнь... У начале... Чысла пітнаццатага... Пасярёд іюля... Чысла з дзісятага-пітнаццатага яго ўжо ірваць... А як жара прыпячэ, яны растапырываяцца... Ад цёплага, еслі жаркае сонца... І пылочык высыпаіцца, далоў высыпаіцца, яны пустыя стаяць... А тады ўжо... Зіму чарнеяць, а на лета... Яны такія длінюшчыя... Ё і па дзесяць метраў, і паўзуць... Мы гаворым: "Ой, каза-дзеряза!" І на ёй таўкачыкі

адзін ад аднаго (паказала санціметраў пяць) будуць рэсць і рэсць, і рэсць. Іх атрязаіш, атрязаіш і кідаіш, хоць із кляёнак із старых сумкі шылі, а то з вёдрамы хадзілі... А тады ўжо прыносілі дамоў, і баба на печ газеты... На дварэ няльзя... Чуць вецярок... Ён, як вада, у рукі вазьмі... Палядзіш, ужо німа... Такі слізінькі.... Называіцца *цякун*... Выцякае... І ён харашо, як абпарышся, жару адягвае, уталяе, што яно не баліць... Як абязболіваюшчыя ўколы. Калісь прымалі, дваццаць пяць рублей кілаграм быў. Матка насыпае, даёнка ў нас такая была, што кароў дояць... Матка ў чысцінькаю... Малако туды не... Матка купіла для цікуна. "Дзеці, давайця ў цякун!" Вот нагнуўшы дзень, пакуль не нарвом сумку і два вядры. Дома ўжо баба расцілала газеты... Печ гарячая... Чарэнь... Летам... і печ жа кажды дзень тапілі... Яна... штоб газета на газету харашо зайшла, штоб не рассыпаўся... І накладая пальцы ў два ішчэ і прыкрывая. Ён пасохня, а тады бярэ відзёлачку чыстаю і падтрухвая яго. Ён ужо сухенькі... Пакеты здзелая і туда, ішчо відзёлачкам пашахая, марлю ў дзве рэдзі, і паставя даёнку, абвяжа і сыпя. Мусар астаецца, а ён выцякая, як вада... І тады чысцінькі – адзін жоўцінькі пылочык там. Матка закрывая, завяжа... Вязе... У Ветку вазілі, здавалі... Будзя чатыры ці пяць кілаграм: глядзі-ка!.. сто рублей. Яны падтрухваюць, ён і так лопаіцца, сам выцякая... цёпла... Яны ляжаць, таўкачыкі, абы як ляжаць... еслі каторы ляжыць вярхушкай уніз, ета ўжо – усё. І тады бярэш пёрышкі, у каго гусі, прыходзяць, просяць... Баба наша цэлы пук дзяржала гусінага пер'я... З крылляў... З хваста не... З крылляў самыя буйныя, яны ж такія, не прапускаяць... Як ложкай бярэш іх і сыпіш па ране...

[*Дзераза называлася па-вашаму. А па-кніжнаму як?*]

Уродзе, плывун. Ён плыве... Хто кажа: "Пайдзёмця ў плывун"...

[*Яшчэ раз: калі яго трэба збіраць?*]

У іюлі... Пітнаццатага іюля ўжо нада сабіраць. Патаму шта лета... Іюль... І аўгуст жаркі... Яны спеяць... І яны жоўцінькія стаяць... Сцябло зялёнае, а еці жоўцінькія... Яны высыпаяцца... І ўжо начынаяць чарнець... З жоўтага чорны... І яны ўжо прападаяць... З дзісятага – пітнаццатага іюля нада сабіраць... Яны ў срок абсыпаяцца...

## XIX. Макавей

99. Баба мак, цвяты, моркву хадзіла свяціць. Ішчо помню, як цэрква была да вайны, дак яна хадзіла. А тады пры немцах, дак хадзіла... Свяціла Іванава матка, іё пападзьёй звалі, дак хадзілі к ім, яна свяціла... На Макаўя. (Распавядаецца аб падзеях, якія адбываліся ў доме, дзе знаходзіцца "Ікона "Свяча").

## XX. Бабіна лета

100. Ціпер німа яго. Ета калісь у нас у дзярэўні бабскае лета ўсі зналі. А то вот прыкрацілася. Павуціння лятая... Цёпла-цёпла... У канцы... сенцябірь... У начале акцября... Дак ета "баб'е лета"... Лятая павуціння... А што на поплаві... у нас за гародамы хаты, тады гароды, а тады загароджваюць гароды, штоб коні ні ішлі, каровы... Ужо поплаў.... Дак там і на дзірэўях... павуціння... Адкуль яно бярэцца... Пааснована... Ідзеш, дак аж белыя ногі будуць... Буркі... штаны. Такоя павуцінне лятая... Гаворяць: "Во бабская лета... Павуціння лятае".

[*Чаму так называецца: "бабскае лета"?*]

Ня знаю... Усі так гаворяць: "Скора бабскае лета". Мы: "Баб, калі бабскае лета?" А баба і гаворя: "Бабскае лета Бог ня скрыя, а дасць". Ну бабскае лета... Дзе мужчыны ё, дак скарэй упраўляцца... А як у калхозі даюць у канцы сінцября сена... Дак ішчэ не ўправуляцца... Мужчыны пакосяць, а ёсць бабы адзінокія... Самы косяць... напрымер, і ў калхозі кароў падаю... Да дамоў беч скарэй... Што-нібудзь прыгатоўлю... Касу і іду касіць... І не адна... Багата баб послі вайны было... Удоў... нада самой пакасіць і параскідаць, штоб скарэй сохла... Усюдых адной... а мужчыны... Ён кося, дзеці ці жонка раскідая... Помач была... Багата было баб... Мужчын папабіла...

Вот бабскае лета... Грябом сена... было, што і марозы... Вецер халодны... і граблі... У вязёнках... І гряблі сваі пожні...

## XXI. Спас

101. На Спаса і мёд, і ўсякія фрукты. Вот іе і завуць Спасаўка-ласаўка. Асобенна мёд купляяць, яблакі, у каго яблак німа.

Баба век яблака... Колькі пражыла, гаворя: "Я яблака да Спаса нікалі дажа і не пазавідавала. У мяне дзетачак там багата, на тым свеці, дак ня буду есць яблака. Пасвячу, і ўсё". Ездзілі свяціць дажэ яблакі, цэрква была, закрылі кумуністы, дак у Вылева ездзіла. "Ці пойдзім, дзе бабы свецяць, каторыя займаюцца етым[12], тады ўкушу яблака. А як жа? Гасподзь Бог будзя даваць к Спасу ўсім па цэлым яблачку, а маім дзеткам, што ўкушу, па таком скрылёчку будзя даваць. Дзеткі маі будуць плакаць, а чужыя будуць есць".

[12] У дадзеным выпадку Варвара Аляксандраўна мае на ўвазе дамы, дзе знаходзіліся "Іконы-Свечы". У гэтых дамах, там, дзе ў вёсках не было храмаў, адбываліся некаторыя таінствы і абрады.

102. **Спаскае крашчэнне дзетак.**

*На Спаса Мацерь Божжая каля рэчкі хадзіла,*
*Неахрышчаных дзетак за ручкі вадзіла.*
*Божья Мацерь к рэчкі падхадзіла*
*І Госпада Бога прасіла:*
*"Нада нам у чыстай рячыцы*
*Дзетак пахрысціці ў вадзіцы".*
*Гасподзь на Спаса яблачкі свяціў,*
*Някрышчаных дзетак у рэчкі хрысціў.*
*У чыстаю рэчку ўкунаў*
*І цёплым ветрам абціраў,*
*У райскі сад дзетак прывадзіў,*
*Свечаныя яблачкі ўсем дзяліў,*
*Спасаўскім мёдам прачашчаў,*
*Божжыя праскуркі ўсем даваў*
*І на галоўкі крэсцікі адзяваў.*

Ету малітву ўсё казала баба: "Дзеці, вазьміця і прагаварыця – сёдні Спас, дак ету малітву".

103. [*На Спаса дзетак хрысцяць?*] Гасподзь Бог, ета Гогаль усё казаў, у іх там, фамілія – Гогаль была, дак гаворя (баба Алёна): "Дзеткі мае някрышчаныя, усё раўно, я на кладаўё іх клала, адзін паўз адзін". Дак ён гаворя: "Гасподзь на Спаса яблачкі свеця і дзетак крысця. І чыя матка да Спаса яблакі есць, тому палавіначку Бог даець. А чыя матка не есць, тому цэлае яблачка". І вот баба колькі жыла, нікада да Спаса дажэ ў рот не брала. Матка здзелая кампоту, яблак накрыша да гаворя: "Вон, падсаладзіця да ешця!" А баба ня будзя. "Баба, ну, еш! Ета ж варэныя". – "Усё раўно, тут яблакі ё. Штоб маім дзеткам давалі цэлая. А то будуць мае дзеткі завідаваць. А ў мяне іх сем – чэцвёра нежывых нарадзілася да трое жывых памерла. І Маша, у мяне сястра, Віцька ў яе памёр, і яна і ціпер, ішчэ ж маладая, первы Віцька быў, да памёр, і яна нікада ня есць яблака. Ігрушы, дак можна есць, дак яна ігрушы еслі… а яблакі яна ня ела, гаворя: "Не. Усім дзеткам Гасподзь Бог на Спаса будзя яблачкі дзяліць, а майму палавіначку толькі. Дак будзя Віцька хадзіць да плакаць, казаць: "А палавінку матка з'ела да Спаса". І ў Томкі Лідка памёрла. Яе не хрысцілі, ні што. Баба калісь і кажа: "Мая ўнучачка, яе Гасподзь на Спаса пахрысця".

"Нармальныя дзетачкі, – кажа, – нармальныя, я іх не закапывала так, а грабочык дзелалі, дзед здзелая, і панясу на кладаўё. Ета божжыя, даў мне Бог, і палажу... На канаві не клала, а клала, там месца заняла і клала.

[*На канаве каго кладуць?*] Кажуць, няхрышчаных дзяцей на канаві нада класць, штоб з хрышчанымі не быў. А баба мне і кажа, што Мацерь Божая кала рэчкі хадзіла і ўсіх дзетак хрысціла і Бога прасіла...” На Спаса, як яблакі свецяць.

## XXII. Здвіжанне

104. “Уся ета гадасць: і вужы, і гадзюкі, і яшчэркі хаваюцца на сваё зімоўе на Здвіжанне”. Так прабаба казала, бабы нашай баба казала, хлопец быў, гаворя: “Пайдземце, цёплы дзень, пайдземця на Здвіжанне ў лес. Паглядзім, як будуць вужы тыя поўзць. Ета ўсё – бряхня! Я буду первы іціць”. Ну, і пашлі. Хадзілі-хадзілі, зашлі, гаворя, сасняк, такі тоўсты, бальшы, зашлі туда, гаворя, і перяд намі вываранень, як дзерава буряй, гаворя: “Мы тут і атдыхном! І паглядзім, гаворя, вось штось такоя”. Такі клубок, здаровы, бальшы клубок, і шатаецца. І, гаворя, мы падышлі туда, хлопцы і дзеўкі калісь, ета ціпер ерунду нахальнічаюць і ўсё, а тады было благапалучна, етага яны ні дзелалі. Дак гаворя, качаецца, мы бліжэй падышлі, ён гаворя: “Во! Ішчэ і находку найшлі!” І падышлі, і ён, гаворя, рознымі колерамі, цветам разным, і зялёным, і красным, і пакачываецца. Мы глядзім, ён гаворя: “Я пайду счас, за яго, прынясу вам сюды”. – “Ня йдзі!” І ён, гаворя, не пайшоў. “Ты ж не знаеш, што ета! Ня йдзі!” Паглядзім: ішчэ паўзуць вужы. Як, гаворя, паўзлі, ён качаецца, і яны па адном, і так шчытна ў ряд кладуцца, а мы глядзім, і звіваюцца круглым клубком. Дак мы, гаворя, пастаялі, тэй смяльчак і кажа: “Ой! У мяне мароз па шкуры. Пайдземця скарэй уцякаць”. І пабеглі. Адбегліся: “Давайця паглядзім!” А ён усё качаўся. Як бы ціпер сфатаграфіравалі. А тады… Дзе тэй клубок? Мы пабеглі, а адзін там быў: “Скарэй! Ён за намі гоніцца!” Дак мы, кажа, без аглядкі выскачылі на поле. Каціўся ці не каціўся? Можа, брахаў нам. Ну, і ні знаім, дзе той клубок. І з тых пор сказаў: “Ціпера-ка буду верыць старым, хто будзя што казаць”.

105. [*А баба не вучыла словам, як у лес ідзеш?*]
Мая баба ня ўмела, а тая крываротая баба, яе і звалі – баба Крываротка, вот жана яго памёрла, баба асталася расціць дзяцей, ён сказаў: “Расці дзяцей у мяне”. Дак яна і жыла ў іх. Дзяцей тых расціла. Дак усё ў ягады красныя бегалі, ды ўсюдых босыя бегалі, яна і кажа ўсяму нашаму пасёлку, длінны, бальшы быў пасёлак, і гаворя: “Хто будзя іціць у лес босы, заходзьце ка мне”. Вот мы ўжо і заходзім за іхнімі, у іх быў Мішка, і Ванька, і Танька, заходзім, яна выдзя, кала нас стаіць, рукамі

махая, гаворя, а нам жа ня анцірэсна: “Баб, скарэй гавары, а то ў ягады пойдам!” Ну, і пойдым. Яна: “Ідзіця, дзетачкі. Вас нічога ня ўкуся. Ідзіця”. І, босыя, ходзіма. І нічога ні ўкусывая нас. А штоб ета папытаць у тыя бабы, так ні анцірэсна была малым. Мы, такія – па восем гадоў, да дзесяці, і па дзвенаццаць гадоў. А яна шаптаць усё шаптала. Укуся змяя, там, адна ішла на сенакос, босая, па сцежцы ішлі, і яна ўкусіла, яна прышла пакуль да бабы, кіламетры два была, ужо і нагу разнясло. Яна пашаптала, тая баба, гаворя: “Паляжы. І ўсё пройдзя”. Яна дужэ шаптала.

Калісь мы пашлі ў лес. Тут, Шура сівенская[13] і я. У курачкі пашлі. Яны рана тады параслі. Яна гаворя: “Хадзім вон туды”. Мы па *Зладзейцы* і пашлі. (Называецца месца, тут, у Ветцы – Зладзейка. Казалі, лес быў сасняк, бальшы, і кралі лес ноччы. Леснікі назвалі: Зладзейка). Ну дак, яна гаворя: “Пашлі!” Прышлі: курачак багата. Яна прайшла далей: “Хадзі сюда! Тут ішчэ болей!” А я гаварю: “Ніхай. Я тут браць буду”. І так прайшла метраў двадцаць, а там яны – сцішба! Адзін кала аднаго, курачкі да пятушкі – грыбы! І падыходжу туда. Ляжыць вуж, во такі здаровы. І падняў во так во галаву ад зямлі, стаіць і сіпіць. Я спужалася да гаварю: “Шура! Шура! Хадзі-ка сюда!” І заву тую Шуру. Шура падышла: “Чаго ты? Ці воўк напаў, ці напаў мужчына які плахі?” І яна скарэй ка мне шыбка так прышла: “Чаго ты?” Я гаварю: “Паглядзі-ка, які вуж, тоўсты, здаровы. Ён жа ўкуся нас”. Тая стаіць і кажа: “Ня абрашчай вніманія. І ні чапай. Ён такі вуж, як і мы з табой”. І яму: “Паўзі сваёй дарогай, а мы пойдзема сваёй. У цябе свая дарога, у нас – свая. Мы пойдзем”. Прагаварыла, і ён галаву апусціў, і там беразнічок, і ён у той беразнічок і папоўз. “У каждага, – гаворя, – свая дарога. Не чапай, і яно цябе не троня. І мы пашлі. І да вечара хадзілі, і ўжо не бачылі нічога. І панабіралі і карзіны, і сумкі. Дак я кажу, убачыш іх, кажы: “Ідзі сваёй дарогай, а я буду сваёй”.

## XXIII. Піліпаўка. Піліпаўскі пост

106. Вот... Піліпаўку знаіш? А тады за Піліпаўкай Каляды ідуць... Каляды, а тады шчадравая нядзеля... Гаворяць: “Піліп дзяцей адзяе”. Патаму шта прядуць людзі. Ужо начынаіцца Піліпаўка, самапряхі выносяць, кудзелі дзелаяць, садзяцца, баба перяхрысціцца і кажа: “Полячка, давай за дзела занімацца. Піліп дзяцей адзяе”. І прядуць ужо... Ночы длінныя... Штоб ужо к Ражаству лён папрясць. А тады ўжо ткаць.

[13] Жыхарка в. Сівенка Веткаўскага р-на.

# XXIV. Жніво

107. **Першы зажон.**

(а) Штоб яна была чыстая, штоб яна адмылась, дзеўка, штоб маладая была, штоб кала яе не было, штоб на рубашцы не было. Штоб яна яшчэ не фарміравалась. Каля нас, там, дзяўчонка зажынала. Аны гаворяць: "Ну, каму зажынаць? Ніхай маладая зажне ў гэтым гаду". – "Ну, ніхай!" Каму тут? Штоб толькі не абтряхалась тая дзеўка, штоб была чыстая.

(б) І ў калхозе так, штоб бабы чыстыя, усягда бабы чыстыя, і штоб яны счыталісь не грэшныя, і пераадзяваліся ў чыстая. Была баба – Проська Амерыканчыха, яна ва ўсё чыстая, сарочкі накряпляныя, красіўенныя, навышываныя, ва ўсім празнічным, чыстым надзявалася. І ідзець яна, бярэ серп, лустачку хлеба, соль, тряпачку чыстую. Ідуць на паласу, у нас – прэдседацель, дак сперва ідуць з етай жэншчынай, гаворяць: "Давайця пойдзем паглядзім, ці можна жаць жыта". Яны павядуць яе, абойдуць, і яна кажа: "Нада яшчэ нядзелю падаждаць. А что ж мы зглумім хлеб – да і ўсё?" Із райкома нацiскалі, штоб была пахвала ім. А яны, мужчыны ёмкія ў нас былі, гаворяць прэдседацелю: "Нам нада здзелаць так, штоб хлеб у нас быў – і вес, і качаства. І людзям будам даваць. А што ж мы пераглумім? Няхай яшчэ нядзелю стаіць!" Тады зноў прыходзяць, глядзяць, ці можна жаць, ці няльзя. Возьмуць жэншчыну і кажуць: "На зубу не раздаўліваецца, не раскусіш – можна жаць". Прыходзяць, штоб баразёнка была. Кажуць: "У баразёнцы Маць Прячыстая з Хрыстом ляжыць". Яна бярэ хлеб і соль, кладзе ў баразёнку і гаворя: "Госпадзі, я вам кладу хлеб з соллю, а вы нам ураджай давайця, штоб ён не згніўся, не паваліўся, штоб мы яго воўрэмя ўбралі, штоб даждзямі не залівала. А тады бярэ серп, адрэжа тры жменькі: адну жменьку, і другую, і трэццюю. Дзелая вязьмо. Вязенца здзелая, пeряхрэсціцца: "Госпадзі, памажы! Снапок нажне і звяжэ. Ета ўжо зажалі яны. І ўжо прэдседацель: "Зажалі жыта. Заўтра можна іццi жаць. Проська Амерыканчыха зажала. Можна іццi жаць". Тряпачку і хлеб астаўляюць. Соль на хлеб і тряпачку з мужчынскага рукава. [*Чаму мужчынскага?*] Казалі, мужчына – галава ўсяго. Усё тое кладуць... Ці вароны з'ядуць, ці пціцы, ці сабакі – хто з'есць. А мы, дзеці: "Пойдам Божжага хлеба. Вой, пабягім! Хоць бы вароны ня з'елі!" Прыбягім, украдзем той хлеб. Прыдзем, матка будзе пытаць: "Дзе вас чэрці ганялі?" Мы глядзім, ета ж Божжы хлеб. Возьмем яго па лустцы. Паядом. А мы не ўправімся, напрымер, вароны паклююць. Раз прыбеглі мы за хлебам тым – вароны ўхвацілі. Сварымся на варон, што з'елі. Толькі ў васкра-

сення не зажыналі. Считалі: “маё” жыта, “мой” – чацвер – “мужчынскі”, а жыта – “маё”. Ані ўжо ў аўторак зажыналі.

(в) Зажынаць бабы старыя хадзілі, прыбіраліся, усё празнічная надзяюць. Снапок нажнуць і паложаць. Надзенуць сарочкі навышываныя, накрапляныя. У вадныя кабат быў, чорны, красным паабшываны. Прыбраныя ішлі, як у цэрькву. Прыдуць, памоляцца Богу, каждая па жменьцы нажне, у снапок паложаць. І ляжыць. Пойдуць жаць, хто там жне, тэй і ў ababak паставя, а хоць прэдседацель забярэ ў канцэлярыю.

Усё баба казала ці матка, як жыта паспея: “Нада іціць жыта зажаць на агародзі. Ідзі-ка, дак сёдні сажнём жыта, дак ідзі зажні”. А мы, Туся, Маша і я: “Мы пойдзіма зажном”. Яна гаворя: “Мацерь Божжая ўжо малітву прагаварыла, і жыта на полі зажала, і ў баразёначцы паляжала”. І вот у калхоз ішлі зажынаць, а ўсё раўно чыста надзяваліся, як у празнік, як у цэркву, і ішлі баб сколькі – зажынаяць жыта. Па жменьцы: адна жменьку нажне, другая, і на баразёнцы снапок паложаць.

Усё калісь прыдзя  прыдсядаціль: “Баба Алёнка, хадім-ка палядзім: “Можна жыта зажынаць?” Баба гаворя: “Пойдзіма счас палядзіма!” Пойдзяць перва паглядзяць, яна і скажа, калі сярпок возьмя, тряпачку, хлебца, солькі, і пойдзя. Абойдуць, палядзяць. “Можна зажаць?” Яна скажа: “Можна!” А еслі на зуб возьмя, мягка раскусываіцца, каласок выцягня, бубачку, і скажа: “Няльзя шчэ – мягкая жыта”. Амерыканчыха баба, наша баба  і ішчэ адна – старэйшых баб. Дак  яны і песенку прапяюць жніўную.

Усё надзівалі чыстая, як у цэрькву, царькоўная ўсё надзівалі. “Божжы хлеб”, – яны считалі. Ета як вялікі празнік. І пройдуць зажнуць, вязенца здзелаяць, снапочык нажнуць, каждая па жменьцы. Адна жменьку нажне, табе даю, ты вязьмо дзелаіш... І снапочык нажынаяць.

Як зажынаяць, хрястом дзелалі калісь жменькі і вязеньцэ здзелаяць, паложаць. Я гавару: “Я вязьмо на агародзі вазьму!” – “Не чапай! Ета верабʼіная!” Там і ляжыць. [*Што значыць верабʼіная?*] Штоб верабʼі тыя каласкі аббіралі. [*Крыжыкам зрабілі і паклалі?*] Да. Там і ляжыць. Яны яго аббіруць.

(г) Матка: “Пайду зажынаць!” Баба: “Ідзі. А ўжо Мацер Божжая зажала жыта”.

[*Як гэта “Мацер Божжая зажала”?*]

Гаворяць: “Мацерь Божая ўжо каласок атарвала і бубачку паспытала. Яна крэпінькая, значыць, жаць можна”. “Мацер Божжая – яна зажыная жыта, – баба ўсё казала, – нада жаць ужо на агародзі: сухоя зярнятка”. [*Яно што, відна, што яна яго зажала?*] Мы гаворым: “А пачом ты, баба,

знаіш?” Яна гаворя: “Мацер Божжая кладзе...” Ну, я не бачыла... А ўсё тады казалі, на растаньках, во дарога, на еты бок – бульба, а на еты – жыта, і дарога, і так дарога, растанькі называяцца, так во ўжо кала жыта на растаньках вязенца ляжыць... Ужо Мацер Божжая зажала.

(д) Бабы, толькі бабы чыстыя, штоб менструацыі не было. Такія зажыналі.

108. **Першы сноп.**

(а) Аставаўся той снапок да заўтряга, ідуць жаць, і абабкі ўжо носяць, а яго становяць. Дзень пажалі і забіраюць у калхозную канцэлярыю. [*А раней?*] Раней кожны забірае сабе, як аднаасобна былі. Каторыя к сцяне падвесяць, і да следушчага года стаіць. І яшчэ казалі: “Із гэтага снапка нада курыцу-квактуху карміць, кідаць, як яна заквохча”. Каласы етыя кідаюць, штоб яна выводзіла цаплят. І ў гняздо кладуць. Наша баба, кляшчоткі былі – лён мялі, на кляшчотку паламае, паламае, штоб мягкая, і дае курыцы, а курыца ў гняздо пацягая.

(б) На Кут паставя. А тады ўжо да Куццi. А тады снапочык тэй... Штось яна дзелала... Курям жменьку сыпала... “зажынаты снапок”. А тады, як Куцця, яна возьмя куццi і тых зярнятак цярушыць, сыпя ў яду курям, і яны падаўбуць. [*Не казала, для чаго?*] Можа, і казала што-нібудзь...

109. **Барада.**

Дажынаюць жыта ўжо паследняя, прыносяць цвятоў, дзе ў каго назрываюць. Яны ўжо нас пасылаюць, дзяцей: “Бараду сёння будам віць”. Етыя сажнуць каласкі, паложаць пад бараду. Ета кругла аставяць. Дажалі, напрымер, і астаўляюць паследняя на ражку. І возьмуць краснай лентачкай, штоб толькі краснай, абвяжуць зверху. “Баб, а для чаго красная?” – “Штоб ніхто рукі не парэзаў. Краснай лентай, штоб кроў не пралілась нічыя”. І барада стаяла на поле. І ўкрасяць да самага верху цвятамі. І яшчэ астаўлялі другую. Пад бараду дзелалі вянок. І бяруць тэй вянок, прыносяць прэдседацелю: “Вот мы на бараду іздзелалі вянок, а вы на бараду дайце гасцінец” [*А як было раней, да калгасаў?*] Прыносяць бацьку і матцы. Жне матка і баба, а маленькія памагаюць, бараду дзелаць. Ета вялікі празнік. Бараду дзелаюць і счас ужо прыносяць бацьку. А бацькі нет, дак у нас дзед быў, Майка – Мішка, дак ён у Амерыцы быў, нясом: “Дзед Майка, паглядзі, мы бараду нясом!” – “Падаждзіця!” Счас пойдзя, лусцінку хлеба выносяі кажа: “Вот вам за бараду! Нясіця пастаўце ў Куце”. І яна на Куце стаіць. Зімуя.

110. **Барада.**

Бараду, як усё жыта сажнуць, дак дзелалі бараду і ў калхозі. А тады нясуць прыдсідацелю. А так дома прынясуць тую бараду. Ужо стаіць яна: адна на агародзі, а другую ў хату прынясом. І кала ікон паставім. І яна ўся ў цвятах, кругом, як кудзеля, у цвятах. Дзелаім красіва. Матка наша паказывала нам і сама дзелала. З усякіх цвятоў. Тады рожа[14] была, бальшыя цвяты – і розавыя, і белыя, і жоўтыя – усякія бальшыя цвяты.

Я, напрымер, жну паласу, брыгадзір скажа, ён зная аб’ект, сколькі там асталося: “Сёдні ў нас абжынкі”. Васількоў нарвом, зрання панарываіма. Ціпер чось васількоў німа, травяць усі травы. А то васількоў, чыстацел нарвом... Знаіма, што сёдні ўжо бараду будзім весць. Брыгадзір прыходя: “Ну, звіла ты бародку на сваёй паласе?”

[*Тое, што дамоў прыносілі, таксама казалі, што барада?*]

Да. Барада. Усё раўно – барада.

І ў калхозі прынясом. У канцэлярыі стаіць яна да новых венікаў.

[*“Да новых венікаў” – гэта як?*]

Чагось каліcь гаварылі: “Будзя стаяць, пакуль новыя венікі парастуць. Пакуль – вісна”. І яна стаіць, тады ўжо прыбіраюць.

[*А хто так казаў: “Да новых венікаў”?*] Усі казалі: “У нас будзя стаяць да новых венікаў. Пакуль новыя венікі рэзаць”. [*Так толькі на бараду казалі?*] Ну, і так што-нібудзь, яны гаварылі. Я знаю, што матка наша без канца. Каліcь спім, яна будзя, гаварыць: “Падымайцціся, а то да новых венікаў будзіця спаць: не разбудзі вас!”

А бараду – верьх сажнеш, штукі два пад ніз паложыш каласкі, а то разнымі тряпачкамі і цвятамі. Толькі жыта. А пшаніца і ячмень не.

111. **Залом.**

Усё каліcь казалі, як ідзе жыта заломаная: “Мацер Божая, хто заламіў, той ніхай і разломе!” Выжыналі той залом і набак кідалі.

112. *Закацілася да й жаркая сонейка*
*Да й за лес жа, за лясок,*
*Ты прыбудзь-ка, прыбудзь, Генадзій мілінькі,*
*Да й хоць прыбудзь на часок.*
*Да й раскажы-ка ты мне да й усю праўдачку,*
*Што ня можа ніхто знаць,*
*Да й раскажы-ка ты мне да й усю праўдачку,*
*Што ня можа радная маць знаць.*

[14] Ружа.

113. *Мая мамачка, мая родная,*
*Малады Ванька*
*Да краснаю Варварачку да ў цярамок павалок,*
*Да павалок, павалок чэраз цёмны лясок,*
*Толькі чутны галасок.*
*Ой, не журыціся вы, добрыя людзі,*
*Да ніхай серы валачэ.*
*Ой як выкачу я бочку,*
*А другую віна,*
*А штоб жы мая да святая Варварэнька*
*Ды ад ваўка ўцякла,*
*А штоб жы мая да святая Варварэнька*
*Ды не парваная воўкам была,*
*А штоб жа яна да здаровенька і са мною была.*

114. *Гаварок, гаварок,*
*Малады Ванька.*
*Ой, ён верны гаварок.*
*– Ці даўно жа тваю прэкрасную Варварачку*
*Да серы воўк павалок,*
*Да павалок, павалок*
*Да цераз цёмны лясок,*
*Толькі чуцен галасок.*
*– Ой, не тукайця вы,*
*Да добрыя людзі,*
*Ой, ніхай серы валачэ.*
*Ой, як Бог судзя,*
*Да яна мая будзя,*
*Да яна ад ваўка ўцячэ.*
*Ой, як выкачу я*
*Да й бочку мядочку,*
*А другую віна.*
*Ой, што бы ж мая прэсвятая Варэнька*
*Да й здаровенька была.*
*Ой, да што ж бы яе да буйная галоўка*
*Ды не забалела.*
*Ой, што ж бы яе да ліцо беленькая*
*Ад сонца не загарэла.*
*Ой, што ж бы мая прэсвятая Варэнька*
*Да здаровенька была.*
*(Воўк. Можа, чалавек. Бяруць жа красівых дзевак*
*і крадуць. )*

115. *Гаварок, гаварок,*
*Малады Генадзій.*
*А ён верны гаварок.*
*Ці даўно ж-та твою да маладую Людмілу*
*Серы воўк у лес павалок,*
*Павалок, павалок*
*Цераз цёмны лясок,*
*Толькі чутны галасок.*
*– Ой, не тукайця ж вы,*
*Да добрыя людзі,*
*Ой, ніхай ён валачэ.*
*Ой, як выкачу я*
*Да й бочку мядочку,*
*А другую віна.*
*Ой, што бы ж мая красная дзевачка*
*Да й здаровенька была.*
*Ой, што ж бы яе да ліцо белая*
*Ад сонца не загарэла.*
*Ой, да што ж бы яе да буйная галоўка*
*Ад жары не забалела.*

116. *Ой, я рана змагла ўстаць,*
*Пашла ў поле жыта жаць,*
*Як пашла я жыта жаць,*
*У баразёнку лягла спаць,*
*Баразёнка вузёнка, я ж не ўмясцілася,*
*Была ночка каротка, я не выспалася.*
*А я дня ўкарачу, сабе к ночы прытачу.*
*Я не буду жыта жаць, у баразёнкі буду спаць.*
*Як ідзець жа мой Мікіта, на ём серая світа,*
*І пытая ў міня, чаго жыта не сжала.*
*– Вутрам нічога не ела і галоўка забалела,*
*І снапочык я нажала і пад галоўку паклала,*
*І павер мне, я не чула, як на снапочку я заснула.*
*Узяў жонку за руку і хацеў весць яе ў ряку.*
*– Не тапі мяне, Мікіта, заўтра я сажну ўсё жыта.*
*Заўтра на жыта прышла, сільна я ўтамілася.*
*Ой, я лягу на снапочык, атдыхну я хоць часочык.*
*На снапочык прылягла, не чула, як заснула,*
*А пачула я скрозь сна, як грымела ўжо граза.*

*Вецер жыта паваліў, дожч колас ужо ўбіў.*
*Ой, што я нарабіла, я дзяцей угаладзіла.*
*У баразёнкі пракачалась і без хлеба я асталась.*
*Ой, Мікіта дарагі, скарэй каня запряжы,*
*Ты коніка запряжы і ўсё жыта запашы,*
*А на будушчыя лета*
*Мы ўдваём сажнём усё жыта ета.*
*Вот ідзёць жа Мікіта, на ём серая світа,*
*Сустрякая Васіля, нясе ваду да двара.*
*Ён пытая Васіля: "Якая жонка ў цібя?"*
*Васіль яму атвячая: "Мая жонка залатая,*
*То спіць, то ляжыць, а да стала бягом бяжыць,*
*А як дзела загадаеш, то з агнём яе шукаеш.*
*Сам я печку патаплю, сам я дзетак накармлю,*
*Сам я жыта пажаў, сам снапочкі аббіваў".*
*– "У мяне тожа жонка такая, ад работы ўцякая,*
*Пойдзя ў поле жыта жаць, у баразне дзень будзя спаць.*
*І найшла граза бальшая, усё жыта паплутала,*
*Я ўсё жыта прыпахаў, дажы зёрнышка не ўзяў.*
*Як з такімі жонкамі гаряваць, лучшэ іх папрадаваць.*
*На базар іх павязём, морды сажай нацяром,*
*Скажым, дзень і ноч працуюць, дажы морду не ўмыюць,*
*Дорага прасіць не будзім, з галавы скарэй ізбудзім,*
*А прададзім хоць за рубля, ліш бы дома не была".*

117. **Легенда пра колас.**

(а) Калісь баба наша казала. Былі каласы: такая во саломка, а ета ўсё – колас. Такі бальшы. Бог прышоў, сказаў: "Мала з вас…" Пцічкі лятаяць, мы ж адганяім. У міне калісь проса, дак усё стаяла, я і варону дохлаю вешала, яны п'юць еты каласы. Чалавек адганяў пцічак. Бог сказаў: "Ну раз так! Божыя пцічкі, а вы іх адганяіця. Я даў і на крадзяшчых, і на прасяшчых, і на чалавеку едзяшчых. Даў на ўсіх. А раз ты такія", – узяў іздвінуў каласок". "Вот, – гаворя, – быў бальшы колас (рукой ідзвінуў), застаўся толькі малы каласок. Сказаў: "Будуць і пцічкі есць, і вы будзіця карміць і катоў, і сабак – і ўсіх. Раз вы такія жадныя, я даў вам бальшы колас. Хваця і на пцічак". І сказаў, усё баба наша казала: "Нікада чалавека… Сколькі ні давай яму дабра, усё раўно, яму мала, мала, мала – усё мала. Дак вот вам!" Аставіў колькі. А каласы калісь, прабаба бабіна казала: "Калісь каласы былі во такія во. І дожч не валяў, і вецер не валяў. Вот Бог так даваў. "А раз вы жадныя такія, што пцічкам жалеіця. Дзе ж ім чаво ўзяць паесць? Я даў на ўсіх, штоб вы сеялі, і пцічкі елі, і сабачкі". Ета – шчэ мая баба і бабіна прабаба, ета тры пакаленні прашло.

(б) Жала бярэменая баба жыта. Ішоў... Калісь усе казалі, старычкі ідуць... Ну, ішоў і сказаў: “Памагай, Божа! Хадзі, жэншчына, пагаворым”. А яна гаворя: “Некалі мне з табой гаварыць! Нада жыта жаць. Я – важкая, дак, бачыш, нeяк мне нагнуцца. Ня будзіш жа кідаць колас”. Ён гаворя: “Які б ты хацела, штоб быў колас?” Яна сказала: “Я – важкая, ну, бярэменая, як бы вышэй, а то салома малінькая, а то ўсё – колас, нада нізка нагінацца. А вазьмі важкай бабі да нагінайся”. Ён пацягнуў: “Такі?” – “Ішчэ вышэй, штоб я стаяла да жала”. Ён ішчэ пацягнуў: “Такі?” – “Во так харашо!” А як радзіла, хлеба мала, кажа: “Нашто я так казала?” А Бог кажа: “Ужо ўсё! Вы свой хлеб праігралі. Я аставіў толькі катам да сабакам”. А то была і на чылавека, і на ўсю скаціну. А ета толькі на ката і сабаку.

## XXV. Забароны і прадпісанні падчас месячных

118. [*Вы казалі: “Калі ў дзеўкі на рубашцы, нельга зажынаць...”*]

Усе казалі: “Еслі мыіцца чылавек, да не зажынаіць”. І на Вялікадня паску нільзя мясіць той маладзіцы.

Калі матка... Дак баба... Я ўсё мясіла... Буду казаць: “Баб, ну, буду я сёдні мясіць?” І та ўжо мяшу. Як матка не, дак баба ўсё... У нас баба мясіла хлеб: “Полячка, я сама буду мясіць, а ты дзелай другоя”.

[*А ў цэркву яна магла хадзіць?*]

І ў цэркву не хадзілі.

Як месячная бывая, дак і ў цэркву ня ходзяць. “Няльзя!” – гаворяць.

[*Паску няльзя, а проста хлеб?*]

Баба ў нас усё дзелала, як толькі матка... Ну, яны знаяць ужо... Дак баба ўжо меся. Етага нільзя, а так варыць, усё варылі.

У нас у Алёны бацька тож мясіў, калі ў цёткі Веры было месячная. Дак і ён мясіў. І калісь Козырыха казала: “Васіль, сёдні табе хлеб мясіць”. Ён: “Ну, добра!” Рукі вымывая і меся хлеб.

К Вялікадню, яны на віконы вешаць рушнікі, калі баба... Мы гаворым: “Баба, упадзіш! Давай мы!” Яна: “Вы не дастаніця...” – “Дак матка хай!” А яна гаворя: “Ета маё дзела...” І сама вешала. А калі пападая, так што матка вешая. Калі, наверна, німа, дак матка вешая.

Гаворяць: “Калі мыіцца...”

Міне калісь васімнаццаць гадоў было, і месячнага не было. Дзеўкі жаляцца: “Так і так...” А ў міне німа. Ну, тады да пійсяці гадоў было. Деўкі... Туся наша атмылася ўжо... Сорак пяць ці сорак восем гадоў было... А ў міне ішчэ да пійсяці пяці ішчо ішло.

# XXVI. Радзіны

## Адкуль бяруцца дзеці

119. Крычыць баба: “У трэсках найшла! Палядзіціка! Пайшла: ляжыць дзіцёначык, унясла”.

Я, ужо, пайду к Крыўцовым, гавару: “Цётка! У нас ужо дзіцёначык ё”. – “Ну, і слава Богу”. – “Баба пашла трэсак уносіць, а ён у трэсках ліжаў”. Яна: “Ну, бывая: то ў капусці, то ў трэсках, то дзе ў мішку – куды Бог укіня”.

120. Баба кажа: “Сёння пашла, у дравах дзіцёнка найшла”. Родзіцца дзіцёнак, і мы, ужо, пойдзіма… “А ў дравах баба найшла малінькага ці хлопчыка…” Козыріха Алёна будзя казаць: “Ідзі-ка пашукай. Можа, і ў нас у дравах будзя ляжаць”. – “Мышы з’елі. Німа ўжо тога дзіцёнка”. Паддуря. А ціперь скажы ім, што найшлі ў грядах ці ў капусці. Ого!

## Забароны і прадпісанні для цяжарных

121. На Вялікадня, на Троіцу, на Ражаство – усё баба казала – Маша пашла замуж, мы ішчэ дзеўкамы былі, дак баба ўсё казала: “Мая ўнучачка, мы жывом, ета ўсё прырода, грэху ня дзелайця ў пасцелі на празнікі. А то будуць дзеці плахія”. Мужык із жонкай штоб ня спалі, штоб грэху ня дзелалі, а то ня дай Бог, да і дзіцёнак будзя”. Дак усё калісь казала, як родзіцца ў каго-нібудзь... Там радзіўся ў нас абы-які, дак баба і кажа: “Наверна, гряшок здзелалі....” Баба і гаворя: “Нас учылі і баба, і прабаба. Калісь казала: “Ня спі, Алёначка. Ідзеш ты замуж, не спі з мужыком па празніках, ня спі. Па вялікіх празніках. І па васкрысеннях”.

122. Усё баба казала на Козырыху, яна: “Вой, пісяіцца мой!..” А яна гаворя: “Нельзя, ясі, штоб із рота не падала, а то ісцё, аж із рота падая, дак нельзя, і плеваць нельзя на людзей, а то будуць сцыклівыя дзеці”.

123. Кажаць, нельзя была перясігіваць, калісь каромыслы былі, што ваду насіць. Баба ўсё калісь казала: “Дзевачкі, бярэміная была і Туся, і я, і Маша, глядзіця, церяз пранік не перясігівайця!” Во, будзіш пряць плацця, хто “валькі” – заве, у нас – “пранікі” казалі, дак вот прянікам пярэш плацце, калісь жа залілі, жлукты былі, у жлукты складалі, наверх, скацерку какую-нібудзь, што рукі абціраюць, а тады залы, і зала праходзя тоя, мыльная такая, эта з бярёзавых дроў, а тады адзоліцца, белая

такоя павызаліваіцца, і ўсё на копань ідом праць на бягучаю ваду, дак яна: “Глядзіця! Не перясігівайця, штоб пранік не кладзіця, штоб паміж ног не быў! Роды будуць цяжкія”. І каромысел пастаўця, штоб стаяў, не пересягайця”, – бяременым усё казала. Калі перясігніш, роды будуць тугія – праход малы. Нільзя будзя дзіцёнку выціць. Дзе пряжу матаіш, этыя во, наш Ягорка калісь, уюшкі такія, ён паложа і пяряскаківаема, яна: “Дзеўкі, нельзя, эта Господні лён. Мы яго прялі, і рушнікі будуць, і нельзя перяпрыгіваць!” Мы гаворым: “Баб, чаго нельзя?” – “Эта Гасподзь даў нам лён, штоб мы з лёну і адзявалісь, і ўцяплялісь, і ўкрашалісь”. На ўюшкі нельзя, што перясягалі – дзіцёнак будзя закручаны. Калісь баба, Маша бярэменая была, дак баба і кажа, прыходзя і к нам, чатыры перакладзіны і колік, і дзірачкі ў перякладзінах – і маткі матаяць, а тады выбеліваяць, дак гаворя: “Нельзя эта дзелаць, не матай, Машачка, а то пупавіна будзя ў дзіцёнка кругом шэі абмотана”. І нельзя, прясць можна, а на матавілы нельзя і на ўюшкі матаць нельзя, а то пупавіна ў дзіцёнка”. Снаваць нельзя, бярэменым нельзя снаваць, снуюць аснову, штоб ткаць патом. Связана з ніткамы, штоб не закручывалісь ні ручкі, ні ножкі. А то баба ўсё казала: “Я матцы вашай казала: “Ня снуй асновы! Я пасную”. – “Да я скарэй!” Дак, во, кругом пупавіна была закручана кругом шэі. І можа пры родах дзіцёнак задыхнуцца.

124. Усе казалі, “гарэлкі піць нельзя!” – дзіцёнак будзя п’яніца. Усё баба казала: “Полечка, не нада!” І ў нас п’яніц не было.

125. С подала нельзя есць, патаму шта папрасімка дзіцёнак будзя. Усё матка казала, мы ці бульбы, ці пірага ў подал набярома, карманаў не было, дак яна і кажа, матка: “Не бярыця! А то Козырыха ўсё ідзець, у фартух набярэ, з фартуха бярэ – во і дзеці злыдні такія, усе папрасімкі ходзяць. Вот прыдзя, абы што ўбачыў: “Баба Алена, дай мне! Дай мне!” А наш Ягорка нікагда не папрося”.

126. Баба наша ўсё казала Машы: “Машачка, а то панісіцё дзіценка хрысціць, дак умажыцца, хоць абмоча пялёнкі, дак эта ж не харашо перад бацюшкам. Дак не нада з подала ці з хвартуха”. Калісь хвартухі ўсі насілі.

127. У яе палавіна ліца краснае, палавіна белае. Матка была бяременая яе... Пажар там быў ці што... і яна як хваціла за ліцо. Гаворяць: “Як схваця бярэменая, так у дзіцёнка будзя... Дак у яе адна старана... Вот бывая так у людзей... Калісь у Гарбачова... мечаны быў... на лысіні... ці на галаве... як за што хвацісся.

128. Калісь Каршаніха казала, як ужо Васіль пажаніліся с Машай, дак яна і кажа: “Падсцілайця старaю шубу пад бок”. А Маша гаворя: “А чаго?” – “А штоб у дзяцей былі косы кучарявыя”. Дак, у іх, праўда, Віцька малы быў, як барашачкі косы, і ў Томкі кучарявыя, і ў Грышы кучарявыя. [*Калі падсцілаць?*] Падсцяліў, і ніхай яна там. І каждаю ноч. Ты ж не знаіш, калі ты смасцірыш дзіцёнка.

## Пупавіна

129. Баба роды прымала, пуп атразала, пад мост закапывала. Я: “Баб, куды ты яго?” – “Пад мост, штоб людзі не хадзілі”. Пад мост, дзе печ, стаўбы – дак туды.

## Бабіна каша

130. Я знаю, бабіну кашу дзелаяць на хрэсьбінах. Як хрэсьбіны гуляяць, дзіцёнак родзіцца... Ета абізацільна, хоць малінькія, но хрэсьбіны здзелаяць. Баба варя кашу і нясе туды ўжо, на хрэсьбіны, становіць, і тады там ужо... Кашу разбіваць нада, дак кладуць грошы. У цябе грошы ё, кладзеш, і я кладу... Там, маціp’ялу якога-нібудзь... Хто што... хто палатна... А кашу тады кум... Разбіваць кашу... Ты, напрымер, кум, а другі... паложыш дваццаць рублей, прымерам... А я, хоць і не кума... Толькі кум доўжын біць кашу... Дак, ты палажыў грошы, а я болей, хоць на руб ці на пійсят капеяк болей кладу – усё ўжо: ужо ён разаб’е, а ты, кум, ішчэ дабаўляй... А тады ўжо бярэ і аб стол гарышчок той разбівая с кашай. І ўсе бяруць кашы, і ўжо ўсе бяруць кашы тыя і дамоў прыносяць... Самы пакушаяць, і дамоў прыносяць, і курям сыпяць. [*Для чаго?*] Етага я табе не скажу. Штоб ужо, можа, няслісь. І чэряпкі забіраяць. Кажды чэряпочык атламыіць... Чо-та баба наша паклала за вікону. [*Не казала, для чаго за ікону?*] Ня знаю.

[*Якая баба кашу варыць?*]

Бабу бяруць, каторая, тады ж не было дахтарёў, як ціперь адзін на адном дахтары, дак тая баба, каторая пупавіну завязыя... Вот родзіцца дзіцёнак, і яна прымая роды, пупавіну завязывая, і тую бабу завуць на хрэсьбіны, і яна ета ўсё дзелая. У нас называіцца “бабіна каша”. І ўжэ матка пойдзя, і баба, і бацька, узрослыя на хрэсьбіны, мы ўжо ждома: “Мам, вазьмі ты болей кашы тыя”. Баба: “Будзіця рэсць большыя”. І мы ўжо ядзім. Яны прынясуць нам па кусочку.

131. [*Баба не казала, для чаго кашу вам давала?*]

Нічога яна не казала. Прыходзя. Гаворым: “Баба, кашы прынясла?” – “Прынясла, дзетачкі. Бярыця, дзяліця”. Мы ня то, што хто болей... Матка

гаворя: “Бярыця ложачкамы, ешця, што б усім было”. І мы бярэм, дзе камушок возьміш... Яна: “Астаўця куркам!” І курям ішчэ аставім... “Баб, хваця столькі?” – “Хваця!” А для чаго курям сыпалі, ня знаю.

Пойдуць нашы на хрэсьбіны, мы ўжо знаім, што гасцініц – каша.

132. Пелі куму і куме, як кашу разбівалі… былі бабы старыя… пелі… хто ўжо болей падора… песні такія ё, што кум мала палажыў… я знала, пазабывала ўжо…

Усі ў платочкі бралі. Баба наша прынясе, курям сыпала… А прынося… “Баб, прынясла бабінае кашы?” – “Прынясла!” Усім нам па камушку дае кашы тыя. Калісь махоткі... Ціпер пячэння наложаць, канхвет... Ета ўсё ня то... Каша ё каша... Ні заменя кашу... І пшоннаю толькі нада, ня грэцкаю... Кашы пшоннае не заменя ніякая каша... Закон такі – пшонная каша калісь была ўсяму галава. Не варяць ні грэцкаю, ні ячменнаю, а варяць пшоннаю на хрэсьбінах. А тады ўжо пачалі... У нас адна прыехала з Масквы... Ішла свякруха за бабу... Дак яна ўжо наклала пячэння, канхвет... І разбілі... Гаворяць: “Ета – ня каша!” Яна ў гаршчочык наклала і паставіла... І кашу біць... А зверху кашу... Зняла прыгарку і наверх паклала... І кашу біць... Кум узяў махотачку і аб стол ударыў, і канхветы... Усе закрычалі: “Ета ня каша! Давайця нам другую кашу!” Кум гаворя: “Давай кашу настаяшчаю! А етай ня нада нам!” І разбіў тую кашу. І ўсі бралі кашу. Яна на палаценцу, на вечку... Камухі тыя... Ішчэ і раздавя кум, штоб усім была.

133. Калі кашу разбівалі, куму да куме пелі: “Кум мала паклаў...” Хто болей грошы паложа, тый кашу разбівая”.

У нас, там, дзед адзін казаў: “Неправільна! Ці вы хочыця, штоб кум карову прывёў, на стол паставіў?”

134. (а) На хрэсьбінах кашу біць... Вот ідзець баба... Будзя сядзець на вуліцы Сцёпіца... Калісь жа выходзяць у празнік... Будзя іціць... Бабы ўжо знаяць, што твая жонка ідзець за бабы, нясе гаршчок кашы ўжо... Яна будзя казаць: “Нясеш на хрэсьбіны кашу крадзяную?”

А тая будзя казаць:

*“Мая каша не крадзяная,*
*А на малачку на цэлым варяная.*
*Сахарком пасыпала,*
*Мядком із маслам мяшала*
*Да на стол куму падавала”.*

Не на зліваным. То ж кашу зваряць. Смятану саллюць. Масла саб’юць.

(б) Дак гаворя:

*“На цэлым малаку варяная,*
*І сахарком пасыпана,*
*І маслам, і мёдам памешная”.*

“Ой, баба смашнаю кашу зварыла! Дай ты пакаштаваць ужо нам!” – “Не, ня дам”. – “Мая кашка з прыгарачкай”.

І прынося. На стол пастався. Там ужо палядзяць... Яна зверху жоўценькая... Прыгарка такая... Яна: “Кашка не чопаная...”

Як садзяцца, вып’яць па чарцы... Папрыносяць усі ж падаркі... Гаворяць: “Нада кашу біць!” І каша стаіць... І ты кладзеш у кашу грошы, я кладу маціp’ял... Ці, там, на плацця... Шапачку дзіцёнку... А жонка твая, хазяйка, усё ета забірая... Кладуць і кладуць... “А што ж кум нам падорыць?” А яму ўжо пяюць:

*Бабіна каша крадзяная,*
*А ў нас кум жадзіная,*
*Баіцца карман патрусіць,*
*Да грош з кармана ў кашу палажыць.*

А кум ужо скажа:

*Не, у бабы кашка не крадзяная,*
*І кум не жадзіная.*
*А выцягну падарю кароўку-красулю,*
*Палажу свайму хрэсніку ў люлю.*

І палажа... Цацкі... напрымер, кароўка была... Вот вылітая кароўка.

“І выцягну дзенюжкі із кармана.... Што разаб’е кашку... І разбівая кашку...” І тут будуць крычаць: “Я жэрябца падарю варанова!” А ён кашу бярэ, кароўку ён у люльку пакладзе... А ета ён вывуча... Прагаворя... І аб стол ударя, каша разбілась. І ўсё: раз каша разбілася, хоць ты пяць жэрябцоў... Усі: “Правільна кум здзелаў! Разбіў кашу!” Самае глаўнае, штоб кум кашу разбіў.

## Купанне і стрыжка

135. (а) Баба, як родзіцца, так яны січас жы пупавіну завяжаць і начынаяць мыць, эта цяперь ужо не мыяць, а паложаць яго, да і ўсё. А тады ў цёплая ўжо захаджыяць, калісь вада ў печы накрытая была скавара-

дой бальшой. Так яны за яго, пупавіну ту здзелаяць і начынаяць купаць. Перва пялёначку ўкіня баба, намоча і на яго ложа і другой пялёначкай ллянай прыкрыя яго і галоўку, і мордачку, і вушачкі – усё павымывая.

[*У вадзічку нічога не клалі?*] Нейкаю траву, знаю, што "шпокалкі", я ня знаю, як яны па-навучнаму. Мы звалі "шпокалкі", яны такія высокія растуць, па межах, усюль на агародзі, мы атарвём верх еты – і аб лысіну раз! Яны – шпок! Мы гаварым: "Баб, на што ты?" А баба гаворя: "А ета не ваша дзела. Нада так!" Дак, "шпокалкі" зналі. І ў яе такі звёртак быў, гарбузы растуць на гародзі, яна гарбузнік тэй, пляцецца ён ці на забор, ці на якую яблану, яна іх не абрывая, вісіць, ён іссохня, яна гарбузнік тэй бярэ і складая, і скрозь дзяцей, як клала шпокалкі, гарбузнік, штось ішчэ клала ў цёплаю ваду, ішчэ якуюсь траву.

Дак і мы гаворым: "Баб, на што ты кладзеш етую траву?" Калісь Ягорка захварэў наш гаразна. Дак я гавару: "На што ты ету траву?" – "Еслі будзя жыць ён, Бог дасць яму пражыць, дак у шпокалках, вот трэццяю траву, як уздумаю, дак будзя жыў дзіцёнак, выжыве, а еслі не, то мучыцца ня будзя, церяз дзень і памрэ.

Дак во, адна дзеўка была ў нас, Танька Кушнярычкава, ужо ляжала, мухі – і ў рот… калісь жа было! поўзаюць! Яны ўжо іе і не глядзелі, дзеўку тую. "А мы сваю Таньку не глядзім. Яна ўсё раўно памрэ. Ляжыць у калідоры". А мух! Вагон там, аж чорна! Дак, я прышла, бабе сваёй расказыю, гавару "так і так": "Не памірая Танька". Бабе ўсё ета расказала. Баба сабралась. Наша баба, можа ў міре німа такія. "Яна – самазванка, – матка мая звала, – цябе не завуць, ты сама пляцешся". Дак яна сабіраіцца, возьме траўкі і пойдзя. Пайшла туды. Траву тую намачыла, давай мыць тую, яна сама палячка была, Ядзвіга – звалі іе, яна і гаворя: "Ядзвінка, давай палячу тваю. Хоць скарэй памрэ, хоць будзя жыць як на жывоя". І памыла тую Таньку. …ідзець з тога краю: "Баба Алёнка! Асталася жыва. Ужо есць папрасіла". – "Я пайду ішчэ схажу". Дак баба хадзіла тры разы іе купала. І яна замуж у Гомелі ішчэ пашла.

[*Гарбузнік для чаго?*] Вот тыя шпокалкі, я не знаю, як іх называюць па-навучнаму, во, калісь дзетвара, пабягім на поле, паўз дарогу шпокалкі, яны такія, возьмеш, там, воздух у ёй, тада раз аб галаву – і шпок! шпок! І наш Ягорка, малы: "Ну, пашлі!" Пойдзем, нарвом, цэлы пук прынясом, яны сухія, семяна ў іх многа, матка: "К чортавай мацеры, нясіце на агарод!" А мы будзім сядзець, калісь жа дзеці і – шпок! шпок! шпок! Яны беленькім цвяточкам, калісь жа шпокалка, а тут пяць рядочкаў лепясткі белінінькія. Бярэш за іх, а тут жа – воздух.

(б) Калісь наша баба клала ў ваду гарбузнік, сухога, з гарбуза націну; шпокалкі клала і сабачкі. У іе спакованы ўжо гарбузнік, сабачкі, шпокалкі і чабор.

Чабор клала, штоб крэпенькі быў – у чабару ж сткалкі крэпенькія.

Гарбузнік – ета во, гарбузы што растуць, націна тая, яна штоб сухая была, дак баба ўсё скруця-скруця, дак усё ідуць: "Баба, ё ў цебя гарбузнік? Захварэў дзіцёнак: ні жыве, ні памірая. Дак дай-ка нам!" Еслі дзіцёнак пачыная, калісь жа дома ряджалі, заходзіцца, парадзіха і ўсё тоя кладзе і гаворя: "Як на ўмірушчая – дак штоб малы памёр, а еслі на жывушчая – штоб крэпенькі, здаровенькі быў".

Сабачак клалі, штоб чыстае цела было.

Гарбузнік клала, што ці будзя аджываць, ці будзя паміраць: "Як на жывушчая – дак жыві, а на ўмірушчая, штоб малы памёр, штоб у бальшыя слёзы не ўвёў".

Сабачкі, што бярэцца, пройдзіш, яны панабіраяцца, яны ад вогніку, вогнік – шэпчаць, штоб не былі накожныя балезні.

Чабрэц, гаворацьb: "Штоб ты крэпенькі, як чабарочык быў".

Шпокалкі, яны такія растуць, я не знаю, як іх называяць, навярху такія, і калісь нарвома: "Дзеўкі, хадзіця ў шпокалкі!" Пойдзіма нарвома па жмені, будзіма сядзець – і аб лысіну, бяром за верх атарвем, і яно трэсь! трэсь! І ўсі бабы: "Вой-я-ёй! Во гульню найшлі!" Дак етыя шпокалкі, штоб чыстае цела было. Усё баба казала: "Як етыя шпокалкі чыстыя-румяністыя…" Дак усё к бабе нашай хадзілі.

136. Дзіцёнка малага мыяць. Як купаяць, абы-куды вады ж ні льюць. Льюць пад вугол, на зямлю. Штоб там людзі ні хадзілі.

137. Да года, гаворяць, не стрыгуць дзяцей.

## Незаконнанароджаныя дзеці

138. [*Калі дзеўка нячэсная ішла замуж, з дзіцём?*]

Яны гаворяць: "Крапіўніка прынясла". Хто як. Хто "крапіўніка" скажа, хто – "у сундуку", хто – "ў мяшку прынясла".

139. (а) Там адна ў нас радзіла ў дзеўках… гуляла яна ўсё: "Ой, мая – малая". А ўсё дзед Касцючкаў казаў: "Маля – пакуль у начоўкі скора ўваля!" Яна: "Што ты, Васіль, гаворыш на маю [...]?" А ён: "Калі б я ня знаў, дак я б не казаў". А яна: "Па чом ты знаіш?" – "А, як яна табе ў начоўкі ўваля, тады ты будзіш знаць".

(б) Усё маліла яе: "Мая малая. Мая малая". А тая малая ўзяла, да брюха нагуляла. [*Гэта ўсе так казалі: "Маля...?"*] Да, ета прыказка такая была. Усё ўсе казалі: "Вон, у Коршунаў маля, усё маля была, пакуль

у начоўкі ўваліла”. Ну, дзіцёнак жа ражаіцца, у начоўках мыяць. Ціпер – у бальніцах, тады ж – у начоўкі, родзіцца – памыяць.

## Імя

140. [*Як дзіцёнку імя выбіралі?*]

Калісь жа поп. Чым скажа. Калісь жа ўсякія былі. У мяне баба была, маткі мае баба і дзед, яго звалі Ахрэм, а яе – Хацімья. Дак яны ўсё казалі: “Ахрэм і Хацімья хочаць бурака і бацвіння”. Вот якія ета імя? А тады ўжо сталі самі накладаць – каму якоя наравіцца.

141. Тады глядзелі па празніках, які празнік, накладалі імя, поп накладаў, поп – вялікая шышка быў калісь. Дзве дачкі – Лёксы і хлопец – Александр, тож у такі дзень. Поп сказаў: “Нада назваць Лёкса яго”. І дзве сястры было Лёксы. І іх звалі большая Лёкса і меньшая Лёкса. І хлопец – Лёкса. Ну, “Лёкса! Лёкса!”, а тады ажаніўся, Ляксандр сталі зваць. У іх усе Лёксы былі. А ціперя-ка маладыя, як захацеў, так і назваў.

142. Эта ж ідзець па прыродзе. Як дзеўкі ряджаяцца, фаміліі ўжо німа,ісчазая. Па замужніх ужо яны пішацца.

## “Прыспаныя” дзеці

143. У нас калісь баба прышла і кажа: “Полька! Полька! Падыміся!” А матка гаворя: “Чаго?” – “А, во, Яўгіння прышла, прыспала дзіцёнка”. А мы гаворым: “Баб, а як-та прыспала?” У нас быў Ягорка, і яны Ягор назвалі хлопчыка. Маленькія. Называяць іх *цыцочнікі.* Дзеці етыя. Матка не хоча ўставаць. Дак ён ляжыць, штоб не ўставаць к люльцы, дак кала боку палножа. Дак дзядзька Васіль з аднаго боку, штоб яму цяплей была, паднялася, думаю: “Чаго дзіцёнак не плача?” Палядзела, ён ужо... Яны ляглі на яго, дыхаць нечым, дак ета называіцца *прыспяшчыя*.

144. Дак, калісь у нас Мелька быў. Дак, у нас во што было. Ацялілась у нас карова, прышоў дзядзька Мелька, ён: “Ета кароўка пакінулася ў вас?” (Ацялілась дак пакінулась). Ён усё гаварыў: “У, таварыш, харошы цялёнак у вас. Харошы!” А баба і кажа на яго, і матка гаворя: “Якога Бог даў, такі і ацяліўсь”. І ён пабыў, пастаяў і толькі сказаў: “Харошы”. І пашоў. І цялёнак тэй стаяў і ўзяў і ўпаў на ногі, і пачаў дрыкацца. І яны прыводзілі бабу Буханіху. Пабеглі за той: “Во! Мелька пабыў!” А Мельчыха прышла і кажа: “Ну, мой жа пабыў! А яму ж няльзя. Яго

матка карміла, а тады атняла, ад цыцкі атняла, а тады пажалела, крычыць да ўсё, яна зноў дала”. Дзеці етыя вырастаяць дужа ўрошлівыя, і пакуль і памрэ, дак ён урошлівы, няльзя яму на маладзяціну глядзець, ні на ягнят, ні цялят. А яны к нам гуляць хадзілі, церяз двор жылі. Дак Мелька тэй паглядзеў на цялёнка, і што ня дзелалі, дак ён з нядзелю ляжаў, пакуль матка гаворэ: “Ніхай прыдзя ён!” І вот ён прышоў, тэй Мелька… І я, ужо не скажу, што ён дзелаў… і ён стаяў, і баба тая, Буханіха, Баба знала, і ён… ці ў рот цялёнку даваў лізаць, і штось Буханіха яму казала… “што я табе даў, тое к сабе забраў”. Яго ўсі зналі, як толькі ў каго цялёнка, ці парасёнка купяць, ці што, хаваяць, і яму прыказывалі: “Прыходзіш, дак ты не глядзі ні на што!” Наш Ягор калісь, малы танцаваў, а ён: “Ой! Як ты ўжо! У цябе касцей німа!” Матка і кажа: “Сплюнь! Што ты гаворыш! Табе нельзя етага гаварыць”. Вот етым во.

### “Народжаныя ў сарочцы”

145. У сарочцы нарадзіцца. Баба мая кажа: “Унучачка, ты даўжна быць шчаслівая”. Я гавару: “А чаго?” – “Ты ў сарочцы радзілась”. Я: “Баб, у якой?” – “Дзіцёнак жа родзіцца, а ты паляжала ў пялёнках, увярцелі, палядзім, мордачка не такая. Пачалі аблупліваць, аблупілася сарочачка  із ручак, із ножак, такая тоненькая, як плевачка. Дак ты ў сарочцы радзілась”. І матка мне ўсё казала: “Маша без сарочкі радзілась, і Туся, усі дзеці, а толькі дзве Танькі радзіліся, дак да палавіны сарочка, а ты полная, на ножках, і ўсё…” Я гавару: “Баб, куды ж ты тую сарочку?” А яна гаворя: “А з пупавінай умесці. Пуп і тую сарочачку, яны падсохлі, дак усё калісь казалі: “Як замуж будзя іцці, дак штоб багатая была, у сундук пакласць”. У бабы кубел быў бальшы, а тады бацька здзелаў сундук,  з крышкай адкрываўся. Мы палядзім, Ягорка малы быў, дак паглядзіць, дзе баба ключ паложа, ён возьме: “Дзеўкі! Я ключ бабін найшоў!” Што мы бралі? У бабы семкі там гарбузныя. Возьмем. Патрошкі, Туся, я і Ягорка. Ягорка: “А я ключ найшоў, я большы вазьму!” – “Ну, вазьмі”. Баба палядзіць: “Хто семкі браў?” – “Баб, мы не бралі”. – “Ой! Семак болей было. Мыш палузгала, так ашкрёткі былі”. Матка: “Еслі хто семянныя семкі пабярэ, во тапор, голавы падсякаю!”

## XXVII. Вяселле

146. (а) Заручыны, ідуць дагаварывацца. Ты дагаварыўся з нявестай: “Давай скажам, штоб ужо жаніцца, ты сваёй матцы да бацьку, а яна – сваёй”. Вот ідзець бацька жаніхоў і матка, і жаніх, прыходзяць

і дагаварываюцца, калі ўжо змовіны дзелаць. А на змовіны называяць людзей, братоў, бацька сваіх братоў, матка сваіх братоў і сясцёр, там, кумоў – чуць не свадзьба – такія змовіны дзелалі. Нявеста гарэлкі нагоня, і жаніх там колькі прынясе – і гуляяць. Эта, ужо, змовіны называяцца. А заручаны – ета бацька і матка ідуць дагаваряцца – і ўсё. Заручаны – эта бацька і матка ідуць заручваюцца.

(б) Заручыны... Мала людзей... Бацька да матка ідуць заручаюцца, бяруць у нявесты... Жаніх бярэ ў нявесты што-нібудзь цэннае, еслі ня пойдзя, ужо, бывая, адкажа... Як у шчодрах песня ё: “Куніца ўцякла, а дзеўка не пашла, маладому Іванічку гарбуз выкаціла...” Усяк жа бывая...

[*Заручыны для чаго?*]

[Каментар сына Варвары Аляксандраўны Грэцкага Сяргея Васільевіча.]

Заручыны, штоб жы прыдуць у сваты, і ўжо ўсё... Прыдуць у сваты ўжо на фундамінці на крэпкім, на фундамінці. Штоб жа пазору хлопцу не было. А змовіны, ета ўжо сабіраяць людзей, яны ўжо прыходзяць, сваю гарэлку на стол, хлеб-соль, кусок сала прыносяць, а нявеста ўжо гатуіцца.

147. Я прышла са сваім сынам к табе ў сваты. Сын сказаў: “Пойдзіма туда ў сваты, я яе люблю”. Я прыходжу к табе. У мяне ёсць брат ці кум, ці што, я іх бяру. Прыходзяць у сваты. І свечку. Кажуць маладым: “Паліця свечкі. Любіця друг друга?” – “Любім”. – “Запалійваця свечкі”. Яны запаляць свечкі. Гарэлкі паставяць, сала кусок возьмуць, баршча нальюць. І, як ужо свечкі запаляць, і я ўжо гаварю: “Ну, здароў, сваха! Ужо мы с табой – сваццяˮ. І ўбачуць майго брата ці сястру – і, усё раўно, завуць сваццямы. Брата ці майго, ці мужыковага – ужо сваццямы завуць. Свечку, я замуж шла, баба дала... Дадуць, мы спічкай запаліма свечкі, і спічкай падпаліма, к іконе прылепіма. Во, ікона, і яны кала віконы, бажніца такая была, к бажніцы. Я прышла к табе ў сваты, ты дзве свечкі даеш. Ты – даеш. Ка мне ў сваты прыходзілі, дак баба дзве свечкі ўзяла, дала і гаворя: “Запалівайця свечкі! Первая нявеста запалівай!” Я запаліла, і Коля запаліў.

Калісь павянчаюцца, вянца баялісь разарыць. А цяпер сёдні павянчаюцца, заўтры ўжо па адном ходзяць. Усё на скораю лепяцца.

148. (а) Я рушнік павесіла на ніх, перявязала, гаварю: “Усё! Маладую забіраіма мы!” І запела песню:

*Плыла вутачка рякой,*
*Вуцянятачкі за ёй.*
*Вутка к берягу прыплывала*
*І вуцянятачак сваіх звала…*

“Дак вот – гаварю, – бяры вутачку, а то наша вутачка заблудзілась к вам, давайцека мы ўкрадзім. А то вы – зладзеі, а мы лучшыя...” Васіль (сват. – Г.Л.): “А што мне дзелаць?” Я гаварю: “Хватай іх! Селязня і вутку! І павядом іх з етага двара!”

(б) [*Жаніха і нявесту вялі на рушніку?*]

Ты стаіш з Пашкай. А сват захватыя двох, за канец узяў: “Пашлі!” А вы ідзіцё.

Нада штоб сват браў. А то дзяцей ня будзя. Сват тэй, хто хадзіў у сваты і палучаў падарак.

Вот Пашка твая жонка... Ідзіцё вы ў сваты... Ці ка мне... У цябе сын, у мяне дачка... Ідзіцё ў сваты... І ты бярэш свата глаўнага... Абычна бралі хрёснага. І тэй прыходзя з бутылкай, становя сумку... Там сала кусок ці што... Кладзе на стол і кажа: “Прымаіця маё?” А я буду казаць: “Да, прымаю”. – “Свечку паліць? – Пытая. – Хлопца і дзеўку сюда! Свечку паліць ці не? Еслі паліць, паліця свечку”. Вот запаляць свечку, значыць, сагласны. А тый ужо глаўны сват. І на свадзьбе ён даўжон. І на каравай зваць, і маладых забіраць.

(в) Пашлі ў сваты к адной дзеўцы, а яна ні пашла за яго, дак яны гаворяць: “Дзеўка гарбуз выкаціла”. Ён сердзіўся, а яна ні пашла.

Бывая так, што не панаравіцца... Вон, песня ё: “Дзеўка не пашла, гарбуз выкаціла...”

[*Гарбуз сапраўды выкачвалі альбо проста казалі так?*]

Проста словы такія. Вот не пашла. Сказала: “Не пайду замуж!” І не пойдзя. Вот значыць, гарбуз жа не выкачаяць... Як ё, услед гарбуз качануць, а німа гарбуза, усё адно гаворяць: “Гарбуз выкаціла!” Вот прышоў Ісакавіч у сваты, да і гарбуз пакаціў. Словам, выкаціў... Усі гаваряць: “Ну, высватаў Ісакавіч?” – “Гарбуза пакаціў. Не высватаў”.

149. Як дзеўку… Во свадзьба... Вот прыязжаюць за маладой, а тут ужо хлопцы стаяць і гаворяць: “Выкуплій!..” Вот ты б стаў, ну, хлопцаў багата, і выкупліяць вароты, а тады адчыняяць, штоб заехаць на кані. Вот ты б, напрымер, прыехаў як сват глаўны, і вароты тыя ты даўжон выкупіць. Вот выняіш бутылку гарэлкі... Яны ўжо нічога не бяруць – гарэлкі, закускі і даюць мне. Я ўжо трэбую: “Дайце мне, напрымер, ці літру, ці дзве. Таргуюцца: “Давай за бутылку!” – “Нічога не пайдзёць! Толькі літру!” Яны бяруць з сабой гарэлкі, дзе знаяць, што мошныя хлопцы будуць трэбаваць, дак скажаць: “Тры бутылкі!” І ні пусцяць! Усё! Бой іздзелаяць, но не пусцяць. Вот тады, еслі яны мала возьмуць, дзве, напрымер, возьмяць бутылкі, тады гаворяць: “Вызаўця свата!” ...каторага свадзьба, нявесцінага: “Пазыч нам! Мы табе аддадзім!” Тэй вынося. Даюць хлопцам бахонку хлеба, сала кусок, і яны тады пускаяць у вароты, адчыняяць і гаворяць: “Заізжайця і забірайця ваш тавар”.

150. Як за нявестай едзя жаніх, дак ужо дугу ўбіраяць. Вянок такі дзелаяць ужо. Калісь дзелалі цвяты з цітрадзій. Былі ж і сінінькія, і зялёнінькія абложкі ў цітрадзях. Вот з тых дзелаяць цвяточкі. І дугу тую, на якую ёлку... Ужо як зімой... А як летам, дак на дроцік кругом дугі, дугой... Ленты вешалі. І забіраяць маладую, і вязуць... Бачаць усі, што едуць за маладой – вянок на дузе. І адтуль ужо едуць, маладую ўжо вязуць... З вянком, і на аглоблі, і кала морды. У каго багата цвятоў, дак на аброць навяжуць. Красіва было.

Летам жывых ужо цвятоў. А як зімой, німа ж жывых, дак дзелалі із бумагі. Но ўсё адно, штоб украшаная была дуга. А летам жывыя: палявых нарвуць, там чыстацел такі, калачам такім цвіце: аранжавым і светла-аранжавым. Нас ужо папрося нявеста: “Ідзіця нарвіця”. Вот мы і пойдзіма на полі як летам. А зімой дзеланыя.

[*Чаму нявеста вас прасіла?*]

Мы меншыя дзеўкі, дак яны нас просяць. Мы зналі дзе чыстацел, злыдні – красівыя цвяты. Злыдні такія жоўтыя цвяты, здаровыя. А то ў загародках: разныя, якія ў каго ё: і настулкі. Укрышывалі дзеўкі, і бабы памагалі. Аж гарыць дуга тая.

[*Настулкі. Па-кніжнаму як яны называюцца?*]

Настурцыі. А мы: *настулкі*.

[*Злыдні – што такое? Па-кніжнаму...*]

Ня знаю. Мы звалі злыдні. Таму шта баба ўсё казала. Я гаварю: “Чота іх злыднямі завуць?” Яна гаворя: “А іх ніхто ня есць. Яны злыдні на агародзі, толькі сок выбіраюць. А пользы німа. Ні свінні, ні каровы, ні коні – ніхто”. У іх ствол такі тоўсты, як мезяніц, і жоўтымі цвятамы. Яны растуць, дзе хочыш... На пясках... Корань длінюшчы такі, лісце такоя шырокая, длінная.

151. (а) Замуж, напрымер, я іду, і вот дзявішнік дзелаяць. Скора за маладой прыедуць... Маладую прывязуць, пасодзяць, і мы ўжо кругом... Паставяць яду, выпіўку... Тады ўжо стаіць хлопец з тряплом за касой... І песню пяём ету... Пасаду пяюць у нас.

*У лузе далёка,*
*Там стаяў церям высокі,*
*Пад тым церямам вада лялея,*
*Там каліна чырванея.*
*Ой, там Танячка гуляла,*
*Касу русую часала,*
*Гребяшком махне,*
*Цяжола ўздыхне.*
*– Німа майго татачкі.*

*Ой, як прыйшоў к ёй татачка:*
*– Адчыніся, Танячка.*
*– Ой, я ж не адчынюся,*
*Ветру баюся.*
*Шчэ жаркага сонейка.*
*У лузе далёка,*
*Там стаяў церям высокі,*
*Пад тым церямам вада лялея,*
*Там каліна чырванея.*
*Ой, там Танячка гуляла,*
*Касу русаю часала.*
*Гребяшком махне,*
*Цяжола ўздыхне.*
*– Німа маёй мамачкі.*
*Ой, як прыйшла к ёй мамачка:*
*– Адчыніся, Танячка.*
*– Ой, я ж не адчынюсь,*
*Ветру баюсь,*
*Шчэ жаркага сонейка.*
*У лузе далёка,*
*Там стаяў церям высокі,*
*Пад тым церямам  вада лялея,*
*Там каліна чырванея.*
*Ой, там Танячка гуляла,*
*Касу русую часала.*
*Цяжола ўздыхне.*
*– Німа майго Ванячкі.*
*Як прышоў жа к ёй Ванячка.*
*– Адчыніся, Танячка.*
*– А я адчынюсь,*
*Ветру не пабаюсь*
*І жаркага сонейка.*

(б) *Што ў лузе далёка,*
*Там стаяў церям высокі,*
*Пад тым церямам вада лялея,*
*Там каліна чырванея.*
*Ой, там Танячка гуляла,*
*Касу русаю часала.*
*Гребяшком махне,*
*Цяжола ўздыхне.*

*– Німа майго татачкі.*
*Ой, як прыйшоў к ёй татачка:*
*– Адчыніся, Танячка.*
*– Ой, я ж не адчынюсь,*
*Ветру баюсь.*
*Шчэ жаркага сонейка.*
*Цяжола ўздыхне.*
*– Німа майго Ванячкі.*
*Як прышоў жа к ёй Ванячка:*
*– Адчыніся, Танячка.*
*– А я адчынюсь,*
*Ветру не баюсь*
*І жаркага сонейка.*

152. [*Што значыць, хлопец стаіць з траплом?*]

Во, сядзіма кругом, а ён стаіць ззадзі, тряпло дзяржыць. Прыязжаюць жаніховы забіраць. Бяруць рушнік, нявесту зачэпяць і вядуць сабе. А ён будзя не аддаваць нявесту і гаварыць: "Давайця выкуп!" – "Сколькі табе?" Яго ўжо навучаць, хлопец, гадоў дзвенаццаць... Не так, дак і ўрэжа ім... Тряпло бяруць, што лён трэпяць... Ён з етым тряплом... Сват гаворя: "Ты гавары мне: сколькі табе за нявесту?" Той ужо гаворя хлопец: "Давай мне пяць мільёнаў!" – "Ой, ета багата!" Пяцёрку нада даць. "Нявесты не аддам! Буду, ей Богу, буду біць! Тряплом буду біць!" І ўжо ён пачаў бы біць... Ты ўжо не чапай яго, уцякай, з ім не сражайся... Няльзя. Называіцца: дзіцёнак стаіць і не аддае сястру сваю. Ён ужо: "Давай не за пяць мільёнаў, давай за два". Ён: "Нет! Тры!" Ён ужо траячку выцягвае, аддае. Ён тады будзя казаць: "Ну, а цяпер вядзі казу на паваду". І ты ўжо павядзеш.

153. (а) Як прыедуць за маладой да забіраяць, і кругом стала абвозяць, дак хрёсная матка гаворя: "Глядзі! Як мой хвартук мяне пільнуя, маё цела пільнуя (ужо падвязыя), штоб ты жонку так пільнаваў і ахраняў". Ета хрёсная матка так гаворя. Штоб яна з мужыком была напару.

(б) Вот матка еслі адна, напрымер, адна я, і прыехалі б за маладой ка мне, я ўжо ня ймею права благаславіць, ужо благаслаўляя хрёсная матка і хрёсны бацька. Ты – хрёсны, а, напрымер, хто-небудзь хрёсная. У цябя хоць і жонка ё, но ты доўжэн ня з жонкай, а з хрёснай маткай благаслаўляць ужо, стрячаць і праважаць. А еслі родны бацька ё і матка, значыць – родныя, а еслі німа бацькі ці маткі, значыць, бацька ўжо ня ймея адзін... З мачыхай ён ня ймея права.

(в) Прыехалі... Ён забірая нявесту, і яна гаворя: “Як мой хвартук маё цела ахраняя да і пільнуя, штоб ты так пільнаваў і ахраняў жонку”.

[*Ён на ёй завязаны ці яна пры ім завязвае?*]

Завязан. Калісь жа ўсі, маладыя і старыя – усі дзеўкі, у фартухах хадзілі. Ён завязан. Яна толькі славамы скажа, штоб ты так пільнаваў сваю жонку, як мяне хвартук мой пільнуя. Ці ета хвартук, ці андарак, ці кохта. Можна казаць, німа хвартука, што ў цябе надзеўшы. Но калісь насілі ўсі хвартухі.

(г) [*Чаму калі выганяеш карову – проста фартух, а калі за нявестай прыязжаюць, там хрёсная?*]

Хрёсная матка – яна ж... Гаворяць, хрёсную пільнуй матку лучшэ, як сабе ці як роднаю. Усё баба наша казала: “Хрёснаю матку шануйця лучшэ родныя. Патаму шта яна вас дзяржала перяд Хрястом, перяд крястом. Ета бальшоя дзела – кумой быць... Ты дзяцёнка дзяржыш перяд Хрястом – ангелочка. Дак шануйця хрёснаю”. Наша баба ўсё кажа на матку: “Не ругайся з Васяй нікалі. Яна цябе дзяржала пад Хрястом”. І матка наша з Васяй і Адаркай дружыла. І ўсё на нас казала: “На сваю матку лучшэ ругніся, а хрёснаю матку нікада ні абіжайця. Яна вас пад хрястом дзяржала”.

154. Кажух шэрсць наверх, і содзяць ужо... Як палаценцам, *рушнікам* называіцца, зачэпяць, вядуць нявесту і жаніха і кругом стала, абвядуць тры разы, і штоб селі. Садзіцца жаніх і нявеста. А там шубу разаслалі. Пасодзяць дваіх. “Штоб багатыя, – кажаць, – былі”. Мы гаворым: “Для чаго-та шубы?” Сцёпіца: “Штоб багатыя былі. Штоб цёплыя карманы былі ад грошай”. А тады ўжо саджаяць жаніха і нявесту, пасцель кладуць. Яны на пасцель тую садзяцца на вузлы і едуць ужо. Маладую забіраюць.

155. Прывязуць маладую... Да свадзьбы... Сёдні крёсная матка ці дружка ідзець... Рушнікі вешая, на вокны занавескі... У вузле... І пачыная вешаць – тыя скідаіць, а сваі вешая.

156. Работаў там, крылі з бацькам, панаравілась, думая: “Я б яе замуж узяў”. Едзім, ужо панаравілась, едзім дамоў, забіраюць жа нявест, дак ён гаворя, пад’язжаім, напрымер, к Амяльному, гаворя, я пытаю: “Марусь, кудой цябе везць, па дзярэўні ці па загароддзі?” – “А чаго?” – “ Еслі ты чэсная, з хлопцам не гуляла па-плахому, значыць, павязом мы цябе па вуліцы, а еслі не, значыць, мы цябе павязом па загароддзі”. Яна гаворя тады: “Знаіш што, Іван, вязіця пры случаі па загароддзі”. Павязлі, ужо, па загароддзю. Вулачкі ж у нас, на Амяльном, дак, вулачкі, штоб коней

ганяць, кароў. Даехалі, да вулачкі завірачыемся. А во свадзьба тут ужо. Прыехалі. Усё ён расказваў. “Красівая, но …!” І прыехалі к свадзьбе, я гавару: “Злазь!” Усё, як парадкам, завялі, кругом стала абвялі.

Яна сядзіць і кажа: “А шчэ якія прыхамеці ты будзіш?” Гаворя: “Мне самая глаўная прыхамець, а астальноя мне похеру”. Ну, прышлі, ляглі ноч спаць, дак яна яшчэ пачыная… еслі цэлка – значыць усё, будзя кроў. Мы, гаворя, пашлі спаць, яна і кажа: “Ужо свадзьба прайшла, давай на чэснаць гаварыць. Я ж ня дзеўка, я з адным там была”. Што ж дзелаць? Яна гаворя: “Штоб жа заўтра ўранні папрыходзяць свадзьбашныя, скажаць выцягнуць пасцілку”. Яна пашла, парэзала палец, нажом чыкнула, прышла: “Скарэй, а то скора ня будзя іціць кроў!” Накапала-накапала. Прыходзяць свадзябныя, такія байчэйшыя: “Так, счас мы палядзім, яна ў цябе дзеўка ці не!” Палядзелі. Адна глянула і кажа: “Ні хера ні пайдзёць! Яна ў цябе ні дзеўка!” – “Чаго?” – “Ты п’яны быў?” – “Ну, выпіўшы ізрядна”. – “П’яны быў, ты ня знаў. Ты лазіў на сваю нявесту?”. – “Лазіў”. – “Што яна табе”... Ну, я ж эта не скажу. “Я добра не разабраў”. – “Ну, добра не разабраў, дак мы разабралі, што яна даўно сваю чэснасць аддала”. Дак, ён усё дзед той казаў, як пачане, яна сядзіць: “Ну, раскажы, Вера, як я цябе вёз”. Яна кажа: “А мне цяпер ня стыдна, ужо я семера дзяцей радзіла ад цябе”. Панаравілася, любіў. А дак мог сказаць: “Ідзі-ка ты па загароддзю назад к бацьку*”*.

[*Калі вязлі па загароддзю: з царквы?*] Ну, ты жаніўсь, а я замуж за цябе ішла. Ну, свадзьба ідзець, прыязжаюць за маладой, калісь жа на конях, жарябка, ці праяўзнога, прыехалі, нявесту выкупілі, забралі, тады ж стаіць з тряплом дзядзя ці хто, і ён ужо махая: “Дайця мне грошай!” Болей трэбаваў за нявесту. Я гавару: “І грошай шчэ ўпяклі харашо, думалі, дзевачка. А ты ўжо далёка ляжала кала дзевачкі”. І тады вязуць, перва – нявесту, тады ўжо сундук вязуць услед. Дак ён гаворя: “Я б цябе адправіў, да палюбіў, панаравілась”. Усё не наравяцца дзеўкі, а яна – …, шчэ панаравілась. Яна сядзіць калісь і кажа: “Знаіш што, Іван? На … – сто вачэй глядзь, а на заразу – ніхто ні разу!” І прайшоў номер. Дзеўкам усё раўно, ці дзеўкай ідзець, як панаравіцца. [*Адкуль яе вязлі агародамі?*] Ад маткі да ад бацькі. І да сяла давязлі, і ён пытая: “Ці па загароддзю?” – “А чага так?” – “А ў нас чэсных вязуць па вуліцы, а еслі не, значыць, па загароддзі”.

Ты жэнішся, бярэш чэснаю, там нячэснаю, якая панаравіцца, вот свадзьба, цяперь у адном месці гуляюць, ці ў рэстаране, а тады дзелалі во як, ты жаніх – ты прыглашаеш свой род, а нявеста сабе – у нявесты тожы свадзьба. Гуляяць, гуляяць, калісь у жаніха – свой род, у нявесты – свой, а тады ужо, нагуляюцца, сабіраяцца за маладой: “Паедзімця за маладой!” Запрягаяць коней, садзяцца на воз, пасадзяцца і едуць

за маладой. Стаіць маладая, пяюць свадзьбашныя песні, выкупляяць: “Сколькі там?” Жаніх стаіць, а два чалавекі, сваты, дагаварываюцца, не даюць нявесту. А тады ўжо выкупляяць нявесту, ён ужо палаценцам забірая нявесту і выводзя, кругом стала абойдзя тры раза, і вядуць нявесту, на воз садзяцца, віконай благаслаўляюць, і ты вядзеш нявесту дамоў, там цябе ўгашчаюць, і дружок, і дружка паедуць. К сялу пад’язжаіш, нявесту вязуць, і ён, ужо, пытаў “чэсная ты ці не”. [*А калі яны з аднаго сяла?*] Ну, ніхай будзя чэраз тры двары, усё раўно, каня запрягаюць, садзяцца жаніховы, у другі двор, іх прыглашаяць: “Хадзіця за стол!” Садзяцца. Тут ужо вып’яць і закусяць. Ужо, гуляяць.

[*А ў царкву?*] А ў цэрькву да свадзьбы. Свадзьба начынаіцца – ідуць пад вянец. Я шчэ помню, дзеці басяком пабеглі, нявесці поп на галаву вянок вешая, а із-пад вянца прыяджаяць, людзей саджаюць, п’юць, гуляяць. Павянчаліcь. Ціпер ужо началі па-новаму, у адном дварэ кудлычаць, а тады жаніх сабе род гуляя, нявесцін сабе. У цэрькві павянчаюцца, едуць к нявесці, нявесту астаўляюць, а жаніх з сваім родам едзя дамоў, а тады там гуляяць, а тады садзяцца на каня, едуць за маладой, тады пытаюць “чэсная ці не”.

157. Выходзяць з іконай благаслаўляць іх той іконай, і вядуць у хату, кругом стала водзяць іх тры разы. Бог Троіцу, кажаць, любя. Так, тры разы абойдуць, тады саджаюць, і частуюць іх. А тады прыяджаяць тыя. Ціпер жа дзень – дзень там, дзень – там, ды ціпер у рэстаранах у якіх дзень пагібеяць, а назаўтряга дома. А ў нас калісь свадзьба ішла тры дні, на трэцці – курыцу смаляць. Калісь первы дзень гуляяць і ў нявесты, і ў жэніха. Мы і Тусю аддавалі, і мяне, і Машу. Гуляяць первы дзень жаніхова радня ў жэніха, а нявесціна ў нявесты. Тады жэніхова радня прыяджаіць за маладой, тут іх саджаяць угашчаяць. Угосцяць, нявесту забіруць павязуць, а самы гуляюць, гуляюць. Прыходзіць жэніхоў бацька, пашле каго-небудзь: “Ступайця! Іхняя радня ніхай ідзець”. Ідом туды. Тыя ўжо не садзяцца, тут жа ўгасцілі іх, яны пад’елі да выпілі, а нявесціных саджаяць. А тады ўжо гуляяць, сколькі хочыш. Залязь ішчэ, хто не напіўся ішчэ да не паваліўся. Казаў дзед Майка на матку, Тусю аддавалі: “Ну, як Палашка... Плахая свадзьба твая”. А матка гаворя: “Чаго?” – “Помню, як дамоў ішоў. Як мяне вялі, я помню. Ішчэ не хацеў іцціць, думаю: “Ішчэ рюмак бы шарахнуў”. А мяне прывялі. Матка гаворя: “Ну, сёдня ўжо ня будзіш знаць, як прывядуць”. – “Вот так я і хочу!” Мой хрёсны і большай маёй сястры Машы мужык, матка гаворя: “Дзеда там харашо падчубрыцця, а то казаў: “Плахая свадзьба”. Дак ён сядзеў, сядзеў – і пад стол. Назаўтряга прышоў, матка: “Ну, як свадзь-

ба?" – "На яць! Ня помню, як дамоў мяне дацягнулі. Ачнуўся ў сваёй хаце". Назаўтряга гуляяць у нявесты два рады, і тэй род, і тэй гуляяць, тады ідуць к жэніху.

Калісь я: "Баб, для чаго яны водзяць кругом стала?" А тады пусцяць нявесту і рэмням б'юць. Мяне майго мужыка брат Іван, штоб нявеста была ўдалая, рэмням як сцёбнуў па плячах. Я заплакала, а ён дагнаў – шчэ раз. Усі так дзелаяць.

Я гаварю: "Баб, для чаго так?" – "Благаслаўляяць і малітву чытаяць, штоб з Богам харашо жылі". Калісь і разводаў не было. [*Хто лупіць нявесту?*] Хоць жаніхоў брат, хоць хрёсны. [*А сам жаніх?*] Не. Я гаварю: "Баб, чаго та на жэрябку возяць маладых? А дзед Майка сядзіць у нас: "Ааа! Во чаго. Мужчынкі ета святыя. А бабе даверыя няма, дак эта возяць, штоб з другімі не гуляла, дак на каню возяць".

158. За маладой як прыязжаяць, пелі ўсё, эта калісь, ужо тады сталі сундукі, а то не сундукі дзелалі, такія, калісь баба наша ішчэ ішла, дак такія, як бочкі, і такія вушкі, і закрывался крышкай, эта называецца, ціпер во шкаф, усё складалі, дак прыязжаяць за маладой, дак пяюць:

*Ой, стукнула-грукнула на дварэ.*
*– Палядзі-ка, мамачка, ці не да мяне.*
*– Ой, да цябе, дочынька, да цябе.*
*– Падгатуй-ка, мамачка, кубел мне.*
*– Ня буду і кубла я цябе шукаць,*
*Таму што ня ўмела ты рабатаць,*
*Ня ўмела ні кудзелячку прясць,*
*Ня ўмела ні кросенкі ткаць,*
*Ня ўмела ні палаценцы слаць…*

159. Нявесту забіраяць, на пасаду содзяць. У нас так дзелалі. Вот свадзьба ідзець, папрыходзяць усе таварышчы, дзеўку забіраяць і вядуць вот як калісь фацеры былі, наймалі... Пуд бульбы, колькі фунтаў зярна давалі, хто чым плаціў, а тады зіму да Вялікадня гуляюць, дак заводзяць на фацеру, касу плятуць, расчэсаяць дзеўкі і плятуць, і лентаў багата, усе дзеўкі зносяць, у каго якая ё, у каго – белая, у каго красная, усякія, і ўплятаюць у касу. І нявясту наряджаюць, калі б цяпер – плацце – і ўсё. А тады празнічная – кохтачка, юпачка ці плаццейка.

І вядуць тую дзеўку і песні пяюць. І прыводзяць, і содзяць за стол, а тады жаніх прыязжая і выкупліваець нявесту. І штоб касу выкупіў жаніх, нада плаціць грошы. Стаіць брат, ці брата німа, дак суседніга хлопчыка возьмуць. Дзеўку не станавілі. І, што лён трэпяць, тое тряпло бяруць, напрымер, ты – сват, мы прыехалі нявесту. "Наша нявеста дарагая. Мы дорага просім". – "Колькі?" Ці руб, ці два, ці тры, сколькі

хто скажа. І хто ўжо заплоця руб, а то капеяк сыпнуць. Ну дак капеяк не бралі, гаворя: “Ня нада слёз нявесце”. А ўжо руб, а хто дасць два, а еслі тры, дак ета ўжо: “Ой, багаты сват!” Яго ўжо напояць: “Давай гарэлкай будзем цібе паіць!” Ён гаворя: “Нявесту пацяряю, як буду ехаць, як нап’юсь. Дак ня нада”. Шуцілі так. Патом нявесту рушніком забіралі і вялі дамоў. Нявеста сядзіць з дзеўкамі, а другія прыязжаяць, жадныя, і рушніком зачэпяць. Раз зачапіў рушніком, тады ўжо ўсё! Ета шчэ не дае, ён тряплом махая, хлапец тэй. Яны гаворяць: “Ня бі нас тряплом! Мы табе грошай дадзім”. Андрюста выцягнуў грошай ды: “Сколькі табе?” А Грыша і кажа… Мы гаварым: “Грыша, не бяры ўсіх. Ня нада! Совесць імей.” А ён гаворя: “Я б усі ўзяў. Но давай мне хоць трошкі”. Ён: “Ах! Раз трошкі! На табе траяк!” А калі траяк – ён жа грошай стоіў. Як даваенныя грошы былі. “Даў траяк! На табе шчэ! За то шта ты ўсі не забраў”.

Ужо, як грошы ён заплоця, тады ўжо свабодна рушніком зачэпя і нявесту, дзеўкі вылазяць на двор, а яны нявесту бяруць, вядуць, кругом стала абвядуць, тады ўжо вядуць на чом прыязжаюць. Жэрябка бралі, у каго ё, праяздныя… [*Адкуль забіраюць нявесту? З дому?..*] Нявесту як прывядуць із фацеры дзеўкі, як вядуць наряджаць іё і вядуць тут, і дзе свадзьба, і содзяць іё за стол і дзевак, і ўсіх, і ўгашчэніе становя бацька і матка, угашчаяць, і нявеста сядзіць, другая нявеста плача, а другая, як любя ідзе, дак не плача. Да нявесты – усі плачаць. Эта ж дзеўкам нада расставацца із хлопцамы, ня будзець гуляць хадзіць. І пяюць пасады тыя.

160. Матка наша гаварыла... Замуж ішла, дак свадзьбу дзелалі: узвару наварылі, пілі... Сколькі хочыш. Вот, гаворя, стаіць чыгун пабеляны, чэрпаяць, выпіваяць узвару і закусыяць. Ета ціпер ужо, дак стол Божа мой! ... ці горя, дак усё раўно, ці свадзьба... Гатуяць. А тады: боршч, бульба жаряная, каша, драчоны – і ўсё. Закусываць гурка паложаць салёнага, еслі зімой... Ні салатаў, нічога... І танцуяць, і пяюць... І ў засланку, калісь у нас у засланку... Барабана... Што печ засланяяць... Ён тую засланку за ручку бярэ і як у барабан выбівая ложкай, хоць палку возьмя... Аж грыміць пасёлак. Узвар – кампот з крышэнікаў, да і сахару не было – кіслы, там трохі буракоў атвараць салодкіх, сахарных, і не грэбывалі. Выпьяць і песні пяюць. [*З узвару не зап’янееш?*] Яны не счыталі, што ета нада п’янець. А выпілі, з’елі... Еслі вясёлы, да ён спяваць умея, дак яму не нада напівацца. После вайны.

161. Курэй дралі ўсюдых. Курыцу смаля... Ета ўжо абряд. Назаўтряга ўжо курыцу смаляць, да і дзве. У жаніха і ў нявесты ўжо, у тога возьмуць і ў тога, і ўбіваяць, а тады ішчэ па вуліцы паходзяць, прывяжаць на шост,

певень ці курыца, разніцы німа, баўтаіцца, такая палка высокая – жэрдка, і яны, каторы мужчына носіць ужо, а тады прыносяць, абскубаяць і пер’я пускаяць па вуліцы, і смаляць на вуліцы. Саломы выносяць, на жэрдцы на той, провалкай прывязаяць за жэрдку, штоб ужо не перягарэла і смаляць курыцу, тады з кожай абдзяруць, выкідаяць, а з мяса суп варяць.

[*Гэта на які дзень?*]

На другі. Свадзьба на первы дзень, а на другі... Ужо перяспаў жаніх с нявестай... Курыцу ўжо смаляць. Ва ўсіх: і ў Падкаменні, і ў Марозаўцы, і ўсюдых. Мы калісь ідом ад Злынкі, а ў Марозаўцы свадзьба, а мы з Жгірявай Гашкай ідом, яна гаворя: “Вон, ужо курыцу... Ета сёдні свадзьба...“ Мы даходзім, і свадбашныя стаяць, дак яны зналі мяне, яны за нас: “Хадзімця... (хто кажа: “Лапшу варяць”. Хто: “Суп”) і яны за нас...

[*На чыім двары курыцу смалілі, варылі?*]

На нявесціным.

[*Бралі курыцу і ад жаніха, і ад нявесты?*]

Да.

[*Дзеўка была чэсная-нячэсная: усё адно курыцу дралі?*]

Усё раўно курыцу дралі, смалілі, суп варылі.

[*Дзеўка была чэсная-нячэсная: як паказвалі?*]

Ета жаніх распаряджаіцца. Ета закон такі ва ўсіх сёлах. Ета, як жаніх скажа.

162. *Дзеўкі сірату на пасаду вялі*
*І сіроцкую песенку ёй спявалі.*
*А кругла сірата горькім слезам заліла*
*І белым платочкам слёзы выцірала,*
*Што некаму стаць у канцы стала*
*І некаму прасіць Госпада Бога*
*Счаслівай долечкі.*
*Крёсная маці будзя стаяці ў стала*
*І будзя прасіць Госпада Бога*
*І счаслівай долечкі.*
*– Не абходзя крёсная мяне стараной,*
*А станя гаварыць, як з дочкай роднай,*
*А я ў Бога сірата, укланяюсь усім с утра,*
*Да позняя ночкі ня спяць мае вочкі,*
*Слезам абліваюсь, кулачком уціраюсь*
*І з Госпадам Богам горям падзяляюсь.*
*А крёсны ацец станя на парог*
*І будзя прасіць у Бога дарог,*
*Штоб нашай сіраце ні астацца ў бядзе.*

163. *Плыла вутачка рякою,*
*Вуцянятачкі за ёю.*
*– Ой, скажы-скажы, дзеўка Танячка,*
*Хто табе мілей за ўсіх?*
*– Ой, міл жа мне татачка, як маё сэрца ўва мне.*
*– Няспрадзівая дзеўка Танячка,*
*Нам праўды не сказала.*
*Плыла вутачка рякою,*
*Вуцянятачкі за ёю.*
*– Ой, скажы-скажы, дзеўка Танячка,*
*Хто табе мілей за ўсіх?*
*– Ой, міла мне мамачка, як маё сэрца ўва мне.*
*– Няспрадзівая дзеўка Танячка,*
*Нам праўды не сказала.*
*Плыла вутачка рякою,*
*Вуцянятачкі за ёю.*
*– Ой, скажы-скажы, дзеўка Танячка,*
*Хто табе мілей за ўсіх?*
*– Ой, міл жа мне Ванічка, як маё сэрца ўва мне.*
*– Ой, спрадзівая дзеўка Танячка,*
*Праўду нам усю сказала.*

164. *Татачка мой родны, выведзь мяне з моря,*
*З вялікага горя.*
*Татачка ж ня выйшаў, з горячка ня вывяў.*
*Ой, я свайму татку плахога жалаю,*
*Плахога жалаю.*
*Я тын паламаю, я тын паламаю,*
*Кароў паўпускаю.*
*Тапчыця, каровы, тапчыця, каровы,*
*Што ў таткі ў гародзі.*
*А ў таткі ў гародзі бела-рута мята,*
*Сыроя карэння.*
*Сыроя карэння з таткам разарэння,*
*С таткам разарэння.*
*Аддаў мяне замуж да й за нелюбога,*
*Да й за нелюбога.*
*Да й за нелюбога, да й такога злога.*
*Да й такога злога.*
*Ня знаю, як жыці да й яму гадзіці.*
*Да й яму гадзіці.*

*Свякруха ліхая мяне абсуждая,*
*Мяне абсуждая,*
*Што ня ўмею жыці, з мужам гаварыці,*
*З мужам гаварыці,*
*Што ня ўмею мужу, не ўмею гадзіці,*
*Не ўмею гадзіці.*
*Ой, ня знаю, як мне дальшэ ўжо жыці,*
*Як мне дальшэ жыці.*

## Пазашлюбныя сувязі

165. (а) Ціпер прывыклі *бракам* етым *чарціным* ідуць замуж без роспісі.

[*А раней такія бракі былі?*]

Калісь ета рэдкі случай, што ўжо дзеўка забірэмініла... І січас яго ліквідзіруюць. Ідуць увечары ў сваты... Усё... Прышлі ў сваты... высваталі. "Ліш бы сваты пабылі... Свадзьба... Вот ета закон".

[*Так раней казалі, што гэта чарціны брак?*]

Усяк казалі. Калісь Мельчыха прыдзя, сястра яе забярэмініла, прышла: "Во ўжо! Ета ж нада: у чарціны брак улезла... Антону падалася, дак забярэмініла. Дак, матка ўжо вадзіла к свякрусі. Ужо дазналася ж, дак: "Пайдзём-ка, – гаворя, – к свякрусі, да ряшым дзела..." Ну і, ряшылі дзела, што пажаніліся... Самае глаўнае, што пуза нагулялі.

Да свадьбы ж яны переспалі...

[*Дык гэта што – чарціны брак?*]

Ета ўсё казалі: "Ааа, чарціным бракам".

(б) Прыходзяць... Скарэй давай... І выпіўка, і закуска... Раз ужо ўнучку спорціў... Была прыкрываць чымсьці.

(в) [*І баба Алёна так казала, што чарціны брак?*]

Усі тады казалі так. "Чорту ў зубы далася". Дак ён падняўся... Добря другі... А другі ўстаня, станя вогерам: "Ня буду браць!" Скажа: "Мне нада век жыць не любя. Ня буду браць".

["*Станя вогерам*" *што такое?*]

Ну, пайду, і ўсё!

Вот ня пойдзя ў сваты – і ўсё. Сказаў там у нас адзін... пуза нагуляў, а сказаў: "Жаніцца на ёй ня буду!"

166. На дзевак, каторыя ідуць... Не замуж, у чыкірду ўдваіх пагуляюць... Вот тады... Забірэмініла... Картуніха пашла: "Ты знаіш, Арына, твой шкоду здзелаў, дак давай хоць у бабу перахрысціма іё. Давайця ізздзелаім па закону". Ета, ідуць, ужо, абы перяхрысціцца, што "я замужам

была”. Свадзьба пройдзя, называіцца “ў бабы перяхрысцілася”. Пашла замуж. Хоць яна і дзень пражыве, а ўсё раўно: “Вот яна замужам была”.

# XXVIII. Смерць. Пахаванне. Радуніца

## Прадказанне смерці

167. Што-та ё божыскае. Вот сны бачыш. Перяд Коршунам... Коршун строя хату. Я прышла, гаварю: “Ой, Васіль, ну етыя ж хаты харошыя ў цябе”. – “Ета я шчэ дзелаю”. Бальшая такая... Я вышла ў сярёдак: вакон німа, толькі дзвяры. Тады мне ўжо звоняць: “Мішка Коршун памёр – брат яго”. Я гаварю: “Во Васіль толькі строіў хату”. І перяд ім... “Варя, дзелаю сабе хату. А ўряд, – гаворя, – Машы пастрою ішчэ”. І сам памёр. І вот тры нядзелі – і Маша памёрла.

168. Бачыла сон. Баба наша Алёнка мяце ў нас у хаце... і Васіля бачыла ета перяд Васілёвымі сарака днямі... Ішчэ Маша была жыва... і Васіль мяце кала двара... І я падышла к яму... Уродзе, я з кароўніка ішла, падышла і гаварю: “Што ты тут усё скрябеш?” А ён усё мяце, штоб дажэ лісціка не была на дварэ. Дак я падышла да гаварю: “Васіль, ну што ты... Чыста ж кругом і смецця німа!” А ён кажа: “А вон лісточкі ліжаць!” Я гаварю: “Давай пасядзім!” А ён: “Не! Нада вымесць чыста. А тады сядзім пасядзім. Ужо чыста вымяту!” Вот ён і вымеў... Маша ішчэ жыва была тут. Ён вымеў дачыста.

А тады чую, баба Алёнка. Я ў хату вышла, і сядзіць Туся, і баба, такі во драчык, венік змёўшы ўжо, адзін камель, штук дзесяць етых палачак, і тым драчыкам яна мяце... Я гаварю: “Баб, ну што ты мяцеш етым драчыкам? Палядзі, ты мяцеш, а смецця ляжыць. Туся, ідзі вазьмі венік на дварэ ці каля бані і дай бабе, да ніхай мяце. А то сама падмяці!” Туся тая як сядзіць, так і сядзіць. І ніхто не пайшоў, баба шкрябе... Я пачала Томе казаць, прыехалі на Васілёву адправу... А яны гаворяць: “Із Масквы Лёшку вышкрябла баба. Лёшка памёр”. І Васіль прысніўся, што вымятаў дачыста, і баба. Тома гаворя: “Ён яшчэ мяне з Мішкай кінуў да цётку Таньку. І цябе кінула баба. Ня вышкрябла...” Сны праўдзяць.

169. [*Сны праўду гаворяць?*]

Да. Ё сны, што праўдзяць. Я перад Машай... Коршуна бачу... Васіль Коршунаў, Машын мужык, строя дом... Я прышла, да і гаварю: “Ну, што ты дзелаіш? Ну, і еты ж хаты цёплінькія, на восем аршын, і пярэдняя,

і задняя, а ты ішчэ дзелаіш...” Ува сне так. А ён мне і гаворя: “Нада”. З месяц прашло, і Мішка памёр, іхні брат. Тады, перяд Васілём... Вот бачу... Кажу: “Пазваніця Томцы... Сны бачу, што Васіль строя хату...” Ён памёр... Ужо мёртвы быў... І прышла, кажу: “Што ты, Васіль, дзелаіш?” А ён здзелаў: ні вакон, нічога, толькі адны дзверы... Кажу: “Ну, куды ты строіш? Хваця!” Думаю: “Ну, ён жа мёртвы...” Тры нядзелі прашло, і Маша памёрла...

170. Кума мая, Сяргея бальшога крёсная. Яна ўмерла. Уродзе, яна прышла ка мне, да гаворя: “Ніхай мае сапагі паляжаць на грядах”. Я гаварю: “Ну, ніхай”. Яна палажыла сапагі свае. І гаварю: “Ну, хадзі пагаворым”. – “Не. Пайду. Мне нада... Пайду ішчэ моркву паскаблю”. І ў мяшку морква... І яна сядзіць і скобля. Я іду. Яна: “Чо ты не прынясла?” Я гаварю: “Сама сходзіш. Палажыла... Там ляжаць”. Гаворя: “Я пайду схаджу”.

*Кужэльная Праскоўя Сяргееўна, 1933 г. н., сястра стрыечная:*

Еслі б яна сапагі прынясла, Варька Лідзі, і ўсё... Тады счытай, чалавек умірая. Сапагі аддаў... І сам пайшоў.

Я ішчэ кажу: “Ліда, хадзі, мы с табой пагаворым. Хоць ты раскажыш пра сваё. А то ж мы даўно с табой не гаварылі”. Яна гаворя: “Дак во ж моркву нада паскабліць”. І прачнулась.

*Кужэльная Праскоўя Сяргееўна:*

Еслі б яна сапагі прынясла, еслі б забрала Канстанцінаўна сапагі, значыць, баба ўжо б умерла. Яна б яе з сабой забрала.

Маша сніцца... Я хачу з ёй пагаманіць, яна ўбягая. Вот аддаляецца ад мяне: “Послі пагаворым”. І як толькі, ня хоча са мной гаварыць.

*Кужэльная Праскоўя Сяргееўна:*

Таго шта ня хоча забіраць сваю сястру... “Жыві яшчэ, пака жывёцца”.

171. Усё кажаць, як кот умываіцца, госці будуць... Ета даўным даўно ідзець... Калісь... Вот кот сядзіць і ўсё ўмываіцца ад дзвярэй у хату, гаворяць: “Во госць прыдзя”. Ты б сядзеў і сказаў: “Госці к табе прыдуць”.

[*Калі з дзвярэй у хату?*]

Во дзверы... Будзіць кот сядзець і ўмывацца, знай: із дзвярэй прыдзя хтось у хату. Гаворяць, як на дзверы ўмываіцца, то ўжо хто-та з хаты ўмываіцца. Калісь баба кажа наша: “Чаго наш кот умываіцца? Сядзе на стале і ўмывацца туды...” Яна і кажа: “Каго ты, кіса, будзіш вымываць ужо?” І бацьку плоха стала. І ў бальніцу адвязлі... І апірацыю не перянёс. Дак яна: “Ня дзіва... Коцік наш усё ўмываўся. Вымываў з двара хазяіна”.

# Падрыхтоўка да смерці і пахавання

## Адзенне

172. Гаворя: “Паложця мне... Ета празнічная  будзя, а вузёл... І ета... дак я буду ў будзен дзень на работу там хадзіць”. І тапкі паклала... Нявестка кажа: “Ну дак што табе, і міску, і ложку туды?.. І супу насіць кажды раз?” Яна: “Ну насі”. Тры дні мертвяцу носяць”.

[*Што значыць: тры дні...*]

Вот сёдні ён памёр, схавалі... Тры дні, як ужо схаваяць, дак назаўтрага нясуць... *Снедання* называіцца... Там чаго... Блінкоў спякуць... Чаго сабяруць... Паставяць... пціцы паядуць...

[*Яна сказала: “Ета будзя празнічнае...”*]

Да... “...а ета на работу буду хадзіць, дак буду надзяваць”. Бабы: “Ну кладзі, – на Кацю, – кладзі...”

[*Яна загадзя падрыхтавала?*]

Яна прыказала, яна ўжо ляжала: “Вот ета кладзі, вот ета...” І паклала ў вузёл: і хустачкі, і тапкі, і чулкі, і юпкі-шэсціклінкі... І ў вузёл, і ў ногі паклалі.

173. Іван быў... Штаны яму надзелі, рэмінь ні ўтыкнулі ў штаны... Проста забылі... І вот сніцца... Багата каму сніўся: “Скажыця Маньцы, ніхай найдзе мой рэмінь, а то штаны падаяць”. І Манька гаворя, жонка яго: “І мне сніцца: “Манька, у мяне падаяць штаны...” Палядзелі: “Рэмінь вісіць... Не ўцягнулі...” Ну дак яна... Гараська памёр... дак Манька прынясла... Ня буду бряхаць... Ці яна ў гроб паклала... Наверна, у гроб паклалі тый рэмінь... Гаворя: “Перядай Івану майму...” Яго там блізка, недалёка паклалі тога Гараську. І гаворя: “Пярястаў сніцца”.

174. Цяперь жа пастановяць галавой сюды (у кут і па дыаганалі), а сюды нагамі, і мяртвяк штоб з двух бакоў, ужо моду ету здзелалі, а калісь, на надворяшнай сцяне – жэншчына, два ўслоны паставяць, а на вулішняй – ета хазяін доўжын ляжаць. Так клалі скрозь. Ніхай маленькі дзіцёначак, і ўсё раўно, Туся наша нежывога радзіла, і ўсё раўно паклалі хлопчыка на вулішняю.

## Гарачы абед

175. Гарячы абед, памрэ... Схавалі, у ямку ўкінулі і прышлі дамоў – ета паследні яго абед. Ужо большэ... абед... ужо паследні – самы глаўны. Боршч, бульба жарэная, каша, узвар – і ўсё. “Гарячы абед” считаіцца.

176. Ну, гарячы – паследні абед называяць. Ні магу сказаць, што ён прыдстаўляя сябе. Усё кажаць: “Гарячы абед”. А адправа – на той свет адпраўляюць.

## Канун

177. Ета, як мёртвыя, як памрэ – на абедзе канун, і на шасці нядзелях дзелаюць, як Радуніца дзелаяць у хаці, дома. Усі дзелаюць. Штоб сладка было на душэ ў мертвяца. І баба: “Давайце-ка канунчыку, дзеці!” А нам не канун, ліш бы салодкага.

178. Ё мёд... Кажаць, хоць каплю нада мёду  божжага етага пакласць. Мёд – ета ўжо божжая дараванне, дак мёд... А німа – сахару клалі.

У маскалёў я была на абедзі... Наварылі пшаніцы, кіпятка налілі ў яе, яна пастаяла ў кіпятку і толькі набухла, яны яе сцадзілі і ў місачкі клалі... Табе ў місачку, і мне. Я палядзела, гавару: “Штой-та такое?” А ў іх ё свой, каторы Богу моліцца, і там ужо пеў, дак ён гаворя: “ Ета...” Вот па-свойму ён назваў... Ён і гаворя: “Вот у вас “канун” завецца...” Мы гаворым: “Ну дак канун жа – мёд, вада”. Еслі ё свячоная, вады свячонай валлюць, і туда мёду разбаўтываць, і ўжо ў місачкі разліваяць, на стол ставяць... І батона пакрышаць, а німа батона, хлеба пакрышаць. Крошачкамы... Ня рэжаць, а пашчыпяць. Ета называіцца “канун”. Перяхрысціцца, тры ложачкі з’есць. Ета называіцца “Божжы дар”. А ў іх пшаніца.

## Радуніца

179. Дожч пасвяціў паску мяртвячаю. Свецяць такую паску, а ета ўжо мяртвячаю. Усё баба казала... як на Радуніцу дожч, яна гаворя: “Во, Гасподзь свеця яечкі мёртвым і паску”.

[*На Радуніцу – мяртвячая Паска?*]

Ну, наша ж Вялікадня прайшло, а ета  ўжа мяртвячая Паска. Яйцы красяць і паску. Мы не пяклі, мы купляли.

[*А раней як было?*]

Раньшэ ўсё раўно яйцы красілі, перяжкі пяклі...

[*Спецыяльна для мерцвякоў?*]

Да. Красныя яйца абізацільна. Пакрасяць яйцы, а тады тую шэлуху ў чыгунку... Штоб жа пакрасіць да Радуніцы... Яйцы етыя да Радуніцы ж ня будуць ляжаць, а свежых нада. Каждаму па яйцу пакрасяць... І табе яйцо, і мне яйцо. Пойдзіма... Кажды са сваім яйцом... Разаб’ем... Садзімся... Баба: “Давайця разгавеімся”. Пагукая ўсіх, памоліцца Богу.

[*Як гэта: пагукае ўсіх?*]

Бацька наш, сын яе... яна: "Сашачка, хадзі разгаўляцца к нам!" Каторыя памёрлі, яна іх...

180. У нас канхветы кладуць... Сабакі прыдуць... Пахватаюць-пахватаюць, і пашлі. А баба наша... І дома... Яна кашы зваря на Радуніцу... гусценькая такая... Махотачка... Бярома туда... І яна калупая і па могілках рассыпая. "Пцічкі, – кажа (сабакі ж ня будуць тую бубачку хапаць). А яна яе крута зваря, а тады ўжо рассыпая па могілках па сваіх… і па чужых сыпне. Крыстом сыпя. "Ніхай пцічкі ядуць".

[*Якую кашу?*]

Хочыш – грэцкаю, хочыш – пшоннаю, у каго якая ё. А цяпер пачалі канхветы.

181. На Радуніцу пасачку ўверцім, пасачку ўвярці і нясі, і яечкі ў палаценца ўвярці. На кладаўе прыдзім, баба так дзелала, і мяса возьмем, і яец, ну як і на Вялікадня, яна [баба] кала хрэста расцеля ўздоўж магілкі. Кажу: "Баб, чаго-та на кладаўе ложаць, узялі б палажылі б нагамы сюда?" – "Няльзя, мая ўнучачка, таму шта мяртвяц, моляцца ж Богу на сонца, а сонца ўсходзя, усягда нада сонцу ўкланяцца. Штоб мяртвяц ляжаў і падняўся – і сонца. На ўсход сонца кладуць нагамы".

182. На Радуніцу прыдзім, ён і кажа: "Ну, як я памру, прыдзіш, перва яечка выцягвай, прыдзі ка мне, хрэст пацалуй і яечка пакачай, разлупі яго, пакрышы.

[*Якое яечка?*]

Нада красная. Ета ж Вялікадня мертвяцоў. Яйца качаім хрэшчыкам тры разы.

183. Туда шалупайкі з цыбулі накладзеш у чыгунок ці ў кастрюлі і гарячым кіпяткам наліваіш, яна пастаіць і прыкыпіць, а тады ўжо яйцы кідаіш, яна, красная вада, і яйцы красяцца. А тая вада, шалупайкі, стаяць да Радуніцы на дварэ. У тых шалупайках іщчэ яец пакрасяць к Радуніцы. Ета Вялікадня радзіцілям – красныя яйцы нада. Пакрасяць, а тады выкідаяць на агарод, ямачку пракапаюць, туда.

## Паводзіны родзічаў пасля смерці і пахавання

184. Ні танцаваць, ні пець... Етага ўжо не... Пакуль сорак дней... А мы дак і ні сорак дней... Паўгода... Баба гаворя: "Ня пейця..." Вот я пайду пагуляю... Танцаваць... Я іду дамоў. Прыду дамоў... Ніхай дзеўкі там

танцуяць, пяюць... А мы не. Мы – Туся і я, сабіраімся... Ета як бацька памёр... Мы ішчэ малыя былі. То дак пойдзіма... У Крыўцовых, там уряд са мной жыла Алёна, равесніца... Дак мы пойдам, сядзім, пяём з ёй... На грубцы... Скрозь у перэдняй хаці. А як бацька ўжо памёр, я прышла, яна: “Давай пець”. Я гавару: “Не. Бацька памёр. Дак баба сказала: ня пець...” [*І колькі?*] Сорак дней... І с паўгода я ня пела. І ў школі дажы ня пела. Учыцілка пытала. Я гавару: “Баба мне сказала ня пець. Мой бацька...” Мне восем гадоў была.

Была ў нас заўклубам, дак сястра, пазванілі, памёрла, а ёй канцэрт нада была дзелаць... яна і дзелала, і пела... Гаворя: “Сястра мёртвая ляжыць, а мне...” Што ж у яе... І аб’явы напісала ўжо... “Дак што, – гаворя, – усё зрываць?” І прыдсідаціль сельсавета прышла і гаворя: “Ты ж на рабоці”. Дак яна з намы пела. Усяк прыходзіцца.

185. Як бацька ці матка памрэ, ці хто ў дварэ – шэсць нядзель не танцэвалі.

## Уяўленні пра душу нябожчыка

186. Ну, напрымер, Маша памёрла наша... сёдні памёрла... Во схавалі... Шчэ ж відна... прышлі, сталі гаварыць, і ў дзень ета ўсё случылася... Як вінтам... Воздух, як ракеты: адна, тады другая.

187. Кажаць: “Цела схавалі, а душа шчэ ў хаці ў сваёй. Шэсць нядзель. Шэсць жа нядзель адправы дзелаяць справеку век. Шэсць нядзель, тады ўжо адпраўляяць на небяса.

## Рэчы, якія належалі нябожчыку

188. Памёр... І схавалі... А тады ўжо абед атойдзя... Назаўтряга ўсю тую пасцель выносяць, кладуць у сарай ці ў каморку... Ну с хаты выносяць... а назаўтряга сціраць... Яно ж усё харошая... Сціраяць ужо... У вадзе папалошчаць... Абы штоб у вадзе... Папалошчаць... Павысушаць і кладуць ужо... Калісь ж сундукі былі, а ціпер шкафы... Сціраяць, штоб яму чыста была на тым свеці ўжо. Хоць і аддаць. Калісь матка памёрла, дак мы Аўгінні Сафронавай пааддавалі. Пасціралі, пакачалі на качолкі, і Аўгіння хадзіла, дак мы гаворым: “Аўгіння, на табе...” Пааддавалі... Па старцах яна хадзіла...[15]

[15] Грэцкі Сяргей Васільевіч: “Умірая, хароняць... мужчына... жэншчына... разніцы нету... Пахаранілі, пасцель ету ўбіраяць. На следушчы дзень памояць... ваду ету... штоб людзі не хадзілі... ні на праезжаю часць... ні на вуліцу... а так у вугал куды ізліў. А пасцель ету ўжо гладзяць... штоб была пакойніку... пакойнік, штоб ён там чысты быў, і ў чыстым хадзіў”.

189. Завязкі... во як памірая... Штоб рот не разышоўся, дак звязыяць... Етыя завязкі, што рукі звязыяць, ногі, штоб умесці былі дзве, такія во вузкія атрязаяць з мацірьялу, а тады завязкі тыя... ці рука баліць, ці што... Яны ўжо хватаяць наперябой... І бралі. Адна насіла, гаворя: "Я ўжо гадоў пяць вузёл не развязаю... Мне легчэ..."

190. Во... Галька... Як памёр Коршун, дак Галька гаворя: "Мне нада... Так баляць у мяне рукі, дак нада ўзяць..." Дзелаяць... во сцеляць пад ніз калінкор белы, засцілаяць... Калісь... ціпер сыпяць што ці не?.. Калісць лісця з веніка нацярушаць у гроб і стружачак мякіplatzkіх накідаяць, а тады засцілаяць... Кладуць такую падушку... сенам натаптываяць... Мы бабе сена і мяты наклалі... яна мяту любіла, як пахня... І засцілаяць на ўвесь гроб... такую, як калінкор шырокі... А ў канцы атрываяць такія тры шыраной, як два пальцы, ці, можа, трошкі таней... І толькі ня рэжаць, а нада атрываць... Начыкнеш нажнямі, тады атарвеш... Адну – ета ногі звязываць, другой тряпачкай, тожа такой... Усе роўнінькія падзелаюць, рукі звяжаць, штоб яны не раз'язжаліся... пакуль закалянеяць, як хаваць, і штоб рот... Кругом завязыяць. А тады развязыяць, дак тряпачкі етыя бяруць скарэй... На рукі завяжаць... У каго ногі баляць... Гаворяць: "Як у мёртвага не баляць ні рукі, ні ногі, ні зубы, штоб у мяне не балела нічога". І завязыяць на нагу, і ў баню ідуць, развяжаць. Кажаць, памагае.

Адна казала: "Забалелі зубы, а завязала тую, падвязала, і што ты думаіш, замёрлі, дак гады два ня чула".

[*Ёй давалі якую?*]

Завязана была, штоб рот не рязяўляўся. У каго рукі – із рук бяруць, у каго ногі... Ма́шыны былі звязаны, дак яны гаворяць: "Во вазьмі... Нага баліць..."

191. Штоб нітка і іголка засталася... Нарошна атрываяць длінныя... Я калісь шыла... Дак прышла маладзіца, гаворя: "Атарві длінную, штоб..." На жывую нітку шылі... Шылі падушкі на жывую нітку... У адну рэдзь. На тэй свет прыдзя, нітку выцягня. Пацягнуў за вузялок, і падушка распалась... Дак яна... Я ёй дала, дак яна гаварыла: "Так зубы баляць..." Дак яна працягнула... Прымер здзелала: "Як у мёртвага зубы не баляць, штоб у мяне, раба божжай Варькі (ці Манькі), штоб зубы не балелі". І казала, не балелі...

[*Куды потым тую нітку?*]

Ішчэ каму можна даць. Да луччы німа перваму, што хто первы...

Скрозь: "Глядзі, на жывую..." Мы прышлі так к адным, яны гаворяць: "На-ка падушку сшый". Гаворяць, свайму нельзя шыць падушкі, а то

зашыіш, усякія прыметы. Як свой шыя семьянін, дак кажаць: “Зашыіш у гроб усіх. Уся сям’я будзя паміраць”. Ну дак чужыя папросяць.

[*Вы сказалі, каб там ён пацягнуў і падушка распалась. А для чаго?*]

Ужо ж нітку тую выцягніш, яна ж не задержыіцца, і нітку тую выцягніш... мёртвы, мол, ужо... Там ідзець, штоб ужо вытрусілася ета за сабой, штоб пасцель ету... Кажаць, на тым свеці пасцель ету разуряюць мёртвыя.

192. Нітку тую спецыяльна хаваяць... Еслі, напрымер, гуляў ён са мной, а тады кінуў, да другую ўзяў... Ажаніўся, дак яму ў пасцель... Прыходзяць і тую нітку с іголкай... Вот маладую вядуць, прыдуць: “Ой!” І падушку памацаяць, і іголку туда ўжо ўсодзяць (хоць ніхай такая нітачка – паказала кароткаю) і гаворяць: “Штоб твая жысць разарылася, як тэй пайшоў мёртвы, штоб твая жысць доўга не пражылося...” І паміралі ўжо... А хоць пачануць... Якая сварка ці балезь ужо... Бабы старыя, яны ж зналі: “Пашукайця іголкі...” Находзілі ў падушках, у пярынах, у адзіялах. Хадзілі к бабам, штоб яны атшоптывалі.

193. Калісь баба казала: “Ня будзя сонца свяціць, ня будзім мы сушчыстваваць. Так нада маліцца на сонца”. Чаго мяртвяцоў кладуць на ўсход сонца? І ўсюды на клодаўі кладуць: і ў Закружжы, я бачыла, і ў Грамыках кладуць на ўсход сонца.

## XXIX. Бытавыя прыкметы і прадпісанні

194. Кажаць, як сон бачыш, нільзя як прачнешся, дак на вокны не глядзі, а то забудзіш. А глядзець нада хоць на мост, а хоць на сцяну. Тады не забудзіш тэй сон. І баба нам казала. Я гаварю: “Ой, бачыла бацьку ва сне”. Яна гаворя: “Не нада глядзець на вокны, а нада на сцяну глядзець – запомніш”.

195. [*Для чаго па дрэву стукаць?*]

Кажаць: “Харашо жыве”. І паляпаяць, штоб плоха не случылась.

196. З дому выходжу, баба і кажа: “Падаждзі, мая ўнучачка, ня йдзі”. Печ топіцца, яна скарэй засланку... Абы з хаты вышаў... “Ідзі!” Я ўжо скорынька за хвортку, і пайду.

[*Калі нехта выходзіў, закрывалі печку?*]

Да. Печка гарыць. Засланку туды. А як ужо пайду, атсланівая засланку. З хаты выходжу, яна закрывая, і пакуль пайду, за хвортку выду, тады яна аткрывая. А чаго, я дажы ні паінцірясавалась.

197. Баба наша казала: “Выдзіш. Глядзі, што забыла, не варочайся”.

198. Баба калісь казала... Ці вот хто прыдзя... Дзед Майка прыдзя, шапку здзеня... Баба: “Шапку на стол не кладзі, а то дурная галава будзя! Будзя балець галава. Не кладзі!” Нікалі шапак не кладуць на стол. І мы хусты калі... Пагладзім... На стол у пярэдняй хаці... “Дзеці! Не кладзіця на стол. Занавесачкі кладзіця, но хусты, шапкі не кладзіця. А то голавы будуць балець”. Праўда, вот возьмем... “Ужо голавы не баляць, баб. А то балелі”. – “Адтаго, што на стол кладзіцё”.

199. **У новаю хату.**

(а) На падпоўні, штоб усяго было ў хаці поўна, і зярна, і ската, і ў дварэ... Дак на падпоўні... На трэццяй квадры перябіраяцца. Мы перястроіваліcь. У бані жылі. І ўсё раўно, баба гаворя: “Падаждом”. Матка: “Давайця пярёйдама ўжо з бані. Надаела ў бані жыўшы”. Баба гаворя: “Падаждзі. Я тады скажу”. Тады: “Ну давайця сёдні”.

Ката ўнясуць перва, укінуць. Кот у нас быў. Яна: “Нясіця перва ката”.

Ложку і міску прынося.

Памалілася Богу, віконку ўняслі. Паставілі віконку.

Перва ката ўкінула баба... Міску і ложку... Баба пяряносіла...

Перва ката ўкінула... Ужо два ўслоны былі ў нас, стол... Хлеб і соль унясла...

Ката ўкінула... Хлеба і солі на стол паклала... Вікону паставіла... Павесіла рушнічок... Матка ёй падавала ў дзверы, а баба, як старшая, станавіла ўжо. Матка паднося к дзвярям, а баба бярэ... Віконку паставіла на стол, хлеб-соль на стол. А то Гасподзь прыдзя, а ў нас пусты стол... Хлеба паложа... Тады: “Уваходзьця ўсі!”

Сперва ката ўкінула ў хату... Стол ужо тут быў. Яна на стол скацірку заслала, хлеб паклала, соль, віконку ўнясла, рушнічок накінула. А німа рушнічка, мы ж пагарэлі... хоць якую тряпінку палож чыстаю на віконку, “штоб у сарочцы, гаворяць, Гасподзь быў”.

Ката перва, тады хлеб-соль, тады віконку с рушнічком, тады ложкі, міску паставя...

Новы венік уняслі, звязаны, не паряны... Баба і кажа: “Штоб на вуліцу смецця із хаты не выносілі”. Мы гаворым: “Баба, на чорта венік? Пастаў там вон...” – “Не. Штоб с хаты смецця не выносілі”.

Я гаварю: “Баб, ішчэ веніка не хватала! Вон на дварэ кінь, да і ўсё!” – Ідзіця ўнясіця венічак”. Мы венічак новы прыняслі (да Пятра рэжаць венікі), мы ёй венік падалі, яна паставіла ў парозі, штоб із двара смецце не выносіць, што ў дварэ творыцца, штоб ніхто...

Я гаварю: “На што тэй венік? Вон лучшае што-нібудзь. А яна гаворя: “Штоб смецце не выкідалі... Што ў хаці пагаворяць...”

Бабаката ўкідая, да гаворя: “Штоб ты сваіх мышэй паядаў, а чужых не чапаў”. А то чужых нажрэцца, а сваі будуць...

(б) Ікону становя, дак гаворя: “Прэсвяты Спасіцель, спасі ты нашу хату, спасі ты нас ад усякіх бед: і ад ветра, і ад дашча, і ад буры, і ад гразы, і ад усяго”. І “Спасіцеля” ўносяць, а ты ўжо “Мацер Божжаю”, і тады якія ё.

Баба, вот ляжым усі ўпакот, да яна будзя казаць: “Давайця памолімся Богу”.

*Спаць лажуся,*
*Хрястом абгаражуся.*
*Хрэст на мне, хрэст пада мной,*
*Прячыстая Божжая Мацер, будзь са мной.*
*Ангел, мой храніцель,*
*Душы і цела пакравіцель,*
*Спасі нас і памілуй ад усякіх бед.*

(в) Ложкі ўносіла, штоб злыдні ні вяліся. Яна прыходна казала... “штоб у хаці ў нас злыдні ні вяліся”.

[*Каго на Амяльным называлі “злыднямі”?*]

Яны работаць ня хочаць, а промысел... Лучшэ пралеж... А тады падымаіцца...

(г) Баба казала: “Я цябе, венік, у новаю хату пасяляю. А ты, венік, у новай хаці пражывай, да чыста ў хаці вымятай. І на вуліцу смецця не выкідай”. Ета маладым так... Як маладую ўвядуць у хату, дак баба... Ягор жаніўся наш, дак баба стала на парозі і кажа на маладую: “А ты, венік, у новай хаці пражывай, да чыста ў хаці вымітай. Толькі на вуліцу смецця не выкідай”. Што ў хаці творыцца, штоб ніхто ня знаў. У хаці пагаварылі... Плахоя, харошая... Штоб ніхто ня знаў.

## XXX. Жывёлагадоўчыя абрады

200. Вот ацеліцца карова, унясуць... Каліс жа зімой... Ета ж самыя ацёлы зімой... самыя харошыя ў январэ, у феўрале, у марці. А то ўжо позна, называіцца “пазнякі”. Дак ужо ты прыдзіш чаго прасіць, а я табе скажу: “Сёдні я табе ня дам нічога, сёдні ў мяне пакінулась... (Каліс ацеліцца, дак яны гаварылі: “Пакінулась карова ў мяне”.) Ну, чылавек панімае і знае, і гаворя: “Дак я цябе хусціну кіну”. Развяжа, кіня хусціну ў хаці. Ну, вот што-нібудзь нада срочна, дак скажа: “Дай”.

[*Калі нешта давалі ў гэты дзень, трэба было хусціну пакінуць?*]

Ну, вот я табе дам, а яна развяжа хусціну ці фартучок. А после прыдзе і забярэ. Ці фартучок, ці хусцінку, што ёсцека, андарак жа... Ня будзя жа іціць без андарака. “Во, я расперяжу”, – фартучок кіня. А тады ўжо ці на заўтря прыдзя возьмя, можа, калі і нядзелю ляжыць. Ета як карова аце́ліцца ці свіння апаросіцца. Калісь жа свіней і зімой злучалі, штоб к Соракам парасяты былі.

Еслі яна прыдзя, ну, напрымер, хто-нібудзь прышоў хлеба ці вілак, ну чаго-нібудзь срочна нада, грошай пазычыць, і то... Матка гаворя: “Я б пазычыла, ну сёдні пакінулась карова”. Дак яна расперязая фартучок ці хусціну, кіня.

[*І ёй даюць, што яна прасіла?*]

Даюць. Яна ж сваё дала, і ёй даюць.

201. (а) Я знаю, што баба скрозь, і мы, вербу, як хто ідзець у цэркву, красная верба ё, тую вербу ламаяць, ломяць загадзей, дак той вербай, баба наша гаварыла: “У поле карову выганяю, святой вербай паганяю, святым макам свечаным абсыпаю, соллю пасыпаю, ведзьмам вочы засыпаю, штоб карову не зглазілі, малако не атабралі”. І солі бярэ, маку, перва: “Як еты мак ведзьмам не сабіраць, так ведзьмам з каровы малака не адбіраць”. Макам пасыпя, карова стаіць, і яна па хрябту, ад галавы начыная, хрэстам сыпя, тры разы пасыпя... І калі гоня пастух, выганіш, і па том месту і за фортачку, паляжу, і другія там стаяць, сыпяць макам і соллю і гамоняць.

(б) Як кароў выганяюць, дак усё наша баба і кажа: “Як карову выганяю, усем ведзьмам і ведзьмачам вочы засыпаю!” Хоць маку бярэ ў жменьку, хоць солі. Як первы дзень. І яна бярэ эту жменю і сыпя на карову, хрэстам такім: “Я кароўку выганяю і ўсем ведзьмам вочы засыпаю!”

(в) Карову як выганяяць, дак вербу бяруць краснаю, свецяць, у нас цэрква была, я помню тую цэркву, ета ў вайну іе спалілі, красівая, бальшая была ў Закружжы. І вербай той свечанай… “Вярба б’е, вярба б’е, вярба б’е ( ...па мне, ці па сырой зямле, ці не па сырой зямле...)” А тады ўжо вербай выганяць, тры разы на дварэ ціхінька пацопая... Баба: “Во, пацопаць нада па карові”. Мы ўжо: “Баб, дай нам па лазіні”. І мы паціхоньку, і баба ўжо пацопаіма па спіне. І яна выганяя і гоняць, пакуль ужо на пастбішча, і выганяць, і там кідаяць... кажды: і ты, і я кідаяць у кучачку, штоб у гурту ў тым карова хадзіла, ня ўцякала дамоў. Другія ж каровы ўцякаяць дамоў.

(г) Вот выганяяць кароў, дак яна нас учыла: “Будзіця выганяць у поле ў первы дзень, дак солькі вазьміця тры жменькі і пасыпайця: “Як эту

сольку нікому не сабраць, штоб у нашай каровы малака не атабраць". Хоць маку тога. "Баб, чым сыпаць?" А мы наперябой. Баба: "Увесь мак рассыпіця, в перяжкі ня будзя!" Так мы мак бярём тэй і выганяюць карову, первы дзень, інцересна! Первы дзень абсыпаюць хрэстам. Баба ўсё адно па-свойму абсыпя. "Як етага мака нікому не сабраць, штоб нікому ў каровы малака не атбіраць", – яна тры разы прагаворя.

(д) І баба выганяя карову і вербай, вербы і кряпівы, як маладая, дак ідзе ё, найдзя, дак яна ў вербу ўвяжа, а не – дак сухую кряпіву. І гаворя: "Я з двара карову выганяю (і солі возьмя, хоць маку), усім ведзьмам вочы засыпаю. Штоб яны і малако не зглазілі, і каровы не згадзілі, і штоб малако не адбіралі". Тры разы прагаворя. І макам хрэстам пасыпя карову ад галавы, і па хрябту пасыпя, і кажа: "Ідзі з Богам!" На вуліцу выдзя і гаворя: "Ведзьмы! Я вам, усім ведзьмам, вочы засыпаю, штоб вочы шчыпелі і вы на кароў не глядзелі". Яна ішчэ і дліннейшая.

202. Як выганяць кароў, дак усі выганная даюць пастуху: хто грошы, хто яйца выняся, хто сала кусочык. У яго сумкі на адном баку і на другом. Калісь і хлебу рады былі, дак хто што выносіў.

203. **Карова кроўую доіцца.**

Ну, ета гаворяць, ластачка падляціць, кала кароў, летам, ціпер ластачак німа чагось, тож сядзяць на правадах, дак ластачкі, во, як стала, ета, атам еты ўзарваўся[16], дак ужо і ластачак німа. А то ж яны лятали, і ўсё вілі гнёзды, на хаце, вот пад вільчыкам, сав'ець гняздо, ні кот ні палезя, ні дастаня, ні што, і ластачкі вяліся. Штоб хата не згарэла, дак ластачка у'е гнёзды. А чыя згарыць, там ня будзя. Цяпера-ка ня в'юць. Кроўую доіцца, дак шапталі ад етага. Вот кроў'ю доіцца, гаваряць, ета ластачка падляцела. Во, ета баба крываротая, прыводзяць іе, яна паходзя, пашэпча і ўсё, тады ня доіцца. Во, паміж ног: пярэднія ногі і заднія, і яны, тады лётая, і каторая падляціць пад ніз – ета ўсё. Гаворяць: "Божая ластачка падляцела пад карову".

204. Іванава матка. Яна ж Богу малілася. Божа мой як! Дак як карова ў міне захварэла, упала на ногі, дак страсныя свечкі прыносіла і апалівала, і штось прысмалівала к шарсці.

205. **Парасят купляюць.**

Усё казалі: "Нада задам уносіць парасёнка ў фортачку, штоб свінні вяліся".

[16] Маецца на ўвазе аварыя на ЧАЭС.

206. Усё мая баба калісь гаварыла: “Не купляй, мая ўнучка, з мяшка, з яшчыка”. І ўсё людзі гаварылі: “У неглюбцаў нельзя купляць, эта – ганакі, ані знаяць, шэпчаць”. І вот купляіш парасёнка, там жа і сянцо трохі ё, еслі парасёнка, там, ужо ловіш, яна: “Я не дам табе лавіць. Я сама паймаю”. Я гавару: “Я вон тога хочу парасёнка”. І яна выцягня, і траўка якая была, і саломінка, назад укіня.

207. Вот біць кабана, нада ўрэмя выбіраць, патаму шта на гнільцу ўбій, дак ён будзя… Шкура такая мокрая і сала такоя мокрая, як на гнільцу. І на маладзіку нільзя біць. А ёсць такія межы. Баба ўсё мне гаворя, выдзя палядзіць на месячка: “Не нада, мая ўначачка, падаждзі”. Свіння еслі на кнуроў заходзіцца, тож нельзя біць – красная сала будзя. На гнільцу – гнілец, ён ні поўны, месячка ж круглая поўная, ні поўная – большы за палавіны.

Па маладзіку ўсё глядзяць. Як гнілец, ета ўжо – усё, не чапай, нічога ня дзелай. Гнілец – як поўна, на поўна, як круглы маладзік, ета ўжо ня нада нічога саліць, нічога ні біць. А нада на схадку ўсё рабіць, штоб усё сходзілася, штоб быў парядак.

208. **Штоб у сале летам чэрві не заводзіліся.**

Калісь наша баба дзелала, уб’ём кабана, яна ўстаня, малітву прачытая:

“Госпадзі, сала засаляю, усіх чарвей з двара выганяю. Ішоў ангел па дарозе і малітву чытаў, штоб у хазяіна чарвяк сала не паядаў. А я малітву прачытаю і Госпада папрашаю, штоб нічога не вялося, штоб дзесяць чэрвякоў паўзлось, штоб із дзесяці асталась дзевяць, з дзевяці – восем, з васьмі – сем, з сямі – шэсць, з шасці – пяць, з пяці – чатыры, з чатырох – тры, з трох – два, з двох – адзін, з аднаго, штоб усі чэрвякі ў лес спаўзаліся, у балоці захлыналіся”.

Так яна прагаворя-прагаворя, і мы гаворым: “Баб, навучы нас”. Яна: “Ну, во, наце”. І мы станім над кадушкай, ужо гаворыма. А там, суседкіна гуляя падруга, прышла: “Мам, будзіма калі кабана, я ўжо знаю, баба Грэцкая гаворя”. Прыбягіць к нам, кажа: “Мы, ужо, гаварылі, і матка, і баба, гаварылі, і я ўжо”.

## XXXI. Земляробчыя абрады

209. Прыдзя, хоць і Козырыха: “Баб, калі-та рассаду сеяць?” А баба гаворя: “Капусту-расадніцу ўсягда сеяць у пятніцу. У любую пятніцу сей капусту-расадніцу!”

[*Баба так усіх вучыла?*]

А баба наша будзя іціць, еслі рассаду будзя сеяць, і будзя казаць... Ты на вуліцу, табе б сказала: "Ісакавіч, скажы сваёй ці матцы, ці жонцы, рассадку ніхай сёдні сеяць. Капустніцу-рассадніцу сеяць у пятніцу".

210. У нас была Алка, учыцільніца, чэряз двор жыла, як што сеяць, Толік кажа: "Усё ўжо! Халу ў палу пашла". "Пайду папытаю, Грэцкавы сеялі ці не. Еслі ня сеялі, я ня буду". Учыцілка яна была. Прыдзя: "Дзеўкі, вы... Ці рассаду сеяць... Ці там... што-нібудзь..." Мы гаворым: "Заўтры будзім мы сеяць". – "Ну, давай заўтры". Прыдзя. "Ну, сеялі вы? Пайдзёмця сеяць. І я пайду". Такія вот ня скрытыя мы. А ўжо баба Іванюшкава... Та ўжо сама сабе. Пойдзя і ня скажа. А наша баба аткрытая была.

211. Рассаду садзіць на первай нядзелі, на трэццяй, на пятай і на сёмай.

Капусту нада на пятай садзіць. Кажаць: "На первай содзяць, на трэццяй, на пятай і на сёмай". Па-калісяшняму. Штоб лішняя было. Штоб не ў пару, а лішняя. У пару – ета толькі мёртвыя цвяты кладуць.

[*Толькі капусту альбо ўсё?*]

Капусту содзяць. Памідоры калі хочыш.

212. [*Вы сказалі, на Радзіцельскай нядзелі не садзяць...*]

Кажаць, рассаду нада была на первай нядзелі садзіць. А ета ўжо радзіцельская, радзіцелі ў аўторак, радзіцельская, дак ня содзяць высадкі, ня содзяць ні рассаду, нічога. Гаворяць: "Усё заміраць будзя. Усё будзя бясплодная". С панядзелка... Ішчо ў скрысення можна была саджаць, а ў панядзелак, у аўторак ужо няльзя нічога. А ўжо з панядзелка пойдзя трэццяя нядзеля, ужо садзіць можна.

213. Як план засяваіш, дак там, каторыя верушчыя ё ў ету ерунду, я етаму ні верю, дак яны: "Не! Нельзя! А та ў нас ня будзя, а ў цябе будзя!" Дак яны ўжо штоб нічога ня даць. Прыдуць, грабель у чылавека німа... Я сеяла план... Галя прышла, гаворя: "Дай ты мне, баб, грабель, а то гной німа чым грэсць". Я гаварю: "Ідзі там на дварэ, сама вазьмі, на курятніку, на сетцы". Дак у міне Марыйка сеяла, дак яна гаворя: "На што ты план сеіш, і дала?"

214. І як кароўку выганялі, перасыпалі дарогу, вот у каго гуркі – пустацвет, вот нарвуць пустацвету і перасыпаюць уранні, штоб каровы

прайшлі. Я: “Баб, для чаго эта?” – “Сколькі кароў у стадзе, штоб столькі на градзе гурочкаў было!” Перад каровамі сыпяць, тады пасыпяцца гурочкі.

215. Баба наша, як пасеіць план, яна і гаворя: “Госпадзі, урадзі і на крадзяшчага, і на прасяшчага, і сабе ядзяшчага!” (*Перахрысціла поле.*)

[*Калі лён, сеялі спачатку крыжыкам?*]

Як лён сеяць, усё ж хрысцяць, а я план засяваю, дак я лёнам. Думаю: “Баба ўсё лёнам… Пасеяла, зачырціла”... І цыбулю... Гаварю: “Падаждзі, Сярёжка...” Ён: “Баб, ты ўсё прыхамяці...” Я гаварю: “Нада і ета здзелаць. Нас учылі так. І мы традзіцыю ету будзім выпалняць”. Во, засяюць і бульбу... Іван Рыштак... Я вышла, ён пачыная... Паляджу: Богу моліцца, перяхрысціўся, зямлю перяхрысціў і бульбу кладзе... Я гаварю: “Што ты дзелаіш?” – “Засяваю план. Перяхрысціўся, у Госпада Бога ўражаю папрасіў”.

[*І бульбу крыжыкам кладуць?*] Да. Чатыры штучкі паложыш крыжыкам. І лён, ці буракі. Я і бурак сеяла, і так во ўзяла крыжыкам, тады садзіла.

[*У якім месцы?*] З якога боку пачынаіш сеяць.

216. Прышла Мікола, не пытай ні ў кога. А на агарод вышаў – сей. Усё ўзойдзя.

217. Первая Прячыстая... Баба гаворя: “Первая Прячыстая... Можна бульбу капаць... Дзе вышай...

218. Баба гаварыла: “Дзеці, давайця старяцца, штоб ужо к другой Прячыстай усё ўбраць у гародзі: і бурачкі, і бульбу. Прячыстая любя чыстая. Штоб гарод чысты быў”. І мы ўжо старяімся.

## XXXII. Метэаралогія і з’явы прыроды

219. (а) Калісь жа марозы. Баба выдзя... Выскаліцца сонца... Зімой жа... Дак яна прыдзя і гаворя: “Мароз будзя”. Гаворя: “Будзя мароз. Сонца выскалілася красна. Ета будзя мароз”. І праўда. Як крэпане ўжо мароз, дак адчыніш хату, аж сіня. А як летам, куры шчыпяцца, дак яна гаворя, што вон куры шчыпяцца, дашча нашчыпяць. І праўда...

(б) Як сонца ў хмару заходзя, дашчу німа, яна гаворя: “Сёдні ў хмару сонца зайшло, будзя дошч”. Праўда, ніадтуль-ніадсюль, палядзім, і дожч ідзець.

(в) Калісь жа па прыметах па етых угадывалі. А ціпер ужо прыборы ё. І прыборы брэшаць.

220. Як толькі выдзім, а вераб'і  выкупаюцца, баба гаворя: "Усё! Дожч!"

221. Гаворяць: "Куры прыдсказываяць". Куры як зямлёй абсыпаюцца, купаяцца ў зямле, баба гаворя: "Ну, ета перяд дажчом".

222. Павел прышоў, гаворя: "Будзя ў дзекабрэ з пітнаццатава палавіна месяца цёпла, а з пятнаццатава будуць да дваццаці градусаў марозы". Я гавару: "Хто табе казаў?" – "Я сам чуў прагноз". І Ірка прыехала, гаворя: "Во, будуць марозы да дваццаці. Перядавалі па цілівізару". А марозаў жа не было. Атлёга. І цёпла. Збряхалі. А калісяшнія людзі зналі. Гаворяць: "Перяд даждзём куры купаяцца ў зямле". І будуць куры пад сабе грабаць-грабаць – купаяцца. Ужо баба: "Будзя дожч". А будзя матка сядзець: "Што, куры купаяцца?" І мы ўжо зналі: "Куры шчыпяцца!" Яна: "Ну ета дожч будзя". Яны па етаму зналі... Па прыродзі. Куры шчыпяцца – і дожч. Палядзіш: ужо хмара найдзя і дожч пойдзя. А ціпер прагнозы ўзнаюць па космасу і брэшуць.

223. Калісь баба наша ўсё гаворя: "Як купаяцца куры – ета на дожч. А еслі ногі працягіваюць, лажацца – будзя пагодачка". Калісь не было прагноза, а ўсё дзяды. Калісь... У трубе, у грубі... Будзіма сядзець на печы... Як што гудзіць... Мы гаворым:  "Баб, красная нага, наверна, у грубі".  А яна: "А што там?" – "Гудзіць" – "Ета будзя нягода. Ета будзя завея". І, праўда, як задзьме! Як загудзе! І дзед Майка прыдзя к нам: "Алёнка! Будзя сёдні... На печы ляжаў, гудзіць у трубе". Баба: "Ну, і дзеці казалі мне".

224. А вот каровы калісь... Толькі пагода... Пасеш... Яны лягуць паляжаць, паляжаць... Счас будзя адна: "Фху-у-у! Фху-у-у!.." Другая падымаіцца... І адна за адной... З якога боку хмара будзіць іціць, яны будуць так дзелаць. Ета знай, што дожч будзя, загрыміць граза. Далёка кароў не пасылай. І, праўда, туды-сюды, як загрыміць граза.

225. (а) Усё песні пелі.  Вот мы станім, баба і кажа: "Дажчу німа. Дзетачкі, пагукайце-ка дожч. Я вылятыю: "Баб, січас іціць?" – "Да, ідзі січас". А як уранні рана, скажа: "Падаждзі, а то скажаць: "Во ўжо глотку разявіла. Дак, падаждзі. Вон, туды, после абеда. Ніхай людзі рабатаяць з ранні да вечара, штоб ён ноччы ішоў".

Тады ўжо надаідаім бабе: “Баб, ну калі дажча вызываць?” А баба: “Да, засці!” *Цішай* – яна па-калісяшняму. “Да, засці! Ты мне ўжо надаела! Памяні казе смерць. Так і табе. Ня нада. Я тады сама скажу. Я не забылась”. Тады ўжо: “Ну, ідзі. Цяпер пакуль папяеш, і Бог дожч…”

*Дожчык, дожчык, начынай,*
*Я паеду ў Ерастань*
*Богу маліцца,*
*Хрысту пакланіцца.*
*Я ў Бога сірата,*
*Адчыняю варата…*

Эта так дожч вызываюць. Баба нас вучыла. “Баб, ты ж научы!” Яна ўжо начыная. А то калі забудзя. “Баб, пойдам!” Там адна баба знала. “Ідзіця і к бабе схадзіця, Фядосісе”. Мы пабягім, ну, такая баба неадказная, харошая... Вот прыдзім: “Баб, ад дажча навучы ты нас!” Яна: “Ну, січас, падаждзіця, упраўлюся”. І нас учыла. Пазабывалі. Я іх, чорт зная, колькі знала. Сілы цяряюцца, хвароба не цяряецца.

(б) “Дождзік, дождзік, перястань, я паеду ў Ерястань!” Аляксеяўна мяне гаворя: “Што ты плетуханіш, які Верастань… Што та за Верястань?” – “Дзяды так гаварылі, і я гавару... Як ета яна гаварыла? Яна мне гаварыла...” [*У Ерусалім?..*] Дак я гавару: “Мяне вучылі, і я так”. – “Не-не, горад не такі. Нада ў... Куды маліцца хадзілі Богу. А ў Ерястань не хадзілі. Ета ты спутала”. – Я гавару: “Усі ж мы, дзеці, пелі, будзіма, як дожч, сабіраімся, тады ж пабагату дзяцей была, па восем і па дзесяць, і па сем, і па шэсць, у нас пяць была, кучамы сабіраімся і пра дожч пяём, пра ўсё, і ўсі “ў Ерастань” гаварылі. І баба выдзя і кажа, як дождзік, дак гаворя, калі ўжо раждаждзіцца: “Дождзік, дождзік, перястань, я паеду ў Ерястань...” Яно возьмя і раз’ясніцца. Мы гаворым: “Баба, ну-ка ты хадзі. Ты прагаворыш, да і ясна. Палядзі, ужо перястае дожч”.

(в) Паколькі большасць беларускіх даследчыкаў адносіць падобныя тэксты да дзіцячага рэпертуара[17], я звярнуўся да Варвары Аляксандраўны з пытаннем: *“Дождзік, дождзік...” хто казаў: дарослыя альбо дзеткі?*

Узрослыя нам гаварылі, а мы ўжо пелі: “Дожчык, дожчык, перастань ці лімані”.

[*А самі ад сябе не казалі?*]

А калі баба наша, німа дажча, чуць хмары, яна: “Дожчык, дожчык, лімані...” Пачыная баба гаварыць. Сама баба будзя гаварыць: “Дожчык,

[17] Гілевіч, Н. С. Наша родная песня / Н.С. Гілевіч – Мінск. Народная асвета. 1968. – С. 175. Дзіцячы фальклор / Скл. Г.А. Барташевіч / Мінск: Навука і тэхніка. – 1972. – С. 358 – 362.

дожчык, лімані... – пачыная гаварыць. – Ніхай ідзе дожчык. Госпадзі, Ілля Прарок, не забывай на нас”. Усё гаварыла. І мы будзім: “Ілля Прарок! Ну-ка едзь”. Мы думаім: гром грыміць, дак баба і кажа: “Ета Ілля Прарок на калісніцы залатой едзя, на калёсах едзя па хмарах, з высокія хмары на нізкія, і стукая”.

226. *Дожчык, дожчык, лімані,*
*Усех із поля прагані,*
*Перва тых прагані,*
*Хто работаў на кані,*
*Штоб дамоў папрыязжалі,*
*Скарэй коней распрягалі,*
*Коней у сарай загналі,*
*Збрую от дажча прыбралі.*
*А на коніку вароным*
*Будзя ехаць Юрый-Ягорый,*
*У хмары каляскай загрыміць,*
*З хмар вада руч’ём бягіць.*
*А ты, дожчык, не зявай,*
*Скарэй зямельку папівай.*
*Лучшэ, дожчык, ціхі лей,*
*Уражай наш пажалей.*
*А я Богу памалюся*
*І Хрысту Богу ўкланюся,*
*І з віконаю святою*
*Буду хадзіць я па ўсяму полю,*
*Штоб жа Юрый наш Ягорый*
*Не заліў уражай у полі.*

227. Калі сена грябома... Штоб дожч пайшоў! І запяём: “Дожчык, дожчык, дзеряні, усіх із поля прагані!..” Вобшчэм, пряпяём. Брыгадзір падойдзя: “Што вы дзелаіця? Дзве дуры. Нашто тый дожч?” Мы гаворым: “Дожч, дак хоць ляжыма да аддыхнёма”. Раз копы копім: “Давай ету песню пець. Хоць бы дожч пайшоў”. Бабы: “Дзве дурных ужо сабраліся. Пяюць. Ета, ужо, аддыхнуць хочуць”. І знаіш што? Прапелі тую песню, штоб дожчык дзерянуў, адкуль тая хмара? Яны: “Вон ужо із Свістка ідзець хмара. Там пасёлак – Свісток. І як пайшоў дожч. Ён не дужа бальшы пайшоў. І намачыў сена. Ужо грэсць няльзя. Мы гаворым: “Во, ціпер ляжым у копы і аддыхнём”.

228. **Штоб ня йшоў дожч.**

*Дожчык, дожчык перастань,*
*Я паеду ў Ерастань*
*Богу маліцца,*
*Хрысту пакланіцца.*
*А ў Бога сірата,*
*Замыкаю ўсе варата,*
*Штоб у полі ўражай*
*Нікагда не заліваў,*
*Штоб у полі ўсё расло*
*Ураганам усім назло.*
*Пайду ў поле я с утра*
*Прасіць Госпада Бога,*
*Штоб прыляцелі ўсе птушкі*
*Разагналі ў небі тучкі.*
*Лучшэ ціхі дожчык лей,*
*Уражай наш пажалей.*

229. Калісь баба гаварыла: “Граза!” Ціпер жа, во, такіх, ніхай іх і не будзя. Дак, як толькі такі träскучы і запаліваіцца, кала нас там, у Сціфанаву хату, і кароў гоняць, граза ета, я стаю, накрылася рагожай, думаю: “Хоць бы карова быстрэй прыбегла ад пастуха”. І ён як трэснуў! Дак, я аж саскочыла. Стаяла на фортцы, на ўступцы. І паляжу, дым як паваліў, я ўскочыла ў хату, скарэй к Ягору: “Сціфан гарыць! Гразой запаліла!” І калісь граза ўсё ета паліла. Дак дзелалі абудзённы. Калісь былі такія. Яны аснову такую здзелаюць кароткаю. Спрядуць, чалавек колькі, і абаснаюць, накідаюць, у ніток, ніт хоць і бальшы, пасярод іздзелаюць, і на панажы, ё чатырёх, ё шэсць панажоў, ё два, і на два – рэдкі такі, і вузенькі, здзелалі, зарубілі, і хадзілі. Як толькі ўжо граза находзя, хадзілі, як бачаць, яны пасылаяць малых, малыя бяруць і кругом прабягаць па загароддзю, дарога ў нас была на адзін бок і па другі, паўз адзін бок пабегаяць, і бегаць і крычаць: “А ты, граза, не тряшчы да нашы хаты не палі!” І баба казала: “Памагая”. І як абышлі, тое палаценца, калісь жа Свечы былі[18], ты бярэш у хату. Богу моляцца, і ўвечары Богу моляцца, і назаўтряга моляцца, і ўжо палаценца тое ў том дварэ. Як настае, первы гром прагрыміць, а калі баба гаварыла, і не грыміць: “Дзетачкі, бягіця!” –

[18] Лопатин, Г.И. Культ св. Николая по современным белорусским свидетельствам / Г. И. Лопатин // Palaeoslavica. Cambridge. 2006. XIV. С. 287–313. Найбольш поўна абрад “Свяча”: яго гісторыя, сучасны стан, бібліяграфія прыводзяцца ў кнізе: Лапацін, Г.І. Ікона звалась Свячой...” Абрад “Свяча” ў прасторы традыцыйнай культуры Гомельшчыны /Генадзь Лапацін. – Гомель: Барк, 2013. – 116 с. Таксама гл. раздзел “Свяча” ў гэтай кнізе.

“Баба, што ты нам дасі?” – “К Вялікадню па лішняму яйцу. Бягіця аббягіця ўвесь пасёлак”. Мы бягіма і крычыма: “А ты, граза, не тряшчы, хаты нам не палі!” І памагала. А то бальшая хмара як найдзя, як трэсня, чым прагрэшаны быў? І свячу, свяча хадзіла, пелі бажэственныя песні. І перястала, а то абабкі паліла, дзе ўжо прыходзіцца, а то – у дзерява якое, а ўжо хат не паліла. А тады і ў Агарцовых, і ў Сціфана, і ў Шараданкавых – багата хат. Як толькі граза, эта ўжо ўсі гатуяцца, выходзяць глядзяць, скарэй ужо вузлы, пакуля граза пройдзя.

230. (а) Калісь баба казала: “Еслі первы гром загрыміць на голы лес, дак будзя неўражайны год”.

“Во, дзеці, на голы лес гром загрымеў, дак ідзіця качайціся”.

Як первы после зімы. Вот прыдзіма, дагары ляжыма і качаімся, хто перякачаіваіцца. Бягаць і суседзі, маткі хрёснае мае Пеця і Ліда бягаць: “Во! Мы сёдні качаліся! Качаліся вы?” Мы гаворым: “Качаліся”. І дзед Майка качаўся. І баба, штоб сярэдзіны ні балелі. І баба кажа: “Памагая. Не баліць сярэдзіна тады. Як первы гром вясной. Дак баба: “Дзеці, скарэй! Юрый-Ягорый ужо ляснуў кнутам”. Усё казалі: “Ета кнутам ляснуў. Прагнаў ён усі беды зімнія. Дак ідзіця пакачайцеся”. Ну, і качаімся.

(б) Як на голы лес. Ішчэ не распукнуўшы. Лісця не пусціў. Ішчэ ён голы. Называіцца *голы лес*.

(в) Гром загрымеў, ідзі ўжо: качайсь скарэй. Ня выскачыш ва дварэ, дак у хаце пакачайцесь. Штоб сярэдзіна не балела.

(г) Як на голы лес, будзя неўражай. Усі так казалі. Зналі. Вот распукнецца. Штоб распукнулася хоць адно дзерава. Яны ж ня ўсе разам распукаяць.

231. **Штоб віхар стог не разнёс.**

“Запряшаю цябе, Госпадзі, спасі, Госпадзі, стог ад буры, ад грома і ад маланні – дажыдай хазяіна на кані!” Тры раза прагаворя. Эта штоб віхарь стог не разнёс, і штоб не замяк.

Эта, як сена, дак усё баба казала, як стагі кідаць, я дзяўчонкай была, бацькі не было, дак мне баба і паказала: “Кладзі во так роўненька”. Баба скрозь падае сена, а я бяру, дак яна і гаворя, стог, ужо, складом, і я навучылася, і так добра, як хлеба бахоначка, дак я злезу, яна падасць вярёўку, з аднаго боку вярёўку дзяржыць, ці вожкі, а я спускаюся, дак яна і гаворя: “Запряшаю цябе, Госпадзі, ад буры, ад грома і ад маланні – дажыдай хазяіна на кані!” Так яна скрозь казала. Вот на гародзі мы складом ці, там, за сараям стог, яна станя, прагаворя: “Запряшаю цябе, Госпадзі, ад буры, ад грома і ад маланні – дажыдай хазяіна на кані!” Тры раза прагаворя. Ета штоб віхарь стог не разнёс, і штоб не замяк.

232. (а) Во, стог скідаіма на полі. Бывая ж так, што буря схватывая і нясе чорт зная куды, параскідая стагі. І мужчыны скідаяць стог, а я на стагу, я стагі кідала харошыя, і красівыя, і высокія. Скідаю стог, ужо спусцішся сюда па вожках... Там чылавек стаіць, і мне дадуць канец... Бывая і па чатыра вазы стагі... Я спушчуся і гаварю: “Ад бурь, ад грома, ад маланні дажыдай хазяінаў на кані!” Тры разы пераяхрысціш. І тэй другі, хто скідаў са мной, тожа падойдзя. Усі мужчыны так дзелалі, і я.

(б) “Ад бурь, ад грома, ад маланні дажыдай хазяіна на кані...” Я дома што-нібудзь дзелаю... Баба наша.... Бульбу калісь капаіма, яна і кажа, первую каробку накапаім: “Дзеці, ідзіця высыпця ў пагрябок”, як дажча німа. Як дожч ідзець, дак мы сыпалі ў тряскоўню. Вот у тряскоўню, у нас там разная: вісіць і сціраная зімой, і летам, штоб... ну, і бульбу сыпіма, вецер падымая, сохня, тады ўжо носім. Яна первую каробку... і кажа: “Ад бурь, ад грома, ад маланні дажыдай хазяіна (Алёнку ці Варячку, ці Туську, ці Машку, ці Польку, ці Ягорку – каждага прагаворя) с каробачкай на кані”. Ета так нада. Наша баба набажлівая была.

Тряскоўня. Проста навес такі, называлі “тряскоўня”. Аббіты так рэдка, штоб шчэлкі былі, і навес дзелаяць, і крыша, ішчэ там жэрдачак наклодзяць, снапы клодзяць аббіваныя, прасяныя, штоб мышы ня былі там, там трэскі, стужкі.

(в) Як хмара бальшая ідзець, баба станя і Богу моліцца: “Госпадзі! Павярніся, ветрык, на сухія ляса, на мокрыя балата, толькі ўрэд ня дзелай людзям нікагда”.

(г) Хмара падыходзя. Дак яна вышла, стала, “Вотчэ Наш” прамалілася”, рукой памахала і гаворя: “Ня йдзі, туча, ня йдзі, гром, не разбівай хазяінаў дом. І хто ў полі, і хто ў лясу, не прыносця вы ўряду”. Я гаварю: “Баб, німа ўжо тучы”. – “ А мяне Бог паслухая ўсягда”.

233. Баба калісь гаварыла: “Як сонца заходзя летам у хмару, – дак яна і гаворя, – заўтра будзя хоць пахмурны дзень, а хоць дожч будзя”. І праўда: вот такі хмарны, а то дак і дожч пойдзя. Як заходзя, саўсім заходзя сонца, і хмара, і за хмару ідзець... ета ўжо пагожага дня ня будзя. Як захад. Я і ціпера-ка, я гаварю: “ Заўтра, можа, і дожч”.

234. Зоркі, як зімой, баба і гаворя: “Ох! Будзя мароз! Ясная неба, і зоркі ясныя”.

235. **Ні дожч, а курыныя слёзы.**

Усі так казалі, як малы дожч, баба: “Свінны дожч ідзець”. Ета малы. Хоць будзя казаць: “Курыны дожч. Капнуў, да і ўсё”. Мы гаворым: “Баба, а чаго ты так гаворыш?” – “А ў курэй слёз німа на вачах. Куры век не плачаць. Усё скакочаць”.

236. **Ілля надзелая гнілля.**

Усі ж казалі тады: "Прыдзя Ілля... Давайця ўбіраць усё сена. А то прыдзя Ілля, дак надзелая гнілля. Дажчы як пойдуць". Послі Іллі ўсігда бываюць дажчы. Па нядзелі ллюць.

237. Як калі спакойна, і малання ідзець, мы гаворым: "Ой, баба, граза ідзець!" Яна гаворя: "Без грома. Ета ня будзя ні дажча, нічога. Заўтря будзя пагода". І, праўда, назаўтря смаля пагода. А яна без грома... Адна малання бліс! бліс! Аж страшна.

[*А калі маланка з громам?*]

Ета дажчавая. Ета не гром, што праграымеў трошкі... Ета Ілля-прарок праехаў чуць-чуць па хмарах. Усё калісь дзед казаў Майка: "Ета па хмарах... Паламаліс калёсы ў Іллі, дак грому німа".

238. Баба казала... Як радуга... Дак мы гаворым: "Ой, баба! Красіва – радуга! А чаго-та Бог кажды дзень не дае, а рэдка..." (Ну, рэдка радугі тыя бываяць). Дак яна гаворя: "Вася – на ўвесь свет распілася. Ета – дарога. А ета Бог дае... У каждай... Сколькі нацый ё, столькі ён і дае... Ліхая – ета чорная, сіняя будзя – каторая войны саблюдая, ідзе людзей унічтажаяць..." Яна казала: "Старых возяць... Ужо пастарэў... Тама нацыя ё ліхая... Сабірая бацьку, матку, і звозяць... Ніхай там з голада прападаяць... Усякія Божыя нацыі дае, штоб дружылі людзі. А людзі ня дружаць". Яна ўсё так казала: "Гасподзь даў... Глядзіця... Харошаю паласу радугі... Ета харошая страна... Ні хоча ні войнаў, ні што, ні ўбійствам... А каторая ліхая, дак яна на кулак работы ўсё шукая". Дак Туся наша кажа: "А калі б узяць такія радугі... Во б плацця красівая было". Ня даў Бог... Бог даў, штоб усякія цвяты на зямлі... Да іх нада ішчэ дабываць і дзелаць. Дак вумная галава здзелая, а дурная, дак яна пад нагамі будзя таптаць і ня здзелая".

## XXXIII. Лекавыя абрады і замовы. Уяўленні пра хваробы

239. **Звіх вымаўляюць.**

*Стаяць лі дарожкі тры бальшых калодкі.*
*На адной калодкі ангел драва рубая,*
*На другой калодкі ангел ломаныя косці складая,*
*І на трэцяй калодкі ангел гліну мешая*
*І на бальная места гліну накладая.*
*І Госпада Бога ўпрашая,*

*Штоб у бальнога боль уціхала,*
*Ні калола, ні парола, ні балела, ні гарэла,*
*Штоб боль уціхала,*
*А бальны ўсю ноч спакойна спаў.*

240. **Зубы баляць.**

– *Маладзік малады, у цябе рог залаты. Быў на тым свеці?*

– *Быў.*

– *Бачыў там мёртвых? Баляць у іх зубы?*

– *Не, не баляць, не коляць, не поряць, не шчамляць.*

– *Штоб у нашае дзевачкі Варвары зубікі не балелі, не шчамлелі.*

Тры разы так во прагаварыць.

241. Тады вышла, засвяціў месячка, дак я... Пашка гаворя: “Я ногі загаварыю...” Я ногі пашла загаварыла... Вышла шчэ, пасядзела на лаваццы, да і ў хату пашла.

[*Як гэта “ногі загаварыла”?*]

І зубы загаварыяць, і ногі загаварыяць, што ў каго баліць.

– *Маладзік малады, у цябе рог залаты. Быў ты на том свеці?*

– *Быў.*

– *Бачыў там мёртвых?*

– *Бачыў.*

– *Ці баляць у іх зубы?*

– *Не, не баляць, ні коляць, ні поряць, ні шумяць, не гаряць.*

– *Штоб у мяне, раба Божжае Варвары, ні калолі, ні балелі, ні шумелі. Бог с помаччу, а я са сваім Духам. Памажы мне, маладзік малады, будзя ў цябе рог залаты.*

[*А пра ногі як?*]

Таксама і пра ногі.

– *Маладзік малады, у цябе рог залаты. Быў ты на том свеці?*

– *Быў.*

– *Бачыў там мёртвых?*

– *Бачыў.*

– *Ці баляць у іх ногі?*

– *Не, не баляць, ні коляць, ні поряць, ні шчамляць, не гаряць.*

– *Штоб у мяне, раба Божжае Варвары, ні калолі, ні балелі, ні шчамлелі, ні халаднелі. Так во праказаць.*

[*Вы ад каго навучыліся?*]

Баба нас учыла.

242. Ад болю. Ехаў Данілка на крывой кабылцы. Кабылка прыстала, ваўка балець перястала.

243. Цемянік. На галаве бывая. У дзіцей. Дак шэпчаць ад яго.

244. Зубішча. Як зубы ў малога дзіцёнка. Малы, дак зубкі пачынаяць рэзацца.

245. (а) Дзяцінец. Ета не дай Бог! Ета – "чорная балезь" называіцца. Асобенна малыя дзеці хварэяць.

(б) Калісь звалі: "Чорная балезь". А па-навучнаму, па-бальнічнаму – "эпілепсія" завецца.

246. Чорная балезь. Дак, гаворяць так. Ета баба Дзёніха гаварыла. Еслі первы раз бачыш такога чылавека, што яму так. І вот калісь веценар (ветеринар. – Г.Л.) прышоў, Толік, стаяў-стаяў, тады хіліцца-хіліцца, а гаварылі бабы: "Еслі первы раз бачыш, дак нада сесць на морду. На яго сесць. І яму тады праходзя. Сесць і гаварыць: "Якая балезь, такая табе і чэсць! Якая балезь, такая табе і чэсць! Якая балезь, такая табе і чэсць!" Тры разы прагаварыць нада. І падняцца і абтрусіцца, абтрусіць сваё адзіянне".

247. Хінця. І хінця труся чылавека.

248. На бягучаю ваду ходзяць. Еслі малы дзіцёнак, яго акунаюць: "Куды вада бягіць, штоб яна ету балезь забрала..." Точна я ня знаю. Складна гаворяць на бягучаю ваду. І акунуць, і ету адзёжку ўсю з дзяцёнка, надзяюць плашэйшаю, скупнуць у адзежы, разрываяць і кідаяць, гаворяць: "Куда вада бягіць, туда ніхай балезь збягая". І штоб ішла адтуль, штоб ні гаварыла ні з кім... Па загароддзю...

І на растанькі хадзілі, дак тож раздзявалі адзёжку, кідалі. Дак усё там казалі... Адна падабрала, надзела, дак у дзіцёнка балезь тая стала.

[*Бягучая вада – што такое?*]

Каторая па канаве плыве, ряка ідзець, а еслі дзе копань ці нізіны, а лагавіна – яна стаячая. Яна не выцякая нікуды.

249. Нада подалам... Усё баба наша... Калісь Ягорка... Сабака кінуўся наш... Хлеба атрэзала і кажа: "Глядзі, сабака адбярэ". А ён: "Баб, у мяне Немчык не..." ...да ішчэ маслам памазала чуць-чуць. Ён толькі вышаў...

А сабака да самых дзвярэй даставаў... Сабака бача, есць... Што ён, з маслам хлеба ня хоча? І ён яго... Ён гаворя: “Ён адной лапай мяне, як рукой бы, дзяржаў, а другой лапай хлеб у мяне атабраў. Дак, я думаў, мяне з’есць”. Дак вішчаў ужо. Дак баба гаворя: “Ну, хадзі, мой унучык”. Узяла подал, і так бярэ, штоб ні етым бокам, а тым бокам – вываратам. Што яна гаварыла, я ня знаю. Штось гаварыла і морду абцірала.

250. **Як ячмень пачане.** Вот ты б прышоў, у цябе ячмень на воку, я табе: “Ячмень кукішу ня любя, заварачыіцца. Ячмень кукішу ня любя, заварачыіцца.

Ячмень кукішу ня любя, заварачыіцца”. Тры разы прагаворыш. І кукіш дадуць. І ён сыходзя.

[*Хто мог паказаць кукіш? Любы?*]

*Грэцкі Сяргей Васільевіч:* Любы. Ета любы даўжон.

Вот ты б прышоў к нам, і ў мяне ячмень. І ты кукіш даеш і гаворыш: “Ячмень кукішу ня любя, заварачыіцца. Ячмень кукішу ня любя, заварачыіцца. Ячмень кукішу ня любя, заварачыіцца”. Любы можа.

*Грэцкі Сяргей Васільевіч:* Дажэ не нада і гаварыць. Я падашоў к табе, паказаў тры раза. І ўсё.

251. Ішчэ ёсць. Як волас. Я лічна сама бачыла. Як сабакі спужаішся. Дзеці ж бегаяць, дак сабака кініцца, спужаіцца, тады крычыць. Іздзелаіцца, як мялля, ляжыць. Тады пазавеш: “Так і так. Спужаўся”. Дак баба Крываротка ўсё дзелала. Яна хлеба бярэ, штось гаворя і па целу водзя, па голым целу водзя і водзя, хлеб качая. І тэй хлеб качаіцца і качаіцца, і да тых пор пакачаіцца, пакуль ужо возьмя яна і гаворя, яна ўсё малітву нейкаю гаварыла.... І тады яго не разарваць. Адкуль тыя валасы бяруцца? А тэй хлеб ужо кідаяць сабакам. Яна качая і качая, і качая, а тады ўжо хлеб еты бярэ, паказыя, што паглядзіця... Праўда, там валасы – не разарваць... Відна. Сабака цябе пакусаў, атнясіця сабаку. “Чый сабака пакусаў? Ці спужаў”. – “Тэй і тэй”. – Нясіця яму аддайця”. Ну вот падыходзяць к яму і кідаяць. Ён сажрэ тый хлеб. І ўсё праходзя. А так вяня чылавек. Буханіха ўмела ета. Дак яна гаворя: “Удаўнілася. Нада была дзеньдва. Вот звяў чаго?” Урачоў жа не было. Дак пойдуць: “Чагойта так і так?” – “А што за прычына?” – “Сабака спужаў”. Яна: “Я прыду счас”. Прыходзя, хлеба бярэ і начыная. І качая, качая, і качая... Па калену... Ці па чом... Па целу. І яно... Адкуль тыя валасы? Гаворя: “Палядзіця, якія валасы”. І штоб ён із’еў. “Што ты наварыў, штоб ты сажраў!” І дадуць. Тому сабаку нада кідаць.

# XXXIV. Хрысціянскія ўяўленні

## Каін і Авель

252. Чаго ціпер месячка ня круглы, а такі як із бананаў? А калісь быў круглы светлы. І на ём дзве пяцьміны, адна пяцьміна і другая. Такая пяцьміна, як у Гарбачова на галаве. Баба, як пачане гаварыць, усякія ж злыя людзі бываяць, баба і кажа: “О, Госпадзі, пакалолі б адзін аднаго, як усё раўна Кавіл Авела. А мы гаворым: “Баб, а хто-та такія?” А яна нам і гаворя: “Вон, бачыця на месячку Авел Кавіла вілкамі коля – не паладзілі. Во, святы святога. Святыя і там не ладзяць”. І там міру німа. Ня еўшы сядзяць? Ці за багацтва?

## Ісус Хрыстос

253. Я б была Богам, здзелала б, штоб усі красівыя, вумныя былі. Мне бальшы Сяргей да і кажа: “Бог бы з табой нікалі не сагласіўся. Ты б была ў Бога ў праўленіі, ён бы цябе выгнаў”. – “Чаго?” – “Патаму шта ты б як нягодны элімент была. Усі б былі вумныя. Усі б красівыя. Усі б былі кругом – бягом. Хто б работаў? Ніхто б не работаў. Дурнейшыя, яны ў чэрнарабочых работаяць, вумныя сядзяць за сталамы. Хоць ён і пешка”.

254. Ціпера-ка, у вайну столькі паказнілі людзей. Столькі паказнілі. І ніводзін не запісан у святыя. А ўсё калісь што напісалі. Хто пісаў? Ня знаю, хто пісаў. Богу веруюць усі, а етыя, што ў празнікі папісалі людзей: “тэй – прысвяты, тэй – прэсвяты”. Што яны ўжо такія, што на іх Богу маліцца? І ў Божжым кабінеце тожы ашыбкі бываюць, і Бог не так дзелая. Вот на што Бог дае? Вот бы, Бог здзелаў усіх красівых, усіх вумных, усіх рабацяшчых. Вот на алкашоў бы, сказаў, махнуў рукой: “Ня пі, а работай, не ўбівай нікога. Штоб быў мір, і ўсё”. Так тады дурнейшыя былі ўбіўствы, эта паняція не імелі, штоб хто-та каго-та ўбіў. А цяпер павальна ўбіваяць, і ў святых яны  не бываяць.

255. (а) Міскі пустыя баба сабірая, у сцяне былі такія полачкі, “паліцы” называлісь, і на паліцы ўсі міскі, і завясць, такая была з мацер’ялу. Штоб пустыя міскі… ”Эта ў пустадомаў усягда пустыя міскі на стале!” – так во казала. А хлеб бахонка штоб была абізацільна, і на стале ў нас такі трэпкачык быў, ткалі вот такія трэпкачы, і яго паложаць пад ніз на стол, а тады бахонку хлеба, і скацерку засцеляць, паснедаяць – засцеляць,

у абед скацерку знімаяць, і абедаяць. Мы гаворым: “А як Ісус Хрыстос прыдзя да й ня найдзя місак?” Баба і кажа: “Ісус Хрыстос зная, дзе міскі, дзе ложкі”.

(б) Дзед Майка: “Міскі грязныя! Вот прыдуць ангелы, а ў вас міскі грязныя. Ісус Хрыстос прыдзя, а ў вас міскі грязныя. Ісус Хрыстос прыдзя, думая: “Дай-ка я што-нібудзь тут падгадуюся”. Падгадавацца захоча. А міскі грязныя. Усё! Ён пойдзя. І нічога не скажа. А скажа: “Тут неряхі жывуць”. Мы гаворым: “Дзед! Мы счас будзім мыць”. Еслі мая вочырыдзь, я буду мыць. І хлеба штоб быў кусочык. “Хоць німа хлеба, но вы не ешця!” Усё калісь казаў, і баба наша казала, будзім есці, яна лусцінку возьме адрэжа, паложа, і нам ужо прыказые: “Ня трогайця. Ета прыдзя Ісус Хрыстос ці ангелы прыдуць. Штоб яны хоць па разку ўкусілі хлеба лусцінкі. І штоб міскі былі чыстыя. А то прыдзя Ісус Хрыстос, ён бы рад наліць сабе што-нібудзь пад’есць”. Матка і кажа: “Паснедалі, штоб быў шык-блеск на сталe!” І мы счас памыім, гаворым: “А то Ісус Хрыстос прыдзя ці ангелы, а ў нас міскі нямытыя”.

256. Ета харашо. Во, іздзелаіш што-нібудзь, ці вышываіш, ці штонібудзь дадзелаіш: “Во, слава Богу!” Памог Бог. “Слава табе, Госпадзі!”

257. “Богам бажуся!” Ета за праўду. Вот ты гаворыш. Я гаварю: “Богам бажуся!” Ета ўжо праўду гаварю. І калісь баба наша і матка: “Еслі ўжо і скажа любы чылавек, ужо скажа: “Богам бажуся!” Ета ўжо ад Господа Бога, і ты ўжо ні імеіш права збряхаць”.

258. Баба кажа: “Нада хлеба аставіць хоць кусочык, патаму шта Гасподзь Бог, Ісус Хрыстос і Мацер Божая – ета самыя глаўныя на свеці із етых… на небі. Ну дак яны самы прыдуць у хату ноччы. Яны самы адчыняяць і зачыняяць, прыдуць, дак хоць па капялячцы да яны ж на язык возьмуць хлебца. Мы гаворым: “Баба, ну што-та крошычка? ” – “Усі – на язык. Яны і етым будуць сыты”.

[*Вы сказалі: Ісус Хрыстос з Госпадам Богам. Гасподзь Бог – гэта хто?*]

Самы глаўны. Ета саздаціль усяго міра. Баба казала. Саздаціль усяго міра. Ета – Гасподзь. А ета ўжо Сын Божжы. Ён ад Духа Святога радзіўсь. Ну, можа, як ціпер іскуствінна дзелаюць дзяцей, і скот асемяняюць.

259. ...чорт – ета на ўрэднага. Во Сяргей работаў, грошы не аддалі, не расчыталі... Дак ета чорт яго зная, можа, етыя расчытаюць... Ета Бог яго

зная. Лучшэ сказаць, штоб расчыталі.  На харашога чылавека гаворяць: Бог яго зная, а на ўрэднага, дак гаворяць “чорт”.

Наша баба, напрымер, ні казала: “Чорт яго зная”. Усё: “Бог яго святы зная”. Вот што-нібудзь ці шукаіш чаго-нібудзь, яна: “Бог яго святы зная. Пашукайці-ка!” Пачанеш шукаць, і знойдзіш.

## Маці Божая

260. “Троіца” была. Ад мяне другі двор. Дуня. “Троіца” была абрячоная. Дак яна расказывала. Гаворя: “Троіцу” дзелаць, а ў мяне ні хлеба, тады после вайны, ні з нічога. Думаю: “што-нібудзь, шчаўлю нарву да баршча наварю, там чаго ўжо… І бульбы… к каму, думаю, іціць прасіць бульбы етыя?” Дуря яна, дак і я буду дурыць. Дак яна – маладзіца не бряхлівая. “І вот, – гаворя, – (к Троіцы вон ужо жытцо якоя!), дак яна гаворя, – пашла к нашым”. Ета тут замкайся і запірайся, а там у нас пойдзім, пайду я к Ягору гуляю, хата адамкнутая, ідзі, хто хочыш, і ніхто нічога ня браў. Дак яна гаворя: “Прышла к нашым: “Дайце мне хоць вядзерца бульбы”. Матка: “Ну, прынясу я табе”, што я прасіла. “Прыходжу, – гаворя, – дамоў – стаіць у сумцы бульба. Сумачка бульбы. Я, гаворя, вышла напроціў: “Ета вы бульбу прынялі?” А яна: “Маўчы. Мы стаялі, Соня, я, Танька Яшкава, і вот бачым (вот напрымер, хата яе і сарай, а ета – план, а тут – дарога, а тут жыта было калхозная), і вот бачым, хто-та ідзець па жыту. Мы гаворым: “Хто-та ідзець? Ці цялёнак? Дак цялёнак малы, ці?.. Хто ж-та такі ідзець? Бачым, хто-та ідзець-ідзець, і пряма к табе на агарод і пашоў. Белая сумачка такая, калісь школьнікам дажы на плечы, і мы тады палядзім, но назад не ішла. Ніхто ня йшоў”. Я гаварю: “Хадзі-ка паглядзіця, сумачка бульбы стаіць”. Прышлі паглядзелі, бульба стаіць, ці-та бульба высыпана, но сумачкі не было. І вышлі, глядзелі-глядзелі, ніхто ня вышаў. А калі Троіца пабыла, ужо адслужылі, дак я, гаворя, лягла спаць, хтось мяне будзя. Я ноч ня спала, дак я гаварю: “Мам, эта ты?” – Яна: “Не! Я табе бульбачкі прынясла, дак ня думай, бульбачка харошая. Я табе прынясла бульбачкі”. Я гаварю: “А хто ж ты такая?” – “Я ад Бога послана”. І ніхто болей мне не гаворя. Дак яна ўсё і кажа: “Гасподзь мне даў бульбачкі. Пажурыўся, што я журылася, што не з чага, бульбачкі б нажарыла там ужо з чым. Прыгатовіць хоць ба на тры стравы. І вот бульбачкі мне тыя прынялі”. І ўсім людзям пачала, пеўчым, гаварыць, а яны і гаворяць: “Дуня, ета табе Гасподзь паслаў ету бульбачку, што прынялі”. Я гаварю, ну, сумачка ж была, сумачкі німа. Толькі высыпана. Дуня тая ўсё казала: “Госпадзі! Ужо ня буду казаць, што дайця мне што-небудзь на абед у людзей. А буду ўжо год

сабіраць, штоб ужо сваё. А то Бог пра мяне думая. Думая: “Пайду ўжо етай старчысі аднясу”. [*Як яна была апранута?*] Можа, і збряшу, а, можа, і не. Штось казала, у ва сне, яна была ў белым такім, у белым надзета, як на віконі Мацер Божжая адзёжка, толькі белая, то ж разукрашаныя.

261. Свяча “Троіца” была. Бабы бачылі, як прышла палядзела – стаіць сумка з бульбай. У міне бульбы к Троіцы не было. Дажэ маладыі не было, і старыі не было. Стаіць сумка. Можа, людзі наклалі. Да ніхто не прызнаўся. Во, завітухі ё етыя. На жыці і на ячменях. Вузлом возьмяць завяжаць. Дак ета ж нада слова якоясь. А бяз слоў вазьмі завяжы… Я етага не знаю. І баба наша етага не знала. Наша баба была. Можа, на свеці толькі яна адна такая была. Дак, гаворя, ета плахія людзі: вузлом раз! Во ета завітуха называіцца. А там бабы стаялі на бугре, дак бачылі, жыта за ёй было. Напрымер, мне нада ў магазін, я хаты не замыкаю. Дак, бачылі, па жыту ішла жэншчына. Там ужо пачалі гаварыць, Іванава матка, яна свечы вяла і песні пелі, дак гаворя: “Ета Мацерь Божая прыносіла табе”.

## Анёлы

262. Я гавару: “Баб, а што ета за дзетачкі маленькія нарысованы на віконах?” А яна гаворя: “Ета бязбожных матак дзеткі”. Я гаварю: “Баб, а чаго?” – “Тыя дзеткі, каторыя маткі губяць іх. Вот ходзяць бярэмяныя. Забярэміняя: “А багата іх!” Усім хлеба хваця і бульбы. А яны аборты дзелаяць. Так во, Бог усіх етых прымая – ангелочкі Божжыя”. І во дзіцёнак родзіцца, дак во паглядзі, як ён смяецца ўва сне. І, праўда, як малыя дзеткі родзяцца, малыя, яны ж нічога ня знаюць, а ўсё раўно смяюцца. Ты не замечаў над сваёй дзевачкай? Я гавару: “Баб (Ягорка калісь наш), палядзі, Ягорка смяецца!” А яна і гаворя: “Не чапайця! Ета ўва сне яго ангелочкі забаўляяць. І званочкамы звоняць, і свечачку запаляць, давай як аганькі дзелаяць”.

263. Ідом у лес, баба і гаворя: “Дзетачкі, будзіця іцці ў лес ці ў поля, ці куда, дак захочыця вы па-маламу на двор схадзіць ці пабальшому, як прыдзёцца, дак ня йдзіця... А ідзіця на левы бок”. Мы гаворым: “Чаго?” Былі дакорныя. Былі дакорныя: “Баба, ну чаго?” А яна і гаворя: “Паўз правы бок ангелы ідуць, а паўз левы – чорт, сатана ідзець”. І мы скрозь, раслі мы ўсі. Я і сваім казала: “Варя, будзіш іцці дзе, лучшэ на левы бок сядзь”.

## Святы Мікола

264. Гаворыцца, прысвяты Мікола для ўсяго ўражаю, для ўсяго азеляненння па свету. Усё баба казала: “Мікола, здзелай нам, штоб на агародзе ўсё расло і ўсё цвяло, і штоб уражай быў”. Так, можа, для этага і вясной, і ўвосень была Мікола тая. Так, баба ўсё казала: “Дай, Божа, штоб я на веснавую Міколу памерла”. А я гавару: “А калі ўвосень?” – “І ўвосень. Штоб паработала лета, а на зіму, штоб не есць”.

265. Святая Мікола – яна вясняная ходзя і ўвосень. Спасіцель спасая, нам казалі старыя бабы, і мы так кажам. Для пасеву Мікола. Штоб уражай быў харошы. Штоб зярно ўсё прарастала, і штоб дождзь не замачываў і ад жары не высыхала. Штоб усе зярняткі прарасталі.

266. Баба казала: “Да Міколы нада ўсё адсадзіць, штоб верабей мог схавацца ці пад квасоль, ці пад гурочкі, ці пад што. Штоб верабейка схавацца мог. Штоб на Троіцу верабей схаваўся ва ўсём сеяным”. Да Міколы толькі содзюць. После Міколы нельзя – вясна кончыцца. Па старынушке вясна канчаіцца.

267. Адзін прэсвяты Мікола засявая, штоб усё ўражайная было, ета – веснавы. А восеньскі, ета, ужо, ён уражай пасабірая і людзей усіх панаграждая, штоб у каждага было на зіму есць што-нібудзь. Дак усё калісь казалі... У нас “Мікола” была дзяравянная, сцеклянныя ж калісь даражэй, но яна блісцела, як счас нарысованая, такая красівая!.. “Вымывайця “Міколу”, штоб грязны ня быў к Вялікадню!” І, так, еслі мы мост мыема. Уборка ў хаце. Ета мы ўжо сабіраім, тряпачкай чысцінькай, была лляная, яна, баба, і кажа: “Ета во іконы працірайця, штоб пылі ня было”. Мы ўжо станім, праціраім, памыім у вядрэ, чы ў чым памыйным. А баба і кажа: “Нікалі ня мыйця ў памыйным вядрэ тряпачку і ня выцярайця! Ня нада! Бог тожа чыстая любя. Штоб у чыстым у чэм-нібудзь”. У нас міска была. “Баб, у етай?” – “Вот тут мыйця”.

## Святы Юрый

268. На Юр’я, усё баба казала наша, нільзя нічога дзелаць, што Юрый – урэдны. Нада штоб Богу маліцца на Юр’я, а дзелаць нічога ня нада. Прагуляй дзень – табе Бог здароўя…

269. Баба наша казала: “На Юр’я нічога дзелаць нельзя!” Ён урэдны, Юрый-Ягорый. Ён усё для людзей дзелая харашо, дак штоб і яму харашо

было – штоб не работаць. Печ тапіць можна, яду вары, патаму шта без яды чылавек ня будзя. А такога наша баба, еслі празнік які, яна нічога не дзелая. Юрый-Ягорый – урэдны. Эта я падцвярждаю.

270. Ну, на сухі лес пасылаяць, во калі ідзець бальшая граза, во, дожч быў, сарвала крышу Андрэю, дак я вышла, гавару: “Госпадзі! Ідзі ты, граза ліхая, на сухі лес! Там круці і вярці і, што хочыш, дзелай!” І калісь баба наша і ўсі казалі: “Калі граза ідзець, сабіраімся ў кучку, у бальшы абабак дзелаім бабы, сядзяць бабы, старшы з нас, маткі нашы, гаваряць: “Ідзі ты, граза, на сухі лес! Там і круці, і вярці, і палі”. [*Чаму на сухі лес?*] Сухі – ён ужо мяртвы. А жывы лес, хай ішчэ расце”. І калісь сухога дзерява з агнём не найдзіш, а ціперя-ка павальна сухі лес увесь. Што яму врядзіць?” Вот пойдзім у аряхі, і другі куст молнія спаля, чорныя ўсі, ета малання як жыгне ў лесе, а на якоя дзерява, калі рябіна стаіць усохшая, і ягада, і ўсё, но яна ўсохшая. Ета ўжо бабы гаворяць: “Малання рябіну спаліла”. І аряхі тыя, мы ўжо ідом ад тога куста, вісяць кучамі, і мы не рвом, есць нільзя. Ці Богам дадзена так? Ці Бог яго зная? Гаворяць, Юрый-Ягорый едзя на калясніцы. “Баб, якая тая калясніца?” – “Яна залатая, калёсы такія, залатая, уся пазалочаная. У Бога ж прастыя німа”. (Як едзя, ну, па-старыннаму, ціпер жа па-навучнаму, па хмарах, па воблаках едзя). – “Баб, чаго ж ён не падая?” – “Ну, так Богам дадзена: і паехаў Юрый-Ягорый на залатой калясніцы”. – “Баб, куды ён паехаў?” – “А паехаў. Будзя ехаць-ехаць – і на неба к Богу. Па воблаках... во хмара ідзець, воблака, воблакі, яны сабіраяцца ўкучу-ўкучу, куча бальшая, і ён па воблаках едзя, калёсы ж едуць, то ў ямку, то з ямачкі, і стукаяць калёсы, так жа і Бог дзелая”. Юрый-Ягорый на белым каню ездя.

271. На Юрыя тры дурні: адзін сея, другі засявая, а трэцці мароз гукая. Мароз гукая, штоб гуркі памарозіў. Во такія парастуць гурочкі, і нанач мароз ціскане. Я дак выношу і кохты, і юбкі, і засцілаю, штоб ужо ўсё-такі мароз ня быў. А дзе не засцеліш, яно счарнея.

272. На Юрья, усё баба казала наша, нільзя нічога дзелаць, што Юрый – урэдны. Нада штоб Богу маліцца на Юрья, а дзелаць нічога ня нада. Прагуляй дзень – табе Бог здароўя… А наша матка казала: “Голыя дзеці будуць хадзіць, пакуль усе празнікі прагуляіш. Дзеці будуць і голыя, і халодныя”. Наша матка не сільна...

273. Як гром, яна гаворя: “Юрый-Ягорый на калясніцы едзя”. Не казала на калёсах – на калясніцы. “Во, на калясніцы ўжо едзя Юрый-Ягорый. Ён пешкі ні ходзя”.

274. **Святая Варвара.**

Была ў бацькі дачка, баба расказывала, і ўсякіх жа хватая хлопцаў, і яна сабе жывот нагуляла, забярэмініла. І бацька яе, ужо дазналіся, калісь эта ж пазор несхадзімы, і бацька ўзяў сагнаў з двара яе: “Ідзі!” Яна блыталась дзе папала, а бацька к двару не пускаў і матцы сказаў: “Прыдзя яна, у двор не пускай, ні есць, ні што не давай”. Яна і па міласціні хадзіла. Я гавару: “Баб, хто табе казаў?” – “Бабы нашае баба. Во, як я расказываю Сярёжку, а мне баба гаварыла”. І яна хадзіла і па марозам, ета ж ціпера-ка адзежы, хоць дарагая, но хватая, а тады ж не было. І яна дзіцёнка тога радзіла, і ўсё адно бацька адказаўся навечна: “Не мая! Ідзі, куды хочыш!” А дзіцёнак усё раўно хоча к сваім: можа ж, і галодная, і халодная. І па міласціні хадзіла. Бацька як сагнаў з двара, і не прыняў. І яна, у святыя прынялі яе. Стала святая Варвара за етага, што яна пуза нагуляла. “Баба, а дзе ж дзіцёнак?” – “У холадзе да ў голадзе дзе ж дзіцёнак – перявёўся”. [*А чаму яна святая?*] Нельзя была бацьку зганяць. Ну шкода ё шкода. Дак дзве душы згубіў ён, ці малога ў жываце, ці яна радзіла, можа, нежывога. І яе Гасподзь Бог, баба штось гаварыла, ці сустрэлась з Ісусам Хрыстом, ці з Мацер Божжаю, што яны яе ў святыя ўзялі. Штоб яна не скіталася. І сказалі, што яна скітніца. Нельзя была бацьку етага дзелаць, ізганяць з двара. Хай бы і ў дварэ была, работала, ніхай бы і дзіця тое прысвятоя … дзіцёнак не вінават. Мяне ж назвалі Варвара. Я гавару: “Баб, чагой-та прысвятая Варвара, прысвятая Марыя Божжая?” – “Марыя – то шта радзіла Ісуса Хрыста. І ета радзіла. Дак мужыка тога… Вот Марыю прысвятую не ўзяў, мужыка не было, яна ад Духа святога радзіла, дак, можа, і ета ад Духа святога, а бацька ўсё адно сагнаў”. Што мне гаварылі, то і я.

У каго які характар, хто васпрынімая, хто не васпрынімая. Ета, як Варвара-мучаніца. Яна ішла па Божжай дарозі, а бацька не любіў. Ён ёй лучшэ галаву адсёк: “На табе, галаву адсяку, штоб ты не верыла”. Усякія людзі!

Я гаварю: “Ой, бацька! Ну, нашто бацька адсёк ёй галаву?” А баба і гаворя: “Ну, гряшно гаварыць: яна нагуляла жывот сабе. Вот ён за етага ўжо яе казніў, ету Варвару”.

275. **Трохручыца.**

У нас вікона была. Мацерь Божая. Дзірявянная. Красівая-красівая. І дзіржала Мацерь Божая Ісуса Хрыста: адной рукой дзіржала і другой прыдзіржала, і трэццяя – тры рукі. І ў яго дзве ручкі было. Дак мы і пытаім: “Баб, ну ў чылавека ж тры рукі не бывая?” К Вялікадню знімала матка. Мы ў чыстай вадзе тряпачкай памыім, а тады ўжо светлінькай

баба абдае, і становяць ужо к сонцу, не становяць етым, дзе рысована, а ў цянёк. Мы гаворым: “Баб, а чаго?” – “А штоб яно ні аблазіла”. Баба гаворя: “А Бог ёй даў трэццяю руку. Дзвумя дзяржыць Ісуса Хрыста, а трэццяй ряку пераплывая, штоб пераплысць ряку. Дак яна рукой грябе ваду, як вяслом, да і пераплывая. Дак вот ёй Бог даў трэццяю руку. Толькі да пераплаўнай серяды ніхто ні купаіцца. “Ня йдзіця ў копань, а то Бог накажа!” – усё казала нам. Мацерь Божая пераплывала, спасала свайго дзіцёнка... Чэряз ряку Іардань. І Бог ёй даў трэццяю руку і сказаў: “Пераплывай!” У серяду пераплывала. Бог сказаў: “Толькі ў серяду, штоб ты пераплыла ряку”. А яна сказала: “Мне ж дзіцёнка нада дзяржаць. Я ж Ісуса Хрыста буду дзяржаць”. Ён сказаў: “Ідзі. Будзя чым табе грэсці. На трэццяю руку”. Дак тая вікона была. Красівая! Як цэркву разламлялі, калісь жа цэрквы разламлялі і здзелалі склад у калхозі, дак бралі людзі віконы, дак баба гаворя: “І мы напроціў жылі, дак думаю: “Да й жа і мы пайдзём!” Дак я сабе ўзяла “Мацер Божаю”, “Міколу” і “Спасіціля”. Дак тры віконы былі ў нас. Такія красівенныя. Як мост мы мыім, чыстае вады баба возьмя, налівая ў даёначку і гаворя: “Вазьміця, вон чыстая тряпачка, і памачыця нясільна, а сырой пратрыця Богу вочкі”.

276. **Неабпальная Купіна.**

І прышла баба, яна такая крываротая, ізуродаваная, радзілась такая, дак січас: “Давайце! У каго “Ніупалімая купіна”. Гаворіць: “У Дуні ё”. – “Скарейце к Дуне!” Ад Дуні прыняслі вікону. Яна за вікону. Вецер бушаваў. Узяла кругом гаряшчай хаты. Кажа: “Счас вецер сціхня”. І сціх вецер. Дак яна гаворя: “Еслі вот пажар гарыць, то “Ніупалімаю” і абайці. І вецер сціх. І ўсе ўдзівілісь. Калісь Парукаў быў, ён тут-ка после работаў, ідзе газ прадавалі, дак ён стаіць, гаворя: “Проста б я нікому не паверыў”. Вот рэзка так астанавіўся, і пачалі ўжо вёдрамі. А тая баба кажа: “Скрозь нада “Купіну” насіць.

## Ікона-Свяча

277. Свіча называіцца, патаму ета – прэсвятоя места. Яны там Богу моляцца, свечкі гаряць, пра Бога гаворяць. Ета... Гасподні збор туда. І людзі ўсе ідуць з усёй душой, з усім харашым, із Божжым.

278. Эта цяпер различныя фігуры выдзелываюць, а тады свечка тая стаяла, калісь із цэрквы падсвечнік быў, там яна стаяла, і яе каласкамі ўбіралі, лентачкі небальшыя прывязывалі, і нясуць, як пераносяць, і бяруць ікону і рушнік красівы. Мужчына пераносяц. У нас была Мікола

зімняя. Я па суседству. Ка мне прыняслі, а тады ўжо к вам на другой год. І дзелалі Троіцу. Троіцу абрячонай здзелалі. Хто хоча, не то шта з двара на двор. А вот я абрякну – вазьму. Тады абрякне другі. І бралі этыя іконы – абрячоныя. Тожа таксама бяруць свечку ўкрашанаю. Стаіць ікона, і каля іконы стаіць свечка. І тады на другі год пераносяць к другому. [*Якія бралі “цвяты”?*] У нас дзед быў, так ён гаварыў: “Цвяты – усі красівыя”. Адзін вот гаварыў: “Цвяты – красівыя”. А ён: “Не гавары: “Еты цвет – красівы, а еты – не красівы”. Кажды цвет свой запах імеет і сваю красату. Маленькі цвяточак на траўцы, а ў яго свая красата, прыгледзься, гавора. А ета – што роза бальшая, бальшы цвет – красата, а вот паглядзіце, у маленькім цвяточку, які ён красівы. А на свеце німа – вот еты красівы, а еты не красівы. Усі красівыя цвяты”. Дак ён калісь казаў на сваю жонку: “Вазьмі мне насушы цвятоў летам. Памру, палож мне каля мяне шчапотку сухіх цвятоў зімой, і то я рад буду. Я люблю прыроду, не знаю як!” Яго звалі па-вулашнаму, Мішка. Ён і кажа: “Ты мне нарві муражка. Маленькія цвяты. Яны – красівыя. Што вы толькі за бальшымі прягніце? Не нада етага. Цвет увесь красівы”. І, праўда, возьмем на траве гуляем, калісь дзеці, а ён – маленькі, але ж красівы.

Я ня дзелала. А там адна – кажды год, штоб мужык прышоў, Дуня іе звалі, дак Свяча ўсё. Я ня дзелала. А ў іе мужык у вайну быў дома, пашоў, а тады ці ў кружэнне, яны тады ўцякалі ўсі, а як пачалі растрэліваць, дак яны ўжо знаюць, што хана ўсім будзя, яны бедных яўрэяў стрялялі ў нас у Свяцкой, дак там адзін, штоб яму колам зямля! Пераносілі. Вот у Дуні была Свяча, яна ўзяла абрякнула. Свечы – эта абрячоныя. Абряклася, што буду Свячу скрозь спраўляць, толькі штобы мужык прышоў з вайны. А яго і ўбілі. Первы раз забралі, а тады, як немцы прышлі, прышоў, можа, дзе схаваўшы быў, да прышоў, хату выстраіў, а тады зноў красныя прышлі, пабралі мужчын тых, што былі. Дак яны пабралі іх, і яна асталася, двое дзяцей. Дак яна абрякнулася. І Свячу тую дзелала. Прыходзяць пеўчыя, там былі, адна ўсё вядушчая баба, такая была пажылая. Яны прыходзяць увечары, а тады ўжо ўранні, і абедню і заўтряняю служаць. А тады абед яна гатуя. Я, дзе мяртвяц памрэ, я не хаджу на абед. Вот ня хочу – і ўсё. Матка наша казала на бабу, баба мыць усё хадзіла мёртвых, дак яна і кажа: “Ідзі ўжо косці аблізый!” Дак калісь – боршч, бульба жараная і каша густая – і ўсё. А ціпер ужо гатуй, хоць ты ў позыкі ідзі, да гатуй ім. А тады адзін ужо сказаў: “Я сабе вазьму”. Дак яны к яму. Вот Свяча пабыла, у іе ўжо вечар служылі, і ноч ані гатавалі, і ўжо ўранні ўсі людзі печы павытапяць, ідуць на Свячу. Там яны Богу молящца, і пакуль заўтрянік прайшоў і вутреннік, і абедня. Адслужаць ужо, тады бяруць вікону, і бяруць падсвешнік, такі быў дзярявянны,

здзеланы, дзірачкі там для свечак. Адзін там мужчына, дак ён усё нясе. Ён і пеў па-Божаму, і нясуць у тэй двор, дзе пераносяць вікону. І там гатуяцца. Абед гатуяць. І там моляцца Богу, а тады, якія малітвы нада прамоляцца, садзяцца ў тога хазяіна і ядуць. Ён угашчая, а тады ўжо назад, адтуль усі ідуць сюда, к етай маладзіцы, ішчэ памоляцца, ішчэ паабедаяць. Тады ўжо разыходзяцца. А на другі год ужо ў тога мужчыны – Свяча. Яны ўжо там увечары моляцца, пеўчыя, позна моляцца, да часу, тады ўжо хто на нач астаюцца і ўранні начынаюць рана маліцца і падкаменцы, і амяленцы, і закружцы. Ён гаворя: “Ніхай і на лета тутака”. Ужо не бяруць, яна ў яго пабудзя. А ён два гады здзелаў, і большы ня здзелаў. Яна папытала: “Будзіш ты дзелаць?” Ён гаворя: “Не!” – “Давай вікону маю”. І Дуніна вікона была там два гады. “Троіца”. І яна вікону тую ўзяла, у рушніку, і рушнік іе. “Раз ня будзіш – давай маю вікону назад”. І дзелала, пакуль разруха ета была.

279. [*На “Свячы” быў абед, вячэра, заставаліся дробкі, шалушкі, куды іх дзявалі?*]

(а) Выкідалі пціцам. Усё казалі: “Пцічкам выкідаюць”. Дак яны выкідалі на двор, на дарогу, паўз дарогу.

Наша баба будзя іціць са Свячы, возьмя хлеба прынясе. Карові давала. Я гаварю: “Баба, а чаго ты карові даеш?” Дак яна гаворя: “Штоб уроку не баялась”.

(б) Наша баба калісь прыдзя із Свячы, дак яна прыходя і хлеба лусцінку прынося, гаворя: “Дуня, вазьму лусцінку хлеба”. Бярэ. І прынося: і курям, і карове аддасць, і авечкі ў нас былі, і яна ўсім па каплі дасць.

280. Калісь казалі... Вот ты б пабыў... Прышоў бы на “Свячу”... І стаў выходзіць... Мол, “ня хочу! ня хочу”. – “Ня будзь жа ты гарадскім. Ета ты гарадскі, дак грэбуіш нашым абедам”. І там гатуяць... Ня нада сказаць “абы як”, харашо гатуяць: і мясноя, і халодная... “Ты ж... Гарадскія ня хочуць дзерявенскага абеду есць”, а яшчэ смашней, можа, абед, можа, і не такі... Боршч, каша, бульба жаряная, драчоны... Усё гатуяць....

[*А я “хлебушак пушыла”? Пушыла – гэта як?*]

А с хлебушка пушыначкі павыпалала... Зярно... і павысіяла... Штоб ужо не было і шарояк тых... штоб мякінькія... калісь бліны былі... і ячменная мука... трошкі ўсяныя дабавяць... Трошачкі дабаўляяць... а то пшанічныя і ячменныя... Дак бліны тыя белыя, пухнатыя... з салам... Божа мой!

[*Павыпушыла...*]

На сіта пасеяла... Дак тыя ўсі шаройкі... А ета адна пылачка – мука...

[*Павыпушыла ці павысеяла?*]

А я с хлебушка мякіначку *павыпалала*... А хто гаворя *павысіяла*... Хто так, хто так гаворя.

А я хлебушык павысіяла, а я госцічкаў павыпытала...

А я праўдачкі ў людзей усё павыпытала...

[*А гэта пра што?*]

Павыпытала... Хто што любя... ці смашны, ці не...

Хазяін даволін, што ядуць людзі. Як людзі ядуць: "Ой, слава Богу, слава цібе, Госпадзі, ядуць людзі. Можа, і смашна..." Кажды ж думая, штоб лучшы здзелаць. І мяса накідаяць... Там боршч, хоць выпій – харошы. Гарэлку становяць. "Выпівайця, людзічкі добрыя". І будуць ізза стала: "Ой, не вылазця! Сядзіця! Ой, как красіва да добря ясцё. Ну пасядзіця, пагаманіця". Не давольны, што так шмыг-шмыг... Ета толькі з гарячага абеду скора. Пад'ядуць і ідуць. А на "Свячэ" рады, што доўга сядзяць за сталом.

Ета не красіва... Счытаяць, што не панаравілася чэлавеку, дак ён уходзя.

## Страшны суд

281. [*Што баба казала пра Страшны суд?*]

Дак яна гаворя: "Во, дзетачкі (бывая ж так, што не слухаіма, бацькі не было, так па волі раслі, наша матка, як у хату войдзя, як агня баялісь: "Бабу слухайця – і ўсё!", бацькава матка, а бацька памёр з апірацыі), нада слухаць і не крадзя, хто ўкрадзя, будзя ў пеклі, хто абіжая людзей – будзя ў пеклі, а хто ўбівая, дак тога зразу Бог пачыная… Дак нада слухаць. А хто нічога ня дзелая такога, не крычыць, не сварыцца з маткай – тый будзя ў райскім саду, там пцічкі райскія". – "Баб, ё ж там яблакі?" – "І яблачкі ё. Будуць есць тыя дзеткі. А етыя будзіця ў адзі". – "Баб, што-та за ад такі?" – "Ад – смала кіпіць і туда Бог будзя скідаць, прыгаць будзіця, так здзелая, самы прыгніцё. Будзіця ўвесь век там кіпець. А хто будзя не работаць – Бог дасць так, што і есць не будуць хацець. І будуць у райскім саду". А Ягорка наш: "А яблакі ж можна будзя есць?" – "Будзіця есць і яблакі. Ліш бы толькі шкоды ня дзелалі". А матка будзя сядзець мая і казаць: "Мам, не гавары ты дзіцям абы што. Эта ўсё няпраўда. Во, палку кінь, яна сагніе. А тут прорва такая была, як станіш, падыміцца ў гору тый мох. Так і там, сагніе чылавек у зямле. Ніякага табе раю німа". Баба набажлівая была. Калісь бацька памёр, гроб здзелалі, не аббілі яго нічым, паклалі. Толькі бумажка была, дак паклалі, штоб пясок не сыпаўся. У нас калісь

Алёніца памірала, маладзіца: “Во ета мне на смерць, а ета во (жалка ж расставацца), а ета юбка – харошая, там і хуста, у вузел звяжыця і паложця мне паўз бок. Дак я там буду, як работаць заставяць, надзяваць другоя, а ета празнічная”. Адна баба сядзіць, гаворя: “Памрэш, сагніе і вузел твой, і ўсё. Німа там ніякая загробнай жызні”.

282. Баба ўсё нам гаварыла: “Дзетачкі, не крадзьця ў нікога нічога”. Мы па-суседні, была хрёсная наша, у ніх вяргінні, а мы завідуім: “Ой! Ну красівыя цвяты!” Пойдзіма: “Тусь, пойдзім украдзім”. Ну мы пашлі і сарвалі, чорныя і красныя, мы ўзялі і адзін цвет сарвалі. Яна тады ўсякія словы пляце, яна ўрэдная была. Баба наша: “Нашто яны вам?” Дак усё, штоб не кралі. Мамка нас… дзень, ня еўшы, сядзелі, хаваліся ў мяллі: “Я пазасякаю вас! Штоб слава пашла, што ў Грэцкіх дзеці злодзеі. Пашлі цвяты красць”. Ну што, кажыцца, тот цвет? А яна кляне: “Штоб вам Бог долі ня даў!” Баба наша і кажа: “За той цвет, Кулiначка, клянеш іх”. А то кажа: “Бачыла ўва сне, што вы ў пеклі будзіця”. – “Баб, а што там у пеклі?” – “Смала. Чэрці смалу кіпяцяць. А хто грэшнік, туда. Хто краў, хто ня слухаў, хто ўбіваў – усіх этых кідая”. – “Баб, больна ж там, гаряча!” Вазьмі-ка ў агонь паліц. І мы ўжэ баялісь, як агня. Я і малых сваіх, Сярёжка пазней прыдзя, гуляюць недзе: “І дзе быў? Можа, магазін абабраў?” – “Да во абабраў, парэзаў людзей, у кучу паскладаў! Ты толькі дурное!” А мы калісь эта слухалі і баялісь. “Во, будзіця век у пеклі!”

283. Бог апрыдзяляя. Грэшны – ідзі ў пекла, а богаверуюшчы ідзі ў рай.

284. [*Талкунова будзе ў раю ці ў пеклі? Яна ж песні пела. Добрыя песні.*]

Ну, яна добрыя пела.

[*Дык дзе яна будзе?*]

Па-мойму, у пеклі.

[*За што?*]

За то, шта яна не божыя пела.

[*А вы дзе будзеце?*]

Я ў пекла іду. А еслі разазлюся, прама буду іціць у рай. Хоць і Бог будзя стаяць, я скажу: “Дайця дарогу Варвары. Варвара тожы святы чылавек!”

[*Чаму Варвара – святы чалавек?*]

Варвара ж – мучаніца. Мяне Варвара завуць.

[*Што, усе Варвары ў раю будуць?*]

Усе Варвары ў раю будуць.

285. **Святыя людзі.**

Ты верыш, вот ё песня: “Ой, веру-веру, дзеці, што ё любоў на свеці…”? Ё любоў на свеці? – [*Ёсць.*] – І я веру. Калісь усё баба наша расказывала. Такі ўжо быў дзед Ягор мой, харошы. Вот пара саедзінілась. Вот маткіна радня. Яго звалі Ахрэм, а яе – Хацімья. Дак на іх усё казалі: “Хадзімця к Ахрэму і Хацімьі!” Гуляць ужо бабы: “К Ахрэму і Хацімьі, можа, наварылі бурака і бацвіння”. Прыходзяць: “Ну, як, Ахрэм і Хацімья? Наварылі нам бурака і бацвіння?” А баба наша, тож харошыя дзяды былі, а ета бацькава, дак ужо саедзініў Бог і яе харошаю, усе людзі казалі, і ён харошы, і баба Алёнка харошая. Вот два такіх Богам саедзінено.

Дак усё баба наша расказывала. Дзеўка гуляла, любіла, напрымер, цябе, і гуляла, і дружылі, і ўсё, а бацькі ж калісь камандавалі, за каго аддадуць. Бацька, згаварыліся твой бацька і, напрымер, мой бацька: “Давай пажэніма іх”. У тога жаніха пара коней да тры каровы, хазяйства! Ну, і не аддаў за тога хлопца, што яна любіла. А тэй – бедны: адна карова ў бацькі да маткі. Но яны любілі друг друга. Аддалі сілай яе. Яна і плакала. Узялі аддалі. Яна пажыла, месяцы два мучалась, прышла і кажа: “Бацька, забярыця мяне дамоў. Я не магу болей жыць з ім. Лягу я спаць з ім, дак ён мне як стоградусны мароз кала мяне. Дак як стоградусны мароз ляжыць кала мяне. Я яго не люблю і не любіла, і век не прывыкну. Вазьміця мяне”. А бацька сказаў: “Аддаў цябе замуж – жыві! Што табе болей нада? Свёкар, свякруха, а тыя ўсі ўжо разышліся дзеці да замуж папашлі, пажаніліся, а ты там як царыца будзіш. Жыві – і ўсё!”

А яна ізноў прыдзя, плача, матка ўжо расказывала. А бацька ня браў. Ана папытала і гаворя: “Паследні раз пытаю ў вас. Забярыцё мяне? Я там сваё плацця якоя забяру і прынясу сюда. І буду жыць у вас, буду хадзіць рабіць па наймах, толькі забярыця”. А бацька сказаў: “А! За галадранца тога хочыш іціць замуж? Не аддам!”

Ну, яны зімой вытапілі баню там у свёкра, а калісь снягі бальшушчыя былі, яна і надумалася, яна ўжо расказывала сваёй падрузі, гаворя: “Як мне ўжо з ім лажыцца спаць, да ён надаеў мне, не хачу!” Узяла пашла ў баню, палезла на палаткі, выпарылася, тада пасядзела трохі, зноў палезла, Вера яе звалі, яны: “Вера, штось ты два разы, то раз папарышся, то зноў лазіш?” Яна: “Хочу разагрэцца”.

Разагрэлася, і ў прыбанніку, калісь банька, і прыгародзяць прыбаннічак, яна пашла, надзела андарачок толькі і кохтачку, і бяз хусты, а косы бальшыя, і яна пашла босая, вышла і пашла к бацьку, а к бацьку іціць далекавата, і пакуль дайшла к бацьку, падышла ўжо ўвечары, у хату вышла, матка спужалася: “Чагой-та ты босая?” І бацька сядзіць: “Чаго босая!? Лезь скарэй на печ – атагрявай”. Яна села, лаўкі такія былі,

доска ад сцяны да сцяны, і кажа: “Не хацелі мяне забраць, штоб я са стаградусным маразам не жыла, дак вот я сабе смерць такую абрякла. І не нада мне ўрачы…”

І ногі сталі калоць, палезла на печ, і к дзвенаццаці часам яе ўжо пачало біць-калаціць, яна ўжо прастыла, мокрая ўся да столькі шла, і захварэла, і дзве нядзелькі паляжала, і ён прыйшоў: “Дзе Вера дзелася? Німа з бані Веры”. Яна гаворя: “Еслі дзед Мароз прышоў толькі, стаградусны, за мной, не адчыняйця, я яго бачыць ня хочу”. І накрылася пасцілкай, і ён прыйшоў: “Пайдзём, Вера. Я табе і шубы прынёс. Пайдзём”. Яна яму атвеціла: “Ідзі! Я ненавіжу, дзе ты дажа стаіш. А не то шта я буду ў пасцелі з табой спаць. Мяне толькі дзень спасаў, што ты работаіш, я без цябе, а ты мне ня быў люб і ня будзіш!” І ў яе двухстаронняе васпаленне. І яна і памірла. Дак сказала: “Штоб хаваць…” Прыдзя, яна накрыіцца: “Штоб дажы ты майго ліца ня бачыў, а я твайго. І пам-ру, штоб ты дажы пршчацца не падышоў!” Ну, ён усё раўно прышоў, папрашчаўся з ёй, пацалаваў. І схавалі. Дак бацька тэй дурэў: “Ой! Чаго я ня ўзяў!?” А матка: “Згубіў дзіцёнка!” І песня ё:

*Я чуў, у таўпе гаварылі:*
*“Жаніх непрыглядны такой,*
*Напрасна дзявіцу згубілі”.*
*І вышаў я ўслед за таўпой…*
*(Жэняць насільна, і ета плоха.)*

Усякія судзьбы ё. Ты ў любоў верыш? Ты верыш, што ёсць любоў на свеці? Я табе расказывала. За хлопца за тога не аддалі, а аддаў бацька за мароза за етага. Яна сама сябе перявяла. Можа, на тым свеце і будзя яна і святая. Вот так святыя бываяць. Як усё баба казала: “Вера будзя, што за Марозам была, у прысвятых будзя. Што такую яна кару марознаю прайшла, што косы дубака”.

# XXXV. Дэманалогія

## Ведзьмакі

286. Баба наша ўсё гаварыла: “Вышла на вуліцу ваду браць. Паляджу: ідзець, як капа сена. Суніцца, гаворе, і шуміць. Я, гаворе, назад ускочыла да на дзеда на майго: “Ягор! Хадзім-ка ты на вуліцу пагляздзі, што там”. І ён: “Хадзі, а то вада нада. Давай я пайду вады!” Вышлі, я гавару: “Па-глядзі!” Капа сена. Рана, уранні, і капа сена, і пасунулася, і пасунула-ся. Ён мяне за руку: “Пайдзём! Нечага нам глядзець абы-што. Хто ета пусціў, ніхай тый і глядзіць”.

287. А то зімой дзед прышоў мой, мужык, і кажа: “Хадзіці-ка на вуліцу паглядзім: чый-та парасёнак бегая па снягу”. Мы, гаворе, узялі вышлі, матка мая і бацька, дзед і баба. Вышлі, ходзя свіння, і ходзя, і ходзя, як паросная. Пахадзіла, пахадзіла. Бацька і кажа: “У каго тут? Давай папытаем, узбудзім шчэ людзей, увечары, еслі спяць”. І тая свіння, як у сугроб палезла, счэзла, да німа. Дак ён гаворе: “Скарейце пайдзёмце ў хату!” Баба ўстала памалілася. “Васкрёсная малітва”. Называецца “Васкрёсная”. Дак “Васкрёснаю малітву” прагаварыла, і ўсё. [*Што за свіння?*] Там жыў бацюшка. Цэрква была ў Закружжы, красівая, высокая, ціпер жа нізкія строяць. Дак яна пашла к бацюшку да гаворя: так і так. А ён гаворя: “Ета вот паддзелаяць, што вот табе, што ты свіннёй здзелаешся”.

288. У бабы нежывыя ражаліся. А тады цыганка сказала: “Табе здзелана. Парыў цябе хто ў бані?” І баба нам прыказывала: “Нікому, еслі бярэміны чылавек... Бярэміны, хто захоча: “Дай я цябе папарю!” Не давайся ў бані парыць: “Я сама папарюсь”.

[*Чаму вы сказалі, што калі баба важкая, штоб ніхто яе ў бані не парыў?*]

Чагось, я табе ўжо не скажу. Ці загаварыяць. У нас там была адна баба, загаварыя, без яе не родзіцца, будзя мучыцца доўга. [*Такія гісторыі былі?*] Былі такія історыя, патаму шта я бярэміная была. І баба ўсё казала: “Глядзі, штоб ніхто цябе не парыў. Глядзі!” Мы пачалі парыцца, там прышла адна, Мар’я Рыжкова, яна ўрэдная была: “Дай мне веніка папарыцца послі”. Я гаварю: “У цябе ж новы!..” – “Дай мне тваім папарюсь!” І я злазіла з палатак, а яна мяне па плячах да па задку. Скольқі яна там, я не счытала, парянула. Я прышла, бабі сказала. Яна: “Ну, атмучышся!” Так я пачала ўранні, пачаліcь схваткі, і дзень я хадзіла. А тады думаю: “Можа, так жывот забалеў”. У бальніцу прывязлі, я мучуся – нет сіл. І яны ўсе, урач гаворя: “Мы счас запрягом каня (тады ж машын не было), дак запрагом каня і павязом у Ветку. А яны ж, тут, палаты. У адной тут ряджаіш... і адна баба гаворя: “А хтой-та такі? Хто-та ряджая?” – “А з Амяльнога Грэцкава Варячка”. Мяне Варячка звалі ў Марозаўцы, у школу хадзіла, усё выступала. “А ета Полькіна, Сашкава дзевачка! Пясённіца!” Гаворя на ўрача: “Можна мне к ёй іціць?” А тэй урач гаворя: “Нічога ні выходзя ў нас. Трудныя роды такія”. Яна падышла, гаворя: “Парыў цябе хто?” Я гаварю: “Парыла Мар’я Рыжкова”. – “Ты счас родзіш. Цябе загаворэна”. І яна мяне ўзяла ад грудзі, цісканула і гаворя на ўрача: “Дзіцёнак счас!..” Дак тэй урач узяў і тую бабу аж пацэлаваў. А Маша наша была бярэміная, прышла з бані і кажа: “Была Дунька, дак я злажу із палатак, папарылася, а яна сядзіць да венікам мяне шлёп: “Ну што, папарылась?” І Маша стала ряджаць,

баба і кажа: “Мая ўнучачка (Маша дома ряджала), мая ўнучачка, ідзі і пазаві Дуньку, патаму шта мучыцца ты ні будзіш. Помніш, ты казала (наша баба памятлівая была, дак гаворя), помніш, ты мне казала?” Яна гаворя: “Да!” – “Дак вот ідзі пазаві!” І пашлі пазвалі яе. Прышлі, баба тая: “Ха-ха-ха! А я знала, што вы прыдзіця мяне звацъ!” Любіла, штоб падаркі ёй давалі. І Маша ўзяла яе за бабу. І Томку ряджала яна... І Маша кажа: “Ідзі гукні мне...” І баба наша гаворя: “Ідзі гукні Дуньку, а то ня родзя Маша. Будзя мучыцца”. І я пашла... Дуньку тую... Яна прышла з радасцю. Любіла, што яе звалі па родах. Дак яе клялі людзі. Во, гаворя, у баню пайдзя бярэміная, яна хоць як уварвецца і хоць як пашлёпая.

[*Вы сказалі: “Маша яе за бабку ўзяла”.*]

Хрэсьбіны... Ета, што пры роду была. Яна любіла і выпіваць, ета пры роду была, тады ўжо радзілася Тома, Маша, і кажа: “Нада ж і ўгасціць”. Баба возьмя... Яешню... Штук пяць яец, хлеба, дасць выпіць ёй, за то, шта яна дзіця тоя... І пуп атрязая, дахтароў жа не было. А тады ўжо хрэсьбіны дзелалі дзяцям. Перяхрысцяць ужо, а яе ўжо за бабку. Яна пры роду была, і ёй падарак, там, на кохту, ці на андарак, ці хусту даюць. І завуць яе на хрэсьбіны. Яна ўжо называіцца “прыродная баба”. І Маша Грышу адпраўляла ў армію, тож пазвала, штоб яна, Бялёніха, урэду ня дзелала. І Маша яе шанавала. І Грыша ішоў у армію, дак я гаварю: “Мама, не забудзь жа... Вечарынка, дак пазаві”. Яна гаворя: “Я ўжо сама знаю. Пазаву. А то ішчэ паддзелая што-нібудзь”. І Грышу сказала: “Будзя што даваць Дунька, не бяры нічога. Скажы: “У армію нічога не бяруць”.

І так бывая, што ўгашчая бярэмінаю чым-нібудзь. І ўсё баба наша казала: “Ні бярыця! Нічога ні бярыця ад... савіршэнна нічога!.. бірэміная, галодная будзіш... Дажэ вады...” Жалі жыта... І яны к бабам, бярэміныя каторыя, к бабам ня йдуць пажылым. Ідуць к такім, як мы, дзяўчаты маладыя, яна падойдзя, сваю вып’я, бярэмінай жа суша ў роце, яна прыходзя, напрымер: “Дай мне хоць сербануць!” А к такім не рязрящалі. Патаму шта етыя бабы, а мы, дзіўчаты, нічога ня зналі. Ё такія, што дасць ці канхветку, ці булачку – ё такія.

289. Усё калісь клялі: “Штоб ты столькі хлеб у рот укладала, сколькі я знаю”. Ета ўжо такі хворы, што і есць ня можа... Дак ета так клялі... Дзюбіха... У Маскве зяць яе жыве... Я яго вабшчэ ня бачыла... Сахарны дзіабет... Дак яна пачала... Гаварылі па-харошаму кала нас... Яна сядзела, сядзела, тады кажа: “Ты ж ведзьма...” Я кажу: “Як ты сказала?” – “Ведзьма... Ты ж майму зяцю накалдавала па ветру... Пусціла на Маскву... І мой зяць захварэў сахарным дзіабетам”. Тады на мяне і на Хваста: “У Маскве мруць павальна... Ета вы туда па ветру... Як бальшы вецер... Калдуіця... Яно ідзець туда... І людзі ўміраяць там...”

## Лесавікі

290. Калісь баба Ўсцінава казала. Я любіла бегаць, штоб ніхто не пабраў ні ягаду, ні грыба ў лесі. І вот пайду ў лес, і век не заблуджусь. Адзін раз пашлі мы ў красныя ягады, дамоў сталі іціць, ня выдзя. Гаварю: "Вот сюдой мы не ішлі". Яны гаворяць: "Калі ты ўжэ адурэла (дзеўкі, з дзеўкамы бегалі), дак ужэ ж мы ня знаім". Ета як я пайду ў лес, і яны ідуць. Я ў лясу знаю. І скольку мы не хадзілі, пойдзім, і назад ідом-ідом, я гаварю: "Дзеўкі, мы к Вялікай Грэблі падышлі. Ета ж мы ідом на Петухоўку. Давайця назад. Па той дарозі ідом, як дойдзім сюды, ужо канчыіцца Бальшая Грэбля, тады бугарок, тады Малая Грэбля, дайдзім сюды, блудзім – і ўсё! Я гаварю: "Не знаю! Ей-Богу, мы кудысь, ня знаю ідом! Давайця перабувацца ўсі". Мы ўзялі з левыя нагі на правыя перамяніліся, сталі, прайшлі трохі, я стала падумала, і вот я "Васкрёснаю" тады знала, я гаварю: "Дай-ка я "Васкрёснаю" прагаварю, а вы "Вотчэ Наш" гаварыця". Прагаварылі. Баба наша ўсё калісь казала: "Стряхніця галавай". Я гаварю: "Чорцік Іванька, пакажы нам дарогу! Не найдам дарогу, штоб нам дамой!" І ты не паверыш! І вот штось як свіснула! Уродзе, хтось свіснул у лесі. Мы ж, во, стаіма, ужо плакаць хочыма, там, метраў пяцьсот ніхай, і Падкаменне. Я гаварю: "Дзеўкі, што будзь то будзь, давайця іцціць да краю па етай дарозе". І вышлі. Дзеўкі гаворяць: "Во ўжо і паддубы. Там адзін дубняк, абхватам утрох не абхваціш. І мы вышлі к тым дубам. І ўзрадываліся. Паперяабуваліся. Да мы ў руках няслі. Па дарозе босыя прышлі. І дамоў прышлі. І бабе нашай я расказала, гавару: "Баб, сёння я адурэла. Так і так. І чорціка звала". – "Каго ты паследняга звала?" – "Чорціка Іваньку. І вышлі к дубам. І галавой струсілі". І тады ідом, яны гаворяць: "Варька, мы табе ўжо ня будзіма верыць. Ты ўжо тожэ блудзіш!" Гавару: "Ну вывела ж дамоў. Дома ж начавалі". [*Баба не казала, хто вадзіў па лесе?*] Яна кажа: "Можа, плахія словы казалі". – "Не, баб, не казалі". – "Тады вас вадзіў лесавік". – "Баба, што ета за лесавік?" – "Ё лесавікі. Ё палевікі. І на полі можыш блудзіць, ета палявік водзя. Ё хазяін і на поля, і на лес, і на ваду – на ўсё!" Мы гаварым: "Баба, а ў чом ён ходзя?" – "У лесавіка барада длінная, у белым надзеты. Такі лесавічок". А бачыць мы яго не бачылі. [*Чаму вы звалі чорціка Іваньку?*] Чорцік Іван. Я калі што палажу, і не знаю: "Іванька Чорцік, пакажы!"

291. У лес хадзіла, калісь баба казала, пашлі ў лес. Заблудзілісь. Ня выдзім із лесу. "Куды мы ня пойдзім, а кусты, ні дарогі ні найдзіма, ні сцежкі ні найдзіма. Ідома, палядзім – стаіць старычок, срэдняга росту, барада длінная, і ў белым надзеты, штаны белыя". Матка гаворя: "А льяныя яны? " – " А я расцапала! Я ж не пацапала. Льяное яно ці

якоя. Белыя штаны. Белая рубашка. Барада белая. Белая галава. Косы длінныя. І говоря: “Што вы ходзіця, красавіцы?” Мы і гаворыма: “Куды не пойдзім, а дарогі німа. Заблудзіліся. І не найдзім дарогі”. І ён гаворя: “Пайдзёмця за мной”. І вот, гаворя, ідом, уродзе, тэй дзед ідзець, уродзе, які цень белы ідзець. І вывеў на дарогу, і гаворя: “Во, дарога. Ідзіця пряма дамоў”. І дзесь дзеўся. Ні сказаў нічога. І спасіба мы не сказалі. Ня ўспелі. Як усё раўно скрозь зямлю праваліўся. Мы прышлі. К бацюшку пашлі, гаворым: так і так. Дак ён гаворя: “Ета вас лесавік сустрэў, і ён вывеў вас”. І хоць бы б паказаў дарогу і сказаў: “Во, сюдой ідзіця!” І дзесь, як уся роўна, туман, апаў і німа.

292. **Дамавы (чорцік).**

..і Богу верыць, і чорт памагая. Калісь паціряла я іголку. Ішла, думаю: “Будзя грубка тапіцца, а вязёнку буду лапіць: відро выносіць”. І нясла, і – бац!” Рукі ж ніякія. Дзе тая іголка? І як яна выскальзнула? І шукала я, і не найшла. Тады пачала мост... думаю: “Дай-ка, я мост памыю”. Адну маснічку памыю, пасяджу, аддыхну, і зноў. Пагляджу: штось блішчыць каля дзвярэй. Узяла падняла – іголка. А я ішчэ да етага пачала мыць, да і гаварю: “Чорцік Іванька, памажы мне! Аддай мне! Бяры сваё!” Ішчо баба так вучыла. Пагляджу: іголачка блішчыць. Я іголачку тую ўзяла, гаварю: “І чорцік памог!” Хто Богу маліцца: “Госпадзі! Хоць бы найці!” Я іду ў лес, калісь хадзілі ў грыбы ці ў ягады, гавару: “Госпадзі! Бог не паможа, Іванька-чорцік, памажы, штоб мы набралі ягад!” І пойдзім, чуць дапром ягады. А баба казала наша: “Дзеці, у лес ідзіцё, перяхрысціцесь: “Госпадзі! Памажы нам!” Патаму што з табой ангел ідзець паўз адзін бок, паўз правы, а чорцік ідзець паўз левы. І каждага чылавека саправаждаюць. І, як наш Сяргей едзя экзамены здаваць, я гаварю: “Па правай руцэ ў цібе ангел, а па левай – чорцік. Гаворяць: “Богу маліcь, і чорта не гняві”.

293. **Іванька Чоўнік.**

Калісь ня лодкі звалі, а чаўнакі. Дак вот Іван тэй быў... У лесі ё – лесавік, у полі – палявік... Называяцца. Кажаць: “У лесі быў, бачыў лесавіка”. Ета, як заблудзя чылавек, ён і гаварыць... Усё баба наша казала... – “Баб, заблудзіліся”. (Вот дайдзім да тога месца, кружымся: “Пайдзёмця назад!” Назад прыдзіма – грэбля, пойдзіма назад, ідом, здаецца, мы кудысь ужо зайшлі). Баба гаворя: “Ета дзед лесавік вас вадзіў за нос. Чымся вы яго ўгнявілі. Хто на двор хадзіў на правы бок? Ні нада на двор хадзіць ні па-бальшому, ні па-маламу”. Мы гаворым: “Баба, уродзі ні хадзіў ніхто”. – “А, можа, хто і хадзіў. Вот лесавіка ўгнявілі, дак ён...” А на полі ё палявік, каторы полем усім. А на моры – Іванька Чаўнок... Рыбак такі.

Іванька сірата быў. Хлапец, і яго Бог наказаў – і ў ваду. Ён здзелаў сабе чаўнок, і ён усігда спасаў людзей, еслі гаворяць:

*Іванка Чаўнок, прыплыві к беряжку,*
*Пахлябай куляшку...*

[*Калі так гавораць?*]

Як і к рэчцы падойдуць. На берягу стаіш і гукаіш яго. Вот хто рыбу… Усё баба казала: "Ідуць рыбакі і пагукаюць:

*Іванька Чаўнок, прыплыві к беряжку,*
*Пахлебай куляшку,*
*Ты нам рыбкі налаві…"*

Ці: *Я табе куляшок буду варыць*
*І к беряжку насіць.*

Ета рыбакі ўсё. І Іванька Чаўнок… Яго празвалі чаго… Яго звалі Іванька, сірата тэй, і яго Гасподзь за штось наказаў, кінуў у моря, і ён астаўся жыў, так Бог ужо здзелаў, што ён жыў астаўся, і здзелаў сабе ўжо чаўнок, высяк і ў чаўнаку том ужо плаваў. І якая б ня буря, усё баба казала, дзед Майка казаў: "Якая ня буря, но ён усё раўно, як у воздусі, на вярьху плавая – ні тапіўся". Ета быў царь… Назвалі яго Іванка Чаўнок, і ён усім, і дзе якія воды, і ў марях, і ўсюдых, ён быў ужо самы глаўны. Як дзед лесавік і палявік. Я гаварю: "Баб, а хто ж глаўны на небі?" Яна гаворя: "А на небі самы глаўны – ета Юрый-Ягорый. Ён на белым кані ездзя, ні на чорным, а на белым кані. Ета – Юрый-Ягорый. Во – гром, дак ета ён на калясніцы па етых, во, хмарах едзя, і во стукаяцца залатая калясніца".

*Іванька Чаўнок, прыплыві к беряжку,*
*Пахлябай куляшку,*
*Ты нам рыбкі налаві,*
*Нашых дзетак накармі,*
*Куляшку я наварю,*
*Вутрам рана накармлю.*

[*Каго накармлю?*]

Ну, ты ж прыдзіш рыбу лавіць, і накорміш Іваньку.

Кулеш. Гарячая вада, кіпятак, і жытняе мукі туды ўкідаяць, у кіпятак крышеннікі сушаныя. Усё: "Баб, навары куляшу сёдні!" – "Добря, наварю". Чыгун нам наваря, і мы пабегаім-пабегаім... З каржамы... Во! Смашна!" І туды крышеннікаў, і мукі, мукі разбаўтаяць у місцы, у халоднай вадзе... Ні падсаліваяць, і тады ў кіпятак, і ён заварываіцца куляшом, толькі не густы, мука салодкая жытная, солад імея, крышэннікі кіславатыя. Такі ўжо кулеш смашны, што Божа мой! Паядзіма – павышкрабыма! І кажды дзень бы... Насушым такіх два мяхі... Зімой

і летам варым кулеш. І, як толькі садзімся кулеш есць, счас і гаворым Іваньку Чаўнака. І як я пачала пра рыбу... Дак я гаварю: “Нада Іваньку Чаўначка...” А бальшы пайшоў на рыбу, нічога не паймаў: “Не ловіцца!” Дак я гаварю: “Нада была Іваньку Чаўначка пазваць”. І ён: “Я ўжо забыў на твайго Іваньку Чаўначка!..” Ішчэ дзіцёнкам быў, хлапцом, дак мы ўсё гаварылі  Чаўначка етага. Ідзём... уюноў ідуць лавіць і гаўкаюць Іваньку Чаўначка. На ваду ж яны ідуць. Усе дзеці і Чаўначка ўжо прагаворяць.

## Хлеўнік

294. (а) У каждай дзярэўні свае. У нас гаворяць: “Чорт еты во!” – як урэдны чылавек. А мая свякруха із Дзям’янак, дак яна гаварыла: “Ту! Хлеўнікі етыя! Я гаварю: “Мама, што-та за хлеўнік?” – “А ета нехарошы чылавек”. Вот што-нібудзь упусця ці што-нібудзь, гаворяць: “Ту! Хляўнік еты перяйшоў мне дарогу!” А што ета за хляўнік? Чорт – ета я знаю. А ў іх хляўнік, чорт – не гаворяць. А ў нас бывала, калі пойдзіш, дак баба гаворя: “Перяхрясціцеся, штоб чорт дарогу не перяйшоў. Штоб удача была”. І мужык мой, ён ужо, сабака ў нас быў, дак каня калісь запрягаіш, а ён становіцца і абдымая лапамі цябе, штоб ужо спусціў за ім, штоб ён бегаў. Дак ён будзя казаць: “Ідзі ты, хляўнік! Запрягу каня, тады цябе спушчу!” Па-свойму. У нас гаворяць чорт, а ў іх – хляўнік.

(б) У нас гаваряць: “Ідзі ты к чорту!” Вот прывычка такая. І ў дзяцей. А ў Дзям’янках гаварылі: “Штоб цябе хляўнік забраў!” А што ета за хляўнік? Чорт яго зная. А свякруха мая казала: “Штоб цябе Пярун забіў!” У каго як.

[*Пярун – гэта што?*]

Гром. Там, ці сусед, ці што... “Штоб яго Пярун забіў!” Я і ета пытала: “Мама, а што-та за Пярун?” – “Ну во, граза, гром”. А ў нас гром звалі, а ў іх Пярун.

## Русалкі

295. (а) І калісь баімся мы русалак. “Дзеці, ідзіце ў шчавель!” – “Баб, куды нам іцці, штоб русалка не паймала?” – “Русалка, як у шчавель ідзеш, далёка ў жыце. І Баба-Яга туды. І чорцікі забягаюць. Яны далёка ў жыце.

(б) Як пойдам, шчас баба і кажа: “Не хадзіце ў жыта далёка. Там сядзіць Баба-Яга, туды далей, а тут – русалка, і зразу хватае, косы ў яе абы-як распушчаны. Дак яны ўхвацяць і туды павалакуць”. – “Баб, а што яны будуць дзелаць?” – “А там яны задушаць, і будзіце ляжаць”. Эта русалкі.

А там яшчэ была Баба-Яга. У нас хлопец быў – Пеця, гаворя: "Э-э-э! Мы тую русалку ўб'ём!" Баба гаворя: "Так жа Баба-Яга прыдзе. Яшчэ і на мятле прыедзя самы глаўны з ракамі. Вот тады вы папляшыце!" – "Усё, баб, не пойдам".

296. Летам матка гаворя: "Вот сёдні ішла з Закружжа, бачыла, дзве русалкі сядзелі". А тых і не было русалак. "Мам, дзе ты бачыла?" – "За гародамы. Еслі будзіця крычаць, ня слухаць, я толькі кіўну, забяруць і ў жыта пацягнуць, і там вас паздзяюць нагала і будуць што хацець дзелаць, і будуць вадзіць па сёлах". А мы думалі: ета і праўда будзя. І вот будзіма сядзець увечары ў галле, і счас чую, хто-нібудзь шавальнецца, тока палядзіш: "Ета не русалка там лезя?" І адзін аднаго настрашыма. Гаворым: "Самая ціпер русалкі!" Там у нас Федзька Шараданкаў быў, будзіць сядзець, ён старшэ нас быў, і гаваря: "Тут во русалкі бегалі!" Вот будзім кала вашага двара сядзець, ён скажа: "Вот дзве русалкі сядзяць". Ці два бабаі, ці дзве бабы-ёжкі. І мы ўжо дамоў уцікаім. А ціпер скажы ты ім. Ён скажа: "А-а-а! Ты сама – русалка".

## Шаптухі

297. (а) Беленкова была Прося, дак яна ўмела загаваряваць і ўмела адгаваряваць. Тож к ёй *роям ішлі*. А ў нас была Дзёніха на Падкаменні. Дзед быў – Дзяніс мужык у яе, і яны – Дзёніха – па дзеду звалі яе. Яна толькі па-божаму ўсё: ці гадзюка ўкуся... к ёй...

(б) І Буханіха ў нас была, баба. Крываротка баба знала. Но тая, Крываротка, урэдная была: з кім сварыцца, *ужсызь* ня пойдзя: "Ніхай, – гаворя, – хоць іздыхая!" І бягаць ужо к Буханіхі, хоць к Дзёніхі.

(в) Баба Дзёніха была. Насмех пашэпча, і памагала.

(г) Баба ў нас там крываротая была. Будзім у лес ісці, баба будзя казаць: "Зайдзіці ж к бабе Насцюсі". – "Добря!" І іхні Івонька з намы хадзіў, і Танька... Там, ці ў ягады, ці ў грыбы. І яна ўжо будзя казаць: "Стойця ў хаці". І станя і штось гаворя-гаворя перяд віконамы. "Ідзіця, дзеці. Не пабачыця нічога плахога ў лесі. І ягад набіряцё". І мы пойдам, і нічога: ні вужа, ні гадзюкі... Нічога ні бачым... Ні слізняў.

(д) Пайдзёмця к бабе Крываротцы. Яна станя, і нам гаворя: "Ідзіця, ня бойцісь. Ні гадзюкі, ні вужа ні пабачыця". Пойдзім, дзень ходзім, босыя ж хадзілі. Ні бачым. Ні хто ні ўкуся, ні што. І баба будзя казаць: "Дзеці, зайдзіці ж к бабе Крываротцы".

(е) Іванава матка. Яна ж Богу малілася. Божа мой як! Дак як карова ў міне захварэла, упала на ногі, дак страсныя свечкі прыносіла і апалівала, і штось прысмалівала к шарсці.

298. …ня сільна пользу дае, нада штоб вусна. Не прышлось… Буханіха тая, калі ўжо ідом, я ў ягады чорныя хадзіла, як іду, так заходжу к ёй, місачка, насыпаю ёй: “Цётка, ягад табе прынясла”. Я не запісала. Калісь кабыла ў нас была, Зорька, такая праяздная, на поплаве ў нас хадзіла, балота шчэ не асушаная было, ці яе вуж, не, вуж не кусаіцца, гадзюка ўкусіла, і распухла морда, во такенная, як кожа ня лопня, так распухла, яна ногі выпрастала, тут дзеці конюха, дзянны і начны быў, начны пасвіў, пабеглі да сказалі бацьку: “У Зорькі распухла морда”. Ён прышоў палядзеў. Бягом к Буханісі. Яе пазваў. Яна век не атказывала. Яна січас жы кінула ўсё, хай печ топіцца – яна кідая, ідзець. Січас жа пачала шаптаць, а мы на поплаві, і ў мечыка і ва ўсё, так яна прышла і пачала шаптаць. На нас: “Ідзіця дальшы станьця!” Што яна там і шаптала, да ўсё па мордзі гладзіла, гладзіла, і па суставах, кабылу тую. Яна доўга шчэ ляжала, уранні яе ўкусілі, і прэдседацеля пазвалі, і палучшэла, і падняла перва галавой, трусіла. Яна: “Што, Зорячка?” І пакуль яна не паднялася на ногі, і яна і прэдседацель так быў. Яна такая баба паслухмяная была. Ад усяго ўмела. Толькі харошая. Адна прышла, мужык хадзіў, гуляў там з адной, той не памагла, гаворя: “Я не ўмею этага. Я ў этым не памагу. Я чула, як яны шэпчаць, там і чарціх, і чарцінят памінаяць, та я этага не знаю. Я этым не займаюсь”.

299. Чый дух прылюбя. Другая шэпча, і нічога не памагаіцца. А другая насмех пашэпча, і памагаіцца. Дак усё баба наша гаворя: “Ета, як чэй дух прылюбя”.

300. **Красная нага.**

(а) Калісь красную нагу... Я дужа баязлівая**.** У мяне сястра была. Яна нічога не баялась. І вот будам мы сядзець, матка пірагоў напячэ і кажа: “Расцягвайця к абеду. Будзіця з малаком есць”. А яна будзя сядзець: “Вой! Штось шаволіцца пад краваццю!” Я: “Што там шаволіцца?” – “Красная нага”. Ягорка, брацік, шчэ малы быў, я ўхвачу яго... А яна пірагі наярывая. Матка прыдзя: “Дзе пірагі?” А яна гаворя: “Красная нага вылезла з-пад кравації, пажрала ўсе пірагі”. Матка: “А дзе яна ляжала?” – “Во дзе ляжала, ня знаю…”

(б) “Глядзіце! Хто ўвечары позна гуляя, ходзя красная нага. Еслі толькі абчэркніцца аб вас, і вы згарыцё і будзіця хадзіць красныя!” І пакажа красную тряпку: “Во, як эта тряпка! Будзіця красныя. Будуць усі людзі, як на дзіва, дзівіцца”. Мы ўжо пагуляіма ўвечары. Дзеўкі ж бальшыя гуляяць, і мы слухаім песян. Бягім дамоў: “Хадзіце, а то красная нага будзя бегаць!” А ціпер жа ім ой! Дзеці мае былі, я ім гавару: “Вон красная нага пад краваццю”. Эты, меншы, кажа: “Баб, я пайду”. Пойдзе: “Баба,

аблазіў пад койкай, німа краснай нагі”. А мы ўжо калісь баялісь падыціць пад кравáць. Матка: “Ана ў шчэлачку палезла, тада к вам прыдзя”.

(в) Эта баба наша ўсё кажа. Я калісь такая баязлівая была, Туся наша меньшы на два гады, будзіма сядзець, баба наша: “Еслі будзіця крычаць ці біцца, вон нага ляжыць!” – “Баб, я ж хадзіла глядзела, там німа!” – “Яна схаваіцца. Так вылізя, і толькі абчэркніцца, і вы будзіця красныя”. Баба толькі пойдзя, плойма пачанём, за што-небудзь піхаімся, Туся на кравáць прыг і кажа: “Красная нага лезя!” Я ўжо запішчу, так пужалася, што буду сядзець і здрыгацца. Баба гаворя: “Туся, еслі ты не баішся нічога, так яна ж баіцца”. Я ўвечары чуць цямнея, шчэ відна, кажу: “Баб, на двор хочу”. – “Ну, ідзі! Шчэ відна!” – “Баб, я баюсь! Красная нага, можа, у сарай схавалась”. А якая яна? Можа, страшылі?

## XXXVI. Історыя і тапаніміка

301. Кругом Закружжа былі пасёлкі Падкаменне, Закружжа, Гута, Свісток, Пянноя, Сярэдні. Я ўжо не скажу табе ў яком гаду. Была цесната такая ў Закружжы, а тады сталі біць, сказалі, што невазможна, што дужа скапленіе бальшое народу. Яны пачалі на пасёлкі біць, сказалі, што адбілі на Амяльном, там харошая панская зямля. А ета ж сяліцца калісь няльзя было, прыгон быў, на пана работалі, а як ужо Ленін здзелаў рэвалюцыю, тады ўжо на пасёлкі сталі, сказаў Ленін: “Бярыця зямлю, пересяляйцесь”. А тады згрузілі і Марозаўку к нам, а тады зноў рассаядзянілі, Марозаўку адкінулі і Пянноя. Прэдседацель сказаў: “Німа выгады, штоб бальшым кагалам”. У мяне баба жыла на Сярэднім.

302. (а) Амяльное, ета калісь жыў Амеля, баба наша казала. Закружжа – ета называўся із-за таго, што яны калісь, вот ходзяць, і вот як пройдзяць, заходзяць сюда, тады лясы былі, да сцежкі былі, дак яны зайдзяць да кружацца, і не найдуць выціць дамоў. А другія, дак яны гаворяць, вон, як дайдзеш да закружэння, дзе закружыецца, а тады шчэ не сялілісь там, ну а тады ўжо пачалі сяліцца, давай ужо разрабатываць там, ну, і сяліліся, і гаворáць: “А давайця назавом тут Закружжа. Ніхай будзіць Закружжа”. Ну і Закружжа. Амяльное – там поле разрабатывалі, дак Амяльное назвалі з-за таго, што ён нейкі Амельнаў быў. Звалі чалавека Меля, Амеля. А дзярэўню назвалі, давайця там, дзе Амеля. “Ну, Амяльное. Ну, ніхай Амяльное”. Адзін скажа. Ну, і ніхай. Ну, і Амяльное назвалі. А Падкаменне – во чаго, там і ціпер, ён ужо ўгруз, камень калісь. Шляхта былі, западнікі: Пацёсы, Грамыкі – во то былі шляхта, белапалякі атваявалі ета, ляжаў бальшушчы камень. Мы калісь бачылі, сена

гряблі там, на рэчаццы, дак на рэчаццы на той камень здаровы ляжаў. Ета цяпер высушылі, і ўсё раўно чуць-чуць відзен. Цяпер яго, калі хочыш, не нашоў бы. Пазарастала ўсё. А тады касілі, граблі сена, дак із-за тога камня, ну, і дзе сяліцца? А вон, не дахадзя камня. А як пасёлак? "Ой, – сказалі, – давайця: Падкаменне". "З-пад каменя, з-пад белага…" і песня ё. Дак ужо песню тую складалі. Ну, і песня ё.

(б) Калісь у сяле яны жылі – у Закружжы. А тады ўжо... Цесната да ўсё, ну і сталі бальшыя сёлы біць на пасёлкі, хто хоча. Вот яны ўжо ўзялі Амяльноя, там Амелькін нейкі жыў, і звалі поля Амелькавае. Як рэвалюцыя стала, тэй багаты быў, і сказалі: "Сяленія дзелаць. На пасёлкі біць". І ўсі ж хочаць, што зямлі... То ж зямлі давалі памалу... Вот перясяліліс.

## XXXVII. Пазаабрадавыя песні

303. *Ой, на горы-горы да й каліна цвітала,*
*А пад той калінай да дзяўчына стаяла,*
*Малаю дзяціну да на руках дзяржала,*
*З дальняе дарогі да мужа дажыдала.*
*Села пад каліну да й атдыхала,*
*А малаю дзяціну стала гадаваці.*
*А з-пад каліны выпаўзла змяіна,*
*Яна ўкусіла маці да ўкусіла й дзяціну,*
*Ой, укусіла маці да ўкусіла й дзяціну,*
*А сама звілася да лягла пад камень.*
*Ой, ехаў казача з дальнія дарогі,*
*Зайшоў аддыхнуці ад жаркай спякоты.*
*Ляжыць мёрцвая жонка, на руках дзяціна,*
*Пад калінай звіўшысь да ляжала змяіна.*
*Ой, змяіна, змяіна, што ты нарабіла,*
*Каго верна любіў, дак ты ж нас разлучыла.*
*Выняў кінжал востры і хацеў убіці,*
*А змяя сумела да за руку ўкусіці.*
*Ужо вечарела, да сонца садзіла,*
*А маць па сямейкі да жалка галасіла.*
*Ой на горкі-горы да каліна не цвятала.*
*А пад той калінай магіла стаяла.*
*Ой, пад той калінай да магіла стаяла,*
*А чорная змяіна да па воле гуляла.*

304. *Маруся, Маруся, ты добрага роду,*
*Бяры вядзэрэчка да ідзі па воду,*
*Бяры вядзэрэчка да ідзі па воду.*
*Узяла Маруся вядро залатоя*
*Да пашла ў рэчку, у рэчку за вадою,*
*Да пашла да рэчкі, у рэчку за вадою.*
*Ня ўспела Маруся ваду набіраці,*
*Паднялася буря, Маруся ўтанула,*
*Паднялася буря, Маруся ўтанула.*
*Маруся ўтаная, і ніхто не зная,*
*Толькі казакі коней напавалі,*
*Толькі ж казакі коней напавалі.*
*Адзін казак кажа: "То рыба гуляя".*
*Другі казак кажа: "Маруся ўтаная".*
*Другі казак кажа: "Маруся ўтаная".*
*Трэцці казак кажа: "Што будзя, то й будзя,*
*А я Марусеньку ратаваці буду.*
*А я Марусеньку ратаваці буду".*
*– Рятуй, казачэнька, я шчэ маладзенька,*
*Палучыш награду ад майго баценька.*
*Палучыш награду ад майго баценька.*
*Палучыш награду – каня варанога,*
*Каня варанога, сядзельца на яго,*
*Каня варанога, сядзельца на яго.*
*– Ня хочу, Маруся, твайго каня браці,*
*Ой, хачу з табою на рушнічок стаці,*
*Ой, хачу з табою на рушнічок стаці.*
*– Лучшы буду ў рэчкі вольна калыхаці,*
*Як з табой, нялюбым, на рушнічок стаці,*
*Як з табой, нялюбым, на рушнічок стаці.*
*– Ня хочыш, Маруся, на рушнічок стаці,*
*Усё раўно, я буду цябе з вады спасаці,*
*Усё раўно, я буду цябе з вады спасаці.*
*Упаў ён у рэчку, у ваду лядзяную,*
*Ухваціў за ленту, ленту галубую,*
*Ухваціў за ленту, ленту галубую.*
*І спас ён дзеўку, дзеўку маладую.*

305. *Ой, па дарозе ідзець казачок,*
*Пуста сумка вісіць на бачок. (Сумка пустая.)*
*Ой, паўстрячаў ён маладую ўдаву,*
*Ішла па халоднаю ваду.*

*– Ой, пакажы ты, малада ўдава,*
*Ідзе атдыхнуць часочкі два.*
*– Ой, пайдзем, маладзенькі казачок,*
*Атдыхні ты ў міня хоць часок.*
*Ой, к двару ўдоўка падвяла,*
*Слязам яна горькім заліла.*
*– Паглядзі-ка, малады казачок,*
*Схілілася хата на бачок.*
*– Не журыся, малада ўдава,*
*Будзе ў нас хата новая.*
*Запрягу я варана каня,*
*Наважу я леса іспаўна.*
*– Паглядзі-ка, малады казачок,*
*Ляжыць конь вароны на бачок.*
*Ой, ён тры дзянёчкі ня ўстае,*
*А чатыры ўжо вады ня п'е.*
*– Ня журыся, малада ўдава,*
*Падыму ж я варанога каня.*
*А я свежай траўкі накашу,*
*Каня варанога накармлю,*
*А с крыніцы чыстаю вадой*
*Каня варанога напаю.*
*– Паглядзі, малады казачок,*
*Як някошаны стаіць ячмянёк.*
*– Ой, не журыся, малада ўдава,*
*Пакашу я ячмень да карня,*
*А я рана вутрам пакашу,*
*А к абеду цэпам змалачу,*
*А к вечару мукі намялю,*
*Блінам дробных дзетак накармлю.*

306. *У адном прыкраснам месці,  на берягу рякі,*
*Там дом стаяў заброшаны, там жылі рыбакі.*
*Там жыў старык з старухай і мелі тры сыны.*
*Адзін любіў партную, другой любіў княжну,*
*А трэцці маладога ахотніка жану.*
*Любіліcь яны тайна, ахотнік штоб ня знаў,*
*Штоб жысць яго маладую малады рыбак ня ўзяў.*
*Аднажды ў адну пору ахотнік шоў дамоў*
*І ўстрэціў ён цыганку, што ўмела варажыць,*
*Усе карты разлажыла і стала гаварыць.*

*– Шасцёрка бубнавая – ізменшчыца жана,*
*А туз чарвей – магіла, – цвярдзіла ўсё яна.*
*Ахотнік раззлаваўся, цыганке не ўплаціў,*
*А сам з бальшой трывогай каня паварацiў.*
*І к дому ён пад'ехаў і ўзглянуў у крыльца,*
*Жана яго ізменшчыца ў аб'яццях рыбака.*
*Ахотнік раззлаваўся і зняў з пляча ружьё,*
*Убіў жану-ізменшчыцу, патом жа і яго.*
*А сам сабе ён раніў смярцельна цяжало.*
*Назаўтра людзі ўсталі і тры трупа найшлі,*
*Жану яго ізменшчыцу праклятай назвалі.*

307. *Паехаў мой міленькі, ой, па шчацінку,*
*Эй, на доўга ўрэмечка, на адну зімку.*
*Ждала-ждала мілага, эй! не даждуся.*
*Эй! Паслала б я пасыльнага, не дашлюся.*
*Паслала б я старага, эй! стар не дайдзя,*
*Паслала б я малага, эй, мал не найдзя.*
*Пайду я, маладзенька, эй! даліною,*
*Сарву сабе вішыньку зеляную.*
*Гнула-гнула вішыньку, эй! не нагнула,*
*Эй! Упала ж я пад вішыньку, эй, ды заснула.*
*Эй! Прыехаў мой міленькі, я й не чула.*
*– Устань-устань, мілая, прабудзіся,*
*Эй, на маём на конічку пракаціся!*
*– Я не хочу, міленькі, эй, дэ й катацца,*
*Эй, на цябе ж я, міленькі, буду наглядацца.*

308. *Пад маім акошкам пеў жа салавей,*
*Ой, ты прапей, што была ж у юнасці маей. (2 р.)*
*Я буду песен табе васпеваць*
*І пра тваю юнасць табе ўспамінаць. (2 р.)*
*І пра сваю юнасць сам ты ўспамінай,*
*Ізменшчык, праклінай. (2 р.)*
*Пад маім акошкам ня пеў больш салавей,*
*Ён жа ўсё знае аб юнасці маей. (2 р.)*
*Завяла мая юнасць, завяла, як трава,*
*Чаго сваю я юнасць вадой не паліла. (2 р.)*
*Засохла і завяла, расцвіць больш не смагла,*
*Каго верна любіла, заўлеч я не смагла. (2 р.)*

*Любілі мы друг друга, і ён мяне любіў,*
*Не знаю, што случылась, хто нам пуць разбіў. (2 р.)*
*Наверна, мой ізменшчык, мяне ён не любіў,*
*А проста для насмешкі ка мне гуляць хадзіў. (2 р.)*
*Зноў чую пад акошкам, салавей паёт,*
*Он жэ ў сваіх песнях мяне к сабе завёт. (2 р.)*
*– Ты ж падайдзі пабліжай, табе я прапаю,*
*Тваё бальное серца я развесялю. (2 р.)*
*Лятаў я за гарамі, лятаў я за маря,*
*І сколькі ж такіх юнасцей на свеці я відаў. (2 р.)*
*Я бачыў, у сінім моры красавіца плыла,*
*Із-за любві праклятай бядняжка утапла. (2 р.)*
*Хацеў тую красавіцу я крыльцамі абняць*
*І высока ў неба за аблакі падняць. (2 р.)*
*Но яна крэпка волны рукамі абняла,*
*І бедная сіротачка на дно моря пашла. (2 р.)*

*(Утапілась. Крыльцамі ня спас іе.)*

309. *Ой, ішоў казак із Дону да дому,*
*Ішоў казак із Дону да дому.*
*Ой, устрэціў жонку, да й шла за вадою,*
*Устрэціў жонку, да й шла за вадою.*
*– Ой, здраствуй, міла, да здраствуй, чэрнабрыва,*
*Здраствуй, міла, да здраствуй, чэрнабрыва.*
*Ой, чыя ў цябе да на ручках дзяціна?*
*Чыя ў цябе да на ручках дзяціна?*
*– Ой, эта ў мяне дзве цыганкі была,*
*Ой, эта ў мяне да дзве цыганкі была.*
*Ой, яны ж ету да дзяціну ж забылі,*
*Ой, яны ж ету да дзяціну ж забылі,*
*– Ой, брэшыш, міла, брэшыш, чэрнабрыва,*
*Брэшыш, міла, брэшыш, чэрнабрыва.*
*Ой, цыганскае дзяціна чарненькае,*
*А тваё дзяціна бяленька.*
*– Ой, пайдзём, мілы, пайдзём ка мне ў хату,*
*Буду табе ўсю праўду казаці.*
*Ой, было ж умесці дзве ночкі цямненькі,*
*Падначаваў казак маладзенькі.*
*– Ой, парай, маці, чым жонку караці,*
*Парай, маці, да чым жонку ж караці.*

*– Ой, бяры, сынку, драцяну ж нагайку*
*Да бі жонку з вечару да ранку.*
*Ой, з вечара камора рыпела,*
*А с паўночы нагайка свісцела.*
*Ой, к беламу дню ўжо ж жонка ня жыва,*
*К беламу дню да ўжо ж жонка ня жыва.*
*– Парай, маці, дзе жонку схаваці,*
*Парай, маці, дзе жонку схаваці.*
*– Выкапай, сынку, ямку пры даліні,*
*Штоб па жонцы толькі звяры вылі.*
*– Ой, парай, маці, куда дзець дзіцяці,*
*Парай, маці, да куда дзець дзіцяці.*
*– Ой, вазьмі, сынку, за праву ручэньку*
*Да кідай у рэчку, у рэчку кручэньку.*
*Узяў сынку за праву ручэньку*
*Ды кінуў у рэчку, у рэчку кручэньку.*

310. *Ходзя жураў па полю,*
*Жураўка па талоцы,*
*Пытая жураў у жураўкі,*
*Чый лучшы талока?*
*Пытая брат у брата,*
*Чыя лучшы хазяйка?*
*Адін кажа: “Ой, мая,*
*Як роза садавая!”*
*А другі кажа: “Ой, мая.*
*Мачыха ліхая!”*
*Толькі дзеці к печы,*
*А мачыха б’е ў плечы,*
*Толькі дзеці і к сталу,*
*А мачыха за чапялу.*
*Толькі дзеці за ложкі,*
*А мачыха за блошкі.*
*Толькі дзеці за міскі,*
*А мачыха рве за стрыжкі.*
*Ходзя бацька па двары,*
*Ісхіліўшы галаву.*
*– Ідзіця, дзетачкі, у наймы,*
*Мне горя жыць самому.*
*Адзін кажа: “Наймуся”.*

*Другі кажа: “Я ўтаплюся”.*
*А трэцці кажа: “Пайду ў лес,*
*Ніхай міня звярёк із’есць”.*
*Чацвёрты: “Сяду ў пясочык,*
*Ніхай мяне змарозя марозчык”.*
*Ходзя бацька па двару,*
*Ісхіліўшы галаву.*
*– Ой, разышліся ўсе дзеці,*
*Мне горя жыць на свеце.*

311. *Што ў поле азярушка,*
*Там плавала судзянушка,*
*Сасновыя клёпкі,*
*Дубовая дзенца,*
*Да не чурайся ж, маё сэрца,*
*Ой, сасновыя клёпкі,*
*Дубовая дзенца,*
*Да не чурайся ж, маё сэрца.*
*Ой, выдзі ж, дзяўчына,*
*Ой, выдзі ж, рыбчына,*
*Да пагаворым мы з табою.*
*Ой, выдзі ж, дзяўчына,*
*Ой выдзь, мая рыбчына,*
*Пагаворым мы з табою.*
*Ой, рада б я выхадзіці*
*Да з табой рэчы гаварыці,*
*Ой, ляжыць нялюбы*
*Да й на правай рукі,*
*Дак я ж баюсь яго будзіці.*
*Ой, ляжыць нялюбы*
*Да й на правай рукі,*
*Дак я ж баюсь яго будзіці.*
*Ой, дзевачка, ты мне люба,*
*Да схараніся за нялюба. (Нялюбы – эта мужык.)*
*Схараніся ты за пасцелю,*
*Дак я нялюбага застрэлю.*
*Схараніся за пасцелю,*
*Дак я ж нялюбага застрэлю.*
*Ой, як стрэліш, ды не ўлучыш,*
*Толькі жызць маю разлучыш.*

*Ой, сядлай-ка каня,*
*З'язжай з майго двара,*
*Ты ж не мой, а я не твая,*
*Ой, сядлай-ка каня,*
*З'язжай-ка ты з двара,*
*Ты ж не мой, а я ж не твая.*
*Парэнь конечка сядлая,*
*З канём рэчы размаўляя.*
*– Рыссю, мой конік,*
*Рыссю ж, мой вароны,*
*Аж да ціхага Дунаю.*
*– Рыссю, мой конік,*
*Рыссю ж, мой вароны,*
*Аж да ціхага Дунаю.*
*Каля ціхага Дунаю*
*Стану, малец, падумаю,*
*Ой, ці мне ўтапіцца,*
*Ці з каня мне ўбіцца,*
*Ці назад к ёй вараціцца.*
*Ой, ці мне ўтапіцца,*
*Ці з каня мне ўбіцца,*
*Ці назад к ёй вараціцца.*
*Ой, рад бы я ўтапіцца,*
*Дунай-рэчка не прымая,*
*Ой, рад бы я з каня ўбіцца,*
*Душа ж мая не жалая.*
*Ой, рад бы я з каня ўбіцца,*
*Душа-сэрца мая не жалая.*
*Ой, я ў рэчкі не ўтаплюся,*
*І з каня я не ўб'юся.*
*Павярну я каня варанога*
*Да і к любай я вярнуся.*
*Павярну я каня варанога*
*Да і к любай я вярнуся.*
*І к двару ён пад'язжая,*
*Дзвер шырока адкрывая,*
*Ой, стаіць любая,*
*Да й пад каліною,*
*Уся заплакана слязою.*
*Ой, стаіць любая,*
*Да й пад каліною,*
*Уся залітая слязою?*

*– Ой, чаго ж, мая любая,*
*Уся залітая слязою?*
*– Ой, ня хочу ж з ім жыці і яго любіці,*
*Да забяры ж мяне з сабою.*
*– Ой, ня хочу ж з ім жыці і яго любіці,*
*Да забяры ж мяне з сабою.*
*На каня яе саджая,*
*З канём ён рэчы размаўляя.*
*– Ой, рыссю ж, мой коню,*
*Рыссю ж, мой вароны,*
*Аж да бацькавага дома.*
*– Ой, рыссю ж, мой коню,*
*Рыссю ж, мой вароны,*
*Аж да бацькавага дома.*
*І к двару ён пад’язжая,*
*Ацец-маць яго стракая.*
*– Хоць ты пару разлучаіш,*
*Зато любоў сваю спасаіш.*
*– Хоць ты пару разлучаіш,*
*Зато ж любоў сваю спасаіш.*
*Верю, верю, верю ж, маі дзеці,*
*Ой, што ё любоў на свеці.*

312. *Салавей з салоўкай смуцён-невясёл,*
*Ой, павесіў галоўку, зёрна не клюёць.*
*Павесіў галоўку, ой, зярна не клюёць.*
*– Ой, кляваў бы я зёрна, да клювушкі ў мяне нет,*
*Ой, кляваў бы я зёрна, да клювушкі ў мяне нет.*
*Ой, запеў бы я песню, ой, да голасу ў мяне нет.*
*Ой, запеў бы я песню, ой, да голасу ў мяне нет.*
*Ой, залатая клетка ссушыла да міня.*
*Залатая клетка, ой, ссушыла да міня.*
*Ой, малада салоўка ў саду гуляла.*
*Малада салоўка, ой, у саду гуляла.*
*Ой, як бы я рад у садочку зелёнам пагуляць.*
*Рад бы я ў садочку ў зялёным пагуляць.*
*Ой, рад бы я з салоўкай песенкі паспяваць,*
*Залатой жа клеткі, ой, дзверы не адчыню*
*І да сваёй салоўкі я не вылячу.*
*Хазяін жа клеткі, ой, дзверкі замыкаў,*
*Залатыя ён ключы да з сабою забіраў.*

*Гулялі-спявалі ў зялёнам жа саду,*
*Зачапіўся салавейка ў сетку шоўкаваю.*
*Зачапіўся салоўка, ой, ў сетку шоўкаваю.*
*Ой, пасадзілі салавейку ў клетку залатую.*
*Ня буду з салоўкам, ой, у садочку я гуляць,*
*Ой, ня буду з салоўкам песенкі спяваць.*
*Будзя мой салоўка ў залатой клеткі засыхаць,*
*А я ў зялёным садочку слёзкі праліваць.*

313. Яго з клеткі ня пусцяць, а яна кругом у саду будзя слёзкі праліваць. Эта я ў бальніцы ліжала, калісь рука ў мяне забалела, і там старая бабка ліжала, яна гаварыла, што ёй дзевяноста гадоў, дак яна пела, у ряд койкі, дак сядзім, яна гаворя: "Умееш ты пець?" Я гавару: "Люблю". Дак яна гаворя: "Давай песенку". І этага "Салавейку" прапела. І разоў колькі прапелі, я ўжо запомніла. Дак яна і гаворя: "Во як у клетке залатой! Хараша цюрма, да чорт ёй рад. Хараша залатая клетка, да то ж чорт ёй рад. Сядзеў у клетцы, так бы ён лятаў, шугаўся на крыллі да з салавейкай упару, а то салавей папаўся ў клетку, та яна не папалась. Дак тая на воле, а еты тут сушыцца, не п'е, не есць". Яна ўжо даўно памерла, мне гадоў трыццаць было. Так яна ўсякія пела. Я гавару: "Баб, давай мае!" Яна і мае зная… Я жэ выпісалась, а баба шчэ ляжала. Дак я выпісалась, кагда мы прашчаліcь, дак плакалі. Яна гаварыла: "Мне жэ дзевяноста тры гады, а пець – уміраю, люблю". Такія людзі ё! Во, у міне сястра дваюрадная, яна гаворя: "Я кінула, забыла ўжо етыя песні. Ня хочу пець. Я ўжо пяю савецкія, што па радзіу і па цілівізару. Мне етыя ў душу ўлезлі".

314. *Хадзіла-гуляла па зялёнаму саду,*
*Ой, збірала-зрывала я зялёны вінаград,*
*Збірала-зрывала я зялёны вінаград.*
*Ой, кідала-брасала міламу на караваць,*
*Кідала-брасала міламу на караваць.*
*Ой, гукала-гукала, а мілага не чуваць,*
*Гукала-гукала, а мілага не чуваць.*
*– Ой, ці ты ж, мілы, спіш там ці цяхонячка да ляжыш,*
*Ці ты ж, мілы, спіш там ці цяхонячка да ляжыш?*
*Ой, са мной не гаворыш, мне атвету не даёш,*
*Са мной не гаворыш, мне атвету не даёш.*
*Ой, задумаў ты жаніцца, маладую сабе браць,*
*Задумаў ты жаніцца, маладую сабе браць.*
*Ой, бярэш жа ты другую, годам старшэ за міня,*
*Бярэш жа ты другую, годам старшэ за міня.*

*Ой, бярэш жа ты другую, не красівей за міня,*
*Бярэш  ты другую, не красівей за міня.*
*Ой, бярэш жа ты другую, толькі багачэ за міня,*
*Бярэш жа ты другую, толькі багачэ за міня.*
*У яе ж багацтва, ой, палацы да дварцы,*
*А ў мяне ж багацтва, да я слішкам малада,*
*А ў мяне багацтва – я слішкам малада,*
*Ой, другоя ж багацтва на руках малая дзіця,*
*Другоя багацтва – на руках малая дзіця.*
*Ой, трэццяя ж багацтва я круглая сірата,*
*Трэццяя  багацтва – я круглая сірата.*
*А ішчэ ж адно багацтва – ты нас кідаіш наўсігда.*

315. *Ой, дуба, мой дуба, кучарявы дуба,*
*Ой, што на табе, дуба, да й два голуба гудзя,*
*Ой, што на табе, дуба, да й два голуба гудзя.*
*Два голуба гудзя і галубка варкоча.*
*Ой, любіў парянь дзеўку, а цяпер ён ня хоча.*
*Ой, любіў парянь дзеўку, а цяпер ён ня хоча.*
*– Ой, любі мяне, парянь, ой, любі, не самнявайся,*
*Ой, як жынкі не маіш, дак са мной ты кахайся,*
*Ой, як жынкі не маіш, дак са мной ты кахайся.*
*– Ой, ёсць у мяне жынка, ой, на той Украіне,*
*Ой, рвецца маё серца, ой, на дзве палавіны,*
*Ой, рвецца маё серца, ой, на дзве палавіны.*
*Ой, ёсць у мяне жынка і шчэ дзетачак двоя,*
*Шчэ дзетачак двоя, да й чарнявых абоя,*
*Шчэ дзетачак двоя, да й чарнявых абоя.*
*Ой, рвецца маё серца, ой, з чэцвера на троя,*
*Ой, рвецца маё серца, ой, з чэцвера на троя.*
*– Мы дзяцей панаймаім, а жыну зарубаім,*
*А з табой, мой мілёнак, мы  ў саду пагуляім,*
*А з табой, мой мілёнак, мы  ў саду пагуляім.*
*– Ня буду сваю жынку, я ня буду рубаці,*
*І ня буду сваіх дзетак нікуды наймаці,*
*Ой, ня буду сваіх дзетак, ой, нікуды наймаці.*
*Ой, буду я з жаною ды з жаной дажываці,*
*Ой, буду я з жаною да дзетак гадаваці,*
*Ой, буду я з жаною да дзетак гадаваці.*
*Ой, ня буду з табою ў саду больш гуляці,*
*Ой, буду ад цябе я скора ўязжаці,*
*Ой, буду ад цябе я скора к жынцы ўязжаці.*

316. *І туды гара, і сюды гара,*
*Ой, между тымі да крутымі гарамі*
*Ўсходзіла да зара,*
*То не зорячка, не вячэрняя,*
*Ой, а то жа дзеўка, да дзеўка маладая,*
*Па ваду ішла, ой, а то жа дзеўка, да й дзеўка маладая,*
*Па ваду ішла, дзеўка малада па ваду ішла,*
*Ой, павстрячала да парня маладого, вёў паіць ён каня,*
*Ой, павстрячала да парня маладого, вёў паіць ён каня.*
*– Дзеўка малада, напой мне каня,*
*Ой, напой-напой, каня варанога з поўнага вядра,*
*Ой, напой-напой, каня варанога з поўнага вядра.*
*– Напаю каня з поўнага вядра,*
*Ой, напаю ж я каня варанога, як буду ж я твая,*
*Ой, напаю ж я каня варанога, як буду ж я твая.*
*– Дзеўка малада, садзісь на каня,*
*І паедзім мы да майго бацькі, будзіш там, як свая,*
*І паедзім мы да майго бацькі, будзіш там, як свая.*
*Дзевачка мая, будзіш як свая,*
*Будзіш паіць каня варанога ж да з поўнага вядра,*
*Ой, будзіш паіць каня варанога ж да з поўнага вядра.*

317. *Салавей-салоўка, ой, смуцён, не весёл,*
*Ой, павесіў галоўку, зёрна не клюёш,*
*Кляваў ба я зёрна, да клёвушка нет,*
*Залатая клетка іссушыла да міня.*
*Малада салоўка па садочку гуляла.*
*Ой, рад бы я ў садочку ў зялёным пагуляць,*
*Ой, рад бы я с салоўкай песні паспяваць.*
*У залатой жа клеткі дзвер не адчыню,*
*Да сваёй салоўкі я не вылечу.*
*Хазяін жа клеткі дзверкі замыкаў,*
*Залаты ён ключы да з сабою забіраў.*
*Гулялі-спявалі ў зялёным саду.*
*Зачапіўся салоўка ў клетку шоўкавую,*
*Пасадзілі салоўку ў клетку залатую.*
*Не буду с салоўкам, ой, у садочку я гулять,*
*Не буду я с салоўкам песенкі спяваць.*
*Будзя мой салоўка ў залатой клеткі дасыхаць,*
*А я ў зялёным садочку слёзкі праліваць.*

318. *Малада дзяўчонка ў садзе гуляла,*
*Іскалола ножку, здзелалась бяда.*
*Баліць-баліць ножка, баліць галава,*
*На грудзь не здарова, сама я чуць жыва.*
*– Дарагі мой бацька, пашукай мне доктара.*
*Прыехаў доктар, доктар маладой,*
*Пытая ў дзеўкі, чым дзевачка бальна.*
*– Баліць-баліць ножка, баліць галава,*
*На грудзь не здарова, сама я чуць жыва.*
*– Годзе табе, дзеўка, доктара маніць,*
*Пара табе, дзеўка, за мяне замуж выхадзіць,*
*Па табе маё серца даўно-даўно баліць.*

319. *Казак маладзенькі на сошке арая,*
*На маладу ўдоўку ён жа паглядая.*
*У маладую ўдоўку ён жа ўлюбіўся,*
*На аццa і маці, і сястру забыўся.*
*Ня нада, ня нада зямельку араці,*
*Да ня нада сямейку табе забываці.*
*Маць твая старэнька, а сястра маладзенька,*
*Ой, а бацька без каня, як конь без повада.*
*Кінуў казак сошку і каня варанога,*
*Абняў ён удоўку і павёў да дому.*
*І к дому падводзя, нікога ня пытая,*
*А шырокія дзверы ён сам адкрывая,*
*У горніцу ўходзя, яго маць стракая,*
*Гаручамі слязамі яго абліваая.*
*– Дзе ж ты, мой сыночык, ночку начываўся,*
*Што бацька з сястрою ў поіскі падаўся?*
*– Начаваў я, маці, ноч пад каліною*
*Да паглядзі ты, маці, з етаю ўдавою.*
*– Ня буду я, сынку, удоўку разглядаці,*
*Сам адкрый ты дзверы, сам вядзі ў хату.*
*Ня будзя яна ў нас зязюляй начною,*
*А будзя яна ў нас дачкою радною.*
*Адчыніліс дзверы, і бацька пытая:*
*– Што-та ў нас за роза ў хаці расцвітая?*
*– Ета, бацька ж, ня роза і ня каліныца,*
*А ета будзя для міне радная сястрыца.*
*– Будзь ты мне сястрою, а радным дачкою,*
*А брату майму вернаю жаною.*

320. Эта *Зімні дуб* называіцца. Зімні дуб, знаіш, што такое?

Называіцца *зімні дуб*, хто *лянівы*. Калісь звалі хто зімні, хто лянівы, ета адзін чорт. Зімні дуб – эта ўсі дзярэўя расцвітуць, пусцяць лісця, а зімні дуб будзя стаяць, ён толькі распуская лісця ў канцы мая-іюні, у канцы іюня. Усі дубы параспусківаюцца, а той дуб, хоць лянівы дуб, хоць зімні, ён усігда ўвосень, позна-позна лісця, кудзелі на ём, як і летам, аж карычнівая – красная. У адзін дзень начыная і абсыпаіцца. Яго завуць хоць зімні, хоць лянівы, ляніцца распускацца.

Называяць яшчэ лінівы дуб.

*Ой, у лузе пры дарозе зімні дуб расцвіўся,*
*Стары казак, як сабака, доўга не жаніўся.*
*Па ўсех дзеўках ён абышоў, сказаў, усе плахія,*
*І зайшоў-та ён да адной беднай сіраціны.*
*– Ой, калі б ты, дзевчоначка, была багаценька,*
*Узяў бы я цябе за ручэньку і павёў бы да баценькі.*
*Ой, калі б ты, дзевчоначка, сундук дабра мала,*
*Ты б у майго бацькі і маткі перва места занімала.*
*– Ой, калі б та я, казачанька, сундук дабра мала,*
*Я б такога жаніха на парог не пускала.*
*– Ой, калі б ты, дзевчоначка, не была сіраціна,*
*Ты б у майго бацькі-маткі цвіла, як каліна.*
*– Ой, калі б я, казачанька, не была сіраціна,*
*Я б с такімы жаніхамы дажэ не гаварыла.*
*– Ой, калі б ты, дзевчоначка, тры курачкі мала,*
*Ты б у нашай сямеічкі была як радная.*
*– Ой, на што мне тры курачкі, зярнятак не мая,*
*Ёсць у мяне адна курачка, і тая залатая,*
*Ёсць у мяне адна курачка, і тая залатая,*
*Яна такіх зімніх дубоў на парог не пуская.*
*– Ой, калі б ты, дзевчоначка, кальцо залатоя мала,*
*Цябе б жа бацька з маткай пад неба падкідалі.*
*– Калі б ж я, казачанька, залато калечка мала,*
*Я б такімы жаніхамі хату падметала.*
*– Ой, калі б ты, дзевчоначка, была хітравата,*
*Павела б ты казачаньку начаваць у хату.*
*– Ой, калі б я, казачанька, была хітравата,*
*Выгнала б я цябе на вуліцу, як нягоднага сабаку.*
*– Калі б та ты, дзевчоначка, хоць просту манету мала,*
*Ты б у маёй новай хаці, як царыца, піравала.*
*– Калі б я, казачанька, хоць адзін рублік мала,*
*Я б такіх зімніх дубоў сто раз наклевала.*

*– Калі б та ты, дзевчоначка, умела гадаці,*
*І ты б жа мне нагадала, каго замуж браці.*
*– Умею на ручэньку я табе пагадаці,*
*Толька хачу табе праўду наперад сказаці.*
*Ой, у лузе, пры дарозе, там стаяць тры ёлкі,*
*Ідзі выбірай колкаю ёлку ў жонкі.*
*Ой у лузе пры дарозе зімні дуб расцвіўся,*
*Зімні дуб на колкай ёлкі шчэ не жаніўся.*

*321. Ой, ду-ду-ду-ду,*
*Сядзеў голуб на дубу,*
*Падляцела сінічка:*
*– Давай, голуб, з табою жаніцца.*
*– Будзя матка сварыцца,*
*Што галубку не ўзяў,*
*А с табой ноч пераначаваў.*

Вот і з сінічкай ноч пераначаваў, сінічка думая: “Бяры мяне замуж”. А бацька і матка думаяць: “Бяры галубку, што ты тую сінічку возьміш. Ета ж ні паря табе па саўмісціцельству і з пціцамі”

[*Калі гэту песню спяваюць?*]

Мы калісь папрыходзіма, хто якую пяе... І бабы папрыходзяць туда, вот у адну хату сабіраюцца поўпасёлка, а то дак і ўвесь, і хто што, гармонь ужо надаесць, танцаваўшы: “Давайця так!” Ты сядзіш, такую пряпяеш, хто якую ўмея, ты другую, я трэццяю... Ці “Ціліцікі-міліцікі”, ці “Бегла кошка цяряз моря...” І вечэр пройдзя інцярэсна... то святыя вечары... Раней управяцца і прыдуць: “Давайця ізноў такі вечар іздзелаім”. І ня сплетняў не было, ні сварак, хохат і рёгат: красіва і добра.

Ноч пераначаваў, усё раўно к галубцы пайшоў. Што етая сінічка? У адбросы кінуў. Вот у міне былі гусі, вуткі... Курыца белая... І ён станя лезць на курыцу, яна растапыря крылля, ляжыць, ён станя лезць на курыцу, вуткі падбягаяць і сілязня давай шчыпаць... Ён яе кідая... Прырода!

322. *Ой, вечар на дворы,*
*І мароз накрапае,*
*Ой, выдзя дзяўчына,*
*Серца абажая.*
*Ой, выдзя дзяўчына,*
*Серца абажая.*
*Ой, выдзя дзяўчына,*
*Ой, як выхадзіла,*

*Ой, стане гаварыці,*
*Ой, як ж ты гаварыла,*
*Ой, стане гаварыці,*
*Ой, як ж ты гаварыла.*
*Ой, выдзі, дзяўчына,*
*Ты не бойся мароза,*
*А я ж тваіх ножак*
*Я ж не прымарожу,*
*А я ж тваіх ножак*
*Я ж не прымарожу.*
*Ой, тваі ножкі*
*Ў шапачку ўложу,*
*Ой, мая шапачка,*
*Ой, яна не дарагая,*
*Ой, мая шапачка,*
*Ой, яна не дарагая.*
*Ой, чатыры волы,*
*Заплачаная,*
*Ой, чатыры волы,*
*Заплачаная,*
*Ой, чатыры волы,*
*Ой, шчэ дзве каровы,*
*Ой, за белае лічка,*
*Шчэ за чорныя бровы,*
*Ой, за белае лічка,*
*Шчэ за чорныя бровы.*
*Ой, валы ды каровы,*
*Ой, яны паздыхаюць,*
*А чорныя брові*
*Павек не зліняюць.*
*А чорныя брові*
*Павек не зліняюць.*

323. *Шыла Маша, вышывала,*
*Ой, вечаря да дня,*
*Ждала-ждала я Івана,*
*Ой, Івана німа.*
*Ждала-ждала я Івана,*
*Ой, Івана німа.*
*У нядзелю рана-рана*
*Ды ва ўсі званы б’юць,*

*Маладога Йвана-Йвана*
*Ой, ва гробе нясуць.*
*За ім ідзець ацец з маці,*
*Ой, разбіваюцца,*
*Стаіць Маша ў варотах*
*Ды насміхаіцца.*
*– Было ж табе, Ваня-Ваня,*
*Ой, нас трёх не любіць,*
*Было ж табе, Ваня-Ваня,*
*Ой, адну ж мяне знаць,*
*Было ж табе, Ваня-Ваня,*
*Ой, адну ж мяне знаць,*
*Ціпер табе, Ваня-Ваня,*
*Ой, ва гробі ляжаць,*
*Ціпер табе, Ваня-Ваня,*
*Ой, ва гробі ляжаць.*
*А мне, маладой дзяўчонкі,*
*Пад венцам стаяць.*
*Ішла вулкам-перявулкам,*
*Паўз зялёненькі сад,*
*Сустрэла я другога парня,*
*Ой, вясёлы яго ўзгляд.*

[*Калі пяюць?*] – І на свадзьбах…

324. *Ішоў-ішоў казачанька,*
*Разбіў сабе ногу,*
*Крычыць-крычыць казачанька:*
*– Дайця дапамогу!*
*Абазвалась кала рэчкі*
*Бедна сіраціна:*
*А я ж цябе паратую,*
*Мой ты казачына!*
*Стала бедна сіраціна*
*Рану абмываці,*
*Стаў казача маладзенькі*
*Дзеўку абнімаці.*
*Стала бедна сіраціна*
*Рану бінтаваці,*
*Стаў казача маладзенькі*
*Дзеўку цэлаваці...*

(*Вобшчым, там свадзьбу кала рэчкі казакі гулялі.*)

325. *Ой, галубачка ў галубнічку,*
*Ой, няжывенька да яна ляжала.*
*Падашоў стрялец, убіў голуба,*
*А галубку ўдаву панёс да дому.*
*Кінуў на палу, паставіў ёй яду,*
*А галубка ўдава ні ела ж, ні піла.*
*– Ой, пусці ж, стрялец, галубку ва дварэц!*
*– Ой, ляці ж, галубка, шукай голуба!*
*Прыляцела к ей стая галубей.*
*Ой, адзін жа голуб весялей быў усех,*
*Ён па крышам лятаў, громчэ ўсех варкаваў,*
*Ой, а сэрцу любві ён яе не даваў.*
*– Ой, галубка ўдава, ты будзь пара мая.*
*А я тож галубец, як і ты, удавец,*
*А галубку маю тож падстрэліў стрялец.*
*Буду пішчу насіць, цэлы дзень варкаваць*
*І я сэрцу твайму я не дам унываць.*
*Ён ёй пішчу насіў, цэлы дзень варкаваў.*
*Ой, а сэрцу любві ён яе не даваў.*
*І перыйка то, і той жа пушок,*
*Но як ён не спяваў, усё ж ня той галасок.*
*Ой, галубачка ў галубнічку,*
*Ой, няжывенька да яна ляжала.*

326. *Ой, у полі крынічынька,*
*Там халодна вадзічынька.*
*Гуляю я! Эй, гуляю я!*
*Там Раман мой валоў пасе,*
*Кацярына ваду нясе.*
*Гуляю я! Эй, гуляю я!*
*Стаў Раман з ёй шуткаваць,*
*Да ваду з вядзёр выліваць.*
*Гуляю я! Эй, гуляю я!*
*– Ой, Раман мой, маё серца,*
*Астаў вады хоць вядзерца,*
*Гуляю я! Эй, гуляю я!*
*Бо няродну маці маю,*
*Будзя біці, добря знаю.*
*– Навучу я цябе бряхаці,*
*Да штоб ня біла цябе маці.*

*Гуляю я! Эй, гуляю я!*
*Мол, наляцелі гусі з броду,*
*Да памуцілі ў рэчкі воду.*
*Гуляю я! Эй, гуляю я!*
*Я стаяла, дастаялась,*
*Пакуль вада сустоялась.*
*Гуляю я! Эй, гуляю я!*
*– Брэшыш, доньку, збряхалася,*
*Ты з Раманам кахалася.*
*Гуляю я! Эй, гуляю я!*
*– Раман чорны, а я руса,*
*Да мы з Раманам звянчаімся.*
*Гуляю я! Эй, гуляю я!*

327. *Бацька добры, бацька добры,*
*А маці ліхая.*
*Дачку на вячоркі гуляць не пуская.*
*– Пусці, маці, пагуляці, я не забаруся,*
*Як запея первы певень,*
*Я назад вярнуся.*
*Пея певень, пея другі і кура сакоча,*
*Кліча маці вячэряці, а дачка ня хоча.*
*– Вячэряйце, вячэряйце, вячэряйце самы,*
*А ўжо мне надаела вячэряці з вамы.*

Ета мы навучыліся... Тама-ка свадзьба была, дак мы чулі на свадзьбі, пелі людзі... Закружцы. А ў нас шчэ не пелі. І мы пачалі пець...

*Не забаруся* – не задзержуся. Наша баба скрозь казала: “Дзе ты ўжо забарылася?” Прагуляла. А я гаварю: “Баб, там і там”. А Туся: “Дзе гуляла, дак гуляла... Німа”. А я бабі раскажу... “Баб, там і там гуляла...”

328. *Вары, мама, вячэру і на маю долю*
*Варыла, варыла ні мала, ні трошкі,*
*Німа табе, донька, ні міскі, ні ложкі,*
*І міску пабіла, і ложку згубіла,*
*Ідзі туда, донька, дзе лета рабіла.*
*Ты думаіш, мамка, што я тут паную,*
*Прыедзь паглядзі, як я тут гарюю.*
*Ты думаіш, мамка, што я тут ні плачу,*
*За горкімі слязамі я свету ні бачу.*
*Успамяні міне, мамка, хоць раз у аўторак,*
*А я цібе, мамка, на дні разоў сорак.*

*Успаміне міне, мамка, хоць раз у сыботу,*
*А я цібе, мамка, ідучы на работу.*
*Успамяні міне, мамка, хоць раз у нядзелю,*
*А я цібе, мамка, сцілючы пасцелю.*
*Ты думаіш, мамка, што я тут не плачу,*
*За горькімі слізамі я свету ні бачу.*
*Ты думаіш, мамка, што я тут паную,*
*Прыедзь паглядзі, як я тут гарюю.*

Гэту песню Варвара Аляксандраўна ўзгадала разам са сваёй сяброўкай з п. Падкаменне Варачкінай Таццянай Иванаўнай, 1936 г. н.

329. *Ходзяць коні над рякою*
*С апусціўшай галавою,*
*Ходзяць коні над рякою*
*І шукаюць вадапою.*
*Хоць бы найціць ручаёчык,*
*Памачыць хоць язычочык.*
*Усе рэчкі паўсыхалі,*
*Кругом травачкі павялі....*
*Каля рэчкі расла бярёза,*
*Ад жары збялела кожа,*
*І пазасохлі карянёчкі,*
*Пажаўцелі і лісточкі.*
*Толькі тонкімы вятвямы махала*
*І да зямлі даставала.*
*Пад бярёзай дзеўка гуляла,*
*Русу косачку чысала,*
*Правай ручачкай махала,*
*Коней табун прызывала...*
*А ў полі срядзі жыта*
*Там халодная крыніца,*
*Дзеўка коней падагнала,*
*Вядром ваду даставала.*
*І ўсіх коней напавала.*
*Коні ў табуне стаялі,*
*Толькі галавам махалі...*

*(Ішчэ стоўбік быў...)*

330. Песню “Ходзяць коні над рякою…” калісь хлопцы пелі... Мы ня пелі... Ета рэдка калі пелі... А яны ўжо пяюць... Хлопцы ж пяюць... Голас так калышыцца... Жалкім такім... Наша баба ўсё казала: “Хлопцы, як будзіця пра коней пець, дак хадзіця кала нашае хаты пейця...” У нас ляжалі такія дубы коланыя... Дак мы на тых дубах сядзім... Места хватая... І яны пелі тую песню... Мужчынская песня... Бацька наш пеў калісь яе...

Красівая песня... Нашы хлопцы ўсі ўмелі яе... Пачаном мы пець такая, штоб падцягаваць, а яны гуртам сядуць і ету... Перябіваюць нам: “Ідзіця к чорту... Пейця... Сядзьця каля Коршунавых, а нам ні мяшайця”. Кала двара сядзім... Ідзіця кала другога двара... Яны пелі... Любілі хлапячыя песні... Яны пелі “Распрягайця, хлопцы, коней...” Адзін хлопец у нас падводзіў, як дзеўка... Сядуць гуртам... І ён падводзя... Ні скажыш, што хлопіц падводзя... Так падводзіў красіва... І яны пяюць...

А ету во (“Ходзяць коні над рякою с апусціўшай галавою...”) як запяюць, наша баба ўсё казала: “Хлопцы, ета Сашкі майго песня. Прыдзіця вы, пейця кала нас... Люблю я, уміраю ету песню...”

331. *Што ў лузі зеляненькім,*
*Што ў лузі зеляненькім*
*Брала ўдова лён драбненькі.*
*Яна брала, выбірала,*
*Тонкі голас падавала.*
*А Васілька сена кося,*
*Звонкі голас перянося:*
*– Пазволь, маці, удову браці,*
*Буду век яе кахаці.*
*– Не пазвалю ўдову браці,*
*Удава ўмея чараваці.*
*Счыравала мужа свайго,*
*Зачаруя і сына майго...*
*– А я чару не баюся,*
*Да на ўдоўке ажанюся...*

[*Калі яе спявалі?*]

На вуліцах пелі, на свадзьбах пелі, усюдых пелі, і на хрэсьбінах. Калісь бабы выдуць увечары... Пасадзімся: “Ну, што будзіма гаварыць?” Нечага гаварыць... “Давайця пець”. – “Давайця”. І песні як пачаном... І мужчыны пелі з намы... У нас Арцёмкаў Васіль... Дак падводзіў, як баба... Ты б пачуў, сказаў бы, што жэншчына падводзя... Мужчына...

# XXXVIII. Салдацкая песня

332. *Ой, да ты калінніца-размалінніца,*
*Ой, да ты не стой, не стой да на гарэ крутой,*
*Ой, да не пускай галля ў сіня моря.*
*Ой, да па сіняму мору да карабель плывёць,*
*Ой, да ў том караблю тры палкі салдат,*
*Ой, да тры палкі салдат, маладых рыбят.*
*А на том карабле тры палкі салдат,*
*Тры палкі салдат, маладых рыбят.*
*Ой, да што адзін салдат да Богу моліцца,*
*Ой, да другой салдат дамоў просіцца.*
*– Ой, да ахвіцэр-маёр, адпусці дамой,*
*Ой, да адпусці ж мяне дамой,*
*Ой, да адпусці ж мяне дамой*
*Да к аццу-маць радной,*
*Ой, да к аццу-маць радной, да к жане красівай, маладой,*
*Ой, да ахвіцэр-маёр, да не адпусці міне дамой.*
*Ой, да ахвіцэр-маёр да не адпусціў яго дамой.*
*Ой, да не адпусціў дамой к жане.*
*– Ой, у міне тожа дома жана, да красівая й малада.*
*Ой, да ў міне тожа дома жана, да красівая й малада.*
*Ой, да ў мяне ў кармане прыказ,*
*Штоб жа не распускаў дамоў салдат.*
*Ой, да павярнуў караб маёр*
*І паплыў жа над валной.*

Пяю па етым... Па старыннаму-па старыннаму... Дзед еты, што я казала... З Дубовага Лога... Дак казаў: “Дваццаць пяць гадоў праслужыў...” Я кажу: “Дзед, ты, наверна, ужо бряхню точыш... Дваццаць пяць...” А ён: “Варячка... Ета чэсна, як перяд Госпадам Богам, – перяхрясціўся, – праўда... Дваццаць пяць... Дзень у дзень... Да пакуль дамоў даехаў. Дак, – кажа, – пелі ету песню калісь салдаты. А тут дзяцей прыляпілі... Тутака толькі пра бацьку, пра матку, пра жонку... У арміі вот так пелі...” І я: “Дзед, красіва”. І я два разы прапела. Я запамятлівая была. І дзе спатыкнуся... Садзімся, як вечар, мяне ўжо і цягне. Я гаварю: “Дзед, пайдзёмця на лавачку, сядзім, будзім пець”. – “Счас, Варячка, пойдыма...” Да гаварю: “Не кажыце ж матцы, а то матка будзя сварыцца”. На лавачку сядзіма, і гаразда ён... Ён падводзіў грубым голасам, мужчынскім... І пасабіраяцца... І матка Вася ідзець... Дзед Майка прападаў... Ён знаў ету песню, пеў з імы... І Крыўцовы суседзі папрыходзяць...

## XXXIX. Жартоўныя песні

333. *– Ой, дзе ж ты была?*
*– Ездзіла па драва,*
*Зачапілася за пень,*
*Прастаяла цэлы дзень!*
*– Ой, дзе ж ты была, мая Насцячка?*
*– Пад гарой з другім качалась, мой Гарасячка.*

334. *– Ой, дзе ж ты была, мая Насцячка?*
*– Пад гарой з другім качалась, мой Гарасячка.*
*– Ой, дзе ж ты была, забарылася?*
*– На дзірявым масту правалілася.*
*– Ці ня чорт цябе нёс на дзірявы тэй мост?*
*Лучшэ б ты ўхваціла за сабаччы хвост.*
*– Я дзяржалася, атарвалася.*

335. *– Эй ты, Коля-Нікалай,*
*Прыдзі ка мне, пагуляй.*
*– Я б учора прышоў,*
*Да штаноў не нашоў.*
*– Ты бы дзедавы надзеў,*
*А дзед на печы б пасідзеў.*
*– Дзед на печы ляжаў,*
*Крэпка штаны ў руках дзяржаў.*
*Дзед бы бацьку расказаў,*
*Бацька б кнуцікам ганяў.*

## XL. Сіроцкія песні

336. Сіроцкая. Эта калісь баба і матка пелі. І прыходзіла ка мне нявесткіна матка. Дак я ўжо іе знала.

Шчэ не было пяць гадкоў, так яна прыехала ў Закружжа. Былі на Данбасе, бацька з маткай маёй мамкі паехалі на Данбас. І на Данбасе жылі, у шахце бацька работаў. Быў у іх хлопчык, тры гадкі, а дзевачцы было пяць гадкоў, мамцы маёй пяць гадкоў было. Дак яны прыехалі ў госці, бацька сабраўсь паехаў, а яе аставіў у мамкі. Ішла сплашная балезь, называлася – іспанка. Ну дак па пяць-па восем грабоў у дзень хавалі.

Так ужо людзі тры дні паляжаць, чатыры, і паміраяць. Ну, і мамкі маёй матка захварэла, ляжыць, родны дзядзька маёй мамкі захварэў, ляжыць, і мамка захварэла маёй мамкі. Ляжаць удваіх. Матка памёрла, панеслі хаваць, прышлі з кладаў'я, і мамка маёй мамкі памёрла, а бацьку там, у шахце ўбіла. Шахта абвалілася. Так яна круглая сірата асталася. У дзеда і ў бабы, да дзядзька там жыў. Так мамка расла, а хлопчык быў тры гадкі, так лапці плятуць, калісь лапці плялі, абувалі і хадзілі. Дзед дзелая, абразая луцці з лазы, дзядзька абрязае, а дзед пляце. Ну, ён за луціну да расцягвае па хаце. Дак дзядзька сядзіць да і кажа: "А ну-ка, кінь лазіну, а то счас (увечары грубка топіцца) так хоць кнутам цябе. А ён: "Ты мяне не ўдарыш!" – і зноў расцягвае. Дак ён гаворя: "Э! Падаждзі! Я яму счас устрою!" Шуціў. Да ўхваціў яго: "Счас, во, у грубку ўкіну!" Да сюды, дзе гарыць, у дзверцы. А ён тады як віснуў на ўсю хату. А баба і нявестка яё, дзядзькава жонка, прялі кудзелю. І як віснуў – і ўсё. І поўчаса не пабыў. Прызналі тады, якія былі ўрачы, сказалі, што лопнула сэрца. Вот і трэццяга схавалі – дзіцёнка етага. Так, мамка асталась адна. Дак яё баба, не баба – а прабаба навучыла песенку. Яна сядзіць, яна ж круглая сірата, ні сястры, дзед і баба памёрлі, а дзядзькі, ета ўжо не радня. Так яна эту песенку скрозь пела. Яна красівая. Яна называецца "Сіротка". Так "Сіротку" тую наша мамка калісь пяе і плача. А мы то ж сіратамі раслі, мне васьмі гадоў яшчэ не было, бацьку схавалі, язва жалудка, здзелалі аперацыю, і ня выдзяржаў, у баню пашоў, ён лопнуў. Дак бацька падойдзе і кажа: "Сабірайся, ідзі (эта зімой), ідзі на дварэ на марозе пастой, вот трохі розум у цябе, ты ж маткі ня верніш. Што ж ты плачыш?" А яна плача і пяе.

*Ой, жыла сямейка маладая,*
*Да была ў іх дзевачка малая.*
*Ой, прышла ў сям'ю бяда бальшая,*
*Да й у дзевачкі мама памірая,*
*А дзевачка маму і не зная,*
*А дзевачку папа не кідая,*
*Ён яе так нежна даглядая.*
*Скора яе папа ажаніўся*
*Да на малую дзевачку забыўся.*
*Стала ў яго сям'я другая,*
*Стала дзевачка для іх чужая.*
*Ой, дзевачка ў папы папытала*
*– Чаго стала я для вас чужая?*
*– А таго стала ты для нас чужая,*
*Да што вырасла ўжэ бальшая.*

*Ой табе ўжэ чатыры года,*
*А ў калысачкі ляжыць паўгода.*
*Доўга-доўга дзевачка стаяла,*
*Да жаласці ад папы не ўвідала,*
*Вышла на двор, па-дзецкі рыдала*
*Ды, дзе кладбішча, у людзей папытала.*
*– Ідзі прама па этай дарожкі,*
*Там стаяць высокіх дзве бярозкі,*
*А ў тваёй мамы на магіле*
*Там расце зялёны куст каліны.*
*Дзевачка дарожкаю бяжала*
*Да па дарожке цвяточкі зрывала.*
*– Ой, саў’ю я з цвяточак вяночак*
*Да я павешу маме на крясточак.*
*Дзевачка к магіле падхадзіла*
*І па-дзецкі ж мамачку прасіла.*
*– Дзе ж ты, мая мама, забарылась,*
*Да чаго ж на мяне скора забылась.*
*Ой, ты мая мама, не смушчайся*
*Да ў мяне ж, маленькай, папытайся,*
*Як мне, сіраціне, тут жывецца,*
*Як маё ў мяне сярдзечка б’ецца.*
*Ой, ніхто ж мяне не памілуе*
*Да ніхто ж, як ты, не пацалуе,*
*Ой, ніхто ж мяне тут не ўцеша,*
*Ніхто ж кудзелькі не расцеша,*
*А на галоўке саб’юцца стручкамі,*
*Да не расчашу ж  іх са слязамі.*
*Ой, стаю я да горька рыдаю,*
*А каго прасіць, і сама ня знаю.*
*Ой, на крэсцік вянок надзявала*
*І на магілке зямлю разграбала.*
*А каліна ад ветру шумела*
*Да пажалець дзевачку не сумела.*
*А дзевачка па-дзецкі рыдала*
*Да на магілку лягла-засынала.*
*А цёмна ночка яе накрывала.(На магілку лягла, засыпала.)*
*А цёмна ночка яе накрывая,*
*А дзевачку ніхто ня шукая.*
*Стала каліна месяцу казаці:*
*– Давай дзевачку з табой ахраняці.*

*Вот каліна і месяц ня спалі*
*Да ўсю ноч дзевачку ахранялі.*
*Стаў зарёю на дзень займацца,*
*Стаў месяц за хмараю хавацца.*
*Стала каліна зноў месяц прасіці:*
*– Нада ж нам дзевачку дамоў звадзіці.*
*Ой, і рада я яе дамоў звадзіці,*
*Да не магу ж па свету я хадзіці.*
*А ты, месяц, па ўсём свету ходзіш*
*Да малу дзевачку дамоў ты зводзіш.*
*Ой, а месяц ясны пагардзіўся*
*Да скорынька за хмарачкі іскрыўся.*
*Толькі пташка дзета шчабятала,*
*Верна, дзевачку дамоў усё звала.*
*А дзевачка ж нічога ня знала*
*Да на магіле ў мамы крэпка спала.*
*На магіле ў мамы крэпка спала,*
*А пташачка ўсё там шчабятала.*

*Яны ўсё пелі, як прялі ўвечары. Тады ж ужо ўправяцца, павячэряяць. Мы на печы ляжым, а яны, каміны былі калісь у грубках, бацька смоль кладзе, смаловыя палачкі, так яно гараць – і відна, а яны прядуць і пяюць. А мы плачым на печы. Такія жалкія.*

337. *Луна апусцілась над горадам ціха,*
*Усе людзі спакойна лажацца ўжэ спаць,*
*А маленькі мальчык ручонкі ўсё цяня,*
*Ён маму любімую хоча абняць.*
*– Мама, ты спіш. Пачаму ты ня дышыш?*
*І ад чага жа ты так халадна?*
*Наверна, ты, мама,  мяне разлюбіла,*
*Наверна, ты, мама, ня любіш мяня.*
*Мама, ты спіш, і цябя адзіваюць*
*Саўсем у незнакомы ў белы наряд,*
*Чужыя тут людзі малітвы чытаюць,*
*А свечы то тускла, то ярка гаряць.*
*Луна апусцілась над кладбішчам ціха,*
*Усе людзі спакойна пашлі аддыхаць,*
*А маленькі мальчык ручонкі ўсё цяне,*
*Крычыць: "Пайдзём, мама, дамой са мной спаць!"*

*Магіла ўжо полнасцю была зарыта,*
*На кладбішчы стала кругом цішына,*
*А толька у мамы маёй над магілай*
*Тасклiва-таскліва свяціла луна.*
*Прайдзёт многа лет, я пайду на магілу*
*І буду тама маму сваю я прасіць:*
*“Прашу цібе, мама, у чэсць нашай свадзьбы*
*С жаной маладою нас благаславіць.*
*Прайдзёт многа лет, і жану маладую*
*Я буду ласкаць, абнімаць, цалаваць,*
*Но нікагда-нікагда не забуду*
*Сваю дарагую любімаю маць.*

338. *Там, у саду пры даліне*
*Громка пеў салавей.*
*Ой, я, малец, на чужбіне*
*Пазабыў усех друзей.*[19]
*Пазабыў, пазабросіў*
*З маладых-юных лет,*
*Сам астаўся сіратою,*
*Счасця-долі мне нет.*
*Ой, куда ні паеду,*
*Ой, куда ні пайду,*
*Край радного ўгалочка*
*Я нідзе ж ні найду.*
*Хоць найду ўгалочык,*
*Да і то ён чужой,*
*Надаела жызь блатная*
*І ішчу сабе пакой.*
*Я ўмру – пахароняць,*
*Пахароняць міня,*
*І радныя не ўзнаюць,*
*Дзе магіла мая.*
*І ніхто не прыедзя,*
*І ніхто не прыдзець,*
*Толька ранняю вясною*
*Салавей прапяець.*

[19] Кожныя два апошнія радкі выконваюцца двойчы.

*Прапяець і прасвішчыць,*
*І апяць улеціць,*
*Да сіроцкая магіла*
*Адзінока стаіць.*

Эта ўсё калісь адзін дзед казаў: “Сірата пашоў, скітаўся па свету і склаў песню сабе”. Эта калісяшнія. Калісь із цюрмы прыдзя. Бацька і матка памрэ. Пабагату судзілі. Эта ціпер во пусцяць, тады амнісція.

## XLI. Прыпеўкі

339. [*Як правільна: прыпеўкі альбо частушкі?*]

Па-етаму ўжо *частушкі*, а калісь *прыпеўкі* звалі, па-старыннаму. А ціпер ужо – *частушкі* гаворяць.

340. (а) У школу я хадзіла, там быў Юрчанка Васіль. Іграў... Хадзіў ён у сёмы клас, а я ў пяты... Тады ж розуму не было ў нас... Цяпер разумнейшыя дзеўкі... Бальшы перяпынак... На бальшым перяпынку, летам, вясной і ў восень, ішчэ цёплыя дні ў сінцябрэ... І ён выходзя, такая лавачка здзелана, ён садзіцца і грая пад гармонь, а там падбарабанівая... “Дзеўкі, давайця ўсі!..” І настаўнікі... На крыльцо... У Марозаўцы... Школа бальшая... І на крыльцэ садзяцца ўчацілі... Хлопцы... У нас Кузепа быў Васіль... Ён выдзя “Серпіянку” танцаваць, а падпяваць ня ўмеў, гаварыў: “Ня ўмею частушак”. Падыходзя: “Грэцкая... (Гаварыў: “Грецкая!” Уродзе, як па-гарадскі.) Грецкая, выдзь ка мне на смену!” І я падымаюся і іду танцаваць. І пяю прыпеўкі. А тады дзярэктар махне рукой, тый ужо кіня. Я думаю: “Штось я ўжо спела?” Прыду к дзеўкам, гаварю: “Чо-та ён кінуў іграць?” Гаворяць: “Дзірэктар махнуў рукой”. А тады мне і кажа дзірэктар. То ж ён па-гарадскі гаварыў, усё на *г*: “Грэцкая, ты знаіш што? Пей прыпеўкі, но любоўных ня пей. Не спявай любоўных”.

(б) Я прапела:

*Я надзену бела плацце,*
*Кругом школы абыйду,*
*Ой, якое каму дзела,*
*Што настаўніка люблю.*

(в) *“Серпіянку” танцавала*
*Па сухому сену,*
*Хто-нібудзь з учыцялей*
*Выходзь ка мне на смену.*

341. *Калі б, да калі б я*
*Кінарэічка была,*
*Я б у мілага ў садочку*
*Сабе б гнёздышка звіла.*

342. *Калі б быў я снігірь,*
*Паляцел бы я ў Сібір,*
*Там жыве залётачка –*
*Карасівая дзіўчоначка.*

Ці можна хлопцу пець:

*Калі б я была снігірь,*
*Паляцела б я ў Сібір,*
*Там жыве залётка мой,*
*Прывязла б яго дамоў.*

343. *Ой, няўжэ лі конь вароны*
*Ад сынка адвяжыцца,*
*Ой, няўжэ лі мілы мой*
*Ад мяне адкажыцца?*

344. *К сіню морю падхадзіла,*
*Ваду с кружачкі піла,*
*Мілы бросіл, патом каіцца:*
*"Харошая была".*

345. *Падыйду я к сіню морю,*
*Ударю моря па валнам:*
*"Разлівайся, сіня моря.*
*Ўсё раўно разлука нам".*

*346. Амяленскі жа пасёлак,*
*Не магу міма прайціць,*
*У адну дзевачку ўлюбіўся,*
*Не магу яе забыць.*

Ці:

*У аднаго хлопца я ўлюбілась,*
*Не магу яго забыць.*

347. *Чорны камень, чорны камень,*
*Чорны камень – сто пудоў,*
*Ой не чорны камень цягня,*
*А праклятая любоў.*

348. *Ой, плацце маё*
*Кругалём, кругалём,*
*Што хаціця гаварыця,*
*Паміраю я па ём.*

349. *Кала мілага двара*
*Цячэ рэчка, б’ець вална,*
*Позна мілінькі хваціўся*
*Угаварываць міня.*

350. *Вот жэняцца, дак усё казалі:*
*У панядзелак вышла замуж,*
*А ў аўторак нажылась,*
*А ў сераду рана ўстала*
*І к мамашы падалась.*

Як пуцёвыя, завуць і *бацька,* і *матка* і свёкра, і свякруху... І ціперака завуць. Вот я знаю, што ё сем’і такія... “У мяне язык не паварачваецца на чужую свякруху”. Дак і мужык гаворя: “Дак во я буду тваіх называць...” Ета людзі... Ета ня людзі... Богам дадзена так... Саедзіняісся... І песня ё:

*Бацька дзверы адчыняя*
*І ў маці пытая:*
*– А што ета за роза*
*У хаці расцвітая?*
*– Бацька, ета ня роза і ні калініца,*
*А ета будзя ў нас трэццяя дзяціна.*

*Залоўка (сястра мужава)*:

*Будзь родным дачкою,*
*А мне роднай сястрою,*
*А брату майму вернай жаною.*

У сям’ю паступаіш, будзь ім як родная. А ня то шта прышла, глядзіць, як звер.

*Вясной замуж, вясной замуж,*
*А па восені дамоў,*
*Як гадзіць ліхой свякрусі,*
*Лучшэ мамінькі радной.*

351. *Вецер вее, вецер вее*
*Пад маю каморачку,*
*Ніхай людзі не гаворяць*
*Пра маю ўхажорачку.*

*Хлопцы пелі нам. Ета хлапачая.*

352. *Я хадзіла па лясу,*
*Па лясу дрямучаму,*
*Усю дасаду аддала*
*Салаўю лятучаму.*

353. *Калі б знала, не ламала*
*Чорнаю смародзіну,*
*Калі б знала, не любіла*
*З дурныя пародзіны.*

354. *Я іду, трава калышыцца,*
*Наверна, упадзёт.*
*Падруга з мілінькім,*
*Наверна, атаб'ёт.*

355. *А мілы едзя на машыні,*
*А я еду на другой.*
*Мілы кепачкай махая,*
*А я лентай галубой.*

356. *А на стале стаіць гармошка,*
*Пад гармошкай палачка.*
*Не гармошка заўлекая,*
*А красівы Ванечка.*

357. *А мне цыганка варажыла,*
*Цыганачка Волечка.*
*Ой па чом яна ўзнала,*
*Што быў мілы Колечка?*

358. *Ой, цыганкі! Ой, гадалкі*
*Чорна плацце падарю!*
*Ты, цыганка, ты, гадалка,*
*Вазрацi ж любоў маю!*

359. *Я на ёлачкі сядзела,*
*Ёлачка шаталася.*
*А я з ёлачкі ўпала,*
*Так жа я спужалася.*

360. *Па лясу, лясу хадзіла,*
*Дзівавалася на ель.*
*Якая ель! Якая ель!*
*Якія шышачкі на ей!*

361. *Салавей мой, салавей,*
*Хадзі кударькі завей!*
*Не паверю салаўю,*
*Сама я кударькі заўю.*

362. *Я іду, іду дарогай.*
*Божэ мой, якая даль.*
*Мне дарога атвячая:*
*"Не прыдзёт! Не дажыдай!"*

363. *А думала, што не прыдзёт,*
*Думала, не явіцца,*
*Дзверы адкрываяцца,*
*С улыбачкай яўляіцца.*

364. *Я ўеду, я ўеду,*
*Справачку заверыла.*
*Толькі ты, мая падруга,*
*Усё і мне ня верыла.*

365. *Ой, скора, скора*
*Я ўеду ў Маскву на аперацыю,*
*Белу грудзь маю парэжаць*
*За любоў гарачаю.*

366. *Калі б былі на грудзях*
*Маленькія дзверцы,*
*Я б аткрыла, паглядзела,*
*Што ў мяне на серцы.*

Ці можна пець хлопцу:

*Што ў цябе на серцы.*

367. *“Серпіянку” танцавала,*
*Апускала глазкі ўніз,*
*Мне падруга расказала:*
*“Цябе ж любіць гарманіст”.*

368. *Гарманіст-красавіца,*
*Каму жэ ты дастанесся?*
*Не бярозе, не сасне,*
*Дастанесся, верна, мне.*

369. *Што ў нашага гарманіста*
*Чуб налева валіцца.*
*Я даўно яго люблю,*
*Но ён не дагадаіцца.*

370. *Дагадайся, мілы мой,*
*Правядзі сёдні дамоў.*
*Правядзеш ты сёдні дамоў*
*І з гармошачкай сваёй.*

371. *А каля рэчачкі-рякі*
*Паілі коней казакі.*
*Сівагрывава каня*
*Пое красавіца мая.*

372. *На базары я была,*
*Прадавала грэчку,*
*Адзін дзядзька прамяняў*
*Жонку на авечку.*

373. *На базары я была,*
*Прадавала мольку,*
*Адзін дзядзька прамяняў*
*Жонку на сядзёлку.*

(*Молька – рыбка такая... Сядзёлка – дэталь упражы, каб каню не наразала.*)

374. *Серпіяначка красіва,*
*Серпіяначка на яць,*
*У яе юпачка кароценька,*
*Каленачкі відаць.*

375. *З неба зорачка ўпала*
*Серпіянкі на кравацъ.*
*Падай, мама, адзіяла*
*Мне мілога накрываць.*
Ці: *жаніха накрываць*.

376. *У мяне ўхажораў многа,*
*Як у карзіначцы грыбоў,*
*Толькі з адным я імею*
*Настаяшчаю любоў.*

377. *У Манюшы два Ванюшы,*
*А ў мяне ні аднаго.*
*Пакланюсь Манюшы ў ногі:*
*"Дай хоць Ваню аднаго".*

378. *З неба зорачка ўпала*
*Серпіянкі на кравацъ.*
*А мая падруга, я з ёй пяю:*
*Падай, мама, адзіяла*
*Мне мілога накрываць.*

379. *Я на розавай падушачцы*
*Паплачу-паряву.*
*Мая розава падушачка*
*Ні скажа нікаму.*

380. *Я хадзіла па балкону,*
*Дружка відзіла ў вагоні.*
*Стой, машына, стой, вагон.*
*– Куда ты едзіш, мілы мой?*

*Куды чоўнічак паплыў?*
*Штоб ты абярнуўся.*
*Куды мілы мой пайшоў?*
*Штоб ты не вярнуўся.*

381. *Не пайду я туды замуж,*
*Дзе сямейка – восем душ,*
*А пайду я туды замуж,*
*Дзе – свякруха, свёкар, муж.*

(*Усе ў малую сям'ю хацелі...*)

382. *Уся публіка звініць,*
*Што з прыпеўкі збілася,*
*Я на курсах не была,*
*На ета не вучылася.*

383. *Церяз поля ячінёк,*
*Залацісты каласок.*
*Вазьму я сярпочык,*
*Сажну яго ў снапочык.*

384. *Ой, дожч ідзёць,*
*С крышы капелькі,*
*Ці ня мілы мой ідзёць*
*Кашалапінькі.*

385. *На бярёзі мошкі*
*Ігралі на гармошкі,*
*А камарык на дубу,*
*Ён іграў у сваю дуду.*

386. *На стале стаіць гармошка,*
*Пад гармошкай белы ліст,*
*Заўлекая не гармошка,*
*Заўлекая гарманіст.*

*Купі, папа, юпку,*
*Клёш-пальто.*
*Наша, табе, донька,*
*Так цяпло.*

387. *Скора-скора я ўеду,*
*Ня будзя мяне здзесь,*
*Дазваляю табе, мілы,*
*Любоў новую завесць.*

388. *Пад гарой сабачка лая,*
*Маліňкі шчанёначак.*
*З-пад гары гармошка йдзець,*
*Можа ж мой мілёначак.*

389. *А мне цыганка варажыла,*
*Усе карты разлажыла.*
*Гаварыць мне начала...*
*Адкуда ўзнала ўсё яна?*

390. *Што ў нашага гарманіста,*
*Што ў нашага іграка,*
*На спіне чатыры вошы*
*Выбіваюць гапака.*

391. (а) [*Вы ўвесь час гаворыце: “Сербіянка”, “Сербіянка”... Гэта што – самы галоўны танец?*]

Не... Глаўныя ўсі, як танцуіш... І “Серпіянка”, і “Страданія”, і “Кракавяк”, і “Клёш-пальто”. Танцы ўсякія...

[*Пелі толькі пад “Сербіянку”?*]

Прыпеўкі пяюць... І пад “Серпіянку”... Калісь пелі:

*Немцы да палякі*
*Танцавалі “Кракавяк”.*
*Яны – так, яны – так,*
*Не выходзя “Кракавяк”.*

(б) Пад усякі танец можна падпець... Найбольш пад “Серпіянку” і пад “Страданія” пяюць прыпеўкі... А пад тыя так...

[*Пад “Страданія” якія пяюць?*]

Усякія... Якія хто ўздумая...

[*Уздумайце...*]

*Вазьму гармонь я "Лівянку",*
*Пайду гуляць у Сівянку.*
*У Сівянке дзевачкі,*
*Як шакаладныя канфетачкі.*

Ета хлопцы нам пелі. Мы гаворым: "А мы?" – "Вы – лядзяшкі!"

[*Гэта пад "Страданія"?*]

Ету самую частушку можна і пад "Серпіянку". А пад "Кракавяк" ужо не падыходзя... І пад астальныя... Прыпеўкі пяюць пад "Страданія", і пад "Лявоніху" шчэ пяюць... Ну, мы "Лявоніху" тую ні танцывалі... Танец ё "Лявоніха"... Но мы не танцавалі...

# XLII. Дзіцячы фальклор

## Калыханкі

392. *Люлі-люлі-люлі, наляцелі куры,*
*Селі на павеці, сталі песні пеці.*
*Толькі ряба курачка, яна не співала,*
*З петушком па дворіку зёрна сабірала.*
*Пазбіралі зерня, вады напіліся*
*І на сваё седала яны падаліся.*
*Толькі ряба курачка доўга не сядзела,*
*А са свайго седала яна зляцела,*
*Затапіла печку, кашкі наварыла,*
*Малага Сярёжку кашкай накарміла,*
*У сухія пялёначкі яго ўпеленала,*
*Палажыла ў люлічку да закалыхала,*
*Баю-баю-баюшкі яму праспявала.*

393. *Люлі-люлі-люлі, прыляцелі гусі,*
*Селі ля дварочку пашчыпаць муражочку,*
*Напілісь вадзічкі халоднае з крынічкі,*
*На Сярёжку паглядалі, хлеба дажыдалі.* (*Яны хлеб дужа любяць.*)
*Сярёжка ўзяў кнуточык, пагнаў на лужочык.*
*Яны па лужочку хадзіць не хацелі,*
*А ў чыстаю рэчку купацца паляцелі.*
*Гусачкі ў рэчкі плавалі, нырялі,*
*У вадзе свае пёрушкі чыста вымывалі.*
*Сярёжка па беражку з кнутам хадзіў,*
*А выгнаць з рэчкі гусачак ён не сабразіў.*

394. *Баю-баюшкі-баю, сядзіць коцік на краю,*
*Хвосцікам махая, Сярёжу забаўляя.*
*– Ідзі, коцік, пагуляй да мышачак паганяй.*
*А мама будзя калыхаць, а Сярёжа будзя спаць.*
*Прыгнуў коцік на крышку і паймаў там мышку,*
*Ускочыў на столік і абярнуў з кашай гаршчочык,*
*Прыгнуў ён на бечка і разбіў яечка.*
*Прыгнуў коцік на вакно і разліў ён малачко.*
*Коцік шкоды нарабіў, Сярёжу ён угаладзіў.*

395. *Паляцеў камарочык у зялёны лясочык,*
*Баю-баюшкі-баю, у зялёны лясочык.*
*І сеў камарочык на кудрявы дубочык,*
*Баю-баюшкі-баю, на кудрявы дубочык.*
*На дубочку ён сядзеў і на ўсё кругом глядзеў,*
*Баю-баюшкі-баю, і на ўсё кругом глядзеў.*
*Паглядзеў камарочык на красівы цвяточык,*
*Баю-баюшкі-баю, на красівы цвяточык.*
*А ў тым цвяточку многа там мядочку,*
*Баю-баюшкі-баю, многа там мядочку.*
*Сеў камарочык на розавы цвяточык,*
*Баю-баюшкі-баю, на розавы цвяточык.*
*І паеў камарочык у цвятку мядочык,*
*Баю-баюшкі-баю, у цвятку мядочык.*
*Стала камарочку плоха ад мядочку,*
*Баю-баюшкі-баю, плоха ад мядочку.*
*На ўвесь лес камар звінеў, сільна ён вады хацеў.*
*Баю-баюшкі-баю, сільна ён вады хацеў.*
*Пчолка ў лясочык ляцела па мядочык,*
*Баю-баюшкі-баю, ляцела па мядочык*
*І пачула пчолка звонкі галасочык,*
*Баю-баюшкі-баю, звонкі галасочык.*
*Падляцела пчолка спасаць камарочка,*
*Баю-баюшкі-баю, спасаць камарочка.*
*– Чаго ты, камарочык, звініш на ўвесь лясочык?*
*Баю-баюшкі-баю, звініш на ўвесь лясочык?*
*– Спасай мяне, падружка, лопня маё брюшка,*
*Баю-баюшкі-баю, лопня маё брюшка.*
*У розавым лясочку наеўся я мядочку,*
*Баю-баюшкі-баю, наеўся я мядочку.*

*– Ня нада, камарочык, збіраць у пчол мядочык,*
*Баю-баюшкі-баю, збіраць у пчол мядочык.*
*Ты еш толькі сваё, што табе Богам дано.*

396. *Баю-баю-баянькі,*
*Прышлі з лесу заянькі,*
*Прыняслі трэсак сумачку,*
*Затапілі грубачку,*
*Кашкі наварылі,*
*Дзетак накармілі,*
*Далі морквы, капустачкі*
*І хлеба па лустачкі.*
*У хаці чыста падмялі*
*І ў лес дамоў пашлі,*
*Паслалі моху пад бачок,*
*Пад галоўку кулачок,*
*Хвосцікам накрылісь*
*І спаць палажылісь.*
*І пад ёлачкай густой*
*Спалі дружнаю сям'ёй.*

## Пацешкі

397. *Падкую я ножку*
*Ехаць у дарожку.*
*Пашыю сапожкі*
*Цёплыя на ножкі.*
*Пашыю на плечыкі*
*Шубку із авечкі.*
*Пашыю на ручкі*
*Цёплы рукавічкі.*
*А я на галоўку*
*Пашыю шапёнку.*
*Буду ехаць на кані,*
*Ні замёрзну нікалі.*

398. (а) Як калісь, як дзіцёнак малы, дак усё... Ніхай такі будзя... Месяцаў восем ці кала года, штоб ён панімаў трохі... Вот будзіш калышыш-калышыш... Разуіш ножку, разверніш, во пятка, пята, і па пяце, ішчэ плюніш на руку ці на ножку плюніш, тады бярэш і пальцам, і гаворыш:

*Коў-коў ножку,*
*Паехаў у дарожку.*
*Шылі чэрявічкі*
*Малы-невялічкі,*
*На (Іванавы ці Раманавы) ножкі.*
*Чэрявічка парвалась,*
*Рукавічка паціралась...* (*Яно ішчэ ёсць.*)

І разоў сколькі пяеш і пяеш, яму шчыкотна, па назе шкрабаеш, і ён мігам, палядзіш, вочы зачыняя – ўсё! Гаварю: “Баб, Ягорка заснуў!” – “Коў-коў дзелалі?” Мы гаворым: “Да”.

(б) *Коў-коў ножку,*
*Паеду я ў дарожку.*
*Пашыю чэрявічкі*
*Малы-невялічкі,*
*Свяжу я панчошкі*
*На голыя ножкі.*
*Панчошкі парвалісь,*
*Дарогай паціралісь,*
*Мы з Сярёжкай*
*Босыя асталісь.*
*(в) Коў-коў ножку,*
*Паеду я ў дарожку.*
*Пашыю чэрявічкі*
*Малы-невялічкі*
*На Варыну ножку.*
*Свяжу я чулочкі*
*На Варыны ножкі,*
*І цёплінька абгарну,*
*І ў лясочык павязу.*
*Вазьму хлеба лустачку,*
*Бурачок, капустачку,*
*Усё ў сумачку палажу*
*І к бачочку прывяжу,*
*Паеду ў цёмны лясок*
*І сяду на пянёк.*
*І ў ражочык затрублю,*
*Усех зайчыкаў пазаву.*

*І ўсех зайчыкаў угашчу,*
*Досыта накармлю.*[20]

(г) І баба наша, і дзед Майка, і дзед Жаваранка, хто к нам прыходзілі гуляць... Ета ціперь суседзі, як сабакі тыя, ні ладзяць... А калісь сабіраяцца, прыходзяць, пасядзяць... Дзед Кудлач, валасы кучарявыя, барашкамі, дак яго Кудлач празвалі, ён ня сердзіўся. Мы гаворым: “Вон, ужо, дзед Кудлач ідзе!” Ці сядзець будзя Ягорка, ён ужо падымая ножку, ужо кала годзіка, яны яму і гаворяць: “Коў-коў ножку...”

[*Гэта казалі, каб заснуў, ці проста так?..*] Проста так. Каб заснуў: пра коціка ці пра зайчыка, ці пра курачку “баюшкі” пяюць. Ён такі хітрынькі быў, як убача: дзед. Мы гаворым: “Майка ідзець!” Ён: “Майя! Майя!” І ножку падымая. [*Вы раней казалі, што баба гэта чытала, каб Ягорка заснуў*]. Не. Уродзе, ня так. Ета “баю-баюшкі-баю, не садзісь, коцік, на краю...” Пакормяць, уложаць і пяюць: “Баю-баюшкі-баю, не садзісь, коцік, на краю...” Пакуль заснець. А ета, будзя сядзець, ужо сядзеў, восем месяцаў, ужо дзяцёнак сядзеў, і прыходзяць: “Коў-коў ножку...” І ён сядзіць і слухая. Малы, но ён ужо панімая, што ета для яго.

399. **Ладушкі-ладушкі.**
Ішчэ будзім *“Ладушкі-ладушкі”* (у далоні),
*Мы прасілі ў бабушкі,*
*Напячы ты нам бліноў...* [напячы мяккіх нам бліноў]
*Ты бліноў нам пячы,*
*Да шчэ сала напряжы,*
*С халоднай крынічкі*
*Дай ты нам вадзічкі.*

[*Калі так казалі?*]
Як уранні: “Баб, што ты сёдні варыла?” – “Суп!” Мы гаворым: “Баб!

[20] Мне падалося цікавым, як прызначэнне гэтай песні растлумачыла яе стрыечная сястра Кужэльная Праскоўя Сяргееўна:
Паеду ў дарожку.
Трэба каня падкаваць,
Штоб умеў танцаваць.
(*Ета дзецям па ножкі стукаяць, штоб ён бегаў.)*
[*“Коў-коў ножку...” калі казалі?*]
Як хадзіць ня ўмея хадзіць, а поўзая толькі, бяруць на рукі, па пятачцы:
Коў-коў ножку,
Паеду ў дарожку.
Трэба каня падкаваць,
Штоб умеў танцаваць.
(*І паложаць. Калісь старыкі ўчылі і дзелалі. Можа, дзеці і хадзілі быстра.)*

*Ладушкі-ладушкі,*
*Мы прасілі ў бабушкі:*
*“Бліноў мяккіх напячы,*
*Ішчэ й сала напряжы,*
*С халоднае крынічкі*
*Дай ты нам вадзічкі”.*

Усё мы пелі. І матка: “І-іх! На бліны толькі да на сала расчытыіця! Жрыця, вон, суп!” А калі напякуць ужо бліноў, да ішчэ туды ўчыняць... Бульбы надзяруць, яны такія рыхлыя, мяккія, матка і кажа: “Мам, што сёдні на снеданне?” Яна і гаворя: “Песню прапець нада”. І мы ўжо... Я і Ягрока, і Туся – усе... Кажды, я первая пряпяю, што ўжо: “Дай нам!..” Яна: “Вот вам ужо і бліны! Вада... Ідзіця ў калодзезь...”

400. *Сарока-даўбуха прыляцела здаляка,*
*Села ў пана на таку,*
*А пан кажа: “Засяку!”*
*– “Стой, паня, не сячы!*
*Буду табе служычы,*
*Дзеткам кашку варыці.*
*Етаму давала, етаму давала.*
*Еты – мал,*
*Круп не драў,*
*Вады не насіў,*
*Дзежкі не мясіў.*
*Вот табе кашка ў чэряпіцы*
*На паліцы.*
*Прастудзі яе да еш!*

А чэряпочкі... Ты знаіш, што... Як глёк разаб’ецца, толькі дно астанецца, і яно замест місачкі... Называлі: “Баб, кашы валлі нам!” – “Вон чэряпіца... Бярыця налівайця”.

[*На каго так казалі: “Ты быў мал...”*]

Баба ўсё наша казала. Во налівая баба абедаць...

401. Дзед Кудлач. Ета Касцючкаў... У яго косы кучарявыя... Вот возьмя... Як авечкі бываяць... Калісь прыдзя... Я любіла яго расчасываць... Калісь жа гребяшкі насілі... Угору косы... І гребяшок... Ён: “Варячка, хадзі-ка сюда!” Я падыходжу... “Садзісь на ўлоння”. Я сяду на калены яму. Ён бярэ касу маю, у мяне бальшыя косы... Ён: “Расці, каса, да пята, штоб любілі рябята. Табе – жанішок. А мне – піражок”. Ета на свадзьбе, штоб піражкамы ўгасціла”. Я гаварю: “Дзед, а чаго ты гаворыш?” – “Косы будуць добра рэсць... Скарэй”.

А ў яго былі кучарявыя. Вот я вазьму, падыйду, грэбяшок з галавы знімаю... Тады ж картузы... У картузах усі хадзілі... Ён картуз ужо знімая: “Я ўжо знаю, што будзя Варячка дзелаць. Ну, Прыгарачка, пачынай”. Я косы расчяшу яму... Вот расчэсую, а яны зноў... Вот кіну... І рукой прыдзержыю... Кіну... Яны зноў у круцень... Яго Кудлач звалі... І ён ні сердзіўся...

## Гульні. Лічылкі

402. **Божая кароўка.**

*Кароўка-кароўка, дай нам малачка,*
*А мы табе накосім клівярка.*
*Клівярок ты паясі,*
*І нам большы малачка дасі.*

Ета мы пелі. Мы так на ладонь... Яна поўзала...

Мы: *“Кароўка-кароўка, дай нам малачка,*
*А мы табе накосім клівярка.*
*Клівярок ты паясі,*
*І нам большы малачка дасі”.*

Яна чагось – пырх. Яна доўга ня поўзая... Пырх – паляцела. І мы яе ўжо не даганяім.

[*А ці божая кароўка малако прыносіць?*]

Так нам гаварылі. І баба наша казала: “Не давіця каровак. Ета – божжая кароўка”.

403. **Кавалькі.**

Бабу прасілі, што на агародзі паймаіш кавалька, прынясі. Тады мы ўсё, і ў “Мечыка” гуляіма, кідаіма ўсё, садзімся і ў “Кавалька” гуляім. Паложым дагары яго. Ён чорненькі такі, драцяны, крэпкі-крэпкі. І будзіш прагаварываць:

*Кавалёк-кавалёк,*
*Іскуй тапарок.*
*Не скуеш тапарка,*
*Я не дам вугалька.*

І ён тады падскоча – трэсь! – пузам уверх ляжыць. А тады ўжо перяверніцца і начыная поўзаць. І мы бачыма.

Хтось нас навучыў із бальшых. Большыя дзелаяць. І мы бачыма. А яны нас не прымаяць. Мы прыдзім, бабу шукаім: “Баба, нам кавалька!..” Яна: “Ну, пайду на гарод, паляжу”. То яны па грядах бегаяць... Яны ня сільна ўцякаяць. Яна нам ужо прынясе: “Наце, дзетачкі”. Еслі

двох паймае, аднаго ў карабок схаваіма, ніхай у карабку сядзіць, а ў етага гуляіма. І ён усё будзя пашчоўківаць. Еслі ён ужо падскоча і ўпадзя, ён ужо не падая пузам уверх, а ўжо ўніз. Мы зноў яго пераварачываім. І зноў. І будзя нас пяць-шэсць... Сядзіць у кругу... І ўсі ету самаю прагаварыяць. І большыя будуць сядзець у кавалька. Но яны-то нам не дадуць кавалька. А тады іхні кавалёк ці ўцячэ, ці хто раздаве. Бывае, не шчоўкае кавалёк... “А!” Возьме пераломя. Прыдуць: “Дайця нам кавалька”. – “Не дадзім”. Яны на гародзі, і на вуліцы можна найціць.

*Кавалёк-кавалёк,*
*Іскуй тапарок.*
*Не скуеш тапарка,*
*Я не дам вугалька.*
*Вугалёк куюць...* (*Ні нагрэіш, і каваць ні будзіш*.)

На ўсякую гульню была песня. У “Яркі” гуляім, і пачынаіш: “Ярыкі-паярыкі па полю хадзілі...”

Кавалька як хто паймае: “Хадзіця. Я кавалька паймаў. Давайця гуляць!” І пакуль яго намучыш. Бесканечна сядзіма.

Каторы ніжай падскоча, каторы вышай... Падшчоўкня. Мы яго зноў абарачываіма. Мне ўжо тапарок скаваў. І ты ўжо прагаворыў тую сама: “Кавалёк-кавалёк...”

404. **Клёк.**

Для гульні бяруць дзве кароценькія палачкі і адну длінную. Адна кароценькая кладзецца на зямлю, а другая (“клёк”) упоперак яе, такім чынам, каб адзін яго край упіраўся ў зямлю, а другі быў крышачку прыпаднятым. Той, хто водзіць, длінная палкай б’е па прыпаднятаму краю такім чынам, каб “клёк” узляцеў уверх. Астатнія гульцы стараюцца яго злавіць.

Калі ніхто ні спаймаў, у другі раз вадзі, пакуль хто-нібудзь спаймая другі.

А хто яго “клёкам” назваў, я табе не скажу. Бальшыя гуляюць... Ты, напрымер, бальшы ўжо хлопец... Вон, па дваццаць пяць гадоў... Па дваццаць чатыры... Такія во... Калісь жа маладыя не жаніліся... Як ціперь... брюха нагуляя, і некуды круціцца... Дак яны гуляюць... А ўжо меншыя хлопцы... Яны ж па стаях... Тады ішчэ меньшыя... Тыя ўжо пераймаяць.... А наш Ягор... Гадоў, можа, пяць ці шэсць было яму... Яны сабіраяцца ў нас тут, на сярёдку, па восем дзяцей было да па дзесяць... дак і яны “клячок”. Баба гаворя наша... Як заведушчая была... Матка наша

гаворя: “Ты заведушчая над усім... над курямі... І на вуліцы... Што “не ганяйця курэй, дзеці!” Яна ім палачку малую здзелая, ім дасць, і “клячок” дасць. “Клячок па вашаму росту. А бальшыя большыя дзелаяць”.

405. **Угода.**

Круг такі здзелалі, штоб за чарту не заходзіў, і табе вочы ці мне завяжаць. Толькі чутна, як *бягаць* яны... Уцякаяць... І *кот* ходзя і ловя... А то ўжо *мышы* бегаяць. І яны, як толькі зайдзіш, крычаць. Я ж ня бачу... Завязаны вочы... Мышы крычаць: “Шкода!” У шкоду тую не... Я ўжо паварачыю... Знаю: “Толькі тут нада хадзіць”. І ловіш. Паймаіш. Вочы развязыіш. Ён водзя. На чарту стаў, яны крычаць: “Шкода!”

[*Як гульня называецца?*]

Давайця ў “Ката і мышку”.

Гулялі малыя... Гадоў па дзвінаццаць... Па дзесяць... Па дзевяць. А бальшыя ў “мышак” не гулялі.

А ў “Клёка” гулялі.

[*Як выбіралі, хто катом будзе?*]

“Бегла кошка церяз моря...” Я табе гаварыла. І паследні астаесся... напрымер: “...ён ні жарыў, ні варыў, а сырую праглаціў”. Ты ўжо і водзіш.

406. **Ветряніца.**

Бегаюць усі. Умітась бегаяць. І цябе выбіраім... Ці... гаворым... “Ну, хто будзя первы вадзіць? Хто ветряніцу будзя дзелаць?” Ну і ты: “Давай я буду!” – “Давай ты!” І рукамі (кругі дзялая, урашчая выцянутамі рукамі), і быстра-быстра, і бягіць... А ўсі разбягаяцца... І я цябе пікану... І ты ўжо *ветряніцу* дзелаіш. Вятряніца – мельніца ветряная, яна меля і меля. Падбягіць да цябе... Ты ўжо ўцякай... Хлопцы падагнуцца.

[*У якіх гадах гулялі ў “ветряніцу”?*]

Бальшыя не гулялі. Малыя.

407. **Кнут.**

У “Кнут” гулялі. Бяруцца за рукі. За рукі бярёмся: і яна бярэцца, і ты... І ёмкі такі дзядзька, там хлопец быў, дак ён здаровы такі хлопец. І вот ён паперяд... “пугаўё” называіцца.... Ён і другі... Хлопцы становяцца адзін за адным. Па росту яны становяцца. І бягаць, бягаць укругавую. Тады тэй як!.. Ты ж адрываісся... Дзяржысся і другога дзяржыш... І кнут тэй... Паследні, дак дуба дагары ляціць. Ета называіцца “кнут”.

(Параўн. з запісам, зробленым ад сяброўкі Варвары Аляксандраўны Грэцкай – Кушняровай Алёны Барысаўны, 1927 г. н., таксама былой жыхаркі Амяльнога: “Бяруцца, можа, чалавек пятнаццаць. І самы большы – первы. І, як бягаць па вуліцы, а тады як крутане ўсіх лю-

дзей. Хто ляціць падая, а хто ўдзержываіцца. Ета называўся “Кнут”. Бяруцца за рукі, і самы первы самы большы – па росту станавяцца. І ён тады як павядзе, як рване тый кнут. І яны хто падае, а хто ўдзержываіцца. Ета называўся “Кнут”).

408. (а) Прыдзім гуляіма. Ну, што дзелаць? Ні цілівізараў, нічога... Што дзелаць? То ў “Кальцо” гуляіма, то “Невядзімку”, разныя гульні... У нас Федзька быў Шэряданкаў, ён старшэ нас, большыя не прымалі, дак ён ужо з намі, меньшымі, гуляў, мы ў любую хату сабіраімся, хвацеры не было, у любую хату сабіраімся, гаворя: “Дзеўкі, сёдні гаварыця, хто якую ўмея. Вот чый фант вынімаіцца, тому слова прыстаўляіцца. Ён, ужо, глаўны. І ходзя па хаці. Вот, напрымер: “Генадзій, раскажы што-нібудзь”. Ты ўжо, напрымер, будзіш казаць ці “Сароку-белабоку”, ці пра коціка:

*Коцік выйшаў і пайшоў,*
*На баярскі двор зайшоў,*
*Сабе мышку там найшоў.*
*Ні жарыў, ні варыў,*
*А сырую праглаціў.*

Я, напрымер, паю пра зайчыка, “ціліцікі-міліцікі”... І ў каждага свая песня. Вот так прагуляіма вечар.

(б) *Ціліцікі-міліцікі*
*На холадзе,*
*На моладзе*
*Сучок,*
*Піражок,*
*Матавільца,*
*Ражок,*
*Зайчык-бяглец*
*Вырваў траўку,*
*Палажыў на лаўку,*
*Хто ўкрадзя,*
*Радзівон,*
*Пажалуста, выйдзі вон.*

*(І хто паследні – выходзь.*)

(в) [*Пра коціка як?*] Яна ні песня, а так:

*Бегла кошка черяз моря,*
*Яна біла, калаціла,*
*Ва ўсе звонікі званіла.*
*– Не званіце, гаспада,*

*Вышла кошка за ката,*
*За Ката Катовіча,*
*За КатаВарковіча.*
*Коцік выйшаў і пайшоў,*
*На баярскі двор зайшоў,*
*Сабе мышку там найшоў.*
*Ні жарыў, ні варыў,*
*А сырую праглаціў.*

"Верабейка чубаценькі, ці бачыў ты гавядзінкі..." Ету песню... Хто якую. Во дзед Іванюшкаў, мы: "Дзед, давай навейшаю нам!" Ён падумая, падумая: "Давай ету!" А ціпер жа па цілявізару глядзі, а тады ж самы сябе весяліма.

409. **Сустракаюць з ярмаркі.**

(а) Як едуць із ярмалку, і нашы, і чужыя, куловарат зачыняць, дзелалі куловарат, летам жа кароў гоняць, і зачыняць, і ты пад'едзіш, а мы стаім, на том краю, і на том краю, і пасярёдку, мы жылі пасярёдку, суседзі, па восем–па дзесяць дзяцей, ты пад'едзіш, а мы стаіма, дасі гасцінца – адчынім. І танцавалі. Танцуіма, прыгаім. Ён скажа: "Дарагі падарак дам, толькі гаварыця мне дзве песні". А мы: "Ну, што ты нам, дзядзька, дасі?" І патанцуім. Ён дасць канфетак. Хлеб не даядуць. Едуць на ярмалак, возьмуць хлеба, сала, закусіць, можа, выпіваяць ці што, тое не кідаюць, дамоў вязуць, і тое мы па разу ўкусім. У нас там быў Сціфан, дак ён паднясе: "Багата не кусай, а то ў лысіну зловіш!" Укусіш хлеб раз. Із сваіх рук дае. Мы яго сталяным дражнілі. Паставя і скажа: "Шчэлкайця мне!" Мы шчалкаім. Там, нашы шчалчкі такія. Ён гаворя: "Мне не больна". Мы гаворым: "У цябе сталяная галава". Дак ён нам дзеля. Мы гаворым: "У! Сабе колькі аставіў!" І будзіш кусаць, болей не ўкусіш. Бярэш, урынеш там трошкі. А ён і гаворя: "Эта маё шчасце". Сам возьме сажрэ. Дак эта, як з ярмалка едуць. А тады зачыняіма, штоб ніхто не ехаў. Ету прапусцім. Другому. Скажа: "Патанцуйця!" Мы і патанцуіма. Другія ё такія: "Сколькі ё ў вас, столькі пейця. Багата дам". А дасць, колькі і людзі. [*Ярмаркі дзе былі?*] У Святской. Мы калісь туды і на базар насілі. Цыбуля парасце. Нарве баба. У пучкі, у лляныя нітачкі павяжэ, і панясома, там дзед адзін лапці насіў: "Варачка, калі мы з табой пойдам у Святскую?" – "Хоць і кажды дзень цыбулю буду насіць". А ён лапці плёў, дак туды ў Расію прыходзяць людзі з ганакоў на ярмалак, куплялі і лапці, і цыбулю, хто што. І мы канфет хочым купіць... "Ой! Не! Панясом матцы. Матка хусцінку купя якую ці што-нібудзь. А то ж бацька не зарабляя – памёр". Прынясом: "Мам! Столькі во, паглядзі!" Прададзім пучкі тыя. Матка: "Ну вы ж бы сабе канфетак купілі". – "Не, мам,

лучшэ хустачку купіш”. Во як жылі. А ціпера яны, наш халасцяк, гаворя: “Баб, ціпер мода – панасіў два гады – выкідаць нада”. Я гавару: “Насі шчэ! Шуляты закрытыя. А то будзіш хадзіць па балонню, закрыўшы шуляты ладонню”. *Шуляты – ляшкі*. Баба ўсё: “Будзіш па балонню – шуляты накрыіш ладонню”. Вот ціпер *лапата*, калісь *уступ* быў. Баба кажа: “І дзе-та ўступ паклалі?” Во, *ступаць і капаць* – эта *ўступ* звалі. Па-калісяшняму. Ціпер ужэ *рэгіён*, калісь *раён*, не раён – *воласці*, а ціпер усё па-новаму.

(б) Як едуць з ярмалку, мы адчынім варота, тады ўжо і гаворыма:

*Мы варота адкрываім*
*І гасцінца дажыдаім.*
*Дайця булкі і мядок,*
*Дайця сладкі піражок,*
*Дайця длінную канфету,*
*Дайця деняжку-манету,*
*Дайця крэпкіх аряшкоў*
*Для падмана жанішкоў.*
*А за сладкія канфеткі*
*Вас устрэнуць вашы дзеткі.*

Эта табе прапелі, а тады другі едзя: “Ну, мне другую давайця”.

*Дайця стакан водкі,*
*Дайця хвост сялёдкі,*
*Дайця лягушонка*
*І года два цялёнка.*
*Дайця нам пшанічкі*
*Ўгасціць сінічкі.*
*К нам сінічкі прылятаяць*
*І пшанічку пакляваяць.*
*Дайця жменічку канфетак*
*Угасціць маленькіх дзетак.*

## Дражнілкі

410. Вот ты шыбнуў, да і ні папаў у мяне. Ён шыбае ў цябе, да і ні пападзе, гаворяць:

*“Ты шыбнуў, да і не папаў,*
*Сваю матку закапаў*
*Ні ў гроб, ні ў магілу,*
*А пад дохлаю кабылу!”*

...ці, во, бяром зямлі ці трэсачку. Я шыбну, яна будзя мне казаць:

*“Ты шыбнуў, да і не папаў,*
*Сваю матку закапаў*
*Ні ў гроб, ні ў магілу,*
*А пад дохлаю кабылу!”*

Ета ўжо... Мне кажыцца... Матку закапаць... Над маткай трымціш. Калі Сярёжка з Варяй малыя былі, Сярёжка меньшы, вот зямлёй бяруць і шыбаяць, ці шалупайкі бяруць... Варя ў Сярёжку, а Сярёжка ў Варю, а я сядзела бульбу чысціла да гаварю: “Скажы:

*Шыбнуў, да і не папаў,*
*Сваю матку закапаў*
*Ні ў гроб, ні ў магілу,*
*А пад дохлаю кабылу!”*

Дак еты ні панімая: “Вот тваю матку закапалі!” – на Варю. А яна будзя сядзець: “Ета тваю матку закапалі!” Я думаю: “Што ж я, дура, вучу. Ета ж матка адна”, – гаварю: “Ета нільзя казаць. Па-божжаму нільзя. Хто скажа – язык адсыхая”. І етым я адвучыла…

411. *Іван-балаван*
*Качарэжкі каваў,*
*Цыганам прадаваў.*
*Цыгані не купілі,*
*У мех засадзілі.*

[*Так казалі на любога Івана?*]

Да. Як Іван. Будзіма мы сядзець, падыходзя, там, Крыўцоў, ета быў Іван. Яго Чыманерам дражнілі. Мы гаворым: “Чыманер, хадзі песню спяём... Іван-балаван!..” Ён тады камухамы, зямлёй сыпя на нас. Насыпя. Я гаварю: “Баб! Палядзі-ка! Насыпаў Чыманер!” – “Не чапайця. Ён хлопец ціхі, а вы яго чапаіця, ён вам здачы дае”. Баба наша справядлівая была.

412. (а) Тады ж каждаю нядзелю хлеб пяклі, бахонак шэсць-сем напякалі, скавароднікі такія, я любіла скавароднікі, мяккія такія, тоўстыя. Дак, я мясіла, я любіла дзежку мясіць. І вот учыняць... Ты нікалі ня нюхаў, дзежка як пахня? Дзежка пахня, ну такім вот хлебным кіслым воздухам! Адчыніш: закваска там, там закваскі такі ком ляжыць. Баба ішчэ вадзічкі ўвалле туды. І калі будзіма сядзець, Туся гаворя: “Давай пойдзіма дзежку нюхаць”. Возьмім адчыніма дзежку тую. Нюхаім. Ну, так смачна пахня! Такім вот учынятым хлебам. Дак еслі дзежку баба ўчыняя: “Бабачка мі-

лая, дай я буду! А ты стой і паказывай. Я буду ўчыняць і мясіць”. І, як вот мяшу, прыходзя дзед Майка і кажа (ён чагось мяне Вайра зваў):

*Наша Вайра дзежку мясіла,*
*За пятамі цеста насіла.*
*Рукі былі да лакцей у цесці,*
*А на стале не хер была есці!*

Я гавару: “Чаго не было есці? Баба ж будзя хлеб печ”. – “Да ты ж за пятамі да за лакцямі ўсё цеста разнясла з дзежкі. У дзежцы паглядзі: німа!” І цеста тоя ляжыць: “Паглядзі, дзед!” Рукамы ж месілі. “Да ты пакуль замесіш, і ета будзя і на пятах, і на галаве, і на мордзі”.

[*Такая дразнілка была?*]

Ну, як еслі вот дзежка, усё ён тады прыходзя, а ён не мінаў. Кажды дзень ён ідзець, і не адзін раз.

(б) Прыдзя дзед Майка да нас... Кажды дзень, як рання, ён ідзець, а калі німа, матка: “Во, німа ўжо Майкі... Будзя ўжо дым... Пакуль печ топіцца, дак бы дым выцягівала ў грубу...” Палядзім... туды-сюды... Ідзёць... Матка: “Ну во, шчарбы німа... Запоўніўся... Прышоў”. Дзяжкі мясілі калісь. А я любіла дзежку... “Мам, ну дай я буду мясіць”. Матка: “Ну на, мясі!” Я ўжо мяшу тую дзежку. Ён прыходзя і кажа:

“Ну, як хлеб? Дайце-ка нажа!” Атрэжа лусціну. “Ты ж ужо так шчацельна мясіла, во ета хлеб вымяшаны. А мая Куліна абы мукі не была з валамі”.

413. (а) Як пачануць ужо сварыцца, дак гаворяць: “Варвара палавіна ночы атарвала”. Так во гаварылі: “Варвара! Варвара! Палавіна ночы атарвала!”. А, знаіш, ета ж – плоха.

(б) Усякія былі: на каждаю ё прокладзень.

[*А гэта як?*]

Вот і на цябе. Вот на мяне гаворяць: “Варвара палавіна ночы атарвала”. І, там, ішчэ на каго, чым завуць. Мы на Тусю звалі “Трыпузая”, таму шта яна поўная, тоўстая была.

[*Прокладзень – гэта як?*]

Ну, прокладзень. Другоя імя ўжо.

[*Што абазначае слова “прокладзень”?*]

Другоя слова на цябе гаворяць якоя-нібудзь. Во, Пецька ідзець, хрёснае маё хадзіў к нам пець, гуляць. Яго дзед зваў “перяпялёсы”. У яго тут во чорненька, і тут, а тут такі, як абруч белы, на галаве як абруч. Дак дзед і гаворя: “Эх! Перяпялёсенькі наш ідзець!” І мы будзім гаварыць. Ужо *прокладзень* называіцца. Ужо завуць Пецька, а мы “Перяпялёсы”. І ён адгукаіцца.

[*“Варвара палавіна ночы атарвала” – таксама прокладзень?*]
Ета прокладзень ужо “палавіна ночы атарвала”.
[*Вы думаеце, што гэта плоха, што яна палавіна ночы атарвала?*]
Ну, плоха ж.
[*Пасля Варвары ноч памяншаецца, а дзень павялічваецца.*]
Праўда?
[*Праўда. З Варвары ноч памяншаецца, а дзень павялічваецца.*]
Ну, можа. А яны... Дак ета ж плоха.
[*Што плоха?*]
Дак, ноч жа лучшэ.. Лучшэ спаў бы да ляжаў. А ў дзень нада работаць. А так спі да ўсё.

414. Бацька казаў: “Купілі Варвару, дак яна матцы палавіну ночы атрывая. Не дае спаць”. А дзед прыдзя Буцькаў і кажа: “Ну як, Варвара, палавіна ночы табе атарвала?” Матка кажа: “Не. Сёдні спала спакойна”. – “Ты ёй мачку дай”. – “Не. Я сваім дзяцям маку ня буду даваць”. Бацька сказаў: “Варвара палавіну ночы атарвала”. І пашло. Сталі гаварыць: “Варвара палавіну ночы атарвала”.

415. (а) Прыдзя дзед Жаваронка, вісіць люлька, ён пачане калыхаць:

*Ягор-памідор,*
*Пакаціўся паміж гор,*
*За камінь зачапіўся*
*І з люлькі паваліўся...*

(б) [*А дзеці дражніліся?*]

*Ягора дражнілі. Вот выдуць:*
*Ягор-памідор,*
*Пакаціўся паміж гор,*
*За камень зачапіўся*
*І з люлькі зваліўся.*

Як пачануць, ён будзя: “Баб, мяне дражняць!”

416. Кажаць, Іваньку-дурачка, куды ні пашлі, ён усё бягіць. А вумён... Ён на печы ўсё ляжыць.

*Іванька-дурачок,*
*Зарабіў ён пятачок,*
*І паклаў у карманок,*
*Карманок парваўся,*
*Пятачок пацяряўся,*
*А Іванькам-дурачком*
*Усё раўно астаўся.*

[*Калі так казалі?*]

Скрозь. Як паціряіш што-нібудзь. “Баб, я паціряла!” Найшоў, там, да і паціряў. “Ой, дурная галава! Іванька-дурачок, паціряў пятачок...”

## Загадкі

417. *Прэсвятая Вася*
*На ўвесь свет разляглася.*
*Хто яе абходзя,*
*Тэй горя сабе находзя.* (Дарога)
*(Еслі дарогу абходзіш, блудзіш тады…)*

418. *Высокая пад неба,*
*Дурная, як трэба.*
*Усе яе абыходзяць*
*І спасіба не гаворяць.* (Гара)

419. *Пасярёд балота*
*Ўсягда ляжыць калода.*
*І ні гніе, ні сохня,*
*Пакуль балота ссохня (здохня).* (Язык)

*(Ён жа ў мокрым ляжыць і ноч, і дзень. Як у балоці ляжыць. І ні гніе, і ні сохня. Вот высунь язык, падзяржы, ужо табе плоха... Ён ні гніе, ні сохня.)*

## Песні

420. *Паляцела сінічка*
*Ў поля па пшанічку.*
*Ляцела, ляцела,*
*Села пасядзела,*
*Трошкі аддыхнула*
*І ў палёт махнула.*
*І нашла сінічка*
*Ды многа пшанічкі.*
*Села на каласочык,*
*Давай малаціці.*
*Склявала сінічка*
*Да весь каласочык*

*І наела брюшка*
*Аж па паясочык.*[21]
*Хацела злавіць мошку,*
*Паламала ножку,*
*Хацела ўзлятаці,*
*На ножку не ўстаці.*
*Сінічка пішчала,*
*На помач пцічак звала.*
*Падляцела к сінічкі*
*Сівая варона.*
*Склявала пшанічку,*
*Склявала і сінічку.*
*(Дзеда Ўсціна песня).*

421. *Камар-камарочык,*
*Звініць, як званочык,*
*Нізінька літая,*
*Но сільна кусая.*
*Вазьму малаточык,*
*Уб'ю камарочка,*
*На сонцы пажарю*
*І мошак павгашчаю.*

Дзед Кудлач, калісь... Ета ж ціпер ідуць у діскацеку, а тады на вуліцах. І вот мы гуляім, і дзяды прыходзяць, бабы... І кала нас хто-што. Майка дзед, Белы дзед, Жаваранка, Кудлач (воласы былі красівыя)... Яны начынаяць... Вясной сядзім на вуліцы, гуляім... І калі ж камароў мала, а калі ні адбіцца... Махаіш... атламываім веткі... Дзікія: і барёза,

[21] Калісь казалі: "Па паясок". Я табе пела песню пра сінічку. Ета калісь баба пела. Вот сядзіць і пяе. Пра камарочка дзед Майка міне навучыў. Калісь казалі: "Па паясочык пад'елі. Вот у песні і то гаворяць: "Пцічка з'ела каласочык, натаптала брюшка аж па паясочык..."

*Па паясок (паясочык) наесца.*

У нас была Куцая Танька там, прыдзім на работу. Яна свіней даглядала, а мы кароў даілі. Яе дачка са мной у ряд даіла. І я з ёй дружыла, з Валькай. Ой, Валя! Лёгінька дыхніс табе. Прыходзя Валька ўранні: "Цёць! Сёдні я ноч не спала!" – "Чаго?" – "Матку рятавала". – "Дак што з ёй такоя?" – "Абажралася бульбы. Бульбы зварыла ўвечары да туды сала разжарылі, трошкі цыбулькі туды, да патаўкла. Астаецца. Жалка ж свежаю кінуць. А тады ходзя, крычыць на ўсю хату. Распірая жывот у ей". Я гаварю: "Дак што, памірала матка?" – "Ну, *па паясок нажралась* ужо". У цябе жалудак тут. Вот, па самы... ямачка тут ё. Вот, пад самы жалудак. Астаецца толькі гарлянка.

і клён, і ясень... Хлопцы палезуць, ламаяць веткі... адганяіма... І дзед Кудлач гаворя ету песню... “Дзед, пряпей ты ету песню! Прагавары! Дак камароў ня будзя”. Дзед гаворя. “Дзед, шчэ прагавары! Паменела трохі”. Ён ішчэ прагаворя. Мы панавучылісь ад яго. Наша баба і кажа: “Ну, Васіль, а ету забыла ўжо. Я і знала, да забыла”. А ён гаворя: “А я, Алёнка, не забыў ішчэ”.

Хоць калі камароў німа, гаворым: “Дзед, давай-ка пра камара!” А ён: “Сёдні ж німа камароў”. А мы: “Усё раўно раскажы нам!” І ён начыная разы два.

[*Чаму вы сказалі, што гэта вясняная песня?*]

Вясной начынаяць камары. Вот ён і начыная ету песню.

422. *Паляцела пчолка ў лес па мядочык,*
*Забалела галовачка, упала на пясочык.*
*Зачапілась пчолачка за суху былінку,*
*Паламала мядовачка леваю рябрынку,*
*Атарвала мядовачка да свой хабаточык,*
*Заплакала мядовачка да на ўвесь лясочык:*
*“Нільзя мне, мядовачцы, да мёдзік насіці.*
*А як жа мне, мядовачцы, да сямью карміці?*
*Ой, нільзя мне, мядовачцы, па полю лятаці*
*І нільзя мне ў цвяточках мядочык браці.*
*Ой, нільзя мне, мядовачцы, да мёдзік збіраці,*
*А нада мне, мядовачкі, у пасцелькі ляжаці.*
*Мае дзеткі працавіты, будуць мёд насіці,*
*Будуць мяне, мядовачку, да мёдам карміці”.*

# Выканаўца тэкстаў народных песень як асоба

Лёс Варвары Аляксандраўны Грэцкай – прыклад таго, як творчая асоба здольна адбыцца і рэалізавацца ў асобна ўзятым калектыве носьбітаў традыцыйнай культуры – у калектыве, у якім яе ўсведамлялі "*пясённіцай*". Слова "*пясённіца*" ў вышэйшай ступені выразна вызначае тое месца, якое яна займала ў гэтым калектыве. Не менш цікавымі, чым яе этнаграфічна-фальклорныя веды, падаюцца яе рэплікі, аповеды, разважанні пра песні, абрады, звычаі, традыцыі – пра тое, што звычайна цікавіць этнографаў, фалькларыстаў, культуролагаў. Яе слушным заўвагам і думкам можна давяраць. Яе меркаванні – гэта меркаванні асобы, якая прайшла шлях у народнай культуры ад дзіцячага, непасрэднага да свядомага ўдзелу ў актах традыцыі (песнях, абрадах, святах) чалавека, выхаванага традыцыяй. Дзякуючы песням яна стала асобай. Разрозненыя і рассыпаныя па нашых гутарках, яе разважанні і кароткія выказванні пра песню ў яе жыцці выбудоўваюцца ў досыць стройную сістэму, якая дазваляе ўбачыць, як усё пачыналася, адбывалася і фарміравалася ў далейшым.

Мая суразмоўніца адмыслова вызначае наяўнасць у сябе чароўнага пачатку як першаасновы. "Ё людзі, адарённыя Богам... Пець... Адарённыя, што паглядзіць, то ўжо і запаміная, я пра людзей ні хочу гаварыць, што тэй – такі, тэй – такі... "

Прычым яна сама робіць здагадку, што адоранасць у яе спадчынная: "Наша баба памятлівая была, можа, я ў бабу трошкі ўдалась?"

Як спадчынную яна вызначае і адоранасць свайго малодшага брата Ягора: "Вот у нас Іван быў, Маша, Туся, я і Ягорка. Ну, тыя памёрлі – і Васька, і дзве Танькі... Ваня – ён слаба іграў на гармоні, а Ягор – класна! Самавучкай. У яго слух! Вот ён... Будуць па цілівізару, і ён будзя сядзець: "А ета не пяюць, а скародзяць!" А на балалайку Ягор ня ўмеў. Калісь Пецька прыдзя, маткі мае хрёсны, на балалайку ігрworld. Мы гаворым: "Ягор, вазьмі-ка ты на балалайку, іграй". Ён: "Я ня знаю, куды пальцы станавіць". На балалайке – не, а на гармонь – класна, атлічна. Ета – і ў Закружжы, і на Амяльном, ні на Падкаменні – ніхто так. Пайшоў гармонь заказываць у Неглюбку к Адзінцу. Прыйшоў. Ён: "Ну, якую табе? Ці ўмееш ты іграць?". Ягор: "Разряшыцця сыграць". А ён гаворя: "Етыя не чапай, ета класныя". А Ягор: "А, як на ета барахло іграць, дак я і не вазьмусь". А ён: "Ну, тады разряшаю. Вазьмі класнаю". Дак Ягор

гаворя: “Я ўзяў класнаю, дак яна аж звініць! Я адну папробываў, тады другую”. Ён і гаворя: “Во, відна, што ты чылавек. А ка мне прыходзіў Васіль з Марозаўкі, да іграць ён іграя, но класнасці німа”. А тады, другі раз з Васілём ездзілі, дак ён на Васіля і кажа: “Хто ён табе?” – “Ета мой родзіч”. Ён гаворя: “Ты ня ўдаўся ў яго. А ён класна іграя”.

Спадчыннасць адоранасці Варвары Грэцкай пацвярджаецца і тым, што яе сёстры таксама валодалі здольнасцямі да спеваў: “У нас тры сястры: Маша – старшая, тады – я, тады – Туся. Туся любя пець, я паміраю па песнях, а Маша – яна ўсі песні зная, яна і на матыў зная, но штоб ета пела, штоб глотка была разяўленая, як у мяне – не. Еслі дзе-небудзь, у бяседзі, яна пяе, а пець... А я... Абы толькі мінута якая-небудзь...” І дзіўнае: “Песня сама падбярэ голас. Песня, якая ё, яна свой голас падбярэ. На адзін жа голас ня будзіш пець усі песні. Сама песня голас падбірая”.

Адсюль вынікае і наступнае: не выканаўца выбірае песню, а песня выбірае выканаўцу. Гэта відавочна з яе разважанняў пра канцэрт, прысвечаны Ганне Герман:

“Увесь канцэрт толькі яе песні перяпявалі... І вот, як ня пелі яе песні, усё раўно ня так. Голас не такі”.

Мая суразмоўніца зусім выразна ўзгадвае першую, пачутую ад бабулі песню, – песню, якая перавярнула ўсё яе жыццё, песню, дзякуючы якой у яе з’явілася цікавасць на ўсё жыццё:

“Баю-баюшкі-баю...” Баба Алёна мяне вучыла. Ягорка малы, дак яна мне... А якія і ад дзевак бальшых навучывалась... “Баю-баюшкі-баю...” Яна мяне вучыла. Я: “Ааа-ааа...” Яна гаворя: “Не “Ааа-ааа..” Давай я цябе песню навучу. Я гаварю: “Баб! Ну давай...”

[*Колькі вам было гадоў, калі баба вас навучыла “Баю-баюшкі-баю...”?*]

Наверна, гадоў шэсць... Яна навучыла мяне “Баю-баюшкі-баю...” – пра курачак. “Хадзі, мая ўнучка”. І яе кундросіла, тады ўжо пачалі, і дзед Майка прыдзя, сваю пяе. Я: “Дзед, навучы мяне!” І вот, панаравілісь песні, і я за песнямі трымцела. Первая баба навучыла. І панаравілась. Вот красіва”.

І гэта сапраўды стала яе жыццёвай цікавасцю:

“Я як прывязаная к песням етым. Вот еслі я пачую, ета душа вон, я даўжна яе навучыцца. Я ж іх ужо сколькі знаю – маць мая родная! Хто на што. Я на песні. Бунтуя міне песня”.

Кожны яе ўспамін пра тое, як яна знаходзіла песні, варты асобнай навелы:

“Дзед Майка прыходзя. Я гаварю: “Дзед Майка! Ну, навучы мяне!” Ён: “Ну, еслі сто грам Палашка налле, тады навучу”. Я гаварю: “Мам! Налій Майку! Ён хоча выпіць”. Яна палядзіць: “Майка, ты на прыступленія гоніш. Хочыш выпіць, і ты цярзаіш дзяцей”. Я гаварю: “Дзед! Я пайду ў кружку наллю і пастаўлю, а ты ўродзе вады, ідзі і выпій”. Ён: “Да ня нада. Я вас так навучу”.

Прыходзіма дзеўкі, там ці я, ці другая, гаворя: “Дзеўкі, новаю песню прынясла!” – “Дзе ты ўзяла?” – “А баба пряла да і сама сабе пела. А мне панаравілась”. І пачане ўжо песню туюю. Яна трохі пряпяе, да і гаворя: “Забыла”. Куплет схваця. “Падабаіцца?” – “Красівая. Давай у бабы выпытай”. Яна гаворя: “Буду ў бабы пытаць, яна: “Да засць ты! (Калісь жа – цішай). Засці ад мяне!” Пад настраеніем дак пряпяе. А так скажа: “Ідзі ты! Не дуры мяне”. Мы там к адной бабе прышлі, яна гаворя: “Вазьмі-ка ты папытай”. Я гаварю: “Баб, якта туюю песню пяюць?” – скажу якую, куплет прагаварю. “Ты ж умеіш, во, первы куплет”. А я гаварю: “Дак другі ня знаю”. – “Хто цябе навучыў?” – “Баба наша”. – “Вот баба ніхай ідзець і даказываіць. А, можа, мая не такая”. А тады ўжо падлашчуся што-нібудзь, кажу: “Баба, ну раскажы мне”. Я была, я не хвалюся, но я была цямкая, я схватывала песні. Я гаварю: “Ой, баба, спасіба!” Яна па два разы куплет прапявала. А хоць Марусі скажу: “Маруся, бяры карандаш”. Баба пяе, яна ўжо спісыя. А тады гаварю: “Баба, ішчэ адзін куплет. І ўсё!” Яна пряпяе, тады гаворя: “Давай ужо і да канца! А Маруся запіша”. І мы тады пяём. На голас лёгка запомніць.

“Вот скажаць, я яе схвачу ўжо і прыду дамоў. Матка: “Во, карандаша палучыш! Дурноя дзела ўсё пішыш”. Карандашы прастыя былі. Хімічіскія – ета ўжо толька чыстапісанія пісалі. Ё ціперь хімічіскія? А тады хімічіскі карандаш – што! Завостріш яго, у тряпачку заверніш, штоб не зламіўся. Дак вуглем... Прыду... Вугаль такі вазьму і вуглікам пішу песню туюю ці на сцяне, ці на варотах, ці на фортцы пішу... “Дзед, я буду пісаць, а ты мне гавары”. Ці мелам... У школі прадавалі... Ё чатырёхграністыя, а ё кругленькія... Спішыцца, станя тоўста пісацца, начынаю, дзе ражок вастрэйшы... “Дзед, мы забываім!..” – “Ну, пішы!” На зямлі ж, дак што... А будзя хадзіць, нагой сцірая, а на варотах ён не дастаня”.

Зразумела, ёй у вялікай ступені пашанцавала, што яна нарадзілася ў сям’і, дзе народную песню шанавалі. Гэта вельмі істотны момант. Шматлікія мае суразмоўцы, аднагодкі Варвары Аляксандраўны, апраўдваюць сваё няведанне старадаўніх песень якраз менавіта тым, што “маткі не пелі”. Прыклад таму Праскоўя Сяргееўна Кужельная, стрыечная сястра маёй суразмоўніцы: “Я вот, напрымер, етыя песні, што Варька пяе, іх я ня знаю. Я ўсі савецкія песні. І бацька наш і з маткай рэдка калі старыннаю, а то ўсё пелі савецкія”.

За межамі сям'і практычна ўсе дзеці ў Амяльным з малога ўзросту праходзілі своеасаблівую школу мясцовай традыцыі. Адбывалася гэта на самых звычайных штодзённых вячорках.

Настаўнікамі былі жыхары старэйшага ўзросту. З вялікай душэўнай цеплынёй мая суразмоўніца ўспамінае дзеда Майку (Міхася Варыводу), дзеда Кудлача (Васіля Гаравога), дзеда Жаваронку (Івана Ігнатавіча Варыводу), дзеда Белага (Васіля Паўлавіча Рышткова). Гэтыя людзі шмат ведалі, шмат памяталі.

Дзеці былі ўключаны ў атмасферу зносін старых людзей паміж сабой:

"Мы прыходзіма калісь гуляць на хвацеру, нанімаім, па каробцы бульбы, тады ўсю зіму ў тыя бабы гуляім ужо. Прыходзім, туды бабы ідуць на хвацеру і дзяды прыходзяць. І дзяды будуць сядзець і гаварыць усякія прыбавуткі, і мы сядзім слухаім. Тады ж німа стулляў такіх, а так доскі і так, вот яны пасадзяцца кругом, і на грубцы, і на караваці, і слухаяць. А дзяды калодачкі папрыносяць із двара, во палена рэжаць... І такую калодачку, штоб сесць ужо добря. Яе падкачываяць пад караваць, і ў другі раз прыходзяць, ужо выкачываяць і садзяцца пасярод хаты... І пра ўсё: як гулялі, халасцякавалі. І мы сядзіма, пра ўсё слухаім. Во як калісь было! І весялей было!"

"Увечары сядзіма... Сабіраліся... Госпадзі!.. Ад Гіндарэвых і да Коршунавых – увесь сярёдак... А тыя аканчанні там ужо... но ў іх такіх дзядоў не было. У нас на адбор дзяды былі. У нас быў Барыс Петрачкоў, дак што ты! Ня ўладзіш яму... "Пра дурноя говоряць, то песні, то... Ета ўжо прайшло". А етыя дзяды, Жаваранкаў, дзед Іванюшкаў, Кудлач, Коршун, як разгаворяцца, дак раскажуць, як гулялі з дзеўкамы калісь... Вечар пройдзя мінутай".

У сваю чаргу, гэтыя старыя людзі, не абцяжараныя адмысловымі педагагічнымі ведамі і рэкамендацыямі па працы з адоранымі дзецьмі, вылучыўшы маленькую Варвару з астатніх яе аднагодкаў, займаліся з ёй па "адмысловай праграме". Прычым, гэта былі самыя лепшыя прадстаўнікі мясцовай культуры.

Мяне дзяды вучылі… "Штоб, – гаворя, – ты большэ ўсіх знала. Во такую во расказый". Мяне ўжо навучаць. Прыходзім на другі раз, я ўжо гаварю. Яны: "Прагавары! Пяць разоў прагавары, штоб і мы навучыліся". Я гаварю: "А во бачылі! Ня буду!" Ета, як падлашчацца, тады раскажу. А еслі чуць ругнуцца на мяне, я гаварю: "Во – кукіш!" Ета ўсі дзеўкі так.

Дзед Кудлач усім, сядзеў, гаварыў, а як песню якую: "Варячка, во ету і ету давай! Ты скоряй..." Схватываю скора. Дак ён ужо якую песню, мне гаворя: "Варячка, песню табе!.. Марюта мая (Марьяй звалі, а ён Марютай) учоря пряла, пела. Вот я табе прынёс".

Безумоўна, вялікую ролю ў тым, што Варвара Аляксандраўна з такой лёгкасцю праходзіла, як бы цяпер сказалі, агульнаадукацыйную

праграму мясцовай культуры, адыграла хатняя падрыхтоўка, якую яна атрымала ў самым раннім узросце: "Наша баба пела красіва, і матка. Баба басуя, а матка падводзя, і баба падводзіла, і баба  Адарка – Пашкіна, ета дачка бабіна. А мой бацька да яе сын быў. Яны пелі красіва. І Пашка ўмея пець. Я табе не скажу: па ком. І Туся наша пела, і Маша, а што я ўжо – тряшчотка была. І бацька мой пеў. Бацька, і матка, і баба – яны пелі на клырусі. Цэрква была церяз дарогу. Яны... Устану ранінька, печ вытаплю, усё ў парядачык прывядома, сабіраімся, ідом у цэркву. І яны пелі: мужчынскім голасам бацька наш пеў, калі ж мужчыны, не было ні цілівізараў, яны ішлі куды? У цэркву ідуць. Пелі. Ні снедалі, а тады прыдуць, атслужаць, абед зваряць..."

Яна нават не разважае пра суадносіны працы і таленту, а проста распавядае, як гэта было ў яе жыцці. Настаўнікам маленькай Варвары не даводзілася яе падганяць і панукваць, хутчэй наадварот, сваімі сталымі "рэпетыцыямі" яна літаральна "даставала" дамачадцаў: "Еслі я ўзлюблю песню, дак я яе буду цэлы дзень хадзіць і пець. Матка: "Ужо адурыла галаву! Адно пяе!.." А баба будзя казаць: "Ніхай пяе. Ета ж яна запомня яе наўсягда. А так яна забудзя. Пей-пей". І я тады пяю. І буду цэлы дзень хадзіць, сама сабе пець, пайду на агарод, буду што-нібудзь гряду палоць... І пакуль ахоту не зганю ўжо... Калісь баба Іванюшкава казала: "Ну, ахоту сагнала ты з етай песняй, што не пяеш?" Я гаварю: "Ужо запомніла на ўсю жызь".

Колькасць паўтораў вызначала сама песня: "Я заводзіла песні. Я ўсі ўмела. Еслі я песню... Я буду за вечар і пяць раз... Пакуль я не навучуся".

Гэта разважанні чалавека адоранага. Гэтыя рэпетыцыі былі ёй у радасць. Сіла таленту рабіла іх дзейснымі: "Я не хвалюся, но еслі мне панаравіцца песня, я і дамоў схаджу і кажу: "Баб, ну пряпей мне. Я спішу". Я разы два-тры пряпяю, і ўсё! Я ўсі песні знаю. Я буду і палоць, буду куды іціць – буду пець, кароў пасу і пяю. Яны гаворяць: "Чыя сёдні вочарядзь кароў?" – "А ета Варька, патаму шта пяе ўжо". Кароў заварачыю і пяю кала кароў".

Верагодна, з гэтых рэпетыцый пачыналася яе самадастатковасць, калі можна спяваць проста дзеля асабістай радасці, калі няма неабходнасці ў прысутнасці слухачоў. І гэта пачуццё, якое ўзнікла ў яе, маленькай дзяўчынкі, захавалася і да цяперашняга часу: "Маша наша, яна знала, но штоб яна пела... у кампаніі пела яна, а штоб адна, яна не пела. А я, калісь... Буду вішні рваць... Матка: "Ідзі вішань нарві!" Ірву, німа нікога, на ўсю глотку пею. Думаю: "Я ж кала свайго двара пяю". [*Колькі вам было?*] Гадоў восем было".

І пра сённяшні час: "Я ўчора сядзела вячэряла, песню прапела. Песенку, калі якую ўздумаю, такую і пяю. У мяне іх мільёны етых песен. Багата песен. Сяджу, надумаюсь. Ну, і ўсё".

І разам з тым найвысокі ўзровень самаацэнкі ўзнік у яе свядомасці ўжо ў дзяцінстве: “А яшчэ ў школу хадзіла, запявала была. Усё ўчыцілка казала: “Грэцкая, запявай!” А ўсім атметкі дзеўкам становя адзінакавыя. І мне. Дак я гаварю: “Я ня буду пець!” Яна: “Я ж табе добря станаўлю”. А я гаварю: “А ты мне вазьмі вельмі добря скажы”. Яна, можа, дзірэктару сказала, што дзірэктар прышоў да і гаворя: “Грэцкая, малая ты ішчэ учыцілям указываць, каму якія атметкі!” Я гаварю: “Ну, і харашо!” У нас спевы па сыботах былі. Яна гаворя: “Грэцкая, вазьмі зачынай песню! Якую будзім пець?” А я гаварю: “Ідзі к дзірэктару. Ніхай дзірэктар табе якую завядзе, ту і... А я табе пець ня буду! І ўсё! (Но я “не табе” – гаварю – “вам” ня буду!) Вот што хочыцця мне дзелайцця!” І паклала на парту галаву, рукі пад галаву, і сяджу. Яна падышла: “Ну, ізвіні. Проста разгавор быў”. Я гаварю: “Ня нада мне!” – “Я табе буду вельмі добря станавіць”. – “Ня нада мне! Становь, як і дзеўкам, так і мне! А я заводзіць ня буду! Заводзь сама!” Вот так іх нада правучываць такіх. А то ана мне атметку роўна становя! Дак я ж і запяваю! Папяю, урок цэлы тряшчу! Іду дамоў і думаю: “А дурная я! Глотка забалела, а толку німа”.

Па законах жанру ў яе ёсць і свая гісторыя з прэсай:

“У Марозаўцы ў школі я вучылась. У пяты клас перяйшла. Мы выдама на вуліцу, Пецька, мае маткі хрёсны, з майго года. Мы ў школу хадзілі з первага класа і да пятага. А тады вайна началася. І ён пад балалайку іграя, мы пяёма, што “люблю” – такія песні. Дак яны ўжо ў сценгазету нарысавалі мяне. Я рысую харашо. Дак яны мяне не прыгласілі, а сценгазету выпусцілі: і стаіць Грэцкая Варвара Аляксандраўна, пяе. І напісалі: “Пела вулічныя песні”. І галаву такую бальшую адзін нарысаваў... Мы з ім удвох рысавалі... А мяне ўжо ня прыгласілі. Тады дзеўкі кажаць: “Варя, хадзім-ка паглядзім, ты нарысована ў сценгазеце”. Я гаварю: “Да мы не выпускалі ішчэ сценгазеты”. А яны гавораць: “Ну, хадзім, паглядзім”. Нашы дзеўкі: і амяльноўскія хадзілі, і марозаўскія, і закружскі. Прышла паглядзела. Яны ўжо нарысавалі мяне: такую морду здаровую, ногі кароцінькія – крыцікавалі. Я палядзела. Кажу: “Дзеўкі, разбягайціся хто куда!” Яны: “Не чапай, Варя! Варя, ня трогай! А то дырэктар сключа са школы”. Я тады падашла, сарвала ўсю заметку, стала, плюнула, пацёрла-пацёрла, і ў вядро памыйная ўкінула. Тут жа прышлі палядзелі: сорвана. Счас жа далажылі дырэктару. Дзеўкі не далажывалі. Прышлі дзеўкі, гавораць; “Варя, цябе дырэктар трэбуя”. Маша Дзятлава прышла да гаворыць: “Я ішла, дак ён гаворя: “Машка! Скажы, ніхай Грэцкая зайдзя ў настаўніцкаю”. А я гаворю: “Чаго?” – “За то, шта ты сарвала сценгазету. Наверна, за ета”. Я гаварю: “Не пайду”. Ён другога хлопца паслаў: “Ідзі пазаві”. Тады прышоў наш класны: “Грэцкая! Сколькі можна пасланцоў за табой пасылаць? У настаўніцкаю быстра!”

А я такая худзінькая. Ну, як паліц. Я паднялася, гаварю: “А чаго?” – “Ідзі!” Я вышла ў настаўніцкаю. І ён ідзецъ услед. Я прышла, гаварю: “Веніамін Аляксандравіч, зачэм вы мяне трэбавалі?” А ён: “Зачэм ты сарвала? Ты знаіш, што я цябе сключу са школы! За то шта ты сарвала тую заметку. Ані правільна табе здзелалі!” Я гаварю: “Нет! Няправільна! Я большы к вам у сценгазету не пайду рысаваць”. І са школы мяне ня сключылі. Матку вызвалі”.

Недабранае на афіцыйным узроўні дабіралася ў нефармальных стасунках з аднагодкамі, якія адназначна вылучалі яе як запявалу: “Ідома са школы, у так во во – у нас дарога, там – Амяльноя, тутака – Марозаўка, чатыры кілометры. І ад Марозаўкі Галая балота... Шлях быў граверны, насыпаны, такая зямля з каменькамы... І шлях быў да самай Веткі... І бярёзкі маладыя і бальшыя па тэй бок і на тэй – багата было, як хто насеяў, параслі самы самасеям... Хлопцы зрязаяць... Астаноўка ў нас там... Яны ўжо начынаюць веткі зрязаць і нам даюць, у ніх ножыкі такія, складанічкі былі, хто з касы здзелая, з дзюбкі – нож, багацейшы, можа, дзе купіў... Яны лупяцца, і скарэй яе, пакуль яна слізкая, і ў бараначык ён звіваіцца, яго нітачкай завяжыш, другую начынаіш, і паціхонічку еслі ідом хлопцы і дзеўкі. І пройдзіш, яны ўжо зваваныя высахнуць на вецярок – і красівыя-красівыя, кучарявыя такія кружочкі. І будзім іціць, песню якую заводзім. Яны: “Грячнёва, давай песню пець!” І ету самаю пелі, што на дарозе найшоў мёртваю: “Калісь я на почці служыў ямшчыком...” Школьныя ішлі пелі “Па далінам, па ўзгор’ям шла дзівізія ўпірёд...” Ета што, школьная песня была? Да, у школі мы спявалі яе... Як толькі гляня ўчыцілка на мяне, я думаю: “Ой!..” У мяне цітрадзь цэлая была напісана, дваццаць чатыры лісты... Усё песні школьныя і такія... усякія... Ета ўжо, як вайна была, пагарэлі... [*Такія – гэта якія?*] Ну, дома пяёма “Шыла Маша вышывала...”, “Паехаў мой мілінькі па шчацінку...” У школі мы любілі песні. Пелі ўсякіі... “І на Ціхім акіяні свой закончылі паход...” Я і на агародзі, еслі начынаю школьныя, тады ўжо свае не чапаю. [*А чаму так?*] Пряпяю іх, штоб не забываць. [*Школьныя?*] Школьныя. [*А нашто яны вам?*] Вот наравяцца яны мне”.

Асэнсаванне сябе як асобы дазваляла ёй быць шчодрай у адносінах да іншых носьбітаў мясцовай традыцыі, якія таксама спрабавалі вызначыць сябе ў песні: “У нас заведушчая клуба была, дак яна дзелала канцэрты. У Закружжы ня дзелалі, а ў нас яна дзелала. Ад нас клуб чэряз двор быў. Калісь бабы абіжаліс. Нэля казала: “І я б заводзіла!” Улька і гаворя... Сказала мне, я іду, Ягор наш тож... Сказала яна, ён і гаворя: “Улька, я ўсягда! Як мне дома цілівізар глядзець, дак я паіграю... А ё такія, што карячацца: “Да ня знаю, ці прыду, ці не... Там Варька заводзя...” Такія бываяць. Я гаварю: “Знаіш што... Ніхай яны заводзяць, хто пажылая”.

Паводзіць сябе менавіта так можа толькі чалавек, які выразна разумее, што ніхто і нішто не зможа пахіснуць яго сталага становішча. І гэта таксама сямейнае, спадчыннае: "Ягора ўсі Жора звалі. Во такія бягаць і крычаць: "Жора! Калі ты будзіш іграць?" Ён: "Сычас пайду гармонь вынясу, паіграю". І яны, асобінна дзяўчаты, ну і хлопчыкі, прыдуць во такія во, дзяцей жа багата, можа, гадоў па шэсць–па пяць такія дзеткі, і па сем, ён ужо выдзя, асобенна ў скрысення... І завуць Жора, ні дзядзька Ягор, ні як – Жора... У Кумковых чатыры было дзеўкі, у Буцікавых дзве, у Ягора дзве, у Крыўцовых чатыры, у Жаваранкавых дзве, а ў адныя шэсць дзевак... Інцірэсна! І хто як ужо танцуя адзін перяд адным: "Жора! Хто красівей усіх?" І будуць там мужчыны. Яны: "Дзядзька! – падойдзя. – Я красівей усіх!" Ён: "Канешна! Ты красівей". Другая падыходзя: "А чаго я ні красівей?" – "Ты ішчэ красівей". І так во. І Ягор ня то шта сказаў: "Да ідзіця вы! Буду вам іграць!" Мог бы так сказаць. Ён гаворя: "Я ня ўмею права дзяцей абідзіць". І вот прывыклі. Яны прыходзяць гурьбой. І ён ужо ім іграя! І ў яго цярпення хватала. А другі б сказаў... Васіль казаў: "Да ну! Я буду ім!.. Ідзіця! Не дурыця мне двара!" Усякія людзі ё".

Пашанцавала ёй у тым, што яе "натуральныя" схільнасці супалі з інтарэсамі грамадства. Яе песні натуральна ўпісваліся ў прастору народнага календара і ў прастору абрадаў сямейна-побытавага круга, дзякуючы чаму заўсёды былі актуальнымі і запатрабаванымі. Яе рэпертуар уключае практычна ўвесь комплекс тэкстаў традыцыйнай культуры Амяльного, і без усякай нацяжкі можна казаць, што яе духоўныя інтарэсы супадаюць з яе асноўнымі заняткамі:

"Старынныя песні на празнікі. На любы празнік песня ё. Я ўзяла пра ляночык: "Парос ляночык…" І сыпнула хрэшчыкам лёну, семяна".

"Баба… Які празнік... Яна ўжо будзя сядзець, ці прядзе, ці тчэ, і ціхонька пряпяе песню. Перва Богу памоліцца, устаня ўрання, тады ўжо гаворя: "Дзеўкі, сёдні ж нада туюю-тую песню прапець". А нам ета на руку".

Адгэтуль і яе пастаянная запатрабаванасць: "Міне не міналі... Ні на свадзьбах... Ідуць: "Варька, хадзем на свадзьбу! Хоць будзіш пець да весяліць свадзьбу!" [*Без вас не маглі?*] Ё такія бабы ў нас, прыдуць, із-за стала не вылазяць, сядзяць, толькі ядуць. Сядзяць, як на похаранах. Нада, штоб свадзьба як свадзьба. А не хадзілі, нудзілісь".

Быць запатрабаваным на вясковым вяселлі – найвышэйшая форма прызнання для вясковага спявака, музыкі: "Гаварю Пашцы: "Калі твой Іван добра іграў, чаго яго на свадзьбы ня звалі?" А Ягора звалі... Ці свадзьбы, ці хрэсьбіны... Толькі завіруха якая... Загадзей: "Жора, глядзі ж, я цябе прыглашаю, штоб ужо іграў, а то ішчэ хто-нібудзь..."

“Вяселлі калісь былі сапраўднымі відовішчамі. Цяперяка ня ходзяць глядзець свадзьбы. А тады свадзьбу глядзець зрыцялі хадзілі”.

І як сведчыць стрыечная сястра Варвары Аляксандраўны Праскоўя Кужэльная: “Скажу табе, пець, танцаваць цяжалей, як работаць. Анергію выносіш. І нада, штоб была і звучна, і красіва. Не то шта шары-бары, як адзін у нас казаў. Шуры-муры, шары-бары спелі. Там нічога німа. А ета ж усё труд, і ні абы які. І нада і ў такт стукнуць, і спець. Усё ета нада здзелаць, штоб к толку, штоб людзі шлі глядзець, як Варька танцуя да пяе”.

[*І глядзелі?*]

Да ішчэ як глядзелі!

[*А як глядзелі?*]

З бальшым інцірэсам. І лезуць глядзець.

Любоў да народнай песні дапамагла выстаяць яе ўнутраным схільнасцям ва ўмовах непрымання гэтай песні афіцыйнай ідэалогіяй. Варвара Аляксандраўна добра памятае школьныя зборы, на якіх дзецям забаранялі хадзіць у “шчодры”, памятаеператрусы, якія ў пошуках “рэлігійных яек” праводзіліся ў класах на наступны дзень пасля Вялікадня.

“Настаўнікі ругаліся... Ці мы ім казалі... Яны пыталі... Мы ідом гуртам і згаварыімся з хлопцамы: “Хадзілі вы па шчодрах?” Хлопцы: “Не, у нас ніхто не хадзіў. Хадзілі толькі бальшыя дзеўкі, каторыя ў школу ня ходзяць, бальшыя, а мы не хадзілі”. – “А можа, к родзічам хадзілі?” – “Не. Мы нікуды не хадзілі. Нам баба і матка дала шчадзёр дома, пірагоў спякла”. [*А калі б даведаліся, што хадзілі?*] Ругаліcь бы, сабранія школьныя сабіралі, усі класы, пяты, шосты, сёмы... А так адзін з адным: “Хадзілі?” – “Хадзілі!”

“Учыцілка прыходзя: “Хто з яйцамы прышоў?” Ну, усі ж маўчаць, хто прынёс, хто не прынёс – да ўсі ж прыносілі. Хлопцы – тыя – хітрыя, схаваюць у калошы, завяжаць аборкай унізу, а мы куды схаваім? Яна ў сумках паглядзіць: “Січас жа ідзі выкінь! Рылігіі папрыносілі сюда! Рылігіозныя яйца”.

“Толькі штоб пелі школьныя... Штоб у класе ня пелі... А на перяменах, дак у нас адзін іграў, Юрчынка Васіль з Марозаўкі, ён класна іграў, ён запяе старынную песню... Толькі не ў класе, а на вуліцу выдуць...”

Зразумела, што ў гэтых умовах многія з яе аднагодкаў выраслі людзьмі, для якіх народная культура не ўяўляе ніякай каштоўнасці: “Казала Пашка, успамінаю песні, а яна гаворя: “А я хоць і ўспомню, думаю: ну яе к чорту! Ета калісяшная! Яна ўжо не ў модзе”. А я шчэ моду дзяржу калісяшняю”. “Я гавару Марусі Вулічэвай пра цябе: “Мы падружыліся з ім. Ужо, як ціпер не прыходзя, дак і скушна мне”. Яна гаворя: “Барахло ўсякая сабірая, а ціпер па цілівізару пяюць”. А я гавару: “А я прагавару свае песні. Я во етыя песні... А і знаю іх, но я іх не хочу пець. Я ж запяю, дак ён і рот разявя і слухая, як я пяю”.

Варвара Аляксандраўна вельмі спадзяецца, што яе песні будуць жыць і пасля яе смерці. Яна верыць, што яны змогуць кагосьці чаму-небудзь навучыць, знайсці ў чыёй-небудзь душы водгук:

“Я з душы песні пазвалівала. Што ў міне на душэ было, песні якія, ты запісаў. Усё! У пуць ты іх праізвядзеш ці кініш, як будзіш з работы іціць... Вот ані ў міне на душэ былі, я іх знала, а ціпер ты... Можа, яшчэ які найдзіцца, пачытая ці што-нібудзь...”

“Пачытай мае ўсе песні, і німа такія херовыя песні, а якую не пачанеш, дак ума набярэшся. Яны ўсі талковыя”.

“Найшоўся чалавек добры, пасабіраў мае песні. Патаму шта я ўсё калісь казала, пяю сама сабе... І сядзім: “Давайці-ка пець, бабы! А то пamрём, і ўсё наша памрэ”. Ціпер ужо новыя пяюць песні па радзіву разныя. Ад старынушкі атышлі... А во найшоўся такі, і я прыпуціла песні. [*Што значыць: прыпуціла?*] Ну, як табе сказаць... Гаворяць: “Прыпуціла”. К парядку, што яны... Можа, яшчэ хто прачытая”.

Самыя вялікія паэты, такія як Гарацый, Ламаносаў, Дзяржавін, Пушкін, Бродскі пісалі выніковыя вершы з назвай “Помнік”.

Па-свойму пра гэта сказала і Варвара Аляксандраўна Грэцкая:

*“З душы іх усе зняла,*
*мне і добра,*
*што я людзям як падарак падарыла”.*

# Змест

# ВЫДАННІ ТДА “Барк” *апошняга часу*

***Радзінна-хрэсьбінныя абрады і звычаі беларусаў***
(на матэрыяле фальклору Гомельскай вобласці).
Калектыў аўтараў-укладальнікаў

***Гаючае слова роднай зямлі*** (беларускія лекавыя замовы).
Фальклорна-этнаграфічны зборнік.
***Аўтар-укладальнік С. А. Вяргеенка***

***Мікола Макарцоў*** “Тэатр мой – Беларусь святочная».
Сцэнарыі, рэжысёрскія нататкі

***А. Ф. Рогалеў*** “Назвы Бацькаўшчыны (тапанімія Беларусі)”

***Генадзь Лапацін*** “Ікона звалась Свячой... Абрад «Свяча» ў прасторы традыцыйнай культуры Гомельшчыны”

***Васіль Ткачоў*** “Варона”. Кніга прозы

***Міхась Башлакоў*** “Музыка нязваная”. Лірыка кахання

***Алег Маісеенка*** “Чаму баліць душа”. Вершы

***Барыс Кавалерчык*** “Аўцюкоўцы жартуюць”

***Васіль Чарняк*** “Бацькаў дар. Сынок-з-кулачок.
Вершаваны пераклад беларускіх народных казак”

Навукова-папулярнае выданне

**Лапацін** Генадзь Ісаакавіч

# Варвара Грэцкая як з'ява беларускай народнай культуры


Рэдактар М.А. Беразоўская
Карэктар М.Л. Краўчанка
Тэхнічнае рэдагаванне і вёрстка В.М. Сакуновай
Афармленне вокладкі К.П. Чындаравай

*У афармленні вокладкі выкарыстаны карціны В. К. Бялыніцкага-Бірулі.*

---

Падпісана ў друк 14.01.2015 г. Фармат 60×84 1/16.
Папера афсетная. Гарнітура "Times".
Ум. друк. арк. 13,95. Ул.-выд. арк. 9,6. Тыраж 99. Заказ № 75.

---

Выдавецкае і паліграфічнае выкананне ТДА "Барк".
Пасведчанне аб дзяржрэгістрацыі ў якасці выдаўца № 1/190 ад 19.02.2014 г.
Пасведчанне аб дзяржрэгістрацыі ў якасці вытворцы друкаваных выданняў № 2/46 ад 20.02.2014 г.



246050, г. Гомель, пр. Леніна, 3.
Тэл. (0232) 74-34-08, 74-35-41